УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
М91

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»
выказвае падзяку сям'і аўтара і асабіста ўкладальніку кнігі
Пётру П. Мурзёнку за магчымасць выдання гэтай кнігі
ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» (заснавана ў 2004 г.)

Укладальнік
Пётра П. Мурзёнак

**Мурзёнак, П. С.**

М91 Адвечныя плыні : кніга прозы / Пётр Сільвестравіч Мурзёнак ; укл. Пётра П. Мурзёнак. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 240 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 27).

ISBN 978-985-7119-79-0.

У кнігу «Адвечныя плыні» (27-ю ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») увайшлі творы Пятра Сільвестравіча Мурзёнка, якія раней друкаваліся ў альманаху «Беларус», а таксама неапублікаваныя творы і нататкі аўтара пра жыццё ў Канадзе. Гэта кніга — своеасаблівы працяг творчасці аўтара, які пачаўся выхадам кнігі ўспамінаў «Над Дзісенкай ракой» у 2008 годзе. На вялікі жаль, няўмольны лёс перарваў многія творчыя задумкі, якія былі ў запасе ў гэтага цудоўнага чалавека, бацькі, настаўніка, грамадзяніна і пісьменніка.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-79-0**

## КАСТУСЁК

Нарадзіўся Кастусёк у сялянскай сям'і пры Польшчы ў паважаных вяскоўцамі людзей. Сказаць, што ён быў неспакойны ці капрызны ў калысцы, нельга. Але прачнуўшыся, ён не мог доўга знаходзіцца ў калысцы. Ён цягнуў ручкі, каб яго ўзялі, так яму хацелася пазнаёміцца з наваколлем. А потым ручкай паказваў, куды яго несці. Яго цікавіла ўсё: тое, што было на стале і пад сталом, што на сцяне, на вакне і за вакном. Ён рос здаровенькім хлопчыкам, час ад часу прастываў ды сапліўся, але гэта не вельмі ўздзейнічала на яго добры настрой, які заўсёды быў, на яго жыццярадаснасць, на яго прагу да жыцця. Цешыліся з яго бацькі, дзядуля з бабуляй ды сястрычка Надзея, якая была старэйшая за яго на тры гады. Калі Кастусёк адчуў сілу ў нагах, то бацька ўжо змайставаў яму хадулькі, драўляныя, на калёсіках. Зараз яму было ўжо большае раздолле. І да ўсяго ў хаце яму была справа. А калі дастаткова асвоіў хадулькі, то хацелася і пабегаць шпарчэй. Не адзін раз на дзень падаў і біў сваю галоўку і попку аб падлогу. Войкне пару разоў, а то і заплача, але зноў падымаецца і прадаўжае свае падарожжы па хаце.

А калі пачаў хадзіць, то да хадулькоў і блізка не падыходзіў. Зараз яму была яшчэ большая магчымасць наводзіць парадкі ў хаце. Аднойчы, калі ў хаце нікога не было, а маці легла адпачыць, Кастусёк выйшаў з хаты і пайшоў знаёміцца з вёскай. Добра, што па дарозе не сустрэў злога сабакі. Але такіх, кажуць, сабакі не чапаюць. Прайшоў вёску ў канец, а там убачыў другую, суседнюю. А чаму ж і туды не заглянуць, можа там яшчэ прыгажэй? І маці дагнала яго паміж двух ручаёў, якія былі размешчаны паміж вёскамі. А другі раз, калі ён палічыў, што ўжо з усім азнаёміўся і прыйшла пара пашырыць краявід, ён залез на высокую ліпу, і бацьку давялося здымаць яго з дрэва, падставіўшы драбіны.

Любіла яго сястрычка, гуляла з брацікам. А ён любіў яе. Бацька зрабіў у хаце ім вяровачную калыску, на якой яны і гучкаліся па чарзе. Але ж у сястрычкі былі і сяброўкі, якія часта прыходзілі да яе, або яна ішла да іх пагуляць у лялькі, якіх яны самі сабе шылі з розных ласкутоў матэрыі. Калі не было сястрычкі, з унукам заставаўся дзядуля. Ён любіў унука і знаходзіў для яго розныя забавы. Калі бацькі ехалі ў горад на кірмаш, то маці наказвала дзядулю, каб хаця ж Кастусёк не быў галодны. Аднойчы ў час абеду, калі Кастусёк ужо наеўся, дзядуля прапанаваў яму яшчэ кубак малака, а

сам выйшаў чагосьці ў сені, Кастусёк хуценька шмыгануў у цёмнае месца пад ложкам і выліў яго.

Рос хлопчык, набіраўся сілы і розуму. І ўсё яго цікавіла: і птушкі, і жабкі, і пчолкі, і чмялі, і рыбкі ў рацэ. Любіў ён і хатніх жывёл, пачынаючы ад коціка і сабачкі і канчаючы конікам.

Калі ён падрос, было ў яго многа сяброў у вёсцы. З імі ён гуляў у розныя гульні: качалі драўляную качулку, гулялі ў пыжы, у пікара, лапту, лавілі ў Дзісенцы рыбу, разам купаліся ўлетку, разам вазіняліся на каньках і санках узімку.

## «ПЕТУХІ»

Дзеці не маглі дачакацца вясны, каб хутчэй разуцца і пабегаць босымі. А вясна ў нашых краях наступала раптоўна, звычайна ў канцы сакавіка. У гэты час яскрава свяціла сонейка, таяў снег, пачыналася разводдзе. Кастусёк са сваімі сябрамі: Жэнікам, Ванюшам, Росцем і іншымі — рабілі снежныя заставы ў ручаі, які ўпадаў у раку Дзісенку.

Ляцелі з выраю птушкі. Самымі першымі да нас прылятаlі гракі, шпакі і жаўранкі. Задоўга да гэтага хлопчыкі выраблялі шпакоўні, а потым рабіўся агульны агляд. Але лепшымі аглядальнікамі з’яўляліся самі шпакі: там, дзе была зроблена занадта вялікая адтуліна або шпакоўня была мелкая, — шпакі не гняздзіліся, бо кот лапай мог дастаць іх патомства. Вераб’і гняздзіліся ў любой шпакоўні, але хлопчыкам гэта быў не гонар. Ведаючы гэта, хлопчыкі рабілі шпакоўні такія, каб у іх сяліліся шпакі. І яны гэтаму былі вельмі радыя.

Вясковая вуліца, агароды хутка падсыхалі. З’яўляліся сцежкі на вуліцы, а разам з імі і босае насельніцтва — дзеці, каму дазвалялі бацькі. Там жа, дзе ўзімку былі намецены вялікія гурбы снегу, яны прадаўжалі таяць. Просіць бацьку і маці Кастусёк пусціць яго пабегаць босаму. А ў дварышчы перад вакном ляжыць яшчэ гурба ўжо пачарнеўшага снегу.

— Мамацка і татацка! Дазвольце і мне разуцца, узо ўсе ходзяць босыя.

— Сынок, паглядзі праз вакно, якая гурба снегу ляжыць перад вакном, — кажа маці, — яшчэ зімна на вуліцы.

— Але ўзо ўсе бегаюць босыя, — не супакойваўся сын. І ён зноў і зноў паўтараў сваю просьбу.

— Ну, разувайся, — кажа бацька, якому надакучылі Кастусёвы просьбы.

Тут Кастусёк узрадаваўся і разуўся. Бацька падхапіў яго пад пахі і панёс на вуліцу пад вакно, дзе была гурба снегу, і паставіў ножкамі ў снег.

— Ну як? — пытаецца бацька.

— Дык я з… — пачаў Кастусёк і не дагаварыў, бацька падхапіў яго і панёс у хату.

І выйшаў Кастусёк босы на вуліцу толькі праз некалькі дзён. Але ж гразі яшчэ вакол хапала. Трэба ж было вымесіць ды вытаптаць нечый агарод, каб падрыхтаваць пляцоўку для гульні ў пыжы ці ў пікара. Калі заходзілі ў хату, ногі трэба было мыць у раве, які быў выкапаны на другім баку вуліцы. Мыць прыходзілася на дзень многа разоў, і праз некалькі дзён маладзенькая скура на нагах «севярэла» і трэскалася, і гэта называлася «петухі». А чаму так называлі, вы б зразумелі, калі б пабылі ля лазні ў суботу, у той час, калі мыліся дзеці з «петухамі» на нагах, на якія лілася гарачая вада. Яны плакалі, а бацькі дражнілі іх песняй: «Кууу-кааа-рэээ-кууу!» — так, як спявалі пеўні, а ў нас іх называлі «петухамі».

## ВЯЛІКІ ПОСТ

Вялікі пост перад Вялікаднем цягнецца цэлых 48 дзён. Гэта час духоўнага подзвігу, калі вернікі, пры ўсёй сваёй нямогласці і слабасці, імкнуцца ў цярпенні і ўстрыманні ад усялякага зла і граху ачысціць сваю душу і цела для прыняцця Божага дабрадзейства. Для дарослых вернікаў гэта звычайная справа. А вось дзеткі не могуць дачакацца вялікага свята, калі можна будзе з’есці пшоную булку з маслам.

Перад пачаткам посту вернікам належыць дараваць усім крыўды і папрасіць даравання адзін у аднаго, прычым зрабіць гэта трэба ад сэрца.

Вялікая субота — дзень святога маўчання напярэдадні Светлага Хрыстовага Уваскрасення і апошні дзень посту. У гэты дзень гаспадыні гатуюць усе традыцыйныя стравы святочнага стала: фарбуюць яйкі ў лушпінні ад цыбулі ў чырвоны колер, пякуць пірагі, смажаць розныя мясныя прысмакі. А мужчыны ў апошні тыдзень перад Вялікім Святам копцяць свіныя кумпякі і каўбасы пры дапамозе ядленцу, капаюць хрэн і нарыхтоўваюць яго да мяса. А ў Кастусёвым дварышчы да Свята зроблены яго бацькам і дзедам высокія казлы для калыскі. Сюды на першы дзень Вялікадня прыйдуць вясковыя дзеці пакалыхацца.

Кастусёва маці ў гэты дзень завіхаецца каля печы. К заўтрашняму дню павінна быць усяго наварана і напечана. Заўтра — першы дзень Вялікадня і нічога нельга рабіць. Кажуць, што і птушачка не ўе свайго гняздзечка ў гэты дзень.

Кастусёк таксама верціцца на кухні, дзе сёння так смачна пахне. Ён нічога не просіць, хаця слінкі ў яго і цякуць. Прасіць не дазваляе

яму яго мужчынская годнасць. Ды і мама кажа, што сёння апошні дзень посту і трэба пацярпець. Дзядуля набярэ вечарам усяго патрохі, некалькі фарбаваных яек, кавалак пірага, каўбаску — што называецца пасхай і пойдзе на Ўсяночную ў царкву, каб пасвенціць пасху і памаліцца. І Кастусёк церпіць, як і ўсе, да заўтра.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

І прыйшла святая нядзелька — Вялікдзень. Бацькі будзяць дзетак, каб паглядзелі, як «грае» сонца пры ўсходзе, бо яно свеціць сёння, у дзень Уваскрасення Хрыстова, не так, як у звычайныя дні, а больш яскрава. Потым дзеткі мыюцца вадой з кубка, у якім ляжыць чырвонае яечка. К гэтаму часу вяртаецца з царквы і дзядуля. Бацька накрывае белым абрусам стол. Сястрычка дапамагае маці расстаўляць на стале святочную яду. Дзядуля выкладае на стол «свянцонку».

Калі ўсё гатова, ўсе сядаюць за святы стол, жагнаюцца, дзядуля мовіць малітву:

«Хоць Ты ў магілу зышоў, Несмяротны, але пякельную сілу знішчыў і ўваскрос, як Пераможца, Хрысце Божа, і жанчынам-міраносіцам сказаў: “Радуйцеся!”, і мір даў апосталам Сваім і памерлым уваскрасенне падаў. Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос!»

Усе адказваюць: «Сапраўды ўваскрос!»

Святочнае снеданне пачалі са свянцонага чырвонага яечка, разгавеліся, што азначае перарвалі пост. Потым можна было есці ўсё, што было на стале. А стол быў багаты. Апрача чырвоных яек тут былі і пірагі, і сыр, і масла, і смачныя хрусты, і капчонка з хрэнам, і мёд, звараны з цукровых буракоў.

Паснедаўшы, дзеці выходзяць у дварышча. Надзея вядзе сваіх сяброўак на калыску. А Кастусёк выносіць лубочак, зроблены дзедам з дрэва, каб качаць яйкі з сябрамі. Яны выбіраюць роўнае ў дварышчы месца і пачынаюць качаць. З лубочка пускаюць яйкі адзін, другі, трэці і гэтак далей. Выйграе той, хто пападае ў чыё-небудзь яйка, і ён забірае яго. Самыя лепшыя «кацічкі» былі з вострымі наскамі. У Кастуська былі качыныя яйкі, у якіх і былі такія наскі. І яму тут шанцавала. Праўда, яму не заўсёды шанцавала «хадзіць у біткі». Ягоныя яйкі былі не такія моцныя, як у другіх, і ён пазбягаў гэтага.

Потым ён запрасіў сваіх сяброў на калыску. Дзяўчаты ўжо даволі накалыхаліся. Начоўка была вялікая, унутры яна змяшчала траіх дзяцей і двое усаджваліся па краях. Вяроўкі былі таксама моцныя, пяньковыя. Потым падышлі яшчэ тры дзяўчынкі, якія

не гучкаліся. Па краях начоўкі сталі старэйшыя хлопцы Андрэй і Антось, а ў начоўцы тры дзяўчынкі. Пачалі гучкацца. Начоўка з кожным разам падымалася ўсё вышэй і вышэй. Дзяўчынкі пачалі спяваць песню «Вялік Святы нам дзень настаў». Як толькі начоўка пачала падымацца вышэй перакладзіны, песня сціхла і дзяўчынкі закрычалі ад страху. На крык дзяўчынак выйшла Кастусёва маці і пасароміла Андрэя і Антося. Пасля гэтага хлопцы папрасілі ў дзяўчынак прабачэння і пачалі гучкацца нармальна.

Але ж гульня гульнёй, і Кастусю захацелася чаго-небудзь перакусіць. Ён пайшоў у хату, і маці адрэзала яму вялікі кавалак булкі і намазала яго маслам. Падсілкаваўшыся, Кастусёк зноў умыкнуў за дзверы.

— Еш у хаце, а то сабакі адбяруць, — папярэдзіла маці наўздагон.

Але ж сёння Кастусю няма калі, наперадзе столькі спраў. Паслухаўшы маці, ён рашыў захінуцца ў гародчыку, дзе толькі-толькі вылазілі з зямлі кветкі. Варотцы забыў закрыць, бо сабак нідзе не было відаць. Тым часам пах булкі знюхала курыца, на якую ён не звяртаў ніякай увагі. «Сабака — іншая справа», — з такімі разважаннямі Кастусёк еў смачную булку з маслам ды разглядаў шпака, які прыгожа спяваў на ліпе, няйначай, таксама ў гонар свята.

А курыца падумала: «Што ж ты, Кастусёк, такі няўдзячны. Я ж табе яечак да свята нанесла, а ты мяне не пачастуеш булкай». Яна падскочыла, ухапіла за булку, якая і апынулася на зямлі маслам уніз. Спачатку разгубіўся Кастусёк, а потым сказаў, як бы адгадаўшы думкі курыцы: «Ну сто з, курка, няхай і ў цябе будзе свята. Ты з нам яецкі нанесла да свята». І пабег Кастусёк да мамы прасіць другі кавалак булкі з маслам:

— Мамацка, дай ясцэ булкі. Я тую кулыцы аддаў.

Не хацелася яму прызнавацца, што курыца перахітрыла яго.

А ці можна ж маніць?! А?!

## ЦАРКВА

Большую частку свайго вясенняга і летняга часу вясковыя хлопчыкі любілі праводзіць ля ракі. Тут можна было сустрэць і плытагонаў на плытах, і адпачываючых людзей на каяках, і вялізную лодку-лайбу, якую цягнулі на конях супраць цячэння, і паром на дзве фурманкі. А ў спёку тут можна было купацца. Дзеці амаль не вылазілі з ракі, хіба што на гадзінку — пагрэцца.

Часам лавілі вудачкамі рыбу, любілі таксама назіраць, як вопытныя рыбакі ловяць рыбку сеткамі на лодках. Розныя заняткі былі ў хлапчукоў каля прыгожай ракі.

Гэтым разам яны вырашылі вылепіць з гліны царкву. Верхаводам усіх спраў быў Алёшка. Яму было ўжо гадоў дзевяць, астатнія на год-два маладзейшыя. А маладзейшым за ўсіх тут быў, хто б вы думалі, Кастусёк.

Чырвоную гліну дзеці знаходзілі ў гатовых ямах, адкуль іх дзядулі і таты бралі на рамонт печаў. Яны ляпілі з яе шпакоў, буцяноў (буслоў), конікаў. У адным месцы гліна была блакітная, з яе і вырашылі пабудаваць царкву. Працавалі ўсе дружна: здабывалі гліну, выводзілі сцены, узводзілі званіцу, устанаўлівалі на ёй крыж.

Трэба сказаць, што ў той час людзі былі набожныя. Дзядулі і бабулі, таты і мамы хадзілі на святы ў царкву, вадзілі туды і дзяцей. Там было так прыгожа і ўрачыста. Дзеці таксама верылі ў Бога. Яны ўмелі жагнацца і ведалі кароценькія малітвы да Ісуса Хрыста і Маці Божай. Пакуль ісці ў школу — малітвам іх вучылі дзядулі, бабулі і бацькі. А ў школе адзін дзень у тыдзень іх вучыў святар.

Калі царква была гатова, Алёшка зачэрпнуў у рацэ поўную шапку вады і пасвенціў царкву, апырскваючы яе і жагнаючыся тры разы. Пасля гэтага хлопчыкі адчулі сябе вальней, і ім захацелася пазабаўляцца адзін з другім. І тут Кастуську страшна не пашэнціла — ён ненаўмысна «пукнуў». Гэта пачуў Алёшка:

— Што ж ты, Касцюк, нарабіў?! — так зневажальна назваў Кастуська Алёшка. — Мы тут Святыню пабудавалі, а ты такое дазваляеш! Зняць яму порткі і попу заляпіць глінай!

— Я з не хацеў, — пачаў апраўдвацца Кастусёк.

І яго падтрымаў Паўлік:

— Ой, не трэба гэтага рабіць, Алёшка. Ён жа яшчэ маленькі. А калі мы гэта зробім, то мы самі саграшым. Крыўдзіць людзей — гэта самы вялікі грэх. Няхай памоліцца і папросіць у Бога прабачэння. Ты жагнацца, Кастусёк, умееш?

— Умею.

— А малітву ведаеш якую?

— Ведаю «Ойца нас» і «Багалодзіцу», мяне мама навуцыла.

— Ну вось, станавіся на калені і маліся. І Божанька даруе табе за твой грэх.

— А мозна толькі «Багалодзіцу», бо «Ойца нас» доўгая, і мама мне падказвае, калі я сто забыўся.

Тут і Алёшка згадзіўся на «Багародзіцу». Стаў Кастусёк на калені, пераджагнаўся перад новай царквой і прамовіў «Багародзіцу». У канцы малітвы сказаў:

— Прасьці, Матацка Боская, я больс не буду!

# ПОСІК

Перад Калядамі (Раджджаством Хрыстовым) сяляне калолі свіней, а тыя, у каго былі малыя дзеці, рабілі ім для гульні шары, якія называліся посікамі. Бралі мачавы пузыр (пухір), качалі яго ў попеле, каб лягчэй было яго надзьмуць паветрам. У сярэдзіну посіка напіхалі некалькі гарошын. Пры дапамозе тоўстай саломіны надзімалі яго, завязвалі моцнай ніткай і вешалі сушыць у цёплым месцы. Калі ён высыхаў — гэта была лепшая цацка для дзяцей, ды яшчэ гарох барабаніў у сярэдзіне. Звычайна бацькі куплялі для дзяцей маленькія гумовыя мячыкі ў крамах, а гэты мяч быў вялікі! Ён быў лёгенькі, яго падкідвалі ўгору, ён плаваў у паветры, потым яго лавілі.

З’явіўся такі посік і ў Кастуська. Ён забаўляўся сам, а час ад часу яму дапамагала і сястрычка. З цягам часу посік губляў сваю пругкасць. Можа, з яго дзе-небудзь прасочвалася паветра. Тады Кастусёва мама раіла яму пагрэць посік каля ямкі на прыпечку, куды яна выгарнала з печы гарачае вуголле, якое павольна астывала. Ямка знаходзілася злева на прыпечку. Так Кастусёк рабіў заўсёды, калі пругкасць посіка была недастатковай.

Аднойчы, калі вуголле ў ямцы было яшчэ гарачым, Кастусёк палажыў посік пагрэцца і забыўся пра яго, заняўшыся іншымі справамі. Посік так бабахнуў у хаце, што зазвінелі вокны. Спалохаліся ўсе, хто быў у хаце. Спалохаўся і Катусёк. Ён падбег да прыпечка і знайшоў толькі шматкі ад посіка. Ён узарваўся ад вялікага ціску знутры, як бомба. Па-першае, не ведаў тады яшчэ Косцік такой ісціны, што целы пры награванні расшыраюцца. А па-другое, не трэба займацца некалькімі справамі адначасова. Каб Кастусёк назіраў за посікам, то гэтага не адбылося б. Ён быў такі ўзбуджаны, што хуценька апрануўся і пабег да сяброў-суседзяў даведацца, ці напалохаліся яны ад выбуху ў ягонай хаце. Канечне ж, яны ніякага выбуху не чулі, бо была зіма, і ў кожнай хаце былі ўстаўлены двайныя вокны, але яму здавалася, што выбух быў чуваць ва ўсім свеце.

# МАЛАНКААДВОД

У вёсцы быў пастаўлены высокі маланкаадвод (людзі яго называлі громаадводам). Ён быў зроблены з дзвюх высокіх елак, змацаваных жалезнымі балтамі. На самым версе маланкадвода была прымацавана фабрычная трохлапая металічная вілачка, прыпаяная да тоўстага дроту, які злучаў вілачку з зазямленнем, закапаным у зямлю. Каб маланкаадвод не заваліўся, яго трымалі тры адцяжкі з тоўстага дроту, разведзеныя ў розныя бакі і прымацаваныя да тоўстых бярвёнаў, закапаных у зямлю.

У ветранае надвор'е вілачкі жалосна спявалі. Людзі казалі, што трэба чакаць дрэннага надвор'я. Дзеці ж прыкладвалі вуха да самога маланкаадвода, і там чуўся нескандчоны гул, што наводзіў дзетак на нейкі жах. Утвараўся гэты гул ад наведзеных трох струн — адцяжак і ад вілачкі на версе маланкаадвода, а музыкай быў сам вецер. Дзеці часта любілі паслухаць яго мелодыі.

Маланкаадвод быў пабудаваны пасярэдзіне вёскі і надзейна ахоўваў будынкі вёскі, пакрытыя саломай, ад маланкі ў час навальніц. З часу яго пабудавання ў вёсцы не адбылося ніводнага пажару. І яшчэ будынкі вёскі абараняліся ад маланкі высокімі векавымі дрэвамі, якіх у вёсцы было шмат.

Добрая рэч маланкаадвод. Але ў вёсцы быў адзін хлопец старэйшага ўзросту, які добрую рэч мог ператварыць у дзікі жарт. Назавём яго Абламонам. Ён увёў у вушы малым, што ўзімку, у люты мароз, адцяжкі маланкаадвода — салодкія. Можа хто і пакаштаваў гэтага «цукру», не ведаю. А вось Кастусёк быў такі хлопчык, каб усё праверыць на сабе.

Адна адцяжка ад маланкаадводу была замацавана за суседняй хатай. Выконваць гэту «аперацыю» Кастусёк пайшоў адзін, каб не было сведкаў. Магчыма, у яго быў нейкі недавер да прапаноў Абламона.

Быў вялікі мароз у гэты сонечны дзень. Усе дрэвы былі пакрыты інеем. Адцяжка з тоўстага дроту была белая. «А можа ён і праўду казаў, што адцяжка салодкая. Ад чаго ж яна такая белая, як цукар», — разважаў Кастусь. Агледнуўся ён туды-сюды, каб ніхто не бачыў, ды і ткнуў ён язычок да дроту, які і прыліп да яго. І тут ён зразумеў, што ён на самай справе «ўліп». Кастусь разгубіўся і пачаў язык ратаваць вуснамі, але і вусны прыліплі да дроту. Тады ён рвануўся, аставіўшы на дроце скурачку ад вуснаў і языка, і пабег за хлеў, пакідаючы на снезе чырвоныя крывяныя плямы.

Вось дык Абламон! Ці добры ён быў хлопец, што такое параіў малым?!

## ЛЯЛЮСЬ

Падрастаў Кастусёк, перастаў шапялявіць. Час ад часу бацькі давалі яму такія-сякія заданні — што-небудзь аднесці суседзям або нешта папрасіць у іх. І ён любіў гэта выконваць.

Кастусёк з маленства пабойваўся сабак, а іх у вёсцы было многа. Сумленныя гаспадары прывязвалі сабак каля будкі, а ноччу пускалі іх пабегаць.

Аднойчы паслала маці Кастуська да суседкі Мані за нейкай патрэбай. Ён ужо ведаў, што там быў злы сабака Лялюсь — белы,

лахматы, невялікага росту, але вельмі злы. Сабака нікога не прызнаваў, за выключэннем гаспадара, гаспадыні і іхных сыноў — Барыса і Мікалая. Быў ужо дзень на дварэ, і Кастусь падумаў, што гэтай парой сабака павінен быць ужо прывязаны. Кастусёвыя спадзяванні не апраўдаліся: як толькі ён адчыніў дзверы ў сені ды ступіў пару крокаў да дзвярэй хаты — тут жа Лялюсь выскачыў з цёмнага кутка, дзе ён спаў, і перагарадзіў хлопчыку дарогу ў хату. Кастусь спыніўся, спыніўся і Лялюсь. Скрывіўшы галаву і гледзячы прама ў вочы Кастусю, сабака паказаў свае перламутравыя клыкі і завёў не зусім вясёлую песню для хлопчыка: «Р-р-р-р…», якую ён вёў адным тонам. У хаце не пачулі, а можа там нікога ўжо і не было. Так і стаялі адзін насупраць другога Кастусь і Лялюсь, гледзячы адзін аднаму ў вочы. Час ад часу Лялюсь спыняў сваю песню, каб хапіць паветра ў лёгкія. Потым ён зноў прадаўжаў сваё «р-р-р…». Хацеў яго Кастусёк прылашчыць, звяртаючыся да яго па імені: «Лялюсь, Лялюсь, ты ж добры сабачка, не чапай мяне. Я ж цябе не ганяў палкай, калі ты бегаў па нашай вуліцы». Але Лялюсь не мяняў свайго пагрозлівага становішча.

«Што ж рабіць, дзе ж выйсце? — думаў Кастусь. — Ні палкі, ні дубца нідзе не відаць. Трэба ўцякаць, але ж ён кінецца ззаду і ўкусіць. Адварочвацца не трэба. Трэба яму прама глядзець у вочы і адступаць памаленьку, так людзі казалі», — успомніў Кастусь.

Зрабіў Кастусь адзін крок назад — нічога не здарылася, пачаў рабіць другі крок, і трэба ж такому здарыцца — зачапіўся за парог сяней і аглянуўся. Вось гэтым момантам і скарыстаўся Лялюсь: рвануўся з месца, ухапіўся за Кастусёва калена зубамі і тут жа знік у сваім цёмным кутку, палічыўшы, што ён свой абавязак выканаў.

Вярнуўся дамоў Кастусёк са слязьмі. Мама змазала яму ёдам параненае калена і перавязала чыстай хусцінкай.

Праз некаторы час калена загаілася, але адзін значок застаўся, які напамінае Кастусю пра Лялюся ўсё жыццё.

А ўсё ж парады людской — глядзець прама ў вочы сабаку — трэба слухаць!

## ЛЯЛЬКА

З Лялюсем вы ўжо пазнаёміліся, а зараз пазнаёмімся і з Лялькай. Лялька — гэта была невялічкая сучачка, з гладкай сівой поўстачкай і вушкамі, якія стаялі стоць. Яна нагадвала лісу, а можа і была яе раднёй, бо лісы любілі курэй, а Лялька — яйкі. Гаспадарамі Лялькі былі старэнькія людзі, хата якіх стаяла на ўсходнім канцы вёскі. Сваю Ляльку яны не прывязвалі, і яна бегала вольна па вёсцы, часта забягаючы ў чужыя дварышчы. Казалі, што яна крадзе курыныя яйкі

з гнёздаў у хлявах. Кастусёк гэта чуў, але не быў упэўнены, што гэта так. Пасля сустрэчы з Лялюсем Кастусь не любіў тых сабак, якія вольна бегаюць.

Раніцой Кастусёк заўсёды бегаў у сад, які быў размешчаны за вуліцай насупраць хаты, каб пашукаць спелых яблыкаў, якія за ноч упалі з дрэва. Пераходзячы вуліцу, ён паглядзеў улева — нікога, глянуў управа, а адтуль і бяжыць Лялька.

— Дай я яе пастрашу, каб да нашых курэй не прыбягала, — падумаў Кастусь.

І тут ён убачыў у траве тонкую, але доўгую і крывую палку ад старога плятня, які разгароджваў два сады — Кастусёў і суседскі.

Прытаіўся Кастусёк за плотам ад вуліцы і пачаў чакаць. Як толькі сучка параўнялася з ім, тут ён замахнуўся і пусціў палку ў бок сучкі. І трэба ж такому здарыцца, што канец палкі папаў прама ў нос сучаняці, і яна завалілася мёртвай. Вось такога Кастусёк не чакаў і не хацеў гэтага. Ён вельмі спалохаўся і даўся наўцёкі.

— Што ж я нарабіў, я ж не хацеў яе забіваць, а хацеў толькі пастрашыць. А што людзі скажуць? На нашай жа вуліцы ляжыць, трэба занесці куды прыхаваць, а потым і пахаваць.

Вярнуўся Кастусёк да вуліцы, і што ж ён убачыў: ачуняла яна, але ляжыць яшчэ і думае, што ж такое з ёй здарылася. Ляжыць яна, галоўку падняўшы, вушкі стоць і пярэднія лапкі паклаўшы ўперад.

Узрадаваўся Кастусёк, што жывая і здаровая, і пачаў размаўляць з ёй: «Прабач, Лялечка, я ж не хацеў цябе біць. Гэта палка вінаватая, бо яна была крывая і паляцела не туды, куды трэба. Пачакай, я табе пару яечак прынясу». І кінуўся Кастусёк у хлеў, дзе былі курыныя гнёзды. Але пакуль ён бегаў — Лялька была ўжо ў другім канцы вёскі.

— Ну я табе другі раз яечка дам, толькі прыходзь, — з маркотай гаварыў сам з сабой Кастусёк, адчуваючы вялікую віну перад Лялькай.

Але ўсё ж больш да Кастусёвых курэй яна не прыйшла.

## ЛІСА

Сучка за яйкамі не прыходзіла, а яйкі пачалі знікаць, асабліва поклады (яйкі для прыманкі), якія Кастусёк застаўляў вечарам па адным у гняздзе. А раніцай куры шукалі свaё гняздо, у якіх не было поклада. Курыных гнёздаў Кастусёва мама нарабіла многа на гарышчы павеці, якая была размешчана за хлявамі. Там яшчэ захоўвалася трохі мінулагодняга сена, і куры любілі там хавацца ад людскога вока, каб знесці яечка. На гарышча павеці Кастусёк лазіў па драўляных драбінах.

— Кармлю курак, кармлю, а яны перасталі несціся, — скардзілася Кастусёва мама. — І сучка ж па драбіне не ўмее лазіць. Які ж тут завёўся злодзей? Коцік наш яек не есць. Вось дзе загадка?

Але разгадка неўзабаве прыйшла, калі адным ранкам Кастусёк прынёс нежывую лісіцу, якую знайшоў пад драбінамі, і сказаў:

— Вось табе, мама, каўнер за знікшыя яйкі.

Злодзеем аказалася лісіца. Нездарма ж яе клічуць хітрай. Прыходзіла яна начамі, калі вёска спала. Няйначай, падлазячы да верху драбіны, лісіца парушыла раўнавагу і паляцела ўніз разам з драбінамі, якія і накрылі яе смяртэльна. Вось да чаго даводзіць хцівасць! Ліса за яйкі заплаціла сваім жыццём. Бедная ліса! А каму ж не хочацца смачна паесці?!

## ГРАК І КАРШУН

Восень. З поля ўжо ўсё звезена. На іржышчы Кастусёк пасе гусей. Тут можна гускам палузгаць згублены каласок з зернем, ды і траўка захавалася, якую не крануў серп. А побач — урочышча «Гарбы» — пяшчаны кар’ер, дзе людзі бяруць пясок на рамонт вуліцы і на палявыя дарогі. У кар’еры ёсць вялікая лужа вады, дзе гускі, пад’еўшы, могуць папіць і пакупацца. Тут жа расце высокі лазовы куст.

Прыгожы сонечны асенні дзень, але жаўранка ўжо не чуваць. Паляцелі яны ўжо ў цёплыя краіны. Іржышча ўсё пераплецена павуціннем. Пара «Бабінага лета». Недалёка ад Кастуся, за метраў 60, знаходзіцца грэбля, паросшая з двух бакоў кустамі. Там па іржышчы ходзіць грак, які таксама хоча пажывіцца пакінутымі каласкамі. Але што гэта? Раптам грак зрываецца з месца і хутка ляціць да куста на грэблі. Глянуў Кастусёк на неба і ўсё зразумеў: там кружыў вялізны каршун.

А грак не ведае, што яму рабіць. У куст лезці страшна, а наверсе куста — каршун убачыць. Задумаўся грак: «Усе кажуць, што чалавека ўсе баяцца. Напэўна ж баіцца яго і каршун. Дай і я палячу ў той куст, што каля чалавека. Да яго каршун пабаіцца ляцець».

І грак імчыцца што мае сіл у куст да Кастуся, але і каршун не драмаў. Ён, склаўшы крыллі, камянём кінуўся ўніз за гракам, але не паспеў. Грак апярэдзіў яго ўсяго на нейкіх пару метраў, а каршун узвіўся ў неба ні з чым.

А Кастусь пляскаў у далоні і прытанцоўваў ад радасці, што грак застаўся жывы. Толькі пагразіў у бок каршуна палкай.

А яшчэ ў гусінай сям’і быў вялікі гусак — гусіны тата. Ён увесь час назіраў за каршуном, скрывіўшы галаву і адно вока накіраваўшы ў неба. Пакуль што ён толькі папярэджваў час ад часу моцнымі

«Га-га-га». Але, як толькі ўбачыў каршуна, падаючага ўніз, ён так кяркнуў, што ўсе гусі раптам апынуліся ў вялікай лужыне і пачалі біць нырца, каб не папасці ў кіпцюры драпежніка. Усе птушкі баяцца каршуна. Усіх іх трэба аберагаць, асабліва пакуль яны маленькія (гусяняткі, качаняткі, кураняткі).

## ГУСАК

Зноў пойдзе гаворка пра гусака, але ўжо пра другога. Кастусёў гусак дапамагаў яму гусей пасвіць, аберагаў ад каршуна. Ён пасвіў сам сваіх сябровак-гусак без пастуха. Статачак быў невялікі (гусак і тры гускі), які належаў адным старэнькім людзям. Яны ўжо далёка ганяць пасвіць гусей не маглі, і гускі на чале з гусаком заўсёды былі дзесьці недалёка ад хаты. Яны шчыпалі траўку то ў дварышчы, то каля рава, а ў раве была вада.

Пра гусака ў вёсцы ведалі ўсе, што ён быў вельмі сярдзіты. Выцягнуўшы шыю, ён пераймаў кожнага, хто праходзіў міма яго-ных сябровак. Некаторыя ўцякалі ад яго, а другія бралі дубец, каб адбараніцца.

Кастусёк быў смялейшы за ўсіх, ён вырашыў прайсці каля гусака без нічога.

— Ну чаго ж яго баяцца, — казаў ён. — У яго ж няма такіх клыкоў, як у Лялюся, які некалі мяне пакусаў.

Ітак, праходзіць Кастусёк міма гусей. Гусак стаіць высока галаву падняўшы, сцеражэ сваё багацце. Як толькі Кастусёк параўняўся з імі, гусак кінуўся да яго, выцягнуўшы шыю. Але хлопец адчуваў сябе ўпэўнена: «Ну, што ж, калі і ўшчыпне».

Гусак ухапіўся дзюбай за калашыну яго штаноў ды так даў крыллямі вышэй кален, што яму забалела горш, чым ад Лялюся. Кастусёк не чакаў такога павароту спраў. Ухапіў гусака за шыю ў дзве рукі і шпурнуў яго ад сябе, колькі дазвалялі яго сілы.

Насіў Кастусёк сінякі вышэй кален тыдні са тры. Так што і гусака трэба баяцца не менш, чым сабакі. На яго крыллях, у суставах, выступаюць косці, як жалезныя малаткі — «кулакі», як называюць гэтыя месцы людзі.

## БАРАН

Падрастаў з кожным годам Кастусь, набіраўся сіл, а адпаведна з гэтым ускладняліся і яго абавязкі. Паколькі ён быў вельмі паслухмяны, то яго і на гэты раз маці паслала ў вёску Навасёлкі да цёткі Сашы, каб ён занёс карані дзівука — расліны з лячэбнымі якасцямі. Зараз восень — час пасадак. Да вёскі Навасёлкі ўсяго тры кіламет-

ры. Паміж вёскамі — хутары Антанова. І Кастусь пайшоў. Прыгожы асенні дзень. На полі ўжо ўсё пароблена, людзей не відаць. Дзе-нідзе каля хутароў пасуцца яшчэ кароўкі, авечкі.

Не даходзячы да апошняга хутара, справа ад дарогі, Кастусь убачыў невялікі статачак авечак, ад якога адлучыўся вялікі баран і накіраваўся да дарогі, па якой ён ішоў, выйшаў на яе і стаў чакаць хлопчыка. Кастусь, не прадчуваючы нічога дрэннага, падышоў да яго. У іх гаспадарцы таксама былі бараны, і нічога ж дрэннага яны не рабілі, хіба прасілі хлеба, гледзячы на рукі.

І гэты паглядзеў на Кастусёвы рукі, але ж у ягоных руках нічога не было. Хіба ж Кастусь думаў сустрэцца з баранам?

— Ага, хлеба не маеш, ну то я табе пакажу зараз, як хадзіць без хлеба, — падумаў баран і пачаў адыходзіць, каб узяць разгон для нападу.

І Кастусь усё зразумеў. Ён неаднойчы быў на пасце і бачыў, як б'юцца бараны, як яны разыходзяцца, а потым бягуць з вялікай хуткасцю адзін да аднаго, каб стукнуцца ілбамі, пасля чаго ішоў такі грук, што ўзнікалі сумненні ў тым, ці застануцца яны жывыя. А яны зноў пачынаюць разыходзіцца і б'юцца да таго часу, пакуль адзін з іх не аслабее, «здасца» і ўцячэ.

Кастусь не стаў чакаць горшага і так сігануў ад барана, што той застаўся ззаду, але не пакінуў яго ў спакоі, а пачаў даганяць. Недалёка быў вялікі стары сад. І гэта было выратаваннем для Кастуся. Ён схаваўся за першую тоўстую яблыню і стаў чакаць. Баран падбег да яблыні, убачыў Кастуся і пачаў хадзіць за ім вакол дрэва. Зрабіўшы некалькі абаротаў, барану, няйначай, закружылася галава, бо ён пастаяў, падумаў, што яму ад Кастуся карысці мала, завярнуўся і пайшоў да сваіх авечак. А Кастусь прадоўжыў свой шлях да цёткі Сашы.

Так што не толькі сабакі ды гусака трэба баяцца, але і барана.

## ГАЛУБЫ

Кастусь рос, і шырыўся круг яго інтарэсаў і заняткаў. Адной вясной ён неяк заўважыў, што пара галубоў шукаюць месца для гнязда пад страхой іхняй хаты. Ён хуценька сцяміў, што галубам патрэбна дапамога. Кастусь знайшоў невялікі стары кошык, паклаў туды крыху саломкі, прынёс лёгенькую драбінку і павесіў яго высока пад страхой, каб каты не далезлі. А раніцой наступнага дня ён убачыў зноў тую парачку галубоў, якія ўжо рабілі сабе гняздзечка ў кошыку. Кастусёк вельмі ўзрадаваўся, што ён дапамог галубам, і тут жа знайшоў яшчэ кошык і прычапіў яго пад страхой з другога боку. І сюды прыляцела яшчэ адна пара. Галубы нясліся, пладзіліся,

і праз некаторы час у яго была сапраўдная галубіная ферма. Там жа ён прыбіў ад шчыта да страхі некалькі гарызантальных палак, каб галубы маглі сядзець каля сваіх гнёздаў. Самцы вуркавалі свае песні: «Вур-куу! Вур-куу!» — і ўсім дамашнім было прыемна іх слухаць.

Да Кастусёвай фермы прыляталі галубы і з другіх галубятняў, якія былі зроблены другімі хлопчыкамі — аматарамі. Хлопчыкі сустракаліся паміж сабой, абмяркоўвалі свае галубіныя гаспадаркі, праблемы. Трэба адзначыць, што галубы былі розных парод. Былі такія, што падымаліся высока ўверх, а потым куляліся адтуль, што вельмі захапляла хлопчыкаў. І Кастусёк так захапіўся галубамі, што ён і хадзіў, а то і бегаў па вёсцы з задзёртай уверх галавой, пляскаючы ў далоні на галубоў, каб яны ляцелі туды, куды яму хацелася. А яму хацелася, каб галубы ляцелі ў яго галубятню.

Аднойчы яму вельмі не пашанцавала. Ён так захапіўся галубамі, што не заўважыў дзяўчынак-сябровак Надзі і Валі, якія сядзелі на лавачцы і размаўлялі. Дзяўчынкі, заўважыўшы Кастуся, змоўклі, каб не памяшаць яго планам. А ён хутка бег, накіраваўшы вочы ў неба, пляскаў у далоні. А ў гэты час, як на тое ліха, з суседняга дварышча выйшла вялікая свіння з шырокімі, вісячымі вушамі, што засланялі ёй вочы, і яна наперадзе нікога не бачыла. Вось на яе Кастусь і наляцеў, перакуліўся праз яе і апынуўся на зямлі.

Толькі зараз, падняўшыся з зямлі і абтросшыся ад пылу, Кастусь заўважыў дзяўчынак, якія моцна рагаталі, убачыўшы рэдкае ў жыцці здарэнне: не ўбачыў перад сабою вялікай свінні.

На вялікі жаль, у той час не было відэакамер. Вось быў бы класны кадр. Так што ўсё трэба рабіць хутка, але асцярожна і ўважліва.

## ЧМЯЛІ

У суседа, дзядулі Мікалая, у садзе былі пчолы. Дзядуля Мікалай кульгаў, хадзіў з ляскай. Апрацоўкай зямлі ён ужо не займаўся. Ёю займаліся яго зяць Антон і ўнукі-падлеткі Геня і Коля. Дзед Мікалай займаўся пчоламі і садам, які быў ужо стары, але дагледжаны. Там расло многа смачных яблыкаў. Бабуля Марыля, жонка дзеда Мікалая, часта прыносіла Кастуську і яго сястры Надзеі яблыкаў. Калі выбіралі мёд, то яна прыносіла і місачку мёду з вузай. Для дзяцей гэта былі самыя запамінальныя дні. У бацькоў Кастуся таксама быў сад, але ён быў малады і яблыкаў яшчэ не было.

Кастуську вельмі хацелася мець сваіх пчол. Ён ведаў, што яны балюча джаляць. Неаднойчы і яму перападала, калі ён блізка падыходзіў да сада, не ведаючы, што дзядуля Мікалай там нешта рабіў у вулёчках. Пякло, як агнём, і Кастусь бег дамоў, каб выцягнуць з-пад вока тое джала, а потым прыкласці да балючага месца які-небудзь

халодны металічны прадмет. Бывала, што на пчолку наступалі і босай нагой, калі яна на кветачцы дзяцельніку збірала нектар, з якога пчолкі ў вулёчку рабілі смачны мядок.

Але ж Кастусь і яго сябры, Яўген і Янка, ведалі, што ў пчол ёсць яшчэ родзічы — чмялі, іх мядок быў таксама смачны. Ім хлопчыкі ласаваліся ўжо неаднаразова праз саломінку. Хлопчыкі, пасучы кароў ці гусей, часта знаходзілі чмяліныя гнёзды на паверхні зямлі або ў зямлі. Заўважыць гняздо было няцяжка, бо адтуль то вылятаі, то туды прылятаі чмялі. Звычайна гняздзечка было невялікае, памерам з прыгоршчы, але часам сустракалася і большае, у залежнасці ад велічыні рою. На сенажацях гняздзечка было аплецена мохам.

Чмяліная матка зімавала дзе-небудзь у стагах саломы або сена. Вясною, калі ажывала прырода, яна вылятала ў пошуках месца для гнязда і, знайшоўшы, рабіла яго. Яна таксама лятала ад кветкі да кветкі, збіраючы пылок, з якога рабіла вузу, складзеную з місачак, адкладвала ў тыя місачкі яечкі, з якіх выходзілі чмялькі, і чмяліная сям'я папаўнялася. Чмялькі збіралі пылок на кветках яблынь і агурэчніка, тым самым апыляючы кветкі, ад чаго пазней на яблынях і агурэчніках з'яўляліся яблыкі і агуркі. З пылку яны рабілі сабе і ежу — чмяліны «хлеб». Пылок збіралі ў мяшочкі, змешчаныя на задніх ножках. З канюшыны і дзяцельніку яны бралі нектар, з якога рабілі мёд. Мёд утвараўся з нектару, з якога чмялькі выпаралі ваду, махаючы крылцамі над той місачкай, у якой быў сабраны нектар.

Кастусь і яго сябры-равеснікі рабілі вулёчкі для чмялёў. Гэта была невялічкая драўляная скрыначка, якая зверху зачынялася вечкам, а спераду была зроблена адтуліна-лятак, каб чмялькі маглі вылятаць з гнязда і прылятаць у яго. Ніжэй лятка хлопчыкі прыбівалі маленькую дошчачку-пляцоўку, каб чмяльку зручней было прызямліцца і залезці ў вулёчак.

Калі гняздо было знойдзена, Кастусь браў вулёчак і завязваў якую-небудзь хусцінку на галаву, каб чмялі не джгалі, хоць гэта і не заўсёды ўдавалася. У адрозненне ад пчол, чмялі не пакідалі джала ў целе, але джгалі таксама даволі балюча. Але гэта акалічнасць Кастуся не спыняла. Ён, заматаўшы галаву хусцінкай і пакінуўшы адтулінку для вачэй, асцярожна, але хуценька браў голымі рукамі ўсё гняздо і перакладаў яго ў свой вулёчак. У гэты час амаль усе чмялькі вылятаі бараніць сваё гняздо. Яны былі вельмі сярдзітыя, але, убачыўшы сваё гняздо побач, яны адзін за другім вярталіся ў яго. Кастусь забіраў іх дамоў позна вечарам, калі ўсе яны прыляталі з работы. Ён асцярожна затыкаў коркам, зробленым з траўкі, лятак, а зверху закрываў вулёчак вечкам. Прынёсшы вулёчак дамоў, Кастусь ставіў яго ў агурэчнік, а раніцой бег хутчэй на сваю пасеку паглядзець, ці прыжыліся чмялькі на новым месцы. І калі ён бачыў, што чмялькі прыляталі і лезлі ў вуль, значыць прыжыліся.

А праз некаторы час ён лез зноў да чмялькоў з саломінкай, каб пасмактаць іх мядку, але толькі трошкі, каб не пакінуць іх галоднымі.

Вось такія былі юныя пчаляры.

## ВОЖЫК

Вельмі цікавай, разумнай і загадкавай жывёлінай з’яўляецца вожык. Кастусёк упершыню пазнаёміўся з ім, калі тата і дзядуля ўзялі яго на поле ў час жніва. Шнурок зямлі, на які яны прыйшлі, часткова быў зжаты ўчора, і там стаялі бабкі па 10 снапоў у кожнай. Пад адной бабкай мама зрабіла яму хатку, падаслаўшы штосьці з адзення. Кастуську падабалася там ляжаць у гарачы сонечны дзень. Але ж ці можна доўга маламу ўлежыць на адным месцы, калі ўсё навокал так прыгожа і цікава? Яго цікавіла поле і вырасшае на ім жыта, якое хілілася долу ад важкіх каласоў. Яго цікавіла сама праца жнеек, якія так па-майстэрску ўпраўляліся крывым сярпочкам. Ён пайшоў паглядзець на другія бабкі, а што ж там пад імі. Так ходзячы ад адной бабкі да другой, ён знайшоў пад адной з іх шэры клубочак з мноствам іголак. Ён пальчыкам дакрануўся да адной з іх, і ў той жа момант клубочак здрыгануўся і балюча ўкалоў Кастусёў пальчык. Вось цяпер ён зразумеў, што гэта нешта жывое і страшнае. Ён напалохаўся і пабег да дарослых расказаць аб здарэнні. Бацька ўсё зразумеў і сказаў, што гэта вожык адпачывае пасля начных паляванняў і стаміўшыся спіць. Гэта начная жывёлінка — карысная, вожык палюе на мышэй, і яго не трэба зусім баяцца. На пытанне, ці хацеў бы ён мець такога ў доме, Кастусёк адказаў станоўча. Вечарам, вяртаючыся з працы, дзядуля ўклаў вожыка ў Кастусёву шапку, і Кастусёк прынёс яго дадому.

Калі прыйшлі дадому, Кастусёк выкуліў вожыка з шапкі каля прыпечка. Некаторы час той ляжаў клубочкам, а пасля пачаў выпростоўвацца. Спачатку паказаўся яго чорны носік, падобны на качыную дзюбу, а потым і маленькія чорныя вочкі. Пазней ён паказаў і свае цёмныя лапкі, на якіх пачаў хадзіць, знаёмячыся з новым асяроддзем. Але ж госця трэба было нечым пачаставаць. Кастусёва маці наліла ў сподачак малака. Кастусёк падсунуў сподачак з малаком пад самы носік. Вожык нюхнуў пару разоў і пачаў хлябтаць малако сваім маленькім чырвоным язычком. О, цуд! Кастусёк аж падскочыў ад радасці. Так стаў жыць вожык у хаце. Днём спаў, а ўсю ноч тапацеў вакол печы. Пабыў ён у хаце нейкі тыдзень, і Кастуську стала шкада яго, таму што ў хаце вожыку не было раздолля. Прывык да яго Кастусёк, і хоць з вялікім жалем, але выпусціў на волю, не спадзяючыся зноў з ім сустрэцца.

Але на наступны вечар вожык прыйшоў да Кастуська папіць малачка. О, якая гэта была радасць для Кастуська ў гэты вечар. Кастусёк прынёс малачка і ў час, калі вожык яго піў, паціхоньку гладзіў яго калючкі. Вожык прыходзіў да Кастуська аж да пачатку халадоў, а пасля, відаць, залёг дзе-небудзь пад стогам у зімовую спячку.

## САВА

Кастусёк упершыню ўбачыў саву, калі прыгожым марозным днём катаўся на лыжах вакол свайго така. Вялізная птушка сядзела пад страхой на паліцы шчыта, якую некалі змайстраваў Кастусёк, і дзе быў падвешаны кошык для галубоў, якія вадзіліся тут летам. Ён хуценька збегаў за сябрамі ў вёску, каб і яны паглядзелі на гэту рэдкую прыгожую птушку, якую днём можна ўбачыць хіба ў заапарку. У птушкі было прыгожае шэрае апярэнне, круглая галава, прыкметна выдзяляліся вушы і невялікая закруглястая дзюба з вострымі краямі. Вочы круглыя, вялікія, міргалі час ад часу незалежна адно ад другога. Яна мела магутныя лапы з вострымі кіпцюрамі, каб утрымліваць здабычу.

Сабралося больш дзесяці сябрукоў, якія пачалі адразу суд над ёй. Адны казалі, што яе трэба забіць, бо яна дзярэ курэй. Другія казалі, што курэй яна дзярэ ў дрэнных гаспадароў, у якіх куры сядзяць у паламаным хляве, а да добрага гаспадара яна ў хлеў не заляціць. А што яна мышэй ловіць, то гэта ж добра. І другія хлапчукі перамаглі.

А сава сядзела ціха, лыпаючы сваімі вялізнымі вачыма, слухала сваіх суддзяў, але нічога не бачыла. Так хлапчукі, надзівіўшыся на саву, вярнуліся ў вёску. На наступны дзень там яе ўжо не было, дзесьці знайшла лепшае месца, далей ад людскога вока.

## КОНІ

Нічога малых хлопчыкаў так не захапляла, як коні. Канечне ж, у кожнай сялянскай хаце быў коцік і цюцька (сабачка), але ж гэта для малых было несур’ёзна. Кожнаму з іх хацелася стаць дарослым, бо толькі дарослым даручалася мець справу з канём, бо конь — гэта ж самая прыгожая жывёліна, самая дужая і самая разумная. Вось чаму яны ляпілі іх з гліны, выразалі з дрэва, рабілі калёсы, сані, бароны, плужкі і збрую. Гэта ж былі сялянскія дзеці. Што рабілі бацькі, тое хацелася рабіць і ім. Але пакуль што — толькі гуляць «у коней». І гулялі. Адзін быў «канём», а другі — «фурманам». «Каню» перакідвалі вяроўку ззаду шыі і пад пахі. Два канцы вяроўкі былі

лейцамі, якія трымаў фурман і кіраваў «канём». Вось так гулялі, а потым мяняліся ролямі.

Хлопчыкі падрасталі. Бацькі іх садзілі на каня і загадвалі моцна трымацца за грыву, а самі ішлі збоку, прытрымліваючы дзяцей. Потым іх вучылі трымацца не за грыву, а за повад абрыці, і кіраваць канём, едучы шагам.

Вось, здаецца, і Кастусёк ужо прайшоў усе навукі і навучыўся ехаць шагам. Але ж шагам ехаць было нецікава. Ён жа бачыў, як старэйшыя хлопцы ездзілі на конях бягом ды наўскач. А чаму б і яму не паспрабаваць?! Хаця бацька яго папярэджваў, каб бягом не ехаў. Вось аднойчы, калі ён ехаў з гумна да ракі, каб напаіць коніка, ён і патузаў каня за повад, конь і пабег. Але Кастусёвы ногі былі яшчэ закароткія, каб утрымацца на кані. У дадатак прытым яго пачало падкідваць, і ён не ўтрымаўся і зваліўся на сухую вуліцу. Конь спыніўся, а Кастусёк падняўся з вывіхнутай левай рукой. Вось што значыць не паслухаць бацькі!

Бацька назіраў за ўсім гэтым і прыбег на дапамогу. Давялося везці Кастуся да ветэрынарнага доктара Міхася ў суседнюю вёску, бо другіх дактароў блізка не было, а ён дапамагаў і людзям.

Але прайшоў некаторы час, рука загаілася, і Кастусёк навучыўся ехаць і бягом, а потым і наўскач. Вось такую «школу» праходзілі ўсе хлопчыкі.

Улетку ў засушлівыя гады, калі на пашы не было вады, коней трэба было паіць у Дзісенцы. У нядзелю, калі коні не былі заняты працай, хлопчыкі збіраліся разам і ішлі на пашу шукаць іх. Шукаць іх трэба было таму, што ў абедзенны час было многа мух і аваднёў, ад якіх коні хаваліся ў кустах ва ўрочышчах «Барок» і «Доўгае». Разыходзіліся хлопчыкі шукаць сваіх коней, знаходзілі іх і зноў збіраліся ў адным месцы, чакаючы ўсіх, каб потым разам ехаць да ракі. А потым выстройваліся адзін за другім і імчаліся наўскач да вёскі на адлегласці двух кіламетраў, толькі пыл падымаўся за кожным.

Прыехаўшы да ракі, яны давалі коням адпачыць, бо нельга было змарыўшымся коням даваць халоднай вады, каб не захварэлі «дыхавіцай». Коней прывязвалі да плота, а самі пачыналі распранацца і купаліся самі. Потым бралі сваіх коней, паілі і купалі іх. Меншыя хлопчыкі, якія прыходзілі пакупацца к гэтаму часу, любілі паплаваць, ухапіўшыся каню за хвост. Пакупаўшы, коней пускалі на водмель, дзе яны ласаваліся водарасцямі.

Аднойчы дзядзька Аркадзь папрасіў Кастуська пакупаць яго коніка, а пра яго павадкі хлапчуку не сказаў. Дзядзька дапамог яму залезці на каня, і Кастусёк паехаў на кані ў раку. Адплыўшы на глыбокае месца, галава каня раптам знікла пад вадой. Спалохаўся Кастусёк. «Во, — думае, — чужога каня ўтаплю». А дзядзька Аркадзь стаіць на беразе і бярэцца ад смеху за бакі. Калі Кастусь

зразумеў, што конь умее ныраць — а гэта яму вельмі спадабалася, — ён зрабіў на кані яшчэ некалькі кругоў.

Пасля купання хлопчыкі забіралі сваіх коней з водмелю, апраналіся і зноў ехалі на іх наўскач на пашу. Гэта гульня называлася ў іх «у кавалерыю».

## ЧАЙКІ

Канец кастрычніка. Ноччу падмарожвае. Дажджавыя чарвякі заляглі ў зімовую спячку. Ужо не вылазяць начамі на расу ды на дарогі, як гэта было летам. Раніцой улетку іх збіралі чайкі. Зараз чарвякоў няма ды й рыбіну не так проста злавіць, а есці чайкам усё роўна хочацца. Вось яны зараз і туляцца да чалавека, можа хто што-небудзь і выкіне.

Адной раніцай разбудзілі Кастуська чайкі. Калі ён глянуў у вакно, то ўбачыў, што адна чайка абараняе нейкі жоўты трохвугольны кавалачак чагосьці, хутчэй за ўсё сыру. Ушчыпне крыху з гэтага кавалачка і больш нікога не падпускае да яго. Сабралася каля дваццаці чаек. На гэты шум прыляцела чорная варона. Яна падкрадвалася-падкрадвалася да чайкі-ўладальніцы таго кавалачка, а потым імгненна ўхапіла яго, панесла на дах суседняга дома і ўселася там, каб паснедаць. Чайкі ўзняліся, паляцелі за варонай і паднялі такі гвалт, што якое там магло быць сняданне?

Пачуўшы такую валтузню, аднекуль здалёк прыляцеў крумкач. Ён адабраў ад вароны той кавалачак, паляцеў да пажарнай вышкі, усеўся высока і пачаў снедаць. За крумкачом ніхто не паляцеў, бо ўсе птушкі баяцца яго, як і каршуна.

Вось што значыць «не змаглі падзяліць»!

А калі б тая першая чайка не была такая скупая, і дала б ушчыпнуць сыру сваёй сяброўцы, другой-трэцяй чайцы, то можа і пад’елі бы. Каб не былі хцівыя, то не засталіся б галодныя!

## ЖАЎРАНАК

Кастусёк любіў назіраць за птушкамі, якія вяртаюцца з выраю. У канцы сакавіка, калі ад вясенняга сонца пачынае таяць снег і з’яўляюцца першыя праталіны, можна ўбачыць пералётных жаўранкаў. Адны з іх застаюцца ў родных краях, дзе нарадзіліся, другія — ляцяць далей на поўнач. Спачатку спеў жаўранкаў неактыўны, пералётны. Але праходзіць тыдзень-другі, усё наўкола пачынае зелянець і квітнець, вось тады і радуецца жыццю жаўранак. Ён радуецца сонечнаму ранку, любуецца засеянымі палямі, радуецца з’яўленню сваёй будучай сямейкі. Гняздзечка ён робіць у выкапа-

най сваімі лапкамі-драпкамі ямцы, пакуль зямля яшчэ вільготная. Часцей за ўсё яго гняздо можна бачыць на полі, засеяным азімымі, але сустракаецца і на пожнях. Дно гнязда і бакі ямкі ён высцілае мінулагоднімі сухімі траўкамі. Жаўранак — птушка шэрая, крыху большая за вераб'я, з невялікім чубком. Водзяцца яны парамі. Жаўранак узлятае з жыта і пачынае спяваць, плаўна падымаючыся амаль вертыкальна ўгару. Можа падняцца на такую вышыню ў небе, што яго цяжка і згледзець, і толькі дзякуючы ягонай песні можна адсачыць ягоны палёт. Адспяваўшы сваю песню, ён плаўна спускаецца ўніз і, калі да зямлі застаецца метраў дзесяць, складвае крылцы і камянём падае ўніз. Вылеціць жаўранак з-пад ног, а ў гняздзечку — пяць яечак у кропачку.

## КАРШУН

Сядзіць Кастусёк у хаце ля вакна. Пад вішнямі на раве корпаецца курка-кватуха з пісклятамі. Дзень сонечны, ясны, на небе ніводнага воблачка.

— Разумная курыца, — разважае Кастусёк. — Знайшла забаву сваім дзеткам у цяньку.

Раптам штосьці вялікае звалілася на курыцу. Кастусёк, прыгледзеўшыся, убачыў шэрага драпежніка — каршуна. Курыца чамусьці маўчыць, мабыць напалохалася, а можа, каршун ужо здолеў стукнуць ёй па галоўцы і яна страціла прытомнасць. Косцік мігам выскачыў з хаты і пабег ратаваць курыцу. Каршун спалохаўся і пачаў ўздымацца ў паветра. Косцік толькі заўважыў, што адна ягоная лапа была пашкоджаная, магчыма, паляўнічы калісьці яго падстрэліў. Калі курка апамяталася, то пачала зваць і збіраць сваё маленства, якое адразу павяла далей ад гэтага месца.

## ГУСІ ЗА РАКОЙ

Каб выдаць дзяўчыну замуж у вёсцы пры Польшчы, яна павінна была мець перш за ўсё падушкі і пярыну. Для гэтага трэба было гадаваць гусей. Вось і гадавалі. Гуся — каштоўная птушка. Яна есць траву, запівае вадой, а пер' я і мяса з яе многа. Вось і бацькі Кастуся купілі трох гусак і аднаго гусака, бо ў іх расла прыгожая дзяўчынка Ганна, якая была старэйшая за Кастуся ўсяго на тры гады. Вясной гускі неслі яйкі, потым сядзелі на іх, каб выседзець гусянятак. Праз некаторы час дварышча Кастуся запоўнілася зюзюканнем маленькіх жоўценькіх клубочкаў. У двары для іх было пастаўлена карыта з вадой. Палова дварышча было паросшы травой. Гусак не еў і не піў, а важна хадзіў скрывіўшы галаву, пазіраючы

адным вокам ў неба. Так ён сцярог маленькіх гусянятак ад каршуна, вароны ці сарокі. Кастусёк назіраў, як маленькія гусяняткі пачыналі шчыпаць траўку. У некаторых і сілы было яшчэ мала, каб адарваць тую травінку. Учэпіцца дзюбкай за травінку і цягне яе да сябе. А як травінка адарвецца, то гусянятка ляціць назад, а часам і перакуліцца.

Раслі яны хутка, на крыллях і на хвасце з’яўлялася пер’е. Пара было іх гнаць у поле. Звычайна гусей гналі пасвіць на папар, дзе расла іх любімая трава — асот і малачай. Папар быў на Узваллі. Так называўся круты бераг Дзісенкі. На папары расла добрая і смачная трава. У гэтым месцы рака робіць круты паварот. Сюды часта прыганялі ў абед кароў, якія любілі залезці ў ваду і бараніліся такім чынам ад мух і аваднёў. Сюды і прыганяў Кастусь сваіх гусей. Гусі любілі пашчыпаць траўку, а то і ласаваліся водарасцямі, што раслі ў рацэ. Процілеглы бераг ракі быў нізкі, там было поле, на якім каласіўся няспелы яшчэ авёс. Гэты авёс, відаць, знюхаў наш клапатлівы гусак. Туды ён і накіраваўся на чале статка. Як ні стараўся Кастусёк вярнуць гусей, але гэта яму не ўдалося. Ён іх і ласкава клікаў: «це-це-це» — нічога не дапамагала. Закінуць камень перад імі было немагчыма, бо гусі былі ўжо на другой палове ракі. Рака ў гэтым месцы была шырокая. І хоць тут была водмель, па якой можна было перайсці раку ўброд, але Кастусёк не рашыўся, бо баяўся самоў, кругом у гэты час не было відаць ні адной душы. Тым часам гускі пераплылі на другі бок ракі і рушылі лушчыць авёс. Яны вельмі па-майстэрску лушчылі каласкі дзюбай знізу ўверх так, што ад каласкоў нічога не заставалася. А што высыпалася з дзюбы, то прыбіралі з зямлі. О, якое гора было для Кастуся! Ён ведаў, што за патраву гаспадар поля мог забраць гусей у хлеў, і потым бацьку прыйшлося б за гэта ўсё плаціць. Кастусь пачаў плакаць. І так шчыра плакаў і біўся аб зямельку, што на тым баку ракі пачуў Кастусёву бяду чалавек. Вось ён і прыйшоў на дапамогу. Выгнаў гусей з аўса і камамі зямлі падганяў гусей да нашага берагу. Кастусь падзякаваў добраму чалавеку за паслугу і больш у гэтым месцы гусей не пасвіў.

## КРЫНІЧКА

Было лета, час сенакосу. Яшчэ не ўзышло сонейка, а дзядуля Тумаш ужо апрануўся і выйшаў на вуліцу. Глянуў на неба: «Ага, ніводнага воблачка. Трэба спяшацца на сенажаць, пакуль ёсць раса». Бацька збіраецца завезці новыя калёсы акаваць да каваля. Пачынаецца сенакос, трэба, каб усё было гатова. Маці ўжо падаіла кароў, перацадзіла малако ў банку і апусціла яе ў студню. Печ ужо паліцца, там стаяць два вялікія катлы з бульбай для свіней. Хуценька спякла

яечню, паставіла яе на стол і клікнула мужчын снедаць. Склала мужчынам торбы, наліла дзядулю літровую бутэльку халоднай вады са студні і паставіла ў куце на лаве. Сама пагнала кароў у поле, бо ўжо пастыр пратрубіў у доўгую берасцяную трубу другі раз. Першы раз трубіў, каб жанчыны ішлі даіць кароў. Калі яна вярнулася — мужчын ужо не было ў хаце. Трэба яшчэ накарміць свіней і курэй і зрабіць снеданне малым: дачушцы Надзеі, якой было 9 год, і Кастусю, якому толькі 6. «Зраблю сёння дранікі, іх жа так любяць дзеці», — падумала маці.

А сонейка ўжо паднялося высока. Надзейка ўстала і пытаецца ў маці, што ёй дапамагчы. Кастусь яшчэ спіць.

— Во паснедаем і пойдзем у агарод палоць бульбу, пакуль будзе халадок у цяньку дрэў.

Устае і Кастусёк. Не дае яму паспаць ягоны «певеньчык», і ён хутчэй бяжыць у прыбіральню за хлеў. Памыўшыся і змовіўшы перад абразамі кароценькія пацеры, дзеці селі за стол. А на стале ўжо стаяць дранікі з мачанкай (смятана ў смажаным сале). Ой, як будзе смачна! Тым часам маці завойкала:

— А-я-яй! Гэта ж дзед сваю ваду забыў. Прыйдзецца табе, Кастусёк, ваду занесці дзядулю. Ведаеш, дзе ўрочышча Вялікае, ён там косіць?

— Ведаю, мы там паземкі збіралі.

— Ну вось і добра. Сонца вунь як высока паднялося. На вуліцы горача, «ні з куста галавы», як казаў той цыган. Дзеду хутка захочацца піць.

Маці памяняла ваду ў бутэльцы, бо тая ўжо сагрэлася. Бутэлька была літровая з-пад польскай гарэлкі «Звыклэй выборовэй».

— Цяжка не будзе? — пытаецца маці.

— Ой, ды ці ж я маленькі! — кажа Кастусь.

І, паснедаўшы, панёс Кастусь ваду, каб напаіць дзядулю. Бутэлька падалася не такая ўжо і лёгкая, і ён нёс яе мяняючы рукі. Ён выйшаў за вёску. Сонца стаяла ўжо высока ў небе. Ніякага подыху ветру, паветра гарачае, добра, што мама напомніла пра капялюшык, які яму нядаўна з саломы сплёў дзядуля. А поле — як акінуць вокам! Уперадзе, у далечыні, нешта трасецца. Гэта пераліваецца гарачае паветра. У небе радасна заліваюцца жаўранкі. А там, дзе палоска кустоў сутыкаецца з небам, недзе косіць дзядуля. Там Вялікае, куды і трэба паспяшацца. «Напэўна, дзядульку вельмі хочацца піць, як і мне, пасля смачных драных бліноў ды з мачанкай», — падумаў Кастусь.

Адышоўшыся ад вёскі з паўкіламетра, Кастусю захацелася піць. Усяго трэба было прайсці каля трох кіламетраў, і ён падумаў, што бутэлька вялікая, хопіць яшчэ і дзеду, ды і лягчэй несці будзе. Ён глынуў разы са два. Бутэлька вялікая ды цяжкая, і ў яго пацякло па

барадзе і па шыі. «Ой, але ж і вада смачная, як ніколі», — разважаў Кастусь. Прайшоў яшчэ метраў чатырыста. Што ж тыя два глыткі, толькі больш распалілі смагу. «Трэба яшчэ хоць пяць глыточкаў зрабіць», — Кастусь ужо ўмеў лічыць да 10. Глынуў, і зноў вада пацякла па барадзе ды і на кашульку. Глянуў на бутэльку — яшчэ большая палова, так што нічога страшнага. А вось і ручай. Гэта яшчэ толькі меншая палова шляху. Трэба крочыць далей. «Але што гэта? Чым больш п'ю, тым больш хочацца. Ну, яшчэ разок глыну і больш ні-ні. А то дзядулю мала застанецца», — разважаў між сабой Кастусь. І зноў глынуў. А вось ўжо і загародка для коней, але коні пахаваліся ў кусты ад аваднёў. А піць зноў так хочацца. Да дзядулі засталося нямнога, нейкі кіламетр. «Ну, яшчэ глыточак, — ну, паўглыточка…» І засталося ў хлопчыка вады ўсяго ў дне. Глянуў ён на бутэльку і жахнуўся. «Што ж я скажу дзеду? Ён жа піць хоча. А колькі ж вады засталося! Што ж я нарабіў! Маніць жа нельга. Мама казала, што Божанька будзе сварыцца. Што ж прыдумаць, што сказаць?..»

Дзядуля, распрануўшыся да белай зрэбнай кашулі і такіх жа штаноў, махае касой.

— Добры дзень, дзядулька! Прынёс табе папіць.

— О-о-о! Добры дзень, унучак, маладзец!

Дзед паклаў касу пад пракос і ідзе да лазовага куста ў цянёк. Ідзе да куста і Кастусь.

— Ну, дзе ж твая вада?

— Ды в-вось, м-мала засталося, — пачаў заікацца ад хвалявання Кастусь. — Бутэлька, няйначай, п-пабітая. Вось якія тут два ш-шрамы зверху ўніз.

— Так, так! Яна, і сапраўды, не цэлая, — дзед прыкінуўся, што згодзен з хітрыкамі ўнука.

— А чаму ж у цябе кашулька мокрая спераду, дажджу ж, здаецца, не было?

— Дык гэта ж я с-спацеў.

— А чаму ж ты пацеў толькі спераду?

І тут унучак зразумеў, што яму не выкруціцца.

— Д-даруй, дзядулька, я гэта з-зманіў! Ваду я выпіў, бо яна сёння была такая смачная! — здаўся нарэшце унук. — Толькі маме не кажы!

— Маме я тваёй не скажу, хаця яна ў цябе вельмі добрая, біць не будзе. Гэта мяне трэба біць, што я не сказаў тваёй маме, што вады мне сёння не трэба было. На гэтай сенажаці ў нас ёсць свая крынічка.

— А што такое крынічка?

— Гэта падземны ручаёк. Пойдзем пакажу.

І павёў дзед паказваць унуку крынічку.

— А вось і яна. Бачыш, у гэтай нізінцы штосьці булькае. Гэта падземны ручаёк вырваўся з-пад зямлі на волю і скача ўверх ад радасці.

Дзед цягне кубак, прыхаваны ў траве, і падстаўляе пад фантанчык, сантыметраў пяць у вышыню, і працягвае яго ўнуку.

— На, пакаштуй крынічнай вадзіцы.

Кастусь бярэ кубак у рукі, дакранаецца да вады вуснамі і імгненна адрывае вусны ад кубка. А дзед толькі ўсміхаецца ў вус.

— Ой, якая яна сцюдзёная!

— Пі пакрысе, бо можна захварэць.

З вялікай асалодай п’е Кастусь пакрыху крынічную вадзіцу і дзякуе дзядулю за тое, што ён такі добры.

## ТРАГІЧНАЕ КАХАННЕ

Ганна — красачка-дзяўчынка,
Рост у меру, тонкі стан, —
Пазайздросціць ёй былінка,
Што аздобіла курган.
Вочы Ганніны — дзве зоркі,
Броўкі — выгібы крыла,
Грудкі — дзве блізніцы-горкі,
Як сад, Ганна расцвіла, —

так пісаў Якуб Колас пра прыгажуню Ганну ў сваёй паэме «Сымон-музыка».

Я ж вам хачу расказаць пра другую прыгажуню Беларусі, толькі яе звалі Аліна. Усё, аб чым я буду расказваць, гэта шчырая праўда. Мне гэту гісторыю расказала мая жонка Даната, якая была сведкай тых сумных падзей, а старэйшыя сёстры Данаты былі сяброўкамі Аліны.

Дзея адбывалася ў Заходняй Беларусі пры Польшчы. У тыя часы дзяўчыне, якая выходзіла замуж, трэба было мець пасаг: падушкі, пярыну, шафу з адзеннем ды яшчэ зямлі гектары са тры, што было самым дарагім для селяніна. У большасці выпадкаў лёс маладых вырашалі бацькі, не звяртаючы асаблівай ўвагі на каханне. Жанілі і выдавалі замуж па разліку: маладую прыгожую дзяўчыну выдавалі за нялюбага старога, бо ён быў багаты, а малады хлопец браў старую, калі ў яе было многа зямлі.

Добра памятаю адзін выпадак, калі ў 1949–1950 годзе я працаваў настаўнікам у вёсцы Вайшкуны Пастаўскага раёна. Звалі хлопца Андрэй. Служыў ён парабкам у адной багатай сялянкі, якая мела многа зямлі і лесу. Было яму 20 год, а яна была старэйшая за яго на цэлых 30 гадоў, пажаніліся. У 1949 годзе яму было 30, а ёй ужо 60. У гэтыя часы толькі пачалі арганізоўваць калгасы, і некаторыя збывалі коней, бо усё роўна адбяруць. Едучы аднойчы разам з кірмашу на сваёй кабылцы, ён і кажа: «Маю дзвюх кабылак і не ведаю, як збыць». У гэты час я пытаюся: «А дзе ж другая?» — «На печы», — кажа. Што ж, такія часы былі. Але вернемся да нашай гісторыі з Алінай.

Нарадзілася Аліна ў мястэчку Дунілавічы (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці) ў сялянскай сям’і. У бацькоў яна была адна.

Бацькі выхавалі яе добрай, паслухмянай, працавітай, добразычлівай да людзей. Любілі яе ўсе: і старэйшыя, і маладзейшыя, і дзеці. Яна была заўсёды вясёлай, жыццярадаснай, прымала актыўны ўдзел у розных мерапрыемствах Дунілавіцкага касцёла, кіравала падрослымі дзяўчынкамі ў час працэсій, вучыла іх, як весці сябе ў час малення, як прыслугоўваць ксяндзу. Была яна вельмі прыгожай і падабалася вельмі многім хлопцам. А ёй падабаўся толькі адзін — Мар'ян Сівіцкі.

Бацькі Мар'яна жылі на хутары, недалёка ад Дунілавіч, на беразе маляўнічага возера Свідна. Жылі яны заможна, мелі зямлю, прыгожы дом, вялікі сад. Бацька быў доктарам, а пры Польшчы дактары добра зараблялі. Маці была дамашняй гаспадыняй, але мелі яшчэ і прыслугу. Як выхоўваўся хлопчык Мар'ян, цяжка сказаць. Канечне ж, бацькі берaглі сваю рэпутацыю. У іх ён быў таксама адзін. Усе бацькі сваіх дзяцей любяць, але калі ў сям'і толькі адно дзіця, то яшчэ больш. Нельга сказаць, што ён быў эгаістам, але каханне парой робіць чалавека непрытомным, калі яму перашкаджаюць кахаць. Вырас Мар'ян і закахаўся ў Аліну.

Ітак, пакахалі адно аднаго Аліна і Мар'ян. Ён вучыўся ў Вільні таксама на доктара. Улетку і ўзімку ён прыязджаў на канікулы. І гэта былі для іх шчаслівыя імгненні. Яны вырашылі пажаніцца. Мар'ян пачаў размову з бацькамі. Бацька яго быў прагрэсіўных поглядаў, і ён не вельмі пярэчыў выбару сына. А з маці былі справы горшыя. «Толькі праз мой труп», — заявіла яна. Як жа яна магла ажаніць свайго сына з вядомым прозвішчам доктара з беднай сялянкай — мужычкай, як яна лічыла. І ніякія перамовы і просьбы на каленях яе не пераканалі. Мар'ян вельмі кахаў Аліну. Ён не мог уявіць жыцця без яе. І вось у час апошняй гутаркі з маці, якая ўсё стаяла на сваім, Мар'ян у стане ўзрушанасці выстраліў у родную маці і пабег да Аліны. Каб нікому яна не дасталася, ён застрэліў і яе. Маці Аліны, падаіўшы карову, вярталася ў хату. Яна пачула стрэл і адчула нядобрае. Размінуўшыся з Мар'янам на парозе, яна глянула ў спальню. На ложку ляжала Аліна, сцякаючы крывёй.

Страшная вестка аб смерці Аліны разнеслася з хуткасцю маланкі па мястэчку і навакольных вёсках. Плакалі ўсе. Прыехала паліцыя, шукалі Мар'яна, ды нідзе не знайшлі. Ён хаваўся на дрэве на яўрэйскіх могілках, якія былі размешчаны праз дарогу ад каталіцкіх. Мар'ян чакаў пахавання маці і Аліны. Выявілася потым, што ягоная маці засталася жывой, хаця і цяжка параненай.

Хавалі Аліну ў цудоўны чэрвеньскі дзень у моры кветак і слёз. Сабраліся людзі з мястэчка і з усёй ваколіцы. Мар'ян сядзеў на дрэве і назіраў за ўсім, таксама абліваючыся слязамі. Калі пачало змяркацца, Мар'ян злез з дрэва і прыйшоў на магілу Аліны. На бліжэйшым ад магілы дрэве ён выразаў нажом надпіс на польскай мове:

«Аліна прагне белых ружаў». Потым ён абняў магілу і застрэліўся на магіле. Пахавалі яго каля могілак, бо па хрысціянскіх законах самазабойцам не было месца на могілках.

Вось чым скончылася нязгода маці. Яна доўга лячылася, нікуды не выходзіла з дому, саромелася людзей, шкадавала, што так здарылася, але было ўжо позна. Узненавідзелі яе і людзі.

Зараз мы жывём у зусім другім веку. Хоць слова «пасаг» адышло ў небыццё, але часамі і зараз некаторыя бацькі хочуць умяшацца ў жыццё маладых. Не рабіце гэтага, бо гэта можа не скончыцца дабром.

А пра Аліну народ склаў песню:

У аўторачак раненька,
Чуць сонейка ўзышло,
Прыйшоў Мар’ян да Алі
Сказаць ёй пра ўсё.
Аліна дарагая,
Што я табе скажу:
Забіў я маму родну
І сам сябе заб’ю.
Навошта нам страляцца?
Навошта так рабіць?
Калі мы можам весела
З табою век пражыць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спявалі яе на беларускай і рускай мове не толькі ў Пастаўскім раёне, а па ўсёй Беларусі. Калі нам давялося пабыць на беларускім Палессі, мы яе пачулі і там. Людзі былі ў захапленні, калі Даната расказала ім гісторыю песні.

## ЗЛАМАНЫЯ ЛЁСЫ

Чым больш мы сталеем, тым больш хочацца вярнуцца ў нашу маладосць — вясну нашага жыцця. Прыемна ўспомніць першыя нясмелыя крокі падыходу да дзяўчыны, першы танец, першыя спатканні. Маладосць наша прыпала на галодныя і халодныя пасляваенныя гады. Хадзілі ў саматканым адзенні і ў ботах на драўляным хаду, але нам было добра, бо мы былі маладыя.

У 1946 годзе я паступіў у Пастаўскае педагагічнае вучылішча. Там давалі нам невялікую стыпендыю і кармілі на яе два разы ў дзень: раніцай і ў абед. Жылі мы ў інтэрнаце. Пакоі былі разлічаны на 11 студэнтаў. Там стаяў адзін стол і адна печка-шчыток. Дамашнія заданні студэнты выконвалі па чарзе, бульбу варылі на вячэру такса-

ма па чарзе. Ложкаў не было. Дырэктар педвучылішча А. С. Паныш прывёз нам гарбылёў і аполкаў, цвікоў і сталярныя інструменты і сказаў: «Зрабіце сабе ложкі». Ну і рабілі. Вядома ж, якія былі з нас майстры. Памятаю ложак Віктара Б. У яго ён атрымаўся чамусьці высокі. Калі ён засынаў, то часта некаму хацелася пажартаваць. Трэба было толькі крыху папіхнуць, і ложачак складваўся разам з Віктарам на падлогу. Гэта былі і смех і слёзы. Цяжка было, але ж жылі і вучыліся.

Добрых успамінаў заслугоўвае дырэктар педвучылішча Паныш Антон Станіслававіч, былы франтавік, які многа пабачыў у сваім жыцці. Ён быў для нас як родны бацька, клапаціўся аб нашым быце, але што ён мог зрабіць большае ў тыя бедныя гады. Ніколі не забудзем нашых цудоўных выкладчыкаў: Марыю Вікенцьеўну Ясюнас, загадчыцу вучэбнай часткі, якую мы называлі мамай, Селіванчыка Аляксандра Міхайлавіча — выкладчыка рускай літаратуры, Рыко Алену Афанасеўну — выкладчыцу матэматыкі, Сасноўскага Барыса Афанасевіча — выкладчыка фізікі, Кулікоўскую Валянціну Іванаўну — мовaведа, Лідзію Цімафееўну — выкладчыцу гісторыі, Лідзію Якаўлеўну — выкладчыцу біялогіі, Надзею Аляксандраўну — выкладчыцу беларускай мовы і літаратуры, Надзею Осіпаўну — выкладчыцу педагогікі і псіхалогіі, Хмырова Мікалая Іванавіча — класнага кіраўніка і выкладчыка ваеннай справы і фізкультуры.

У суботу вечарам у педвучылішчы праводзіліся розныя мерапрыемствы, прысвечаныя палітычным святам, чыталіся лекцыі, арганізоўваліся сустрэчы з вайскоўцамі і г. д. Студэнты ставілі п’есы па праграме. Пасля кожнага мерапрыемства былі танцы пад наглядам дзяжурнага настаўніка. Музыкантамі былі студэнты Мышко Міша і Міхасёнак Лёнька.

На першым курсе знаёміліся між сабой, прыглядаліся адно да аднаго. Пасябраваў я з добрымі хлопцамі: Генадзем Кіёнкам, Пятром Бараноўскім, Чаславам Сіповічам, Міхаілам Дзеравянкам і іншымі. З Яўгенам мы сядзелі за адным сталом роўна тры гады. У двух паралельных класах першага курса было многа дзяўчат, нашых равесніц. І якой дарагой была ўсмешка дзяўчыны, якая табе падабалася. З усмешкі і жартаў пачыналася сяброўства, а потым — каханне. Да канца другога курса можна было вызначыць і пары закаханых: Аркадзь К. і Галіна Г., Валодзя С. і Аня С., якія потым і пажаніліся. Мне спадабалася дзяўчынка Даната Мажэйка, асабліва пасля яе выступленняў у розных ролях на сцэне вучылішча. Вельмі добра ўсё ў яе атрымлівалася, як у прафесійнай артысткі. Я ж марыў мець жонку не менш, як артыстку. 30 красавіка 1948 года пасля танцаў я прапанаваў правесці яе да інтэрната, дзе яна

жыла. Яна пагадзілася, а я быў ад гэтага на сёмым небе. Гэта дата стала для нас гістарычнай.

Зараз я хачу прапанаваць вам гісторыю Валі, якая была сяброўкай Данаты. Мой сябра Яўген пакахаў Валю. І ўсё ў нас атрымоўвалася так, што наша чацвёрка стала неразлучнай. Пасля танцаў у суботу мы любілі прайсціся па нашым прыгожым горадзе Паставы. Хадзілі па цэнтральнай плошчы горада і па яго вуліцах аж да маскоўскіх курантаў, якія гучалі ў 12 гадзін ночы з гарадскога радыёвузла. У нядзелю ішлі ў гарадскі сасновы парк Гарбарка, размешчаны на беразе става на рацэ Мядзелка. Тут была лодачная станцыя, дзе можна было ўзяць лодку і паплаваць на ёй 1–2 гадзіны, нарваць лілій, якія Даната з Валяй вельмі любілі. Мы з Яўгенам звычайна веславалі. Вечарамі хадзілі ў гарадскі кінатэатр, дзе дэманстраваліся прыгожыя мастацкія фільмы. Тры гады вучобы праляцелі імгненна. Далей нас чакала праца. Я з Данатай і Яўген засталіся ў Пастаўскім раёне, а Валя паехала на радзіму — у Свірскі раён.

Валя была цудоўная дзяўчына, душэўная сяброўка, вельмі ўспрымальная да чужых лёсаў. Яна спачувала гераіням мастацкіх твораў і мастацкіх фільмаў. Валя добра вучылася і была добрай швачкай-самавучкай, яна дапамагала з уборамі сваім сяброўкам, якія яе моцна любілі. Валя вельмі кахала Яўгена і моцна перажывала разлуку. А жыццё не стаяла на месцы, добрую дзяўчыну і там заўважылі. Да яе стаў заляцацца месцачковы хлопец з Вішнева — Юзік. Гэта быў прыгожы малады хлопец, варты кахання Валі. Ён прапанаваў Валі руку і сэрца, каб яна выйшла за яго замуж. Бацькі з абодвух бакоў таксама былі згодныя, але Валя не згаджалася, бо яна па-ранейшаму кахала Яўгена.

Паўгода Валя чакала ліста ад Яўгена, але ён не пісаў ёй. Ён працаваў у адной сямігодцы Пастаўскага раёна. Неяк Валя даведалася яго адрас і напісала яму ліст, апісаўшы сітуацыю і прасячы яго прыехаць. І ён прыехаў. Яўген паабяцаў, што ён жэніцца з ёй, але трэба пачакаць трохі. Якая была прычына, я не ведаю. Але гэтае «пачакаць» зацягнулася надоўга. І калі Валя адмовіла Юзіку, чакаючы Яўгена, ён проста знік з мястэчка. Нават бацькі не ведалі, куды ён дзеўся. А Яўген да Валі так і не прыехаў, зрабіў ён вельмі непрыгожа, зламаў лёс дзяўчыны, якая яго вельмі кахала. А ці кахаў ён яе? Гэта аднаму Богу вядома.

Пасля ўсяго, што адбылося, Валя пераехала працаваць у другую школу. Ні з кім не хацела сустракацца і знаёміцца, жыла ў адзіноце. Яе прызначылі дырэктарам школы. Толькі праз восем гадоў яна выйшла замуж за вясковага хлопца, нарадзіла і выхавала двое дзетак, дала ім вышэйшую адукацыю. Сын стаў юрыстам, дачка — лінгвістам. З мужам яна пажыла нядоўга і развялася, бо ён любіў

выпіць. Так яна і засталася адзінокай да старасці. Радасць у яе была адна — яе добрыя дзеці.

Калі дзеці былі яшчэ невялікімі, то яна прыязджала да нас у госці. З Яўгенам мы жылі ў адной вёсцы, і ён у той час быў старшынёй сельсавета. Была субота, у сельсавет прыехала адна маладая пара зарэгістраваць свой грамадзянскі шлюб. Валі захацелася паглядзець на Яўгена. Сядзелі мы ў залі і ўся ўвага Валі ў час цырымоніі была звернута толькі на яго. Здавалася, яна больш нікога не чула і не бачыла, а толькі яго. У канцы сказала: «А ўсё ж я яго дагэтуль кахаю».

Яўген таксама жаніўся і выхаваў двух сыноў. Адзін стаў інжынерам, другі — афіцэрам арміі. З 1989 года Яўген на пенсіі.

А што ж здарылася з Юзікам? Каб не адна цікавая акалічнасць, яго, напэўна, і не знайшлі б. З Вішнева людзі ехалі на машыне на кірмаш у Смаргонь. Машына сапсавалася ў глухім месцы: ніякай вёскі, ні людзей. Прайшоўшы туды-сюды, яны заўважылі воддаль ад дарогі хутар, куды і пайшлі за дапамогай. Вось тут яны і пазналі Юзіка. Аказалася, што ён, будучы ў вялікай роспачы пасля адмовы Валі, пайшоў, куды вочы глядзяць. Ён трапіў да адзінокай жанчыны, якая і прытуліла яго.

Вось так былі зламаны лёсы двух цудоўных людзей. А колькі гэта каштавала нерваў, перажыванняў бацькам і ўсім родным!

## ВЯЧЭРНЯ, АБО УСЯНОЧНАЯ

Гісторыя гэта адбылася з нашымі добрымі сябрамі, якія прасілі не называць іх імён. Будзем проста называць іх мужык і жонка.

Каму ж з набожных людзей не хочацца наведаць касцёл ці царкву ў ноч перад Вялікаднем, памаліцца, пачуць запаветнае «Хрыстос Уваскрос» ды пасвенціць «пасху». У Беларусі ўсё гэта рабілася проста. Ксяндзы і святары выязджалі нават у вёскі перад Вялікаднем для гэтага, але ж гэта ў Беларусі.

Пасяліліся нашы сябры ў мінулым (2006) годзе ў вялікім і незнаёмым горадзе Канады толькі за тыдзень да Вялікадня. І вось жонка майго сябра ў Вялікую суботу падрыхтавала кошычак з «пасхай» і пайшла ў касцёл. А касцёл з іхняга вакна — як рукой падаць, хаця да яго, як потым выявілася, кіламетры са два з паловай. Мужык не пайшоў, бо ён быў толькі што пасля зробленай яму аперацыі. Тую хваробу ў нас называлі «панскай». Не ведаю, чаму яе так назвалі, бо была яна і ў працавітых мужыкоў ад цяжкай працы, звычайна ў сталым узросце. Адным словам, застаўся дома.

Жонцы хтосьці сказаў, што вячэрня пачынаецца ў 7 гадзін вечара. Каб не спазніцца, яна выйшла ў 6 гадзін. У касцёле выявілася, што вячэрня пачнецца толькі ў 8 гадзін, так што прыйшлося пачакаць.

Маліліся да паловы дзясятага, але «свянцонкі» яна так і не атрымала. Як кажуць, «што край — то звычай». У касцёлах тут чамусьці не свенцяць, а царква ад іх была далёка.

Калі выйшлі з касцёла, адна добразычлівая канадыйка прапанавала жонцы падвезці яе дамоў, і тая з задавальненнем пагадзілася. Калі ўжо паехалі, кіроўца машыны спытала яе, куды везьці. А жонка назву вуліцы і забыла. Нумар дома ведае, а вуліцу — толькі па прыкметах. Растлумачыць таксама не магла, бо добра не ведала ангельскай мовы, а кіроўца беларускай мовы таксама не вучыла. На курсы ангельскай мовы муж з жонкай не пайшлі, хаця і падалі заявы. Яны спалохаліся, што не змогуць выседзець на тых занятках некалькі гадзін, бо ім абаім было ўжо пасля сямідзесяці. Ды і памяць ужо не тая, каб вучыцца ў такім узросце. А яшчэ будуць хвалявацца, калі іх да дошкі выклічуць, ды, не дай божа, яшчэ і «двойку» улепяць. Такім чынам, яны вырашылі займацца самастойна. Дзеці ім купілі падручнік ангельскай мовы ў двух тамах з гукавым прыкладаннем да тэкстаў. Вучыліся самі і нешта ж ведалі, як ім здавалася, але выявілася, што гэта не так усё проста.

Ітак, жонка едзе, а жанчына-кіроўца вядзе машыну. Але ж вядома, як у жанчын: сустрэла адну сяброўку — трэба ж з ёй паразмаўляць, сустрэла другую — таксама. А жонка сядзіць, як на агні, ёй жа хочацца хутчэй дабрацца дамоў да хворага мужыка. А тую сяброўку кіроўцы здалёк не зразумець: ці гэта жанчына, ці то мужчына — у штанах ды з цыгарэтай у зубах. А жонка глядзіць на іх і думае, ці не робяць яны якую замову супраць яе. Але дом ужо недалёка відаць і яна вырашыла ўцячы ад клапатлівай аховы. Яна вылезла з машыны і накіравалася ў напрамку дома, тут жа кінуліся за ёй кіроўца і яе сяброўка. Як жа маглі адпусціць яе клапатлівыя канадыйкі на ноч гледзячы: а калі зноў заблудзіць і не знойдзе дому. На ўсе довады жонкі, што яна ўжо бачыць дом і што яна сама дойдзе, яны не звярталі ўвагі, хутчэй за ўсё яны не разумелі яе тлумачэнняў. Недалёка неслі службу на машыне два паліцыянты, вось жанчыны і аддалі яе не менш клапатлівым паліцыянтам. Вось тут яна і слёзку пусціла.

Ну, а ў паліцыі з чаго пачынаюць: хто ты і адкуль? Адрас? А яна яго не ведае. Тэлефон? Тэлефон яна ведала і сказала, што мужык яе дома. Звоняць да мужыка, а мужыка таго дома і няма. Значыць, паліцыю завяла ў зман. Вось яны цяпер і ейны кошычак праверылі з чырвонымі яйкамі, булкай ды каўбасой. А можа там бомба? А можа ты тэрарыстка? Звоняць у паліцэйскі ўчастак, не ведаюць, што рабіць. А яна тады пачала паказваць дом і, як магла, тлумачыла ім. Напэўна ж, паліцэйскія штосьці зразумелі, нездарма ж муж і жонка вучылі ангельскую мову. Давезлі жанчыну да дому, паднялі там на ногі ўсё домаўпраўленне, каб завесці яе на кватэру, бо ключоў жа ў яе не было, іх мужык забраў. Адчынілі кватэру, а

мужыка няма, і жонка — уголас. Паліцыянты, калі званілі, не сказалі ёй, што мужыка дома няма. Пачалі яго шукаць у кватэры: у шафах, пад ложкамі, нават у халадзільнік заглянулі. Знайшлі фотаальбом, загадалі паказаць мужыка і пайшлі шукаць яго.

А мужык, прачакаўшы жонку да 10 гадзін, пайшоў шукаць яе. Ішоў па той жа вуліцы, па якой жонка пайшла ў касцёл. Касцёл быў відаць і ноччу. Ішоў ён па вуліцы, аглядаўся, каб што-небудзь запомніць і не заблудзіць, бо ішоў ён па гэтай вуліцы і гэтым горадзе ўпершыню. Прайшоўшы ў канец вуліцы, павярнуў улева. Ізноў некалькі разоў аглянуўся. Ён думаў, што сустрэне жонку па дарозе, але не сустрэў. «Ну і доўга ж моляцца», — падумаў ён. Але, падышоўшы да касцёла, ён убачыў, што касцёл ўжо закрыты. Вось тут ён і абамлеў. Дзе ж яна, яго сонейка, што здарылася з ёй? І ён пайшоў назад, але згубіў тую вуліцу, па якой ішоў. У яго зараз была толькі адна думка: дзе жонка? Ён быў у роспачы. Калі днём з вакна ён глядзеў на касцёл, то здавалася, што там і вуліц няма, а як пайшоў, то раздарожжа за раздарожжам. І запытацца няма ў каго, на вуліцах ніводнага чалавека, усе добрыя людзі ўжо спяць. У адным дварышчы заўважыў людзей, якія завіхаліся каля машыны. Запытаўся ў жанчыны, як трапіць на патрэбную вуліцу, і яна паказала. Але яму здалося, што гэта ў процілеглым напрамку, і ён пачаў зноў блудзіць. Мы яму можам толькі паспачуваць. Пастаўце сябе на яго месца: горад зусім незнаёмы, а ўжо позняя ноч на дварэ, ды і ангельскай мовы амаль не ведае. Ідзе насустрач малады чалавек. Запытаўся ў яго, а ён сам не ведае такую вуліцу, відаць, таксама прыезджы. Праз некаторы час яго дагнала машына, і яму нічога не заставалася рабіць, як падняць руку. Машына спынілася, і добры чалавек запрасіў яго сесці ў машыну. Сеўшы, ён адразу прызнаўся кіроўцу, што грошай у яго няма. Той толькі ўсміхнуўся і давёз да патрэбнага дома. Ён выйшаў з машыны і шчыра падзякаваў кіроўцу. Хацеў запытацца яго імя, прозвішча, адрас, каб потым падзякаваць яму праз газету, але ў яго не хапіла слоў.

Але што гэта? Перад домам стаіць паліцэйская машына з двума маладымі паліцыянтамі. Ну ўсё, думае, штосьці з жонкай здарылася нядобрае. Пытаецца, ці жывая жонка. Маўчаць. А можа, ён так пытаўся, што яны і не зразумелі. Ідзе мужык у дом, а паліцыянты — за ім, заходзіць у ліфт, а яны — следам. Адчыняе мужык кватэру, і тут са слязамі выбягае яго сонейка, жывое і не параненае. Кінулася яна дзякаваць паліцэйскім за вяртанне мужыка, а мужык дзякаваў ім, што знайшлі жонку і зноў злучылі іх. Гэта ўжо адбылося пасля дванаццатай гадзіны ночы, у першыя хвіліны Вялікадня, і яны пачалі дзякаваць Богу, што ўсё добра скончылася. Але іх усяночная яшчэ прадаўжалася, бо пасля ўсяго перажытага яны доўга не маглі заснуць.

І ў заключэнне сваёй гісторыі мужык сказаў, што ён і яго жонка задаволены, што яны жывуць у Канадзе сярод добрых, чулых і спагадлівых людзей і паліцыі.

## МІЛЫЯ КРАЯВІДЫ

Мы часта кажам: «Якая прыгажосць вакол!» І калі гэтую прыгажосць чалавек часам не заўважае з-за бурлівага жыцця, з-за працы дома і на службе, то гэта недаравальна. Спыніцеся на хвілінку! Паглядзіце наўкола! Ідучы на працу, гляньце на сонейка, на неба, паглядзіце на дрэвы, якія проста ўсміхаюцца вам, падымаючы ваш настрой. Прыгажосць можна знайсці ва ўсім, нават у асеннім панурым і дажджлівым дні, не кажучы ўжо пра майскую першую навальніцу з вясёлкай на небе. А прыгажосць ночы з сярпочкам-месячыкам ды зоркамі! Прыгледзьцеся да разнастайнасці раслін, да рознакаляровых кветак. Пасеялі насенне кветак у зямельку, у якой толькі свой, асабісты колер. А выраслі кветкі і зацвілі рознымі колерамі. Адкуль жа ўзяліся тыя колеры? Ці ж гэта не Божы цуд! Толькі трэба глянуць вакол і ўбачыць гэту прыгажосць. А зіма, з яе сняжынкамі-зорачкамі, а мароз, які рысуе на вокнах розныя ўзоры, дастойныя любой мастацкай галерэі. Усё прыгожа!

Чалавек сам з'яўляецца часткай прыроды, непарыўна звязаны з ёй. Ён будуе прыгожыя вёскі, гарады з дамамі разнастайнай архітэктуры, будуе прыгожыя дарогі, каналы. Жывучы ад маленства на сваёй радзіме, чалавек прывыкае да ўсяго прыгожага і проста перастае заўважаць гэту прыгажосць: пяе салавей, ну і хай сабе пяе на здароўе; клякоча бусел, ну і няхай клякоча. Але калі чалавек трапляе ў другую краіну, зусім незнаёмую для яго, ён як бы абуджаецца, яму хочацца ўбачыць штосьці новае, цікавае, чаго не было на яго радзіме. Ён успомніць і бусла, і салаўя, якіх, магчыма, недастаткова слухаў і любаваўся імі, аб чым вельмі пашкадуе. Вось і я хачу расказаць аб сваіх уражаннях, прыехаўшы ў Канаду да сваіх дзяцей і унукаў. Навучаючыся ў школе і паказваючы на карце Канаду, мне і ў галаву не прыходзіла думка, што я калі-небудзь пабываю там. Але ж вось і прыехаў. Тады мне гэта краіна здалася загадкавай, далёкай і незнаёмай. Ну што ж, будзем разгадваць.

У час нашых першых прагулак па горадзе Атава з намі віталіся зусім незнаёмыя людзі і заўсёды ўсміхаліся. І гэта адразу прыдало нам сілаў жыць тут, падняло наш настрой пасля сумных дзён расстання з радзімай. Мы знаёміліся з горадам, яго прыгожымі вуліцамі, дамамі і катэджамі розных канструкцый, з кветкамі і дрэвамі розных парод. Асабліва мы захапляліся разнастайнасцю клёнаў, — дрэў, якія лічацца сімвалам Канады.

Неўзабаве пасля нашага прыезду сын Пётр прапанаваў нам падарожжа на Ніягарскі вадаспад. Незабыўнае відовішча, як кажуць, «ні пяром апісаць, ні ў казцы сказаць». Уражанне незвычайнае. На катары мы падплылі да самага яго падножжа з аглушальным громам-шумам. Мы не толькі ўбачылі вадаспад. Па дарозе туды і назад мы ўбачылі прыгожыя асфальтавыя дарогі, у многіх месцах прабітыя ў скалах. Склалася такое ўражанне, што ўся Канада стаіць на скалах. Прыгожыя горы, пакрытыя хваёвымі і лісцевымі дрэвамі, паміж імі даліны з прыгожымі гарадамі, вёскамі і хутарамі-фермамі са статкамі кароў і коней. Многа маляўнічых азёр і рэчак. Возера Антарыа — гэта ж мора ўнутры краіны. Праездам заглянулі ў вялікі і прыгожы горад Таронта. Па дарозе назад наведалі касцёл у горадзе Мідлянд, вакол якога размешчаны помнікі пакутнікам з розных краін. Сярод іх ёсць два беларускія: Памятны Крыж і помнік ахвярам сталінізму. Праехалі па запаведніку — нацыянальнаму парку, дзе сустракалі ласёў і малых ласёначкаў, аленяў, якія спакойна стаялі перад аб’ектывамі фотааматараў. І заўсёды гэта нас здзіўляла — дзікія жывёлы не баяцца людзей. Мы засталіся вельмі задаволеныя падарожжам. Але вернемся зноў у горад.

У лесе дзікія жывёлы людзей не баяцца, а ў горадзе — тым больш. Тут многа вавёрак чорных і шэрых. На шумных вуліцах даводзілася назіраць аленя і лася, спакойна перасякаючых дарогу, спыняючы аўтамабільны рух. Аднойчы назіралі качку з качанятамі, якія таксама пераходзілі шумную вуліцу. А ўвосень у сад да нашай знаёмай завітаў касалапы мішка, якому захацелася паласавацца яблыкамі. У людных месцах горада сустракалі і шэранькага, і беленькага зайчыка.

Праз горад працякае прыгожая і шырокая рака Атава, месцамі з парогамі. У выхадныя дні тут многа адпачываючых. На сваіх машынах прывозяць маторныя лодкі, каб паплаваць на іх. Многа плавае ветразяў. Сын Генадзь завёз нас на востраў на рацэ, дзе таксама многа адпачываючых. А побач спакойна шчыплюць траўку дзікія гусі, на фоне якіх мы сфатаграфаваліся. Для нас гэта таксама дзіва.

Даводзілася палавіць вудачкай рыбкі на рацэ Атава і Рыдо, пападалася нешта падобнае да беларускага акуня. На бераг выпаўзаюць малыя чарапашкі, а на мелкаводдзі можна сустрэць чаплю. Метраў за 5 ад мяне праплыла выдра, вельмі асцярожная жывёліна, але і яна нікога не баіцца. Калі з прыстані я лавіў рыбу на рацэ Рыдо, да мяне падплылі дзікія маладыя качаняты. Глядзяць на мяне ўверх, як бы чаго просяць. Ну, я і кінуў аднаго чарвячка. Гляджу — ім спадабалася, і мне таксама. На гэтым мая рыбалка і скончылася.

Яшчэ некалькі слоў пра птушак. Кардынал — вельмі прыгожая птушка з чырвоным апярэннем ды з чубком, якога мы празвалі канадыйскім салаўём. Добра свішча, прыгожа, але яму не пашкодзіла б

злётаць на курсы да свайго сябра — беларускага салаўя. Прыгожая птушка робін, але ў яе запас нотаў вельмі бедны. Канадыйскія ластавачкі падобныя да беларускіх, адрозніваюцца поўнасцю чырвоным брушкам. Верабей чырыкае па-беларуску, шпак таксама. Многа шпакоў тут зімуе, што нас таксама здзіўляе. Зімы ж тут бываюць і суровыя. Што ж яны ядуць?

Лясы тут непраходныя, не ўсунеш і носа. Грыбы знайшлі на палянах і на лясных сцежках. Грыбы тыя ж, што і ў Беларусі: падасінавікі, падбярозавікі і сыраежкі.

І яшчэ мне спадабалася, як выводзяць на гулянне сабак, асабліва зімой. Сабакі былі ў «кажушках», чаму ў «кажушках» — раскажу. Аднойчы ўвосень, а было гэта яшчэ ў Беларусі, прыйшла да нас адна бабулька дапамагчы капаць бульбу. У час адпачынку яна распавяла нам цікавую гісторыю. Жыў у іхняй вёсцы дзядок, якога чамусьці празвалі Сёха. Магчыма, ён быў вельмі клапатлівы гаспадар, або хлеў быў халодны, толькі ён шыў кароўкам і коніку такія-сякія адзенні ўзімку. А сабачку пашыў ён кажушок. І трэба ж такому здарыцца, што ноччу прыйшоў воўк і панёс і сабачку, і кажушок. І вось, калі я зараз бачу адзетага сабачку, то я і ўспомню дзядульку Сёху. Тут адна бабулька водзіць свайго чатырохлапага выхаванца не толькі ў «кажушку», але і ў тапачках на кожнай лапцы. У дажджлівае надвор’е яна выводзіць сабачку ў дажджавічку.

І пра featureзнакаляровую восень Канады. Калі ў Беларусі мы восень называем «залатой», то тут яна featureзнакаляровая, і ўсё з-за тых жа клёнаў, іх разнастайнасці: адныя — яшчэ зусім зялёныя, другія — ўжо бурыя, трэція — зусім чырвоныя, ну а чацвёртыя такія, як і ў Беларусі, — жоўтыя.

Вось колькі новых і добрых уражанняў у мяне аб новай для мяне краіне — Канадзе.

Я хацеў бы таксама расказаць і аб прыродзе роднай Беларусі, якую ніяк нельга выкінуць з памяці. Паўночная частка Пастаўскага раёна размешчана ў межах Дзісенскай нізіны, а паўднёвая — Свянцянскіх град. У паўночнай частцы цяжка было для будоўлі знайсці камень, каб падлажыць яго пад вугал. У такіх выпадках дапамагала рака Дзісенка, у якой іх і знаходзілі. Затое ў паўднёвай частцы раёна межы сялянскіх палосак былі выкладзены каменнямі, пакуль жылі аднаасобна. Паўночная частка — раўніна, паўднёвая — узгоркавая. Найвышэйшы пункт 240,4 м — гара Маяк (пад Лынтупамі). З поўначы Пастаўскі раён граніччыць з Браслаўскім і Шаркоўшчынскім раёнамі.

Граніца праходзіць па рацэ Дзісна (Дзісенка, як мы яе з любоўю называлі). Гэта мая родная рэчка, на якой я вырас, навучыўся плаваць, лавіць вудачкай рыбку. А рыбы было многа і розных відаў (плотка, язь, акунь, ёрш, лешч, лінь, пячкур, уклейка і іншыя).

Вадзіўся і сом. Перапраўляліся людзі на другі бераг пры дапамозе парома, які мог змясціць дзве фурманкі. Аднойчы пад порам падышоў вялізны сом і плаваў пад ім, а хвост відаць. Звычайна самы любяць цёмныя, глыбокія мясціны ў рацэ, але гэты сом чамусьці аблюбаваў цень пад паромам. Прыйшлі два мужыкі лавіць яго: адзін — з касой, будзе адразаць хвост, а другі — з восцямі (вілы з насечкамі), будзе калоць. Але сом так лупануў хвастом, што не засталося ні касы, ні восцяў.

Хочацца расказаць пра самае цікавае відовішча на рацэ — крыгаход. У час паводкі вясной рака выходзіла з берагоў, затапляла агароды, а ў самыя снежныя гады вада заходзіла і ў хлявы, хаця наша вёска Чарэмушнікі Падзісенныя (былі яшчэ і Чарэмушнікі Пагарныя) і стаяла на высокім беразе. Там часам лазні, размешчаныя на беразе, проста плавалі. Іх прыходзілася прывязваць дротам, але бывала, што і яны плылі разам з лёдам. Калі рэчка дастаткова напаўнялася вадой, лёд ламаўся і пачынаў рухацца. Усім хацелася, каб гэта адбывалася днём, бо ноччу не ўбачыш такой прыгажосці. У час ледаходу і старыя, і малыя выходзілі да рэчкі. Гэта быў шум, трэск, крыгі падымаліся ўгору, падалі, ламаліся. А дзеці яшчэ хацелі і пакатацца на іх, але побач стаялі бацькі. Былі і лёдавыя запоры, калі лёд спыняўся, нагрувашчваўся адзін на другі, утвараючы мост, па якім можна было перайсці раку, але гэта было вельмі небяспечна. У гэты час у школах заўсёды былі канікулы. Памятаю адзін выпадак. Мая сястрычка Надзея і яе сяброўкі вучыліся ў Казянах у пятым класе. Заўтра пачыналіся заняткі, а тут спыніўся лёд. Бацькі ўзялі калы ў рукі і павялі дзяўчат праз ледавы затор. Усё абышлося добра.

Па рацэ сплаўлялі ганкі (плыты) ў Рыгу. Польскія ўлады хацелі зрабіць Дзісенку суднаходнай ракой. Па рацэ супраць цячэння пры дапамозе коней цягалі вялізныя лодкі — «лайбы». На лодках былі прыстасаванні, пры дапамозе якіх з дна ракі даставалі вялізныя каменні і такім чынам паглыблялі фарватар.

У раёне, як і ва ўсёй Беларусі, было многа азёр. Нездарма Беларусь называюць «сінявокай». І ўсе яны прыгожыя, маляўнічыя. Самым прыгожым і вялікім з'яўляецца возера Нарач — беларускае мора, як мы яго называлі. Мы кожны год ездзілі туды са школьнікамі, купаліся ў яго чыстых водах, плавалі на лодках і на вялікім катары. Берагі возера ўяўляюць сабой цудоўныя пясчаныя пляжы з тысячамі адпачываючых у санаторыі «Нарач» і ў доме адпачынку з той жа назвай, пабудаваных у сасновым бары. Водмель на Нарачы цягнецца не менш як 150 метраў. Возера ўпрыгожвае востраў, паросшы кустамі. Кажуць, аднойчы адзін мужык прыладзіўся там гнаць самагонку, а міліцыянт вырашыў яго злавіць. Але ў мужыка хапіла пільнасці, каб абвесці міліцыянта вакол пальца. Пакуль мі-

ліцыянт шукаў самагоншчыка, апошні забраў гарэлку, сеў у сваю лодку і, прыхапіўшы на буксір лодку міліцыянта, вярнуўся дамоў. Міліцыянт «загараў» там некалькі сутак.

На беразе возера Нарач быў пабудаваны Помнік партызанам, куды 3 ліпеня у дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з'язджаліся людзі з усёй Беларусі. Выступалі знакамітыя хоры, аркестры і артысты. Тут можна было сустрэць сваіх сяброў па педвучылішчы, армейскіх сяброў, пасядзець з імі за гасцінным столікам і ўспомніць маладосць.

Не менш задавальненняў атрымоўвалі мы, калі наведвалі бліжэйшыя ад нас азёры Споры, Споркі і Загач. Вельмі прыгожае возера Споры з востравам пасярэдзіне, з крутымі, высокімі берагамі і нямецкімі ўмацаваннямі, якія засталіся тут з Першай сусветнай вайны. У гэтых мясцінах фронт прастаяў цэлых 3 гады. На супрацьлеглым беразе размешчана прыгожая вёска Ширкі, якая адлюстроўвалася ў возеры. Тут заўсёды можна было бачыць качак, ныркоў і белых лебедзяў. Мне тут пашанцавала злавіць самую вялікую рыбіну ў маім жыцці — ліня. А было гэта ў другую нядзелю ліпеня — у Дзень рыбака. Можаце сабе ўявіць, як я ганарыўся сваёй здабычай, калі вяртаўся вёскаю дамоў.

І яшчэ пра адно здарэнне, звязанае з рыбнай лоўляй, якое я не магу забыць. Ішоў я на невялічкае азярко Споркі. Выходзіў ў 4 гадзіны раніцы, калі толькі-толькі пачынала світаць. Салаўі прадаўжалі спяваць, да іх далучаліся жаваранкі, сустракаючы новы дзень. А зязюлі як бы пераклікаліся між сабой. І каго толькі не сустрэнеш на мяжы дня і ночы: і зайку, і вожыка, і курапатку. Здаецца, што ты ў нейкім чароўным царстве, і гэта можа быць толькі перад узыходам сонца, і ні ў які другі час. На возеры, якое яшчэ пакрыта туманам, убачыш пералётную зязюлю і пачуеш яе адвечнае «ку-ку!» І гэта так усё дорага і міла, і западае ў душу навек.

А якія прыгожыя лясы ў нас, бярозавыя гаі і дубравы. Лясы чыстыя, незасмечаныя, грыбок здалёку можна ўбачыць. Многа кошыкаў давялося перанасіць: і баравікоў, і падбярозавікаў, і падасінавікаў, а восенню — апенек. Аднойчы прайшоўшы па Рубяжанскім лесе ад хутара Клямяты да хутара Храпуна, гэта каля кіламетра, я набраў поўны кошык адных баравікоў. Больш не было куды класці, і я папрасіў у Храпуноў кошык. На зваротным шляху я напоўніў і яго. У далейшым я заўсёды браў посуд у запас, а аднойчы і гэта не дапамагло. Я збіраў апенькі ў Барадзінскім лесе. І чым далей забіраўся ў лес, тым іх станавілася больш і больш. Набраў два кошыкі і больш няма куды класці. Прыйшлося зняць кашулю і зрабіць з яе посуд, які я напоўніў. Лясы багаты не толькі грыбамі, але і арэхамі, малінамі, чарніцамі, журавінамі, брусніцамі.

Давялося наведаць і Белавежскую пушчу з яе векавымі дрэвамі і яе гаспадаром — волатам-зубрам. Пабыўшы там, можна ўявіць, як выглядала Беларусь у далёкім мінулым.

Люблю я сваю прыроду, люблю назіраць за птушкамі, слухаць іх спевы. Люблю назіраць. Давялося бачыць нават нараджэнне стрэлкі (страказы). Але два пытанні і дагэтуль застаюцца для мяне невядомымі: як буслы ляцяць у вырай і як павучок робіць мост паміж дрэвамі, каб потым зрабіць сетку. Жураўлі, гусі і качкі ляцяць клінам, шпакі і гракі — стаяй. Бачыў, як буслы збіраюцца восенню ў стаі, а як адлятаюць — не бачыў. Адкажыце, калі ласка, хто ведае, і не забудзьце пра павучка.

## ПЕРШАЕ ВЕРАСНЯ

У гэты дзень дзеці ідуць у школу. Пачатак новага навучальнага года. Гэты дзень асаблівы для тых, хто прысвяціў школе ўсё сваё жыццё, — для настаўнікаў. Вось і сёння дзеці ідуць у школу, а нас там не будзе. Шчыміць сэрца, баліць душа, чуючы іх радасныя галасы, вясёлы смех, які вяртае нас у школу, у тыя шчаслівыя часы нашага дзяцінства, маладосці і працы ў школе. Праляцелі гады, зараз мы ўжо на пенсіі, але гэты дзень нас і цяпер вельмі хвалюе.

Колькі ж першых вераснеяў праляцела ў нашым жыцці, цяжка і злічыць. Свой першы верасень у 1936 годзе мне ніколі не забыць. Бацькамі былі куплены буквар (абэцадло), арыфметыка (арытмэтыка), сшыткі (зэшыты), драўляная ручка з металічным наканечнікам для пяра (абсадка), аловак і сцёрка. Усё гэта было складзена ў сумку-торбачку, якую мама пашыла са зрэбнага палатна, вытканага на кроснах. Да сумкі быў прышыты пояс з таго ж палатна, які перакідваўся праз плячо. З адзення была белая кашулька, кароткія сінія штонікі, жоўтыя сандалікі — усё было крамнае і новае. Вяла мяне ў школу мая сястрычка Надзея, якая была старэйшая за мяне на тры гады, а мне было шэсць з паловай гадоў. Звычайна у школу ішлі з сямі гадоў, але ж я не хацеў адставаць ад сваіх сяброў — Жэніка, Ванюшы і Росці — якім ужо было па сем гадоў. Школа была за адзін кіламетр ад вёскі на Антаноўскіх хутарах, дзе жылі польскія асаднікі. Школа была польская, але мы тады і не думалі іншага — польская ўлада, польская і школа. Лічылі, што так і трэба, што так Бог даў. Беларускую мову лічылі «мужыцкай», непрыстойнай для польскага грамадства. Настаўніца Дрозд Ядвіга была беларуска, яе бацькі жылі на хутарах Бірвіта за 7 кіламетраў ад нашай вёскі. Бацькі былі заможныя сяляне і змаглі даць сваім дочкам адукацыю (у Ядвігі была яшчэ сястра). Памятаю гэты цудоўны сонечны дзень, калі пасля ўрокаў настаўніца вывела нас на спартыўную пляцоўку

(бойско), дзе мы гулялі з мячом (пілкай). І ў далейшым, як мне запомнілася, першае верасня быў заўсёды сонечны дзень. К гэтаму часу з палёў звычайна было ўсё звезена, за выключэннем бульбы. А на іржышчы, калі глянеш пад сонца, ляжала сетка з павуціння. У паветры — лятаючае белае павуцінне, якое мы стараліся злавіць і паглядзець, што там у тых белых камочках. Час ад часу нам удавалася знайсці там маленькіх павучкоў, якія падарожнічалі вось такім чынам.

Да першага верасня 1940 года ў вёсцы была пабудавана новая школа. Вучыў нас добры настаўнік Асяненка, імя якога ўжо не памятаю, бо называлі мы тады яго «таварыш настаўнік». Урокі вяліся ўжо на беларускай мове, чаму мы былі вельмі радыя. У 1941 годзе настаўніка ўзялі ў армію, пачалася страшная вайна. Партызаны ў нашых краях пачалі дзейнічаць у верасні 1941 года. Яны забілі настаўніка, якога нам прыслалі замест Асяненкі. Узімку 1942 года згарэла наша новая школа. Першага верасня 1942 года пры немцах адчынілася беларуская школа ў вёсцы ў хаце Грынькі Нілы. Прыслалі маладую настаўніцу Курдо Ядвігу. Замест партаў былі табурэткі, прынесеныя з дому, а сядзелі на драўляных калодачках. Але ж вучыліся, і мы былі радыя, што зноў вучымся па-беларуску. Гэта не падабалася партызанскаму кіраўніцтву — і школу зачынілі. Настаўніца паехала дамоў. У верасні 1943 года немцы выгналі нас з партызанскай зоны. Нас прытулілі добрыя людзі ў Паставах, і я зноў пайшоў вучыцца ў беларускую школу.

Першага кастрычніка 1944 года ў Паставах адчынілі сярэднюю школу (было толькі 8 класаў). Потым — 3 гады педвучэльні, і ў 1949 годзе — мы ўжо настаўнікі. Перад пачаткам новага навучальнага года — жнівеньская нарада настаўнікаў з усяго раёну, якая доўжылася некалькі дзён. Спачатку працавалі прадметныя секцыі, а ў канцы — пленарнае пасяджэнне. Загадчык РАНА рабіў даклад аб выніках працы настаўнікаў за мінулы навучальны год, ставіў задачы на наступны. Крытыкаваў настаўнікаў за двоечнікаў і другагоднікаў. Урэшце настаўнікі і работнікі РАНА зразумелі, што двоек не трэба ставіць, пакідаць вучня на другі год — таксама. На экзаменах дапамагалі троечнікам паспяхова здаць экзамены. Потым яны паступалі ў Пастаўскую сельскую прафесійна-тэхнічную вучэльню, з якой выходзілі добрымі трактарыстамі, камбайнерамі, кіроўцамі аўтамабіляў.

Першага верасня 1949 года я пачаў працаваць настаўнікам матэматыкі Вайшкунскай сямігодкі, а маім першым урокам была фізіка ў шостым класе па тэме «Уводзіны». Было толькі шэсць класаў. Мне ішоў дваццаты год, а самаму старэйшаму вучню шостага класа Цыяну Валянціну — дзевятнаццаты. На год-два былі маладзейшыя і

астатнія. Настаўнік вёў урок і паглядваў на такіх мілых і прыгожых дзяўчатак. Такім быў пасляваенны набор вучняў ў школах.

Потым я сышоўся з прыгожай дзяўчынай Данатай Мажэйка, з якой мы вучыліся разам у Пастаўскай педвучэльні 3 гады. Яна стала маёй жонкай 6 мая 1950 года. У 1957 годзе мы адправілі ў першы клас шасцігадовага сына Пятра, а ў 1961-м — сына Гену.

Першае верасня было святам для вучняў, настаўнікаў і бацькоў. Для першакласнікаў у гэты дзень быў «першы званок». Аднаму з настаўнікаў звычайна даручалася распрацаваць сцэнарый для гэтага свята. Разам з класнымі кіраўнікамі вучні рыхтавалі вершы, песні, прысвечаныя першакласнікам. Перад першым верасня настаўнік будучага першага класа звычайна наведваў бацькоў, рыхтаваў іх і іхных дзетак да школы.

Ітак, першае верасня ў школе. Пры ўваходзе ў школу вісіць лозунг «Вітаем вас!» Усе дзеці апрануты ў святочную школьную форму (была яшчэ і штодзённая форма) з букетамі кветак. У вестыбюлі школы выстройваюцца дзеці па класах. Першакласнікі стаяць асобна. Зараз уся ўвага звернута на іх. Да іх з прамовамі звяртаюцца дырэктар школы, класны кіраўнік, хтосьці з бацькоў і вучні. Потым дзеці расказваюць вершы, гучаць песні. З кароценькімі вершамі выступаюць і першакласнікі. Потым ім уручаюцца буквары. Дзеці даюць настаўнікам кветкі. Лепшаму вучню-выдатніку выпускнога класа даручаецца даць першы званок. Гучыць званок, першакласнікі бяруцца за рукі, і настаўнік ці настаўніца вядзе іх у клас.

І колькі ж тых верасняў праляцела? Напэўна, столькі, колькі ў нас атрымалася стажу: у мяне — 44 гады, а ў Данаты — 39. Пасля выхаду на пенсію я адпрацаваў у школе яшчэ тры гады. Гэта амаль паўстагоддзя! Вось чаму шчыміць сэрца і баліць душа, калі прыходзіць гэты дзень, Першае верасня!

## ДЗЯДУЛЯ ТУМАШ

Гэта быў родны дзядзька маёй мамы. Дзядуля Сымон, старэйшы брат Тумаша, і бабуля Волька ўжо памерлі, а дзядуля Тумаш жыў у нашай сям'і халасцяком. Ён пражыў доўгае жыццё, багатае падзеямі. Ён памятаў яшчэ курную хату без коміна, калі дым выпускалі праз дзверы, і з земляной падлогай. Ён жыў у той час, калі да 18 гадоў не дазвалялі хлопцу штаноў насіць, а хадзілі ў доўгіх зрэбных кашулях ніжэй калена. Калі ж хлопцу спаўнялася 18 гадоў — яму шылі штаны і прымалі ў кавалеры. Тады не ведалі, што такое газавая лямпа, была лучына, якой асвятляліся хаты вечарамі. У адну з хат вечарам збіраліся вясковыя дзяўчаты на папрадухі. Яны спявалі народныя беларускія песні, і ўсім было весела і добра. У той час

людзі не ведалі, што такое боты, былі лапці з ліпавай ці лазовай лыкі (кары). Адзенне было таксама самаробнае, вытканае на кроснах.

У маладосці дзядуля быў прыгожым высокім дзецюком з блакітнымі вачыма. Была ў яго і прыгожая, працавітая дзяўчына Анюта, між імі было ўзаемнае каханне. Але ў 1904 годзе яго забралі ў рускае войска на вайну з Японіяй. Ён туды плыў на караблі праз Сінгапур, але пакуль даплылі — вайна скончылася. Потым ён доўга служыў ва Уладзівастоку. Анюта не дачакалася Тумаша і выйшла замуж у другую вёску. Вярнуўшыся дамоў з войска, Тумаш моцна перажываў па Анюце, і другой такой каханай ён ужо не знайшоў. Такой дзяўчыны, як Анюта, больш не было на свеце, бо гэта было яго першае каханне. Ён проста расчараваўся ў жанчынах і застаўся халасцяком.

Дзядуля Тумаш быў вельмі добрым. Ён заўсёды хацеў зрабіць для дзяцей нешта незвычайнае, а потым толькі ўсміхаўся, гледзячы на малых. Зрабіў унуку з лучынак ляльку-пільшчыка, які стаяў на лаве,ківаўся і «пілаваў». Пакліча ўнука і ўнучку на ток, скажа заплюшчыць вочы і выцягне з сена саспелыя яблыкі з цудоўным водарам і смакам. Калі трэба было ўнукам пасвіць кароў, то ён абуваў іх не ў лапці, як іншых дзяцей, а ў хадачкі, зробленыя са старых галянішчаў, якія былі лягчэйшымі за лапці. Дзядуля часта запрашаў унука на свой ложак паспаць з ім, куды той ішоў з вялікай радасцю і ахвотай.

Дзед многа дзе быў і многа чаго бачыў, так што ў яго было аб чым расказваць. Ён расказваў, як у Сінгапуры адзін грамадзянін купіў малпу і ўзяў з сабой на карабель, дзе трымаў яе на раменьчыку. Аднойчы захацелася яму разам з малпай на руках паглядзець на мора праз адчынены ілюмінатар. Мора хвалявалася, і што там малпе здалося, што яна праз гэты ілюмінатар выскачыла ў мора. Са сваёй службы ва Уладзівастоку дзед расказаў нам пра кемлівага жаўнера, які, будучы днявальным у казарме, прылёг адпачыць. І ў гэты час у казарму зайшоў нейкі высокі чын са сваім ад'ютантам праверыць службу днявальнага. Днявальнага хтосьці расштурхаў, але пры гэтым яго шапка завалілася за ложак. А як будзеш дакладаць начальству без галаўнога ўбору?

— Чаму не дакладаеце? — крычыць начальнік. — Што вы там шукаеце?

— Ды тут вось такі пацук пабег пад ложак, — сказаў жаўнер, паказаўшы рукамі памер таго пацука.

— Выведзіце мяне адсюль хутчэй, — загадаў правяраючы.

Усе ведалі, што правяраючы вельмі баяўся пацукоў.

Летам дзядуля Тумаш хадзіў з унукамі спаць на сена, бо ім адным было страшна з-за нейкіх загадкавых гукаў на таку і на дварэ. А як

толькі прывозілі першы воз сена, то малым хацелася паскакаць з бэлькі на сена, і яны дапамагалі таптаць яго.

Дзядуля любіў не толькі ўнучку і ўнука, але і іх сяброў. Перад Вялікаднем ён разам з бацькам рабілі вялізныя казлы, падобныя на калыску, куды прыходзілі пакалыхацца не толькі дзеці, але і моладзь. Ён рабіў моцныя вяроўкі з пянькі, для гэтага кожны год дзядуля сеяў каноплі. Каноплі — цікавая расліна, яна мае жаночыя і мужчынскія суквецці. Мужчынскія суквецці называюцца пласканямі, якія выспяваюць раней. Нам, малым, падабалася іх вышукваць і вырываць, пакідаючы жаночыя суквецці з зярняткамі, якія яшчэ даспявалі.

Дзядуля быў добрым гаспадаром, любіў жывёлу. У хляве зрабіў яшчэ саламяны хлеўчык для авечак, каб тыя не мерзлі ў мароз. Пра сабачку Бойчыка клапаціўся толькі ён, хаця Бойчыка вельмі любілі і ўнукі. Са старой сахі ён зрабіў акучнік для акучвання бульбы, і ні ў кога не было такіх прыгожых гранак. Лён ён таксама абіваў не так, як усе, — пранікам аб калодку. Да калодкі ён прымайстраваў дзве доўгія ручкі, снапочкі лёну укладваў галоўка да галоўкі ў некалькі радочкаў на цвёрдае такавішча, а потым хадзіў і біў па галоўках калодкай, трымаючы яе за дзве ручкі. Потым снапочкі варочаў на другі бок і зноў іх абіваў. Вучыў унукаў правільна трымаць граблі, каб не намазоліць рук, і яны падграбалі за дзедам і бацькам, якія сена пласцілі ў пласты і насілі ці ў капу, ці на воз. Калі ўнук падрос, дзед навучыў яго чыста касіць, каб ззаду не заставалася ніводнай травінкі. Тым касцам, у каго заставалася ззаду трава, ды яшчэ доўгая, то ў вёсцы казалі, што яе можна да «нечага» прычапіць касцу. У мокрае лета дзядуля вучыў унука вазіць вялікія вазы з сенам па разбітых каляінах. Хоць дарогу і рамантавалі — гэта называлася адбываць шараварку, вывозячы на яе жвір, але гэта не дапамагала. Унуку было страшна сядзець на вялікім возе і ён казаў, што яму шкодна сядзець на сене, бо моташна, хаця свежае сена было вельмі пахучае. Тым не менш ён слухаў дзеда і лез на воз. Дзед вучыў яго, каб каня накіроўваў у каляіну, калі яна была глыбокая. Сам дзед ішоў збоку, у патрэбны час падтрымліваючы воз. І ўсё абыходзілася добра. Самымі шчаслівымі момантамі ў жыцці ўнука былі тыя, калі дзядуля давяраў яму папасвіць коніка ў час абедзеннага перапынку на раве, насупраць свайго шнурочка зямлі, дзе было многа травы.

Дзядуля дапамагаў маці рабіць дзіцячыя прысмакі з аўса — кісель і талакно (мілту). Авёс, падрыхтаваны на талакно, малоў у жорнах. Ён дапамагаў маці рабіць і бульбянікі. Бульбу тоўк у ступе таўкачом. Маці выцягвала са ступы тоўчаную бульбу на шырокае драўлянае дэнка, пасыпанае мукой, раскачвала цеста пры дапамозе драўлянай качалкі, рэзала атрыманы вялікі блін нажом на часткі,

якія потым пякла ў печы. Бульбянікі рабіліся толькі са зваранай у шалупінні бульбы.

Яшчэ дзед быў і паляўнічым. Узімку паляваў на шашкоў пры дапамозе жывучых і нежывучых пастак, якіх у яго было многа нароблена. Ставіў пасткі вакол будынкаў, дзе хадзілі шашкі. У пасткі клаў кавалачкі падсмажанага з цыбулькай сала. А «футрачкі» шашкоў зімой былі вельмі прыгожыя і дарагія. Аднойчы яму за скурачку заплацілі 25 злотаў (пуд жыта каштаваў 2 злоты).

Ён быў вельмі набожны чалавек. Увесь кут хаты быў завешаны абразамі святых. Амаль кожную нядзелю хадзіў у царкву. Ад яго ніколі нельга было пачуць дрэннага слова, тым больш мацернага. Калі трэба было крыкнуць на курыцу, якая залезла ў агарод, казаў: «Ах, каб на цябе пранцы». У вёсцы ён быў самы паважаны чалавек.

У святы, адпачываючы, бавіўся папяроскай. Але ніколі не браў запалак. Па-першае, яны былі дарагія, а па-другое, яму было цікава здабываць агонь так, як яго здабывалі нашы продкі. У яго была падрыхтавана губа, скалка і красіва. Губа — гэта бярозавы нарасцень, які зразалі і варылі ў кіпені, потым сушылі. Атрымоўвалася нешта, падобнае да карычневай ваты. Скалка — гэта скала-каменьчык, падобная да кавалка каменнага вугалю. А красіва (ад слова «выкрасаць» агонь) — невялічкая стальная пласцінка. На скалку клаў кавалачак губы і пры дапамозе красіва «выкрасаў» іскру ў губу, якая тут жа і загаралася, ад яе дзядуля і прыпальваў папяросу.

Перажыў ён японскую, першую і другую сусветныя войны. У першую сусветную быў забраны «ў падводы». У другую сусветную перажыў дзве карныя экспедыцыі, выгнанне немцамі з роднай вёскі, партызаншчыну, калі ў яго адабралі адзіныя букатавыя боты, якія ён абуваў толькі ў царкву, і новы доўгі кажух. Пасля вайны дапамагаў бацьку будаваць ток, спалены ў 1943 годзе немцамі. Дапамагаў бацьку рабіць усё, наколькі дазвалялі яго сілы.

Памёр дзядуля вясной 1948 года. Пахавалі на могілках, на высокім беразе Дзісны, на самым сонечным месцы. Няхай табе, дзядулька, заўсёды будзе цёпла, а рэчка пражурчыць аб навінах на нашай Зямельцы.

## ДЗЯДЗЬКА СЯРГЕЙ

Дзядзька Сяргей нарадзіўся на Полаўшчыне ў вёсцы Сямёнавічы Шаркоўшчынскага раёна ў мнагадзетнай сям'і ў 1896 годзе. У яго было пяць братоў і дзве сястры. Ён быў другім па ліку ў сям'і Ігната і Марыі. Старэйшым за яго быў брат Сільвестр, мой бацька. Бацькі былі прагрэсіўных настрояў, хоць і небагатыя, але хацелі даць дзецям адукацыю. У вёсцы была толькі пачатковая школа.

Сяргей яшчэ за царскімі часамі скончыў настаўніцкую семінарыю ў горадзе Маладзечна.

Калі Заходняя Беларусь па Рыжскай дамове адышла пад Польшчу, бальшавікі пачалі запрашаць беларускую інтэлігенцыю пераехаць ва ўсходнюю яе частку і будаваць новую Беларусь. Сяргей з сямігадовым братам Цімафеем нелегальна перайшлі польска-савецкую граніцу і пасяліліся ў горадзе Менску. Сяргей уладкаваўся на працу выхавальнікам у дзіцячым доме і адначасова вучыўся на юрыдычным факультэце Менскага ўніверсітэта. Дапамагаў малодшаму брату Цімафею вучыцца. У Менску яны сфатаграфаваліся і прыслалі на радзіму фатаграфію, на якой быў зроблены запіс: «Дарагому тату, братам і сёстрам на доўгую і добрую памяць аб нас. Сяргей, Цімафей. 3 верасня 1927 года». Сядзяць на фатаграфіі два прыгожыя беларускія хлопцы з разумнымі вачыма, прыгожымі выразамі твараў. Сяргей у прыгожай моднай кашулі, пад гальштукам. Цімафей у тагачаснай кашульцы з касым каўнерыкам — «косовороткой», з крыху спалоханымі вачыма, мабыць, фатаграфаваўся ўпершыню.

Калі Цімафей скончыў сярэднюю школу, ён паступіў у інстытут геадэзіі ў Маскве. Нягледзячы на тое, што ён пераходзіў граніцу ў сямігадовым узросце, для караючых органаў ён быў «шпіёнам», і яго пераследавалі ўсё жыццё як якога злачынцу.

Насця, будучая жонка дзядзькі Сяргея, нарадзілася ў Жмерынцы на Украіне ў 1910 годзе. У 1918 годзе бацькі яе памерлі ад халеры, якая лютавала там у той час. Засталося пяцёра сірот: дзве дачкі і тры сыны. Насця была самая старэйшая. Малодшую яе сястрычку забрала цётка, якая жыла ў Харкаве. А Насцю і яе брацікаў забраў дзядзька, які жыў пад Менскам, у якога было сваіх пяцёра дзяцей. Дзядзька быў добрым гаспадаром, меў трое коней, дзвюх кароў, зямлю. Калі пачалася агульная калектывізацыя, яго раскулачылі, усё адабралі і павезлі з дзецьмі ў Сібір. А Насцю з братамі аддалі ў дзіцячы дом, дзе яны жылі і вучыліся.

Калі Насця выйшла з дзіцячага ўзросту, скончыла вучобу, яна стала працаваць у гэтым жа дзіцячым доме выхавальніцай. Тут жа выхавальнікам працаваў і Сяргей. Вось тут Сяргей з Насцяй і сустрэліся, пазнаёміліся і пакахалі адзін аднаго. А калі Сяргей скончыў юрфак і пачаў працаваць суддзёй у адным з раёнаў Менска, тады і пажаніліся. У 1932 годзе ў іх нарадзілася дачушка Рыма.

Маладая сям'я жыла шчаслівым жыццём. Сяргей і Насця моцна кахалі адзін аднаго, цешыліся дачушкай Рымай. Сяргей узімку, прыходзячы з працы, любіў павазіць на санках і дачку, і жонку. Улетку вечарамі хадзілі ў паркі горада. Але прыйшоў страшны 1936 год. Пачаліся масавыя арышты. Пастукалі і да іх ноччу ў дзверы работнікі НКВД. Зрабілі ператрус. У кватэры нічога крымінальнага не знайшлі, толькі кнігу мастацкай літаратуры нейкага польскага

пісьменніка. Ага, значыць, Сяргей меў сувязь з палякамі, ды граніцу перайшоў нелегальна, няйначай, прыйшоў шпіёніць. І яго арыштавалі. Гэтай кнігі было дастаткова, каб засудзіць яго на 10 год без права перапіскі, прыпісаўшы яму палітыку. Прыператрусе нават не пасаромеліся ўкрасці тое-сёе, нават завушніцы, якія мама Насці падарыла на памяць. З той цёмнай ночы пачалася чорная паласа ў жыцці Насці і яе дачкі Рымы: Насця навекі згубіла мужа, а Рыма — тату і сваё дзяцінства.

Насця з дачкой Рымай пачалі чакаць любімага мужа і бацьку. Не ведалі, што яго ўжо не было ў жывых — яго расстралялі 22 лістапада 1937 года. Аб гэтым яны даведаліся толькі пасля вайны. Пасля акупацыі Саветамі ў 1939 годзе Заходняй Беларусі праз 20 год з Масквы на радзіму прыязджаў Цімафей праведаць бацьку, сясцёр і братоў. Ён ведаў ад Насці, што Сяргей засуджаны на 10 год, аб чым ён тайна паведаміў і сваім родным. Задоўга да вайны з немцамі, калі Сяргей быў яшчэ жывы, да Насці прыйшоў загадкавы чалавек з турмы, дзе сядзеў Сяргей. Ён перадаў запіску ад Сяргея, схаваную ў поясе, у якой гаварылася: «Насценька, забірай Рымачку і выязджай з Мінску зараз жа, будзе вайна». У турмах у той час сядзела эліта, вучоныя і палітыкі, і яны ўсё ведалі. Толькі цяжка паверыць у тое, што хтосьці мог выйсці з той турмы жывы. Гэта загадка для сям'і Сяргея засталася неразгаданай.

Насця з дачкой Рымай засталіся жыць у Мінску. А ўлетку 1941 года паехалі ў водпуск да Насцінай сястры ў Харкаў. Калі вярталіся дамоў, пачалася вайна, і іхны поезд да Мінска не пусцілі, таму што Мінск немцы бесперапынна бамбілі, а потым і занялі яго. Прыйшлося выйсці ў горадзе Барысаве. Тут працаваў Насцін брат Барыс дырэктарам дзіцячага дому. Адгэтуль, разам з чырвонаармейцамі і дзіцячым домам, на конях хацелі перабрацца на ўсход. Калі даехалі да лесу, то ўбачылі нямецкія танкі, пачалася страляніна, і яны зноў вярнуліся ў горад Барысаў. Насця з Рымай, прабыўшы ў Барысаве пару дзён, пайшлі пешшу ў Мінск (70 км), каб паглядзець, што сталася з домам, з кватэрай, ці ёсць за што зачапіць рукі. Прыйшлі ў Мінск і жахнуліся. Горад быў у развалінах. А на кожным слупе віселі аб'явы бацькоў аб пошуках сваіх дзяцей. Справа ў тым, што за некалькі дзён перад гэтым, калі яшчэ немцаў не было ў Мінску і была аб'яўлена трывога, бацькоў з працы не адпускалі, а дзяцей грузілі для адпраўкі (эвакуацыі). У той жа час грузілі і звяроў са звярынца. Пачаўся налёт нямецкай авіяцыі, пачалі бамбіць. Сведкі казалі, што жах агарнуў усіх: уцякалі і людзі, і звяры з разбітых клетак. А зараз бацькі шукалі сваіх дзяцей.

Прыйшлі ў сваю кватэру, толькі там ужо нічога іхнага не было, усё было раскрадзена, і кватэра занята чужымі людзьмі. Насці з дачкой нічога не заставалася рабіць, як ісці на радзіму мужа

(Полаўшчыну і Казяншчыну на захадзе Віцебшчыны). Ад Мінска гэта 200 кіламетраў з хвосцікам. Ішлі пешшу, заходзілі да добразычлівых беларускіх людзей, каб паесці і пераначаваць. Усюды іх цёпла прымалі і спачувалі ім. Прыйшлі яны ў вёску Чарэмушнікі Падзісенныя ў сям'ю старэйшага брата Сяргея — Сільвестра і яго жонкі Надзі, у якіх было двое дзяцей — дачка 14 год і сын 11 год. Жыў яшчэ ў іх дзядуля Тумаш. За 5 кіламетраў адгэтуль была вёска Сямёнавічы, дзе жыў бацька Сяргея Ігнат з малодшым сынам Федзем. У гэтых краях з восені 1941 года пачалі дзейнічаць партызаны. Вясной 1942 года ў Казянскіх лясах быў створаны партызанскі атрад «Спартак». І Федзя пайшоў у партызаны. Аднойчы, наведваючы бацьку, ён напароўся на засаду, яго схапілі і павялі ў Казяны, дзе быў нямецкі гарнізон. Два браты, Сільвестр і Алёшка, і дзве сястры, Саша і Поля, сабралі такія-сякія сродкі, каб выратаваць (выкупіць) брата, прасілі казянскага святара дапамагчы, але нічога не дапамагло — Федзю расстралялі.

Бацька Ігнат, маючы некалі вялікую сям'ю, застаўся адзін. Вось у гэты час нявестка Насця з дачкой Рымай і пайшлі жыць да свайго свёкра і дзеда. Пражылі яны спакойна ў Сямёнавічах да восені 1943 года. Партызанскі рух шырыўся, Казянскі гарнізон быў разгромлены, і Казяншчына стала партызанскім краем. У верасні–кастрычніку 1943 года немцы значнымі сіламі на вялікай тэрыторыі правялі карную аперацыю супраць партызан. Партызаны з акружэння выйшлі, але пацярпелі мірныя жыхары Казяншчыны: усё багацце (жывёла, зерне, бульба) было вывезена немцамі, вёскі спалены, насельніцтва з партызанскай зоны выгнана, маладзейшых забралі ў Нямеччыну. 8 кастрычніка 1943 года павезлі ў Нямеччыну і Насцю з Рымай, і роднага брата Сяргея — Алёшку, які жыў з сям'ёй таксама ў Сямёнавічах. Ехалі разам, але ў Нямеччыне іх разлучылі.

Насця працавала на заводзе, а Рыму забраў гаспадар («бауэр»). Рыма працавала ў гаспадыні: мыла посуд, прыбірала. Немка адзін раз у дзень давала Рыме паесці, а раніцай і вечарам яна ела разам з усімі ў бараку. А ў бараках рабочым ежу рыхтавалі ў вялікіх чанах з розных адходаў. Насця гэтага есці не магла. Потым яна ўсё жыццё хварэла. Адзін раз у дзень ім давалі бутэльку ліманаду і бутэрброд, вось гэтым і жыла.

Вызвалілі іх амерыканцы ў канцы чэрвеня 1945 года. Прыехалі яны ў родны Мінск, але іх тут ніхто не чакаў. Ім не дазволілі жыць у Мінску за тое, што яны былі ў Нямеччыне. Як «здраднікаў Радзімы» іх не прыпісвалі. Тады яны пасяліліся ў раёне, пажылі некалькі часу. А потым паехалі ў горад Львоў, дзе жыла сястра Насці. Насця ўладкавалася працаваць бухгалтарам на заводзе, а Рыма вучылася.

Насця пісала ва ўсе адпаведныя органы Беларусі, спрабуючы даведацца аб лёсе мужа Сяргея. І адусюль атрымоўвала адмоўныя

адказы. Насця выйшла замуж за ўдаўца з двума дзецьмі. Неўзабаве яны завербаваліся на працу за Котласам у Кіраўскую вобласць. Там ў 1951 годзе нарадзілася сястра Рымы — Эвеліна. Насця доўга хварэла і памерла ў 1956 годзе, у 45 гадоў. Яна многа перанесла душэўных крыўд і фізічных цяжкасцей у сваім жыцці: за мужа, несправядліва асуджанага, за лёс дачушкі Рымы, за цяжкі побыт у Нямеччыне, дзе яна канчаткова дабіла сваё здароўе, за несправядлівае абвінавачанне іх у здрадзе.

Рыму пасля вучобы ў Львоўскім паліграфічным тэхнікуме накіравалі на працу ў Алма-Ату (Казахстан), дзе яна пазнаёмілася з вайсковым лётчыкам Юрам і выйшла замуж у 1955 годзе. Рыма скончыла таксама гандлёва-эканамічны інстытут, працавала эканамістам. Пасля дэмабілізацыі Юры яны пераехалі ў Крым, у горад Сімферопаль, працавалі і будавалі свой дом. Выхоўвалі Эвеліну (малодшую сястру) і сына Юру, які нарадзіўся ў 1966 годзе. Зараз ён жыве і працуе ў Кіеве.

Увесь гэты час Рыма хацела ведаць праўду пра бацьку, пісала ў Мінскае КДБ. Прыязджалі да Рымы з Сімферопальскага КДБ. Далі прачытаць цэлую петыцыю, што бацька рэабілітаваны 15 верасня 1955 года, але выпіску на рукі не далі, толькі вярнулі яго пасведчанне (пашпарт), удакладняючае яго асобу, якое было ў яго адабрана пасля арышту. А дзе ён пахаваны — ніхто не ведае. Толькі чорны крумкач мог бы аб гэтым паведаміць.

## ЮНЯ

Было гэта зімой у адзін з пасляваенных гадоў, калі людзі яшчэ памяталі жахі вайны, нямецкія карныя блакады на Віцебшчыне, дзе гінулі нявінныя людзі ад куль ці гарэлі ў агні. Сямігадовая школа была пабудавана ў самай вялікай вёсцы ў Пастаўскім раёне — Васілінах. Спачатку было толькі шэсць класаў. Школа так і называлася — развіваючаяся. Мяне прызначылі класным кіраўніком шостага класа. Усе дзеткі для мяне былі аднолькава мілыя, прыгожыя і паслухмяныя. Калі яны добра вучыліся, дык для настаўніка яны былі яшчэ прыгажэйшымі і мілейшымі, а тым больш — калі яны былі выдатнікамі. Але ж не ўсім быць выдатнікамі. Некаторыя не маглі справіцца і са школьнай праграмай, але такіх былі адзінкі. Я іх таксама любіў і шкадаваў, што яны нічога не могуць зрабіць, як астатнія, дапамагаў ім, як толькі мог. І якая радасць была на твары вучня, калі ён сам мог нешта зрабіць без дапамогі другіх! Ён пачынаў верыць у свае сілы і, самае галоўнае, лічыць сябе роўным сярод роўных. Карацей кажучы, я ўсіх іх любіў аднолькава. Ды як жа іх было не любіць — мы ж былі іхнымі другімі бацькамі.

Была ў маім класе дзяўчынка Лукашонак Юня. Жыла яна ў роднай цёткі Дзіковіч Анфісы ў нашай вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя. Бацькі Юні згарэлі ў агні ў суседняй вёсцы Баравыя падчас карнай экспедыцыі немцаў у лістападзе 1942 года. Бог пашкадаваў яе. У тую страшную ноч Юня начавала ў роднага дзядзькі Капітона ў суседняй вёсцы Азерава, куды яе бацькі прыводзілі часта пагуляць са сваімі стрыечнымі брацікам і сястрычкай.

Цётка Анфіса з мужыком Міхаілам былі баптыстамі. У іх сям'і было чацвёра сваіх дзяцей. Дзядзька Міхаіл памёр ад тыфу ўзімку 1942 года. Цётка Анфіса была выключнай жанчынай і маці. Мы, хлапчукі, часта збіраліся да іх у хату да свайго сябра Жэніка, яе сярэдняга сына. Мы ніколі не чулі дрэннага слова ад яе. Любіла яна сваіх дзетак, паважала і нас. І Юню яна выхавала добрай, сціплай, ветлівай і заўсёды вясёлай дзяўчынкай. І ў дадатак — Юня была выдатніцай. Гэта была прыгожая дзяўчынка з блакітнымі вачыма і беленькімі валаскамі. У яе было многа сябровак, але яна больш за ўсё любіла Амілю Загорскую, з якой яна разам хадзіла ў школу і са школы.

Аміля жыла ў Антанове за два кіламетры ад Чарэмушнікаў. Бацька яе пры Польшчы быў настаўнікам. Ён рана памёр, гадавала Амілю маці. У сям'і былі яшчэ два старэйшыя браты, Эдзік і Раман, якія прыводзілі Амілю ўзімку раніцай да Юні, калі яшчэ было цёмна, каб ісці разам у школу. Ісці трэба было чатыры кіламетры па бездарожжы. Падвозу дзетак у школу тады не было. Вось так і мясілі дзеткі снег, часам па нераз'езджанай дарозе, а восенню і вясной ішлі па гразі.

Калі замярзала рэчка Дзісенка, ім падабалася хадзіць са школы дамоў рэчкай. Паміж вёскамі былі два вялізныя руччы. Левы бераг ракі быў палогі, паросшы кустамі лазы каля самай вады, а правы — высокі і круты, дзе стаяла наша вёска. Рэчка тут рабіла паварот улева. Дзяўчынкі ішлі спакойна, размаўляючы і не заўважаючы, якая небяспека іх чакала — іх даганяла ваўчыца.

Калі яны пачулі за сабой нейкі шум і азірнуліся, то ўбачылі ваўчыцу з разяўленай ляпай. Яны вельмі спалохаліся і пачалі з крыкам уцякаць. А ўцякаць было няпроста ўверх па крутым касагоры ды па снезе. Дзяўчынкі пачалі клікаць каго-небудзь на дапамогу, бо побач была вёска. Ваўчыца дагнала Юню і пачала яе кусаць. Аміля была ўперадзе. Ваўчыца кідалася і за ёй, але зноў вярталася да Юні. Яна ўжо адчула смак і пах крыві дзяўчынкі. І ўсё ж дзяўчынкі выбраліся на вуліцу вёскі.

Крык дзяцей першым пачуў Давідовіч Іван і кінуўся на дапамогу. Ды ў спешцы ён нічога не прыхапіў з сабой. Ваўчыца накінулася і на яго, і пакусала. Пачуў гэта ўсё і сусед Івана — Дзіковіч Кузьма.

Але ён прыхапіў з сабой вілы. І калі ваўчыца, разявіўшы ляпу, спрабавала накінуцца і на Кузьму, то яму ўдалося ўсунуць у ляпу вілы і прыціснуць ваўчыцу галавой да зямлі. Вілы былі слабенькія, але вытрымалі. Злаўчыўшыся, ён імгненна выхапіў вілы з ляпы і праткнуў імі шыю, прыціскаючы ваўчыцу да зямлі. К гэтаму часу падаспелі людзі і забілі ваўчыцу.

Пакусаных Юню і Івана павезлі на санях за 7 кіламетраў у медпункт, адкуль вызвалі «Хуткую дапамогу» з Пастаў, якая завезла іх у бальніцу. Праз пару дзён іх не стала — ваўчыца была шалёнай. Аміля засталася жывая і здаровая, яе ваўчыца ні разу не ўкусіла. Юні пашчасціла ўсцерагчыся ад агню ў 1942 годзе, а тут з ёю здарылася вось такая трагедыя. Чаму ж ты, лёс, аказаўся такі несправядлівы да гэтай беднай сіроткі? У Давідовіча Івана засталася жонка з маленькай дачушкай.

Гэты выпадак узрушыў усю ваколіцу. Плакалі родныя, школьнікі, настаўнікі, усе дарослыя. Людзі кажуць, што Смерць самая справядлівая, але гэта ў сэнсе, калі людзей дзяліць толькі на дзве катэгорыі — багатых і бедных. І гэта праўда, бо самы багаты чалавек на свеце ні за якія грошы не зможа адкупіцца ад яе. Але ж людзі дзеляцца не толькі на багатых і бедных. Калі Смерць адбірае жыццё не ў пару, асабліва ў дзетак, — то гэта недаравальна. Дзе ж тут тая справядлівасць?

## НАТАША

Яна была старэйшай дачкой у сялянскай сям'і Мар'яны і Аляксандра. Былі ў яе яшчэ малодшыя сястра Тоня і брат Лёнька. Бацька памёр без пары ад запалення лёгкіх. На Наташу, як падрасла, навалілася куча жаночых і мужчынскіх работ: дапамагаць маме, касіць, араць і ездзіць у лес па дровы. Дапамагалі рабіць недзіцячую работу і малодшыя Тоня і Лёнька. І з усім гэтым яны спраўляліся.

Замуж Наташа не збіралася, тады ёй было 17 гадоў, хоць да яе прыглядаліся многія вясковыя хлопцы. Была яна не толькі працавітая, але і прыгожая. Час ішоў. І закахаўся ў яе прыгожы, высокі, светла-русы вясковы хлопец Нікандра. Ён быў старэйшы ў сям'і Восіпа і Галены. У яго былі маладзейшыя два браты і сястра.

Кахаў ён моцна Наташу, а яна — яго. Яны сустракаліся кожны вечар вясной і ўлетку на лавачцы каля Наташынага ганку. Тут іх можна было ўбачыць нават калі-небудзь і ў абедзенны час, калі яны прыходзілі з поля папалуднаваць. Яны не маглі жыць адно без аднаго, для іх быў дзень вельмі доўгі, што не маглі дачакацца вечара. І Нікандра прыбягаў да Наташы хоць на пятнаццаць хвілін, каб сустрэцца са сваёй каханай.

І ўсё было б добра, калі б іхняму каханню не пашкодзіла страшная, невылечная ў той час хвароба сухоты (туберкулёз), на якую захварэў Нікандра. Спачатку ён не прыдаваў гэтаму ўвагі, ну прастудзіўся, кашаль ды кашаль. А калі звярнуўся да дактароў, дык даведаўся аб сваім няшчасным лёсе. Ён ведаў, што гэта хвароба невылечная і што ён хутка памрэ. Але трымаўся перад роднымі і перад вяскоўцамі дастойна. На святы, калі вып’е чарку са сваімі сябрамі, заўсёды спяваў сумную песню:

На сухоты я хварэю,
Хутка, хутка я памру…

Даведалася аб гэтым і Наташа. Але яна яго вельмі кахала і казала, што гатова памерці разам з ім. Адхварэў Нікандра два гады і яго не стала. Наташа не магла перанесці яго смерці і на пахаванні кідалася ў магілу. Пасля пахавання яна доўга насіла жалобу па ім, не хадзіла на вечарынкі, часта наведвала царкву і яго магілу, каб памаліцца за яго душу.

Але ішоў час ды і вясковыя хлопцы не пакідалі яе без увагі. Многія з іх хацелі б мець такую жонку. Яна ж выбрала Вінцука — лепшага музыку вёскі. Гэта быў прыгожы і вясёлы хлопец і вельмі ўжо добра іграў на сваёй трохрадцы. Ён іграў на вечарынах для вясковай моладзі, яго запрашалі іграць вяселлі ва ўсёй ваколіцы. Згулялі і яны сваё вяселле. Праз пару гадоў у іх нарадзілася дачушка Лёдзя. Яны пабудавалі сабе ў вёсцы хату, бо ў яго былі яшчэ два браты: старэйшы Сямён, які быў ужо жанаты, і малодшы Сяргей, таксама музыка. Здавалася б, жывіце і радуйцеся, маладыя людзі. Дык не! Кажуць у народзе, што адна бяда не ходзіць. Ізноў прыйшла яна ў сям’ю Наташы: захварэў і Вінцук на сухоты.

Усё гэта адбывалася перад другой сусветнай вайной, калі яшчэ ў медыцыны не было надзейных сродкаў супраць гэтай страшнай хваробы і людзі ад яе паміралі.

Перажыла Наташа смерць Вінцука, перажыла вайну. Дзяўчынка Лёдзя падрасла і пайшла ў школу. Цяжка было ёй адной абжывацца ў тыя цяжкія паўгалодныя гады. І да яе прыйшоў у прымы ўжо немалады мужчына Іван, былы партызан, якому ў час вайны было не да жаніцьбы. У Наташы нарадзілася другая дзяўчынка.

Пастукала бяда ў дзверы сям’і Наташы і на гэты раз. Памёр яе мужык ад укусу шалёнай ваўчыцы, калі ратаваў ад яе дзвюх вясковых дзяўчынак. Пакусаная дзяўчынка таксама памерла. Засталася Наташа зноў адна са сваімі дзяўчынкамі.

Зімой 1949/1950 года ў вёсцы арганізавалі калгас, куды трэба было хадзіць штодня на працу. Ніякіх у той час ясляў і садзікаў для дзяцей у калгасах не было. Наташа малую дзяўчынку пакіда-

ла дома адну, Лёдзя хадзіла ў школу. І калі дзяўчынцы споўнілася два годзікі, яна ўтапілася ў цэбры з вадой, куды гаспадыні злівалі памыі для кароўкі.

Засталася ў Наташы адна радасць — дачка Лёдзя, якая дапамагла ёй ўсё вытрымаць і ўсё гэта перажыць.

## ПЛЫТАГОНЫ

Прыйшоў ён у вёску на прымакі да адной бабулькі, Анці, якая гады два таму назад пахавала свайго мужыка. Звалі яго Зміцер. У яго тры гады назад памерла жонка, старэйшы сын загінуў у партызанах у 1944 годзе. З сабой ён прывёў дачку Зоську, якая была ветлівая, прыгожая і вельмі жвавая. Ёй было гадоў 14, і яна вельмі хутка раззнаёмілася з вясковымі дзяўчатамі-равесніцамі, якія да іх пачалі збірацца вечарамі.

Ну а дзе дзяўчаты — там і хлопцы-падлеткі. У Анці сваіх дзяцей не было, і ёй спадабалася Зоська. І цётцы Анці, і Зміцеру падабалася, калі да іх збіраліся вечарамі аднагодкі Зоські. Зміцер быў чалавекам з вялікім жыццёвым вопытам, і ён вельмі любіў аб чым-небудзь расказваць, бо было аб чым. Асабліва ён любіў расказваць, як ён са сваімі сябрамі ганяў плыты ў Рыгу. Гаварыў ён павольна, з задавальненнем, прыцмокваючы языком. Гэта быў на самай справе майстар слова. А ў тых, хто яго слухаў, складвалася ўражанне, што і яны плывуць разам з ім. І яны сядзелі, затаіўшы дыханне, і слухалі.

Па рацэ Дзісне пры Польшчы сплаўлялі ганкі (плыты) ў Рыгу. Работа была цяжкая і небяспечная, але ж людзям трэба было жыць. А каб жыць прыстойна, патрэбна была зямля. Вось людзі і хадзілі ў заробкі, каб купіць яе. Другім сродкам набыцця грошай быў лён. Ім займаліся ўлетку і восенню. А ўзімку і ранняй вясной, да сяўбы, трэба было займацца лесам.

Падрыхтоўка да гэтай небяспечнай работы пачыналася яшчэ ўзімку, у вольны ад сельскагаспадарчых работ час. Людзі нарыхтоўвалі бярвенні ў Казянскім лесе, вывозілі іх да крутога берага Дзісны, складвалі рум (дрывяны склад).

Вясной, пасля паводкі, калі рака ўваходзіла ў свае берагі, плуцілі (вязалі) плыты пры дапамозе вітак і цвікоў. Віткі рабілі з маладых пабегаў бярозкі з дапамогай кала, забітага ў зямлю. Папярэдне віткі яшчэ вымочвалі ў вадзе. Вяршалінку пабега закладвалі ў засечку, зробленую ўнізе кала, а да другога яе канца прымацоўвалі кароценькую вяровачку з палачкай, якой і круцілі вітку, ходзячы вакол кала. Пабег трэскаўся і рабіўся мяккім, прыгодным для вязання.

Бярвенні кацілі з гары ў раку, дзе іх лавілі баграмі і вязалі ў звенні. У кожнае звяно ўваходзіла па 20–25 штук, у залежнасці ад таўшчыні яловых ці сасновых бярвенняў. Звенні звязваліся пры дапамозе дроту. Плыт атрымоўваўся з некалькіх звенняў. Доўгіх плытоў не рабілі, бо імі цяжка было кіраваць на крутых звілінах ракі. Спераду і ззаду плыта былі прымайстраваны дрыгалкі-вёслы, вычасаныя з бярвенняў, даўжынёй метраў па пяць кожнае. Пасярэдзіне плыта стаяла саламяная будка для адпачынку людзей і захавання кухонных прылад і харчавання, а таксама дроў для прыгатавання ежы. На кожным плыце было па тры чалавекі.

Для затрымання плыта выкарыстоўвалася стальная ліна, прымацаваная да задняй часткі апошняга звяна. Другі канец ліны быў злучаны з моцным калом, які выкідвалі на бераг і «аралі» ім, пакуль плыт не спыняўся. Гэта была самая небяспечная работа. Там патрэбна была сіла, спрыт і ўменне. Плыт затрымлівалі на адлогіх берагах ракі перад ноччу, калі плытагонам трэба было адпачыць. Ноччу гнаць плыт было небяспечна. Дзісна была спакойная, а на Заходняй Дзвіне былі віры, якія маглі скруціць плыт у абаранак, а месцамі былі і парогі. Таму ўперадзе плыта стаяў вопытны плытагон — лоцман.

Бацька адправіў Зміцера ў заробкі, калі было яму 17 гадоў. Плыў ён першы раз з вопытнымі людзьмі, якія плавалі ў Рыгу не ўпершыню. Гэта былі добрыя людзі, і яны яго вучылі. Цяжкая была навука, як і сама работа. Перш трэба было навучыцца хадзіць па мокрых бярвеннях, якія рухаліся пад нагамі. Трэба было навучыцца правіць пяціметровай дрыгалкай: спераду, каб не ўрэзацца ў бераг, і ззаду, каб плыт не зачапіўся за яго. Але самай цяжкай і небяспечнай работай было затрымаць плыт. Вось Зміцеру і даручылі аднойчы гэта зрабіць. Выбралі больш-менш роўную паляну на беразе ракі. Пры дапамозе дрыгалкі ў задняй частцы плыта наблізілі яго да берагу, і Зміцер выскачыў на бераг з калом і лінай на ім і пачаў «араць». І ўжо, здаецца, кол упёрся ў зямлю і плыт пачаў спыняцца, але Зміцеру захацелася для большай упэўненасці налегчы ўсім целам на кол. Яго шыбанула так, што ён апынуўся ў рацэ. Добра, што ён не папаў на бярвенні плыта, дзе мог бы добра пакалечыцца. Плыт працягваў рухацца, але павольней, бо ён ужо быў не на сярэдзіне ракі, а на водарасцях, што раслі ля берага. Але Зміцер не разгубіўся, вылез з вады, дагнаў кол з лінай і з новай сілай пачаў «араць». Плыт спыніўся, і на твары Зміцера была пераможная ўсмешка.

— Гэта тваё першае хрышчэнне! Маліся Богу, што добра ўсё скончылася. А кол трэба трымаць толькі ў руках і не класціся на яго, як ты гэта зрабіў, аб чым мы цябе папярэджвалі, — гаварылі яму сябры.

— Ці ж я тады мог успомніць, што вы казалі. Я вельмі хваляваўся, што не змагу затрымаць плыт.

Узлезшы на плыт, ён пераапрануўся ў сухое адзенне, якое маці паклала яму на зменку, мокрае адзенне ён развесіў на будцы. Сябры распалілі вогнішча, пачалі рыхтаваць вячэру, а ў Зміцера зуб на зуб не пападаў не так ад холаду, як ад хвалявання. Больш у яго плаванні падобных выпадкаў не было.

Але ж на гэтым яго першае падарожжа не скончылася. Плыў, любаваўся беларускімі мясцінамі, вёскамі, гарадамі, дагэтуль яму невядомымі. Прыплылі да горада Дзісны, які быў пабудаваны ў вусці ракі Дзісны ў Заходнюю Дзвіну. Паплылі па шырокай Заходняй Дзвіне — граніцы Польшчы з Савецкім Саюзам. І Друя — апошні беларускі гарадок на граніцы Польшчы і Латвіі. Праз некалькі дзён — канечны пункт падарожжа — Рыга.

Здаўшы лес і атрымаўшы грошы за працу, яго старэйшыя сябры рашылі наведаць рэстаран, пайшоў з імі і Зміцер. Калі яны ўселіся за столік, пачала танцаваць адна «маладзіца», як ён называў яе. І так закружылася ў танцы, што яе сукенка паднялася парасонікам вышэй попы, якая здалася Зміцеру зусім голай. Яму, вясковаму, сарамліваму хлопцу, які нідзе не быў і нічога яшчэ не бачыў, зрабілася не па сабе. А танцаўшчыца, відаць, прыглядалася да хлопцаў, якія сядзелі за сталом. І, няйначай, ёй прыглянуўся Зміцер. Вось яна і апусцілася голай попай яму на калені, чаго Зміцер аніяк не чакаў. Ад такой нечаканасці спружыніўся хлопец дзвюма нагамі ды так шпурнуў «маладзіцу», што тая далёка адляцела. Сам Зміцер спалохаўся, ускочыў з месца і даўся наўцёкі. А пры выхадзе на сходках так спатыкнуўся, што вылецеў на тратуар праз дзверы, перад якімі, як ён казаў, нейкі дурань паставіў тэлеграфны слуп, у які ён і ўрэзаўся галавой. Застаўся хлопец без вячэры, без шапкі і з вялікім гузам на лобе.

Пасля гэтага здарэння ён у рэстаран больш не вярнуўся, быў вельмі ўсхваляваны і падаўся на чыгуначную станцыю. Праз некаторы час вярнуліся і яго сябры. Было смеху. Прынеслі ягоную шапку і спыталіся, чым яму не спадабалася прыгожая дзяўчына. А ён спытаўся, як яна там.

— Нічога, — адказалі яму сябры. — Паднялася і зноў пачала танцаваць.

Вось так закончылася першае падарожжа Зміцера.

# ПРАНУК

Было гэта ў 30-я гады мінулага стагоддзя, пры Польшчы. У Сямёнавічах (Шаркоўшчынскі раён) па суседству з маім дзядулем Ігнатам жыў дзед Пранук. Ён жыў адзінокім бабылём, у яго была хата і невялічкі кавалачак зямлі, але ён жабраваў у суседніх вёсках. Людзі яго ведалі як вялікага казачніка і з задавальненнем пускалі начаваць, каб ён набавіў дзецям казак. Часта начаваў у нас. Запомніўся мне адзін выраз з яго казкі-песні: «Хто ў бары, хто ў лесе — прыйдзі ка мне ў наначкі».

Сам Пранук быў непісьменны, але меў выключную памяць. Ён ва ўсёй ваколіцы ведаў усіх людзей, хто калі нарадзіўся, хто калі памёр, ажаніўся, хрысціўся.

Хадзіў ён зімой і летам у адным і тым жа адзенні: зрэбная бялізна (кашуля і штаны) і зверху ярмяк, пашыты з вытканага на кроснах суконнага палатна. Падпяразваўся поясам, сплеценым з нітак. На галаве меў шапку са штучнага каракулю, такія шапкі тады ўсе мужыкі насілі. На нагах анучы з павязанымі лапцевымі аборамі (тоненькімі вяровачкамі). Вось такое яго было адзенне круглы год. Насіў вусы і бараду.

Але быў вялікі чысцёха і дакладны ва ўсім. Пачне мыцца, то кожны валасок перабярэ ў сваёй барадзе. Рабіў усё павольна, але дакладна. У вёсках такая і пагаворка пайшла: «Што ты там так доўга капаешся, як той Пранук?» Памыўшыся, ён пачынаў маліцца перад абразамі, і маліўся не менш гадзіны. Вельмі многа ведаў малітваў як ранніх, так і вячэрніх. Ведаў усе праваслаўныя і каталіцкія святы і прысвяткі. Вечарамі забаўляў дзетак казкамі. І так цікава ўмеў расказваць, што дзеткі сядзелі, зачараваныя яго байкамі, і не варушыліся. Каб Пранук меў адукацыю, ён мог бы стаць вялікім чалавекам.

Аднойчы мы з бацькам ехалі да дзядулі ў госці. Пакуль мы чакалі парома ў Сямёнавічах праз Дзісенку, нам давялося назіраць, як Пранук мыўся ў рацэ. Падышоўшы да вады, ён пачаў рукой разганяць муць у вадзе, хаця вада ў нашай рацэ была чыстая. Але калі пачаў махаць рукой, то і пясок з дна мог падняцца. Нешта не спадабалася яму тут, і ён пайшоў далей. Але і там штосьці не спадабалася, пайшоў Пранук шукаць новае месца. Нарэшце ён спыніўся ў трэцім месцы, бо зняў шапку і пайшоў яе ўладкоўваць на чыстую траву. Доўга выглядаў месца і ўсё ж знайшоў яго і паклаў шапку. Падышоўшы да вады, Пранук зноў зірнуў на шапку і пайшоў папраўляць яе, яна не так ляжала, як здавалася яму. Паправіўшы шапку, заўважыў на ёй нейкую паўсцінку і тут жа зняў яе. І толькі прывёўшы ў парадак сваю шапку, пачаў мыцца.

Аднекуль узяліся хлапчукі-жэўжыкі, якія ўбачылі, што Пранук мыецца. Набралі камоў зямлі і бух у тое месца, дзе ён мыўся. Замуцілі ваду. Забраў Пранук сваю шапку і пайшоў павольна ў другое месца ўверх па цячэнні, нязлосна сварачыся на сваіх крыўдзіцеляў.

Аднойчы заначаваў ён у нас напярэдадні Вялікадня. У Вялікую суботу ў нас была выпалена лазня. Калі ўсе памыліся, захацелася і яму схадзіць у лазню памыцца. Мама ахвяравала яму чыстую бялізну, паслала пасцель, каб, прыйшоўшы з лазні, ён мог адпачываць, і ён пайшоў.

А мы ўсёй сям'ёй пайшлі на ўсяночную да баптыстаў, якіх у вёсцы было шмат. Адзін наш дзядуля Тумаш пайшоў у царкву ў Андроны за пяць кіламетраў, каб памаліцца і пасвенціць пасху. Мы ж маліліся разам з баптыстамі. Бог быў у нас адзін. Малітоўны дом у іх быў абсталяваны ў вялікім пакоі аднаго вяскоўца. Абсталяванне тое складалася з некалькіх сталоў і лавак вакол іх, на якіх сядзелі баптысты з малітоўнікамі ў руках. На сценах былі развешаны лозунгі «Бог ёсць любоў» і іншыя, не было ніводнага абраза. Біблія і Евангелле ў іх былі тыя ж самыя, як і ў праваслаўных. Прасвіцер казаў казань, потым усе спявалі па малітоўніках на рускай мове, часам станавіліся на калені і шапталі малітву, заплюшчыўшы вочы. Маліліся яны доўга, мы дабылі да канца. Дамоў мы пайшлі пад раніцу. Дамоў мы прыйшлі, а Пранука няма. Думалі, што нядобрае здарылася. Бацька пайшоў шукаць. Падышоўшы да лазні, бацька ўбачыў праз невялікае вакенца, што ліхтар яшчэ гарыць, але ў лазні ціха. Калі адчыніў дзверы, то ўбачыў, што Пранук задае храпака на палку. А ён, памыўшыся, прылёг адпачыць і заснуў моцным сном у цёплай лазні.

Быў у яго невялічкі кавалачак зямлі, на якім ён калі-нікалі штосьці сеяў. На гэты раз у яго было пасеяна жыта. Калі яно выспела, пачаў ён яго жаць памалу, баючыся, каб ніводнае зярнятка не высыпалася. Пры Польшчы быў такі гатунак жыта, які вельмі сыпаўся. Калі жыта вазілі з поля, то тарантасы засцілалі посцілкамі. Жаў ён паволі і кожны дзень патрошкі.

Вясковыя жанчыны параіўшыся і, рашыўшы, што ён будзе яго жаць да зімы, прыйшлі адным ранкам і, пакуль Пранук спаў, зжалі жыта, павязалі і паставілі бабкі. Толькі не накрывалі апошнім снапом, які пакінулі каля бабкі, бо жыта было з расой і павінна было высахнуць.

Устаў і Пранук. Пакуль ён памыўся, памаліўся ды чагосьці паснедаў — сонца ўжо паднялося высока. Прыйшоў ён на сваё поле і вачам не верыць: жыта ўжо пажата. Ну і хадзіў ён сагнуўшыся і лаяў таго, хто гэта зрабіў. Хоць і зерня было таго мала на зямлі, бо жанчыны зжалі жыта з расой, калі яно не так сыпалася.

Пранук мог беспамылкова прадказаць надвор’е на бліжэйшыя суткі і на бліжэйшы час, ведаў, калі будзе поўня і калі маладзік, якое будзе наступнае лета і зіма.

Вось такі быў у нашых краях чалавек.

## МІХАСЬ

Жылі Міхась з Марыляй у самай вялікай вёсцы Пастаўшчыны — Васіліны. У сям’і нарадзіліся два сыны і дзве дачкі. Мелі яны зямлі пры Польшчы. Пры вуліцы быў пасаджаны вялізны, як ні ў кога, сад. У садзе вяліся пчолкі, за якімі даглядала гаспадыня. Усюды, як у хаце, так і ў дварышчы, у агародзе адчувалася гаспадарская рука. У гародчыку каля хаты раслі прыгожыя кветкі.

Міхась у маладосці з’ездзіў у Злучаныя Штаты Амерыкі на заробкі. Вярнуўшыся, купіў зямлі, вывучыўся на ветэрынарнага фельчара. Але ён лячыў не толькі жывёлу. Да яго звярталіся і людзі з рознымі хваробамі, ён ім дапамагаў. Быў добры да людзей, сціплы, душэўны чалавек. За лекарскія паслугі ад людзей нічога не браў, хіба за лякарствы. Старэйшы сын ажаніўся, аддзяліўся ад бацькоў, побач з бацькоўскай сядзібай пабудаваў сваю хату. Старэйшая дачка выйшла замуж у другую вёску. Малодшы сын ажаніўся з дзяўчынай з суседняй вёскі і жыў у бацькоўскай хаце. Малодшая дачка, яшчэ незамужняя, таксама жыла разам з бацькамі.

Міхася, як і павялося ўжо ў Заходняй Беларусі, ветэрынарным доктарам ніхто не называў. Для ўсіх ён быў «канавалам», хаця яго ўсе моцна паважалі, бо ён быў вельмі добрым спецыялістам. Сям’я жыла пры Польшчы, можна сказаць, заможна. Пры Саветах ад Сібіры Міхася выратаваў калгас, куды яго сям’я ўступіла вясной 1941 года.

Міхась быў вельмі вялікі жартаўнік. Сваімі расказамі ён даводзіў слухачоў да слёз, але сам ніколі не смяяўся, захоўваючы толькі лагодную ўсмешку на твары. Ішоў час, гады бралі сваё, пастарэў і Міхась. Але гумар крочыў з ім побач. Калі зямелька яго пачала прыцягваць да сябе і ён пачаў хадзіць прыгнуўшыся, то яго можна было ўбачыць з дзвюма цаглінамі за спіной, звязанымі вяроўкай, якая была перакінута праз шыю. Так яму было быццам лягчэй хадзіць.

У вёсках пры Польшчы павялося так, што боты шылі са свайго матэрыялу. Было ў кожнай гаспадарцы жывёлы, было і скуры, якую ўмелі вырабляць спецыялісты-татары. А потым навучыліся рабіць гэтую работу і беларусы. Былі ў вёсках і шаўцы, і краўцы, якія з вырабленых аўчынак шылі кажухі, а са скуры — боты. Вось і ў Міхася з’явіліся новыя боты.

Набліжалася восень. Той год выдаўся вельмі ўраджайным на яблыкі. Марыля, ходзячы па садзе каля сваіх пчолак, заўважыла, што хтосьці наведвае начамі іхны сад, бо на некаторых яблынях былі паламаныя сукі. Людзі яны былі не скупыя, дзяліліся, чым маглі, з суседзямі і з вяскоўцамі. Але ж навошта ламаць сукі? Вось яна і папрасіла Міхася схадзіць ноччу павартаваць сад, і Міхась згадзіўся.

Задоўга да вячэры ён занёс падушку, прасціну і коўдру на стажок сена, які быў складзены ў садзе, зрабіў сабе пасцель. Міхась павячэраў, і калі ўжо добра сцямнела, ён абуў новыя боты і пайшоў на стажок. Ён зняў новыя боты і схаваў іх пад падушку. Сам палез пад коўдру і аддаўся мроям, якім спрыялі ціхі вечар і загадкавыя гукі ночы. Доўга не спалася Міхасю на новым месцы, многа чаго перадумаў, але усё ж сон яго адолеў. І прысніўся яму прыемны сон, што ён малады і ўдалы, прыйшоў на вечарыну, дзе многа прыгожых дзяўчат, і ўсе яны паказваюць на ягоныя новыя боты, а яму ад гэтага няёмка, і ён прачнуўся. Прыслухаўся — у садзе ціха. Памацаў боты пад падушкай, ёсць боты, і ён павярнуўся на другі бок і зноў даў храпака. А пад самую раніцу сон бывае самы моцны. Цяпер яго ўжо разбудзіў певень. Расплюшчыў вочы і падумаў: «Ці не пара ўставаць ды брацца за гаспадарку». Палез пад падушку за ботамі. Памацаў справа — няма ботаў, памацаў злева — таксама няма. У разгубленасці шыбануў падушку, яна паляцела са стажка — няма ботаў, скінуў далоў прасціну і коўдру — няма. Пачаў капацца ў сене, усё не верачы, што здарылася непапраўнае. Потым скуліўся са стажка сам, абабег вакол стажка разы са тры — няма ботаў.

— О, Божа, што ж рабіць? — думаў ён. — Як жа я пакажуся Марылі без ботаў? Вартаваў яблыкі, а боты з-пад галавы паперлі.

Азіраючыся па баках, ён пайшоў да будынкаў. «Ага, яшчэ ўсе спяць, што ж тут прыдумаць». І ён успомніў, што ў паветачцы пры хляве валяліся яго старыя боты. Знайшоў тыя боты, якія ўжо ссохліся і зморшчыліся, паляжаўшы без карыстання, але ж неяк насунуў, хаця і ціснулі.

Выйшла і Марылька на панадворак з кавалкам хлеба, зняла даёнку з плоту і накіравалася ў хлеў. Убачыла Міхася, але нічога падазронага не заўважыла.

— Ну, дык ці многа яблынь абкалацілі ў вартавога? — пытаецца Марылька.

— Смяешся з мяне, Марылька. Ты ж добра ведаеш, які я чуткі. Да мяне ні адзін злодзей не асмеліцца падыйсці. Я ж за кіламетр чую ўсе шолахі.

Прайшла восень, надыходзіць зіма. Ужо па-сапраўднаму трэба апранацца і абувацца. І Міхась пачынае «шукаць» свае боты, якіх даўным-даўно ўжо няма ў хаце. Вось Міхась і звяртаецца да жонкі:

— Марылька, табе выпадкова не пападаліся на вочы мае новыя боты? Штосьці не магу я іх знайсці.

Паднялася ўся сям'я на пошукі новых ботаў, якіх ужо ў хаце даўно не было, аб чым Міхась добра ведаў. Пераварушылі ўсю хату, усе куточкі і закутачкі.

— Не іначай, як хто ўкраў з хаты, — кажа Марыля.

— Ды не з хаты, а са стажка, — удакладніў Міхась.

Вось такі ён быў жартаўнік!

## НА ПАЛЯВАННІ

Запрасіў мяне аднойчы на паляванне мой сябра Генадзь. Паляўнічымі мы ніколі не былі і ружжаў не мелі. Але, каб крыху развеяцца пасля шумных школьных будняў, а гэта было ў час кароткіх асенніх канікулаў, мы вырашылі сустрэцца з цудоўнай беларускай прыродай восенню. Я ўзяў школьную малакалібровую стрэльбу, а Генадзь пазычыў у суседа паляўнічае ружжо.

Была першая палова лістапада. Свяціла сонейка, аддаючы скупое цяпло, па небе плылі баранчыкі-хмаркі, якія гнаў невялічкі ветрык. І вакол была такая цішыня! Большасць дрэў ужо скінулі свой залаты ўбор. Даўно адспявалі свае песні салаўі і жаўранкі. Ідзём па ўскрайку алешніку. Справа раскінулася вялізнае поле, пакрытае зялёным дыванам азімай руні. Калі-нікалі чуецца сакатанне сарокі — гэтай чуткай вартаўніцы лесу, ды стук дзятла — доктара дрэў. Настрой цудоўны. І нікога я не хачу забіваць! Няхай усё жывое цешыцца гэтым прыгожым днём і атрымоўвае асалоду ад жыцця.

— Дарэмна ты мяне ўзяў на паляванне, — кажу я Генадзю. — Я не буду страляць у зайца, а, наадварот, буду рабіць усё, каб ён уцякаў ад нас.

Глядзіць ён на мяне са здзіўленнем і пытаецца: «Чаму гэта?»

І я яму расказаў аб адным выпадку з майго дзяцінства, аб тым, у якіх абставінах я аднойчы сустрэўся з зайчыкам, пасля чаго пакляўся ніколі не крыўдзіць гэтых прыгожых, добрых і няшкодных боскіх стварэнняў. Было гэта на маёй радзіме. Павяліся ў мяне трусы з лёгкай рукі Кішко Мяфодзі, які жыў на першым хутары вёскі Васіліны. Купілі мы ў яго парачку беленькіх, з чырвонымі вочкамі, ангоравых трусікаў, з якіх я не мог нацешыцца. Тады ў модзе былі ангоравыя шапачкі, рукавічкі для дзяўчынак і шалікі для хлопчыкаў. Праз некаторы час мне прынёс яшчэ дзвюх простых самачак сусед Грынько Аркадзь. Адна была сівенькая, другая — белашыйка. Яны былі ўжо амаль дарослыя. Раслі мае трусікі, пладзіліся і ў хуткім часе я меў ужо цэлую трусіную ферму, якую трэба было накарміць. Улетку я хадзіў на поле збіраць траву, якую трусы любілі. А любілі

яны лісточкі адуванчыка, дзяцельнік і, канечне ж, канюшынку. Надышла восень, травы пажаўцелі, пасохлі. І я пачаў хадзіць на свой шнурок, дзе расла канюшына. Канюшыну ўжо двойчы касілі, і зараз тут расла атава, якую я і пачаў збіраць у кошыкі. Напоўніўшы адзін кошык, я пачуў сабачы брэх, які парушыў асеннюю цішыню. На полі ўжо нічога не было, хіба толькі і заставалася ў гаспадароў атава канюшыны ды дзе-нідзе яшчэ ляжала канюшына ў копах. Калі я падняў галаву, то ўбачыў удалечыні вясковага сабаку Рудзіка, які, няйначай, гнаў зайца. Гэта быў вялікі сабака Дзіковіча Міхаіла, якога яны не прывязвалі, бо лічылі яго «разумным». Ён дапамагаў пасвіць кароў, любіў шукаць у зямлі мышэй. Брэх сабакі набліжаўся да мяне. Спачатку гэтаму я не прыдаў увагі, думаў, і ў зайца ж ногі доўгія, уцячэ. Але ж і ў Рудзіка былі таксама ногі доўгія. Хутка ён быў ужо недалёка ад мяне. Раптам Рудзік закружыўся на адным месцы, мабыць, згубіў след, пачаў бегаць туды-сюды. Але дзе ж заяц? Вось у гэты час я і ўбачыў зайку. Ён прыбег да мяне за паратункам. Заяц прыціснуўся ў атаўцы да зямлі ад мяне за пяць метраў, вушкі прыклаў да тулава. Яго бакі часта ўздымаліся ад цяжкага дыхання. Ён вельмі замарыўся, яго заечая губа шырока раздзімалася. Ён глядзеў на мяне просячымі вачыма — «Не выдавай»! Я замёр. Рудзік і на самай справе згубіў след, а можа, пабаяўся падбягаць блізка да мяне, не зусім знаёмага яму чалавека. Ітак, Рудзік пачаў аддаляцца ад нас, а потым і зусім яго не стала чуваць.

Я стаяў і не варушыўся, бо зайчык усё яшчэ адпачываў на маіх вачах. Калі ўжо сабакі не было чуваць, зайчык падняў вушкі, страсянуў імі, і я зразумеў, што гэта ён падзякаваў мне за мае паслугі і павалі пачаў аддаляцца ад мяне. Шчаслівага табе падарожжа, зайка! Кажуць у народзе, што чалавек — самы страшны звер на Зямлі. Зайчык жа знайшоў паратунак у чалавека, прыбег да яго за дапамогай. І такая жальба навалілася на мяне, што я заплакаў і падумаў, што ўсім хочацца жыць на нашай цудоўнай планеце Зямля!

Пасля майго расказу Генадзю таксама перахацелася паляваць. Мы сабраліся ісці дамоў.

— Але ж, — кажа ён, — як мы будзем вяртацца з палявання з пустымі рукамі? Давай па дарозе звернем да Пятуха Антося.

Пятух Антось быў вядомы на ўсю акругу паляўнічы. Ён паляваў і на зайцоў, і на лісіц, і на шашкоў. Вось да яго мы і зайшлі. А ў яго ляжалі аж тры забітыя зайцы. Дык аднаго мы і купілі.

Прыйшлі мы ў вёску. Сустрэчныя віншавалі нас з поспехам. У хаце нас ужо чакалі жонкі. І кожнай хацелася бачыць свайго мужыка спрытнейшым.

— Дык хто ж пацэліў? — пытаюцца.

— А мы адначасова выстралілі, а хто пацэліў — невядома.

# ЖЫЦЦЁ… ЗА ТРЫ РУБЛІ!

З’явіўся гэты чалавек з сям’ёй у нашых краях у 1944 годзе, калі наша тэрыторыя была ўжо вызвалена ад немцаў. Гэта быў вельмі цяжкі для беларускага народа час. Людзі вярталіся на свае папялішчы пасля выгнання немцамі з партызанскай зоны на Казяншчыне ў 1943 годзе. Вёскі былі спалены, яравыя не пасеяны. Адно добра было, што раслі азімыя, ураджаю з якіх людзі не маглі дачакацца. Трэба было будавацца, шукаць насенне яравых, бульбы для наступнай вясны. Калі вясной 1945 года адны людзі бульбу садзілі, то другія наступнай ноччу капалі яе, бо хацелася есці. Але людзі памаленьку будаваліся, зажываліся, набывалі коней, кароў і іншую жывёлу.

Прозвішча гэтага чалавека было Неназваны, а імя — Адась. Па прозвішчы яго можна судзіць, што ён гадаваўся дзесьці ў дзіцячым доме, без матчынай і бацькоўскай ласкі. Калі ён вырас, знайшоў сабе сяброўку жыцця Ганну, ажаніўся з ёй, разам яны нажылі двух хлопчыкаў Віцю і Міцю. У арміі і на фронце ён не быў, бо некалі быў пакалечаны, кульгаў на левую нагу. Па нацыянальнасці яны былі беларусы з Усходняй Беларусі. Вось і пасяліліся яны сярод спагадлівых беларускіх сялян.

Прытулак іх быў незайздросны — старая лазня, якая калісьці належала асадніку Якубіку. Дома ўжо не было. Ён быў перавезены яшчэ ў 1940 годзе ў суседнюю вёску на школу. Адась у лазні зрабіў печ, прарэзаў вакно, вось так і жылі. Зямлі асадніцкай хапала, бяры колькі хочаш, абы толькі была сіла яе апрацаваць. Калгасаў да 1950 года не было. Адась набыў коніка, многа ён зямлі не браў, бо з адной нагой цяжка было працаваць.

Адась быў спакойны чалавек, непрыкметны, але працалюбівы. Жылі бедна, як і ўсе людзі ў той час. Я не памятаю, ці была ў іх карова. Хлопчыкі малыя сілкаваліся рулямі, магчыма, разведзенымі толькі на вадзе, аб чым расказвалі суседзі, якія наведвалі іх. Не было і міскі ў іх, а было выдзеўбленае з дрэва карытца. Людзі спачувалі ім, дапамагалі чым маглі.

Найбольшым багаццем для Адася быў конь. Да яго часта звярталіся людзі, у якіх яшчэ не было коней, каб прывезці дроў, узараць ці пасеяць. Прасілі яго падвезці на кірмаш у Паставы, бо аўтобусы тады не хадзілі яшчэ. На кірмашы ён дапамагаў гараджанам прывезці які-небудзь тавар з рынка. Калі-нікалі вазіў і дровы прадаваць.

Аднойчы, калі ён быў на кірмашы ў Паставах, адзін гараджанін папрасіў яго падвезці купленага ім парсюка на Вакзальную вуліцу. Адась згадзіўся падвезці за 3 рублі. Пераставілі з воза на воз драўляную клетку з парсюком і паехалі. Гэта было каля двух кіламетраў язды. Прыехаўшы на месца, гаспадар разлічыўся з ім. «Траяка» ў гаспадара не было, і ён разлічыўся рублямі.

Суседка гаспадара, які купіў парсюка, бачыла ўвесь торг і разлік і прыдумала страшны план: раз ён прадаў парсюка, значыць, у яго ёсць многа грошай. Вось яна і выйшла на вуліцу насустрач Адасю, прыхапіўшы з сабой кошык, у які загарнула ў хусцінку і сякерку.

— Дзядзечка, ці не падвязеш мяне крыху, хачу грыбкоў пазбіраць?

— Сядай, чаму ж не падвязу, — адказаў добразычлівы Адась. — Сядай побач, весялей будзе.

— Ды не, мне лепш падабаецца сядзець ззаду.

— Ну як хочаш.

Завялі такую-сякую гаворку. Каб не вяртацца праз горад на бойкую дарогу, Адась паехаў па прамейшай дарозе на Азёркі, якая ішла лесам.

Ад’ехаўшы нейкі кіламетр ад чыгуначнай станцыі, яна пачала падбіраць зручнае месца. Дарогай гэтай мала хто ездзіў, што было добра для яе задумы. Дарога была прамая, далёка было відаць і спераду, і ззаду. Нідзе нікога няма, толькі лес шуміць. Вось тут яна і секанула Адася па галаве, пырснула кроў. І тут ён адваліўся назад.

Яна ўхапіла лейцы і скіравала каня ў лес. Заехаўшы ў зацішнае месца, яна пачала шукаць грошы. Тры рублі яна знайшла ў левай кішэні кашулі і выкінула іх, як непатрэбную рэч. А дзе ж грошы? Яна перапарола ўсе кішэні, зняла боты, распранула да голага цела. Няма! І сама сабе не верыць, перашукала яшчэ і яшчэ раз. Няма! Прывязала каня да дрэва і хутчэй падалася ад гэтага месца. Глянула на 3 рублі і не падняла іх. Адышоўшыся, напаткала лужыну, дзе памыла сякеру. На кроплі крыві, што пырснулі на яе цёмную жакетку, яна не звярнула ўвагі.

Праз пару дзён людзі, шукаючы грыбы, знайшлі коніка, прывязанага да дрэва, кару якога ён абгрыз з голаду, а на возе мерцвяка з рассечанай галавой. Са станцыі пазванілі ў міліцыю, якая тут жа прыехала. Пачалося следства. Апытвалі жыхароў Вакзальнай вуліцы, якая была яшчэ рэдка заселена. Выявілася, што нехта некага бачыў, і ніточка пацягнулася да суседкі купца. Зрабілі вобыск, знайшлі сякеру з не зусім адмытай крывёй і жакетку са слядамі крыві. Жанчыну пасадзілі. На судзе я не прысутнічаў, прысуду не памятаю, толькі ведаю, што пакаралі строга.

Хавалі Адася ўсім светам. Вяскоўцы сабралі грошы і купілі касцюм. З сабраных дошак мужыкі зрабілі труну. Засталася ўдава і з ёй два хлопчыкі — сіроткі, чатырох і шасці год. Вось так трагічна скончыўся жыццёвы шлях Адася. Сам галодны і халодны, ён хацеў штосьці для сям’і прыдбаць, стараўся, як мог. Але ж падвярнулася баба са звярыным сэрцам. Нашы вяскоўцы дапамагалі адзін аднаму будавацца, ладзілі талокі, пабудавалі б і яму дом, ды ён не дачакаўся. Давялося легчы ў дашчаты домік.

# АБ АДНОЙ СЯМ’І

Жыла ў вёсцы сям’я ў складзе старэйшай сястры Крыстыны, брата Андрэя і малодшай Фаіны. Бацькоў ужо не было, памерлі. Зямелькі было малавата. Жылі ў невялічкай хатцы, пабудаванай яшчэ бацькамі. Дзяўчаты хадзілі ў наймічкі, а Андрэй пасвіў вясковых коней. Мелі яны кароўку, свінак, курак, а таксама агарод. На трох палях мелі па шнурочку зямлі.

Андрэй нарадзіўся ў час Першай сусветнай вайны. Праз нашу мясцовасць праходзіла лінія фронту. У вёсцы стаялі рускія войскі. Цяжка жылося ўсім. І калі Андрэй крыху падрос, то бацькі адправілі яго ў вёску да людзей прасіць хлеба. Вучылі яго, што трэба сказаць, прыйшоўшы ў хату: «Добры дзень. Дайце, калі ласка хлеба» і ў канцы «Дзякуй». Андрэй, прыйшоўшы ў хату да аднавяскоўцаў, усё гэта вымаўляў залпам, а потым стаяў моўчкі і чакаў, пакуль што дадуць. У той час усе былі бедныя, але ж дзяліліся, чым маглі.

Крыстына была невысокага росту і прыгажосцю не вызначалася, але была вельмі працавітая. У Андрэя была пакалечана рука, не разгіналася кісць. Але мог усё рабіць — і касіць, і араць. Хлопец быў дужы, але вельмі ўжо маўклівы. А Фаіна, маладзейшая сястра, была прыгажуня. Заляцаліся да яе хлопцы, але ж яна была бедная, малазямельная. Было гэта пры Польшчы, калі зямля была самым дарагім набыткам селяніна. Крыстына выходзіла ўжо з дзявочага ўзросту, ніхто замуж не браў усё па той жа прычыне — бедная. А да Фаіны прыехаў сватацца Мікалай, удавец з суседняй вёскі, у якога нядаўна памерла жонка, а дзеці засталіся малыя. Ён быў старэйшы за Фаіну на некалькі гадоў, невысокага росту, прыгажосцю таксама не вызначаўся, але ж спадзяваўся, што ягонае багацце яму дапаможа ўзяць прыгажуню. Але ён памыліўся: Фаіна за яго не пайшла, не вабіла яе і багацце. Не захацела з нялюбым жыць, не дазваляла ёй яе дзявочая годнасць. І ніякія ўгаворы не дапамаглі.

Тады азвалася Крыстына: «Бярыце мяне за жонку. Буду і добрай жонкай, і маці, і гаспадыняй». І Мікалай яе ўзяў.

Засталіся ў хаце Андрэй з Фаінай. Фаіна не спяшалася. З ёй пачаў сустракацца нават настаўнік. Але ж, напэўна, у настаўніка былі бацькі. Як яны маглі ажаніць сына, ды яшчэ настаўніка, з батрачкай?

Вось так і жылі брат з сястрой. Андрэй мала калі заставаўся дома, заўсёды быў у пасьбішчы. Кармілі яго па чарзе гаспадыні, у каго былі коні, куды ён і прыходзіў днём. Пасьбішча было абгароджана загарадкай з калючага дроту, якая рамантавалася ранняй вясной, калі коні стаялі яшчэ ў хляве. Трэба было замяніць падгніўшыя калы, нарыхтаваць прабойчыкаў для замацавання дроту на кожным кале. А даўжыня загарадкі дасягала 5 кіламетраў, так што работы Андрэю хапала.

Для адпачынку і каб схавацца ад дажджу ў дрэннае надвор'е, у яго была саламяная будка ў паросшым маладым алешнікам урочышчы Барок. Перад ноччу трэба было праверыць, ці не парваны дзе дрот, для чаго Андрэй рабіў абход. Вясной з пасьбой не было ніякіх праблем, бо травы хапала. А ўлетку, асабліва ў засушлівыя гады, трава не расла, коні лезлі пад дрот, каб ушчыпнуць яе з памежка, разрывалі загарадку, урываліся ў збажыну, рабілі шкоду. Калі побач аўсом пахла, зноў знаходзілі слабое месца ў загарадцы і прарываліся, хаця і былі ўсе спутаныя. Вось у такія засушлівыя гады гаспадары вадзілі сваіх рабочых коней на начлег у тыя месцы, дзе была трава, бо на галодным кані многа не наробіш. Былі выпадкі, калі ваўкі душылі старых коней або маладых жарабят. За ўсё гэта прыходзілася адказваць Андрэю. Але ён быў сумленны чалавек і стараўся не дапусціць падобных здарэнняў. Плацілі яму вяскоўцы ў канцы года па пуду жыта.

Фаіна ўсё ж дачакалася свайго шчасця, якое прыйшло з суседняй вёскі. На яе «багацце» прыйшоў да яе ў прымы такі ж самы багацей, як і яна сама. Звалі яго Яська. Але ж ён быў малады ды вясёлы і спадабаўся ёй. Яська быў працавіты чалавек і хутка пабудаваў сабе хату. У вёсцы ён праславіўся вырабам тарантасаў, якія ўжываліся для перавозкі сена і снапоў збожжавых. І, нягледзячы на сваю беднату, ён другім у вёсцы купіў радыёпрыёмнік, які працаваў на батарэях, што было рэдкасцю пры Польшчы. Калі-нікалі рабіў самагоначкі, і тады цэлы тыдзень у яго было свята. Але гэта было толькі ўзімку, калі не было пільных работ. Выпіўшы, нічога дрэннага не рабіў, а любіў прагуляцца па вёсцы з песняй «Трансваль, трансваль…» Яго часта можна было бачыць сярод моладзі, якую ён любіў, дзе ён расказваў розныя небыліцы. Не любіў, калі яго хтонебудзь перабіваў або папраўляў, ды не дай Бог называў дураком. Тады ён кідаўся да яго з кулакамі з пагрозай ударыць. Але варта было толькі сказаць: «Ды не, я ж не казаў, што ты зусім дурны, бо ёсць жа за цябе дурнейшыя», — і ён згаджаўся. Не чувалася, каб ён з кім падраўся, але проста любіў трымаць свой гонар. З жонкаю таксама жыў мірна. Аднойчы, калі вечарына зацягнулася да раніцы, хтосьці яго пакрыўдзіў. Пабег дамоў за сякеркай. Убачыўшы гэта, жонка бегла за ім і прасіла, — «Апомніся, што ты робіш?» А ён да яе: «Баба, адчапіся! Ды і хто ты такая, і як тваё прозвішча?» І калі вярнуўся на вечарыну, то ён «забыўся», з кім меў справу, і казаў: «Ага, уцёк. Я б яму паказаў, дзе ракі зімуюць!» А калі з жонкаю трапляў у кампанію і яна папярэджвала яго, каб больш не піў, ён казаў: «Гэта апошняя, і паглядзім, што з мяне атрымаецца». Але ніхто і ніколі не бачыў, каб ён zваліўся.

Сярод маладых хлопцаў у вёсцы быў Федзя, які быў вельмі вынаходлівы, рухавы і жартаўлівы. Неяк ён даведаўся, што Яська зрабіў

гарэлкі, і напрасіўся да яго ў госці. А той, добрая душа, запрасіў усю кампанію. Было гэта адразу пасля вайны, калі не было ў хаце і патрэбнага посуду. Запалілі курадымачку, якая сілкавалася авечым лоем. Яська прынёс бачонак гарэлкі на стол. А ў што наліць? Ні бутэлькі, ні шклянкі ў хаце няма. Знайшлі ў стале міску і некалькі лыжак. А закусіць таксама няма чым. Успомніў Яська, што жонка саліла агуркі. Пабег у варыўню. Там цёмна. На дварэ навальніца. Маланка міргне, тады ўсё відаць. І просіць Яська маланку: «Маланачка, паміргай, дам агурок!» Прынёс агуркоў, уладкаваліся на лаўках вакол стала і пачалі баляваць.

Вось так і жылі мужык з жонкаю і радаваліся жыццю, хаця яно і было вельмі цяжкае. Жылі і кахалі адзін аднаго, нажылі трох хлопчыкаў. Самага малодшага звалі Янка. Давялося пачуць расказ настаўніцы, якая вучыла яго ў першым класе. Тэма была: «Знаёмства з літарай Р». Азнаёміўшы з літарай і гукам Р, яна прыступіла да чытання слова РАМА, якое было ў буквары. І так чытае Янка слова РАМА: «ры-а-ра, мы-а-ма». Тут Янка задумаўся. «А як будзе разам?» — пытаецца настаўніца. Янка падняў вочы на сталяванне і выпаліў: «КУРЫЦА». Настаўніца ад смеху чуць не завалілася. Справа ў тым, што ў буквары раней было слова КУРЫ. Вось ён і ўспомніў яго, ды недакладна. І казала настаўніца: «Як зайду ў клас і гляну на Янку, так смех мяне і разбірае».

Прайшоў час, хлопчыкі павырасталі, скончылі Пастаўскую сельскую прафтэхвучэльню і былі добрымі механізатарамі.

Ажаніўся і Андрэй з Агатай. Пра яго маўклівасць я ўжо казаў. Калі ехалі за сем кіламетраў у сельсавет на роспіс, то толькі адзін раз загаварыў да «маладой»: «Ці цёпла табе?» Аб гэтым расказаў Зянон, сусед Андрэя, які вёз іх. А калі вярнуліся дамоў і селі за небагаты стол, які быў накрыты ў гонар такой падзеі, Андрэй выпіў чарку, у яго развязаўся язык і ён пачаў гаварыць: «Ежце, ежце, госцікі. Чым багаты — тым і рады».

Выхавалі з жонкай сына, які таксама стаў механізатарам, жаніўся з дакторкай-тэрапеўтам.

У Крыстыны сваіх дзяцей не было, але яна палюбіла сірот, а яны яе. І жыла яна з Мікалаем у дружбе і згодзе.

# КОСТУСЬ

У сям'і Міхаіла і Марылі было пяцёра дзяцей: тры хлапцы і дзве дзяўчыны. Дзяўчаты, Манька і Гроня, павыходзілі замуж за вясковых хлопцаў. Бацька Міхаіл рана памёр, не дасягнуўшы старэчага ўзросту. Хлопцы, Костусь, Арсень і Мікалай, жылі з мамай. Кожнаму пара б ужо і жаніцца, але куды прывядзеш жонку. Хаты будаваліся вялікія, ды не перагароджаныя: тут і спальня, і сталовая, і кухня. Праўда, Костусь прывёў сабе жонку Насцю, але яна не вытрымала абставін і ўцякла ў сваю вёску да мамы.

Костусь быў здаровы мужык. Голас яго быў грубы, хрыпаваты, гаварыў ён важна, з расцягненнем кожнага слова. Ён рэдка ўсміхаўся, быў вельмі стрыманы, але заўсёды мог сказаць такое, што ўсім было смешна. Вось чаму да іх у хату збіраліся не толькі маладыя хлопцы, але і пажылыя мужчыны. Тут можна было сыграць і ў шашкі, і ў карты, і пажартаваць, і расказаць быль і небыліцу. Была ў Костуся адна загана — улетку не мог пераносіць спякоты, затое зімой ён насіў у любы мароз гумовыя боты.

Было гэта на Каляды, калі ўжо сонца хілілася да захаду і мароз мацнеў. На вуліцы было не менш трыццаці градусаў з мінусам. Зноў мужыкі сабраліся да Марылі ў хату, якая была размешчана ва ўсходнім канцы вёскі. І размова зайшла пра мароз.

— Што гэта за мароз? Я босы прайду праз усю вёску, — кажа Костусь.

— Бягом ці шагам? — пытаюцца.

— Шагам, — адказаў Костусь.

І заклаліся на адзін літр гарэлкі.

І вось ён скідае свае гумовікі, распранаецца да камізэлькі і без шапкі выходзіць на вуліцу. За ім выйшлі ўсе з хаты, каб паглядзець на гэты цуд. Яго сябры неслі ягонае адзенне і абутак. Усе, хто быў перад ім на вуліцы, убачыўшы босага чалавека, раздзетага і без шапкі ў такі мароз, уцякалі і запіраліся ў сваіх хатах. Прайшоў ён з канца ў канец вёску — гэта каля аднаго кіламетра, апрануўся ў прынесенае адзенне і абутак, і ўсе пайшлі распіваць выйграны літр гарэлкі.

А ў цёмную асеннюю ноч хлопцы зноў заклаліся, рашылі знайсці адважнейшага з адважных, таго, хто сходзіць адзін на вясковыя могілкі. Але як даказаць, што ён там быў? Ён павінен быў прынесці з могілак крыж. Гэта ўжо было глумленне над святым месцам, над памяццю тых, хто некалі жыў тут, у гэтай вёсцы. А можа думалі, што не знойдзецца такога? Могілкі былі размешчаны на высокім месцы каля Дзісенкі, дзе раслі векавыя дрэвы, якія захаваліся тут ад былага некалі лесу. А ўвесь круты бераг ад могілак і да самай ракі быў парослы алешнікам. Тут і днём аднаму было журботна.

Зноў азваўся Костусь, ён пайшоў і прынёс крыж, і паставіў яго пад вакно адным баптыстам. Баптыстаў у вёсцы было многа, і людзі хадзілі ў іх малітоўны дом і бачылі, што яны не жагнаюцца, малітву мовяць заплюснуўшы вочы, не прызнаюць крыжа. Вось ён і прынёс ім крыж пад вакно.

Назаўтра крыж быў занесены на месца і пастаўлены.

Крыху пра вясковыя могілкі. Памерлым ставілі крыж, спачатку невялікі, а потым стараліся паставіць вялікі дубовы, пакуль тыя дубы яшчэ раслі ў лесе. А як іх не стала — рабілі яловыя або сасновыя. Маленькім дзеткам ставілі невялікі крыж. Магілы дагледаліся роднымі на Радаўніцу вясной і на Асяніны восенню. Помнікі былі не ў модзе, металічныя абгародкі таксама, а можа, і тое, і другое было задорага для селяніна, бо гэта было яшчэ пры Польшчы ў Заходняй Беларусі. Драўляныя крыжы былі недаўгавечныя, хоць і дубовыя. Калі крыж завальваўся, яго стараліся падняць і паставіць на месца, калі яшчэ было гэта каму зрабіць. Мяняліся пакаленні, магілы прыходзілі ў заняпад і ў нябыт, а новага кавалачка зямлі людзі не асмельваліся аддаць пад могілкі. Вось і атрымоўвалася, што калі аднаго хавалі, костачкі выкопвалі другога, якога потым прыходзілася другі раз хаваць разам з памерлым.

Другі раз Костусь за крыжам схадзіў, калі хлопцы ішлі позняй ноччу з вечарыны з суседняй вёскі. Праходзячы міма могілак, сябры зноў спакусілі яго зрабіць гэта. І ён пайшоў. Знайшоўшы крыж, які яму быў даспадобы, ён пачаў шастаць крыж узад-уперад. Спачатку крыж не вельмі паддаваўся гэтаму, быў глыбока ўкапаны, але ж у Костусевай сіле меры не было. І што далей, то лягчэй было яго шастаць. Калі крыж ужо амаль вылазіў з зямлі, хтосьці ззаду схапіў яго за пінжак. І тут аўтаматычна спрацаваў яго розум — ў сотую долю секунды ён скінуў з сябе пінжак і дай Бог толькі ногі, як ён апынуўся каля сяброў, якія чакалі яго за метраў дзвесце ад могілак. Толькі і змог сказаць дрыжачым голасам ад страху: «Уцякайце!» І ўсіх як ветрам здула.

Раніцай ужо ўся вёска ведала аб здарэнні. Зараз ужо і днём Костусь баяўся ісці на могілкі, пайшлі ўсёй грамадой. І што ж яны ўбачылі: крыж, які хацеў выцягнуць Костусь, ляжаў на суседняй магіле, на якой стаяў другі крыж з Костусевым пінжаком на цвіку. Магчыма, там некалі вісеў абразок. І хоць могілкі непрыстойнае месца для смеху — але людзі не стрымаліся. А Костусь стаяў разгубіўшыся і не ведаў, што рабіць з пінжаком, браць яго ці не. Крыж паставілі на сваё месца, і больш ніхто і ніколі не рабіў гэтага. У канцы Костусь сказаў: «Даруй, Божа, і даруй, чалавечак, што я парушыў твой вечны сон і спакой». І перажагнаўся тры разы.

Ішоў час, мяняліся ўлады адна за другой, пачалася вайна. Пры немцах Мікалай пайшоў служыць у паліцыю. У 1942 годзе яго рас-

стралялі партызаны. Арсень прапаў без вестак. А Костусь у званні старшага лейтэнанта ў 1945 годзе загінуў пад Прагай. А Насця, Костусева жонка, выхавала сына Яўгена, які скончыў архітэктурны факультэт універсітэта, працаваў галоўным інжынерам раёна, узяў сабе за жонку медсястру, пабудаваў дом у раённым цэнтры. Зараз ён на пенсіі. І, як кажуць, увесь у бацьку: і голасам, і манерай паводзін, і жартам.

## ГОГА

Вайна скончылася ў нашых краях у 1944 годзе. Былых радавых партызан адпраўлялі на фронт, а камандзіраў ды начальнікаў пакідалі ўсталёўваць савецкую ўладу на месцах. На фронт нікому не хацелася ісці пасля цяжкіх умоў партызанскага быту і блукання па лясах. Туды ішлі сумленныя людзі, якія гінулі там або вярталіся пакалечанымі. Былі і такія, хто лічыў, што лепш схавацца ад уладаў, пераседзець ваеннае ліхалецце і дачакацца перамен. Ведаю два выпадкі, калі бацькі ратавалі сваіх сыноў ад вайны, хавалі ў халодных памяшканнях, у таках ды зямлянках, ад чаго яны пахварэлі сухотамі і памерлі. Вось і як не паверыць у лёс чалавека: дзе б ты ні быў, а смерць цябе знойдзе.

Была і такая група людзей, якія хацелі адстаяць незалежнасць Беларусі пасля польскай, савецкай і нямецкай акупацыі са зброяй у руках. Яны ведалі, з кім уступаюць у паядынак свядома, аддавалі свае жыцці або пакутавалі ў савецкіх лагерах смерці.

І апошняя група людзей — гэта мярзотнікі, якія хацелі нажыцца за кошт і так бедных тады людзей. Вось пра аднаго з іх я і хачу расказаць. Звалі яго Гога. Я не ведаю паходжання гэтага слова, толькі ведаю тое, аб чым гаварылі людзі. Ён быў з былых партызан. Спадабалася яму рабаваць там, і тут ён застаўся працягваць сваю брудную справу. Дзе ён жыў, ніхто не ведаў. Толькі людзі ведалі, што ён у доўгія зімовыя ночы прыязджаў на кані, запрэжаным у сані. Напэўна ж, былі і напарнікі. Слядоў ён не пакідаў, па свежым снезе не ездзіў, ездзіў па добра ўезджанай дарозе. Тады зброі ў людзей хапала, ды і сам жа быў у партызанах, назапасіў. Чуў размову аднаго вяскоўца: «У вёсцы зброі столькі, што канём не вывезеш». Напэўна той, хто гаварыў, меў нейкую падставу. Хаця многія здавалі зброю ўладам, але ж і вёска была вялікая, больш сотні двароў. А адзін былы партызан нават «забыўся», дзе схаваў пісталет. Калі перакрывалі саламяны дах у хаце, тады і знайшлі забыты пісталет.

Ітак, гэты Гога стаў бандытам, пра якога загаварыла ўся ваколіца. Рабаваў бедных сялян, якія толькі-толькі пачыналі жыць, вярнуўшыся ў пустыя хаты ў 1944 пасля выгнання немцамі ў 1943 годзе.

Добра, што былі пасеяны азімыя, якія не далі сялянам памерці з голаду. Гэта была для іх адна радасць і збаўленне. Людзі не маглі дачакацца свежага хлеба, зрывалі недаспелыя каласкі, сушылі, таўклі ў ступе і пяклі хлеб. Гога ездзіў начамі па вёсках і выграбаў гэту апошнюю радасць. У майго дзядзькі Федзі Мішуты, які жыў ад нас на адлегласці тры кіламетры на хутарах Навасёлкі, быў недабудаваны другі канец дома, у якім ён захоўваў жыта. Глыбокай ноччу бандыты прыехалі на санях, адарвалі дошкі з забітага вакна, дзверы ў хату падперлі калом і выграблі да дна 18 пудоў жыта. У хаце не чулі, а можа і чулі, ды пабаяліся перашкодзіць бандытам, бо ведалі, што там былі ўзброеныя людзі, з якімі лепш не сустракацца. Вядома, што перад гэтым Гога заходзіў да іх «пагрэцца» ці закурыць і высачыў той кубел з зернем. Дзядзька Федзя заявіў уладам, але яны нічым не дапамаглі. Сляды былі толькі да дарогі, дзе яны зліліся з уезджанай дарогай. Следчыя органы збіліся з ног, шукаючы Гогу і яго хаўруснікаў. Заняліся імі і органы КДБ. Яны вызначылі, што Гога дзесьці хаваецца на хутарах каля Казянскіх лясоў, дзе ён калісьці партызаніў. І вось два маладыя афіцэры КДБ пачалі правяраць тыя хутары. Праверылі ўсе, застаўся адзін, апошні хутар. Яны не хацелі ўжо туды і ісці, але ж можа ён там? І яны пайшлі. За метраў 200 ад хутара яны сустрэлі жанчыну з таго ж хутара, якая сказала ім, што ў хаце нікога няма, а яна ідзе па справах да суседзяў. Але афіцэры заўважылі на твары жанчыны нейкую разгубленасць, страх, і яны пайшлі.

Хата была не замкнёна, і гэта насцярожыла афіцэраў. Чаму жанчына сказала, што ў хаце нікога няма, і не замкнула хату на замок, які вісеў на дзвярах? Яны падрыхтаваліся да горшага. Асцярожна адчынілі дзверы ў сені, адзін з іх так жа асцярожна пачаў адчыняць дзверы ў хату, і тут з-за каптура печы прагучаў выстрал, які быў смяротным для таго, хто адчыняў дзверы. Другі афіцэр затуліўся за сцяну і пачаў чакаць і слухаць, што адбывалася ў хаце. Неўзабаве ён пачуў, што адчынілася вакно. Гога рашыў уцякаць у лес, які быў побач. Калі ён пабег, афіцэр пачаў крычаць «Стой», але Гога не слухаў і пачаў адстрэльвацца уцякаючы. Тады афіцэр пачаў страляць яму па нагах і параніў левую нагу вышэй калена. Гога скуліўся ў глыбокі роў і адтуль зноў пачаў страляць. Завязалася перастрэлка. Пачуўшы страляніну, на дапамогу афіцэру прыбеглі яго саслужыўцы з суседніх хутароў, якія там таксама шукалі Гогу. Застрэліцца ў яго не было смеласці, ды і патроны скончыліся. Тут ён падняў рукі ўгору. Афіцэр надзеў яму наручнікі, загадаў перавязаць яму рану, а сам пабег да свайго сябра ў сені, каб аказаць яму дапамогу, але яго сябру дапамога ўжо была не патрэбна — пульсу ўжо не было.

Вывелі з хлява каня, запрэглі ў сані, на якіх Гога ездзіў «на заданні», палажылі памерлага, а побач пасадзілі і параненага. Завезлі

афіцэра ў мястэчка Відзы, якое тады было раённым цэнтрам, там і пахавалі з усімі армейскімі пашанамі. Засталася маладая ўдава з аднагадовым хлопчыкам.

Па справе Гогі вялося следства, а потым адбыўся і суд. На суд прыйшла і жонка забітага афіцэра, якая заявіла: «Хачу паглядзець на забойцу майго мужа». І тут жа яна выхапіла пісталет і разрадзіла яго ў Гогу. Я не ведаю, ці судзілі яе за гэта.

## СТАРАВЕРЫ

Стараверы з'явіліся ў Беларусі яшчэ ў часы патрыярха Нікана каля 1655 года. Гэта былі рускія людзі, якія не хацелі мяняць сваёй веры. Вось і ўцякалі з Расіі. Свой прытулак яны знайшлі ў Беларусі, якая ў той час называлася Вялікім Княствам Літоўскім (ВКЛ). У ВКЛ была гуманная палітыка да людзей рознай веры. Вялікі князь Вітаўт у канцы XIV стагоддзя дабрадушна прыняў татараў, запрасіўшы іх да сябе на службу. Яны цанілі Вітаўта за добрае стаўленне да ісламу. Татары прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве. У XIV стагоддзі, калі ў Заходняй Еўропе пачаліся масавыя праследаванні габрэяў, яны таксама знаходзілі прытулак у ВКЛ.

Пасяліліся старaверы на левым беразе нашай Дзісенкі. Там яны пабудавалі аж чатыры вёскі: Ваяціна, Ваўкі (хутары), Грыгараўшчына і Пента. Былі іхныя вёскі і ў другіх месцах Пастаўскага раёну. Насупраць нашай вёскі былі хутары Ваўкі. Калі мы яшчэ былі малымі, то, седзячы на процілеглых берагах ракі, любілі весці са сваімі равеснікамі не зусім прыемныя размовы. Мы празывалі іх «маскалямі», а мы для іх былі «палякі», з націскам на апошнім складзе. Потым мы яшчэ штосьці прыбаўлялі: «Маскаль, маскаль … (нешта) … пляскаў». Яны нас абзывалі «еретиками», «бесами космоногими» і гэтак далей. Але гэта было толькі ў дашкольным дзяцінстве. Яны таксама прыходзілі вучыцца ў Антанова ў польскую школу. Я нават пасябраваў з адным «маскальком», якога звалі Няопіем. Потым прыходзілі яны і ў савецкую школу, ужо ў нашу вёску. Да вайны мы вучыліся на беларускай мове. Руская мова была толькі як прадмет. Цяжка было нам пераходзіць на рускую мову (як і пры Польшчы — на польскую), а рускім — «маскалькам» — на беларускую. Быў такі выпадак, калі настаўніца ў першым класе вывучала з вучнямі літару «Б». Там для замацавання было слова «боты». Вось і чытае гэтае слова адзін маленькі Парфілій: «Бы-о-бо, ты-ы-ты». «Ну, а як разам?» — пытаецца настаўніца. — «Сапоги», — адказаў Парфілій. Памятаю адну дзяўчыну Марфуту. Яна хадзіла ў чацвёрты клас, але з выгляду была — хоць заўтра аддавай замуж. Быў урок геаграфіі, на дошцы была павешана фізічная ка-

рта СССР. У Паўночным Ледавітым акіяне было пазначана самае глыбокае месца ў сіні колер, мялейшае месца — у блакітны, і самае мелкае, каля берагоў, — у белы. Настаўніца пытаецца ў Марфуты: «Што азначае белы колер каля берага мора?» — «Там, знашта, фарфор добывают», — адказала яна. Мы ўсе зарагаталі.

Потым, калі мы падраслі, мабыць і паразумнелі, хадзілі да іх на вечарыну — «игрище» па-іхнаму. Прыгожыя былі «масковачкі»! Гэта былі карагоды з іхнымі песнямі. І я іх за гэта вельмі цаню, што яны захавалі свае звычаі, мову, культуру, жывучы ў другім асяроддзі на працягу стагоддзяў. Карагоды спраўляліся толькі да заходу сонца. Хлопцы і мужчыны не курылі, тытунь лічылі «чортавым зеллем».

Па нядзелях збіраліся яны ў маленную — іхную царкву, якая была пабудавана ў вёсцы Грыгараўшчына. Быў і звон, які напамінаў людзям, што пара збірацца на маленне. Жагналіся яны, у адрозненне ад праваслаўных, «у два пальцы». Святара прызначалі (выбіралі) самі з больш-менш адукаваных людзей. Захаваліся ў іх і кнігі Святога пісання.

Усе яны мелі зямлю і займаліся сельскай гаспадаркай. У святы і ў вольны ад працы час яны лавілі рыбу ў Дзісенцы. У кожнага гаспадара была лодка-«душагубка», выдзеўбленая з тоўстай асіны, якая ў той час яшчэ вадзілася ў Казянскім лесе. Некаторыя называюць гэты лес Плятарскім ад прозвішча памешчыка Плятара, які ім некалі валодаў. Была і вёска Плятарова, недалёка ад якой ва ўрочышчы Пустошка была пабудавана фабрыка па вытворчасці кардону. Лодку называлі «душагубкай» таму, што вельмі кулялася. Але кожны старавер быў вельмі спрактыкаваны ў ваджэнні лодкі, быў майстрам сваёй справы. Яны адчувалі сябе ў гэтай лодцы, як рыба ў вадзе. Стоячы на карме лодкі, старавер пры дапамозе аднаго вясла кіраваў ёю: закідваў сетку, потым выцягваў яе ўжо з рыбай, выліваў ваду пры дапамозе чарпачка, зробленага таксама з асіны.

Выязджалі лавіць рыбу групамі па 5–6 чалавек. Сеткі выраблялі самі. Сеткі закідвалі на адлегласці метраў 20 адзін ад аднаго. Потым выстройваліся ў адзін рад па шырыні ракі і доўгімі боўткамі (доўгі шост з булдавешкай на канцы) заганялі рыбу ў сеткі. Потым кожны плыў да сваёй сеткі і выбіраў з яе рыбу. Для нас, малых, гэта быў самы цікавы момант. Мы іх суправаджалі, пакуль яны не адплывалі далей ад вёскі. Пападалася ў сеткі толькі буйная рыба, а малая пралазіла праз сетку. Лавілася плотка, чырванапёрка, акунь, лінь, шчупак, язь, лешч і галавень. Мог папасціся і невялікі самок.

Старaверы былі добрымі, сяброўскім людзьмі. Насупраць нашай хаты за рэчкай знаходзіўся хутар Пазнякова Дзянёса. На процілеглых берагах Дзісенкі былі пастаўлены прыстані, наша і іхная, для паласкання бялізны жанчынамі. Пасябравала мая мама з

Дзянёсіхай. У іх было прынята так называць жонку па мужу. А яна маю маму называла Сямёнаўна (па бацьку). Мой бацька сябраваў з Дзянёсам, які часта прыходзіў да нас «на сяло». Яны нам пасля добрага ўлову прыносілі рыбы, а мама частавала іх агуркамі, якія ў нас вяліся да самай вясны.

Гэта былі добрыя, душэўныя людзі. У іх было двое (пры маёй памяці ўжо дарослых) дзяцей: Еўграфій і Фроська. Пасля 17 верасня 1939 года ў Казянах, якія знаходзіліся за 7 кіламетраў ад нас, усталяваўся ваенны гарнізон. Савецкія афіцэры бегалі па вечарынах, вышукваючы сабе прыгожых беларусачак у жонкі. Выйшла замуж і Фроська. Выходзілі замуж за афіцэраў дзяўчаты і з другіх вёсак. Не ўсім ім Бог даў шчасця, бо хутка пачалася страшная вайна.

Пры Польшчы Дзянёс быў спраўным гаспадаром. У яго быў дом на два канцы, гаспадарчыя пабудовы, а на страсе така знаходзілася буслінае гняздо, буслы там вяліся штогод. Перад домам вялікі сад. Каля Дзісенкі на незатапляемым вясной месцы была пабудавана лазня. На пойменным лузе пасвілася жывёла.

На суседніх хутарах Антанова жыла сям'я Міхайлавых. У іх былі чатыры сыны і дачка. Тры сыны жаніліся на нашых вясковых дзяўчатах.

У святы прыходзілі да нашых мужыкоў мужчыны з-за ракі, каб пагаварыць, даведацца такіх-сякіх навін ці пажартаваць. Быў сярод іх Анфім, які мог давесці да слёз. Ён быў таксама і вялікі пустэльнік, некаторыя веруючыя мужыкі пажылога ўзросту часта пакідалі яго кампанію. Сам ён быў каваль, толькі чамусьці з яго смяяліся, што ён усё рабіў на заклёп (*навечна*).

Прыходзілі да нас у вёску з-за ракі і жанчыны. У Нікіпяровіча Арсеня было радыё, якое працавала на батарэях. Вось туды ўсе і збіраліся. Памятаю адну жанчыну з Грыгараўшчыны, якая прыходзіла з пяцігадовай дачушкай, якая вельмі прыгожа спявала, толькі крыху шапялявіла. І яна праспявала нам многа прыпевак, а адна прыпеўка, якую я запомніў, была на чыстай беларускай мове:

З царнабрывенькім паспала,
Ніцагусенькі не стала.
Царнабрывенькі ністо,
Пераспала — ну дык сто!

Рэлігійныя святы яны святкавалі разам з намі, праваслаўнымі. Толькі Каляды святкавалі чатыры дні, а Пасху — цэлы тыдзень.

Мяняліся часы. У вёскі прыйшлі калгасы. Людзі пачалі пакідаць свае родныя мясціны, ехалі на працу ў гарады, у Сібір ці на цаліну. Прыязджалі дамоў толькі ў водпуск, каб наведаць старых бацькоў, якія толькі і заставаліся там.

Вось і прыехалі два маладыя хлопцы ў водпуск у час паводкі. Дзісенка шырока разлілася, але лёд ужо зышоў. Знайшлі лодку, тую ж душагубку, і паплылі. Можа яны ўжо развучыліся трымаць раўнавагу, а можа што іншае здарылася, што яны апынуліся ў ледзяной вадзе. Адзін з іх адразу адарваўся ад лодкі і паплыў да берага, а другі застаўся на перакуленай лодцы. Да лодкі было не менш як 100 метраў, як з аднаго, так і з другога боку ракі. Дапамагчы ім не было як. Людзі бегалі з жэрдкамі па абаіх баках ракі. Гэты, хто застаўся на лодцы, замёрз і крычаў: «Помогите, озяб!» І, на вялікае яго шчасце, яго вынесла на пойменны луг, дзе рака рабіла круты паварот. Там да яго падаспела яго сястра, якая падала яму жардзіну, хаця сама была па шыю ў вадзе. Ён ухапіўся за жэрдку мёртвай хваткай. Прыцягнула сястра яго да берага, але ісці ён ужо не мог, яго панеслі. Другому хлопцу, які паплыў, таксама дапамаглі выбрацца з ледзяной вады.

У арміі я сябраваў з Драздовым Мікалаем, маім земляком з Лынтупшчыны. Разам мы адбывалі «свой свяшчэнны абавязак перад Радзімай» у архангельскіх лясах. Запомніўся мне адзін эпізод з нашага армейскага жыцця, калі мы вечарам пасля цяжкай работы пілавання лесу прыселі цэлым аддзяленнем адпачыць, падпаліўшы вялізны лом хвоевых сукоў. Наша вопратка была мокрая, таму што мы цэлы дзень хадзілі па глыбокім снезе з пілой і сякерай, апраналі нас у целагрэйкі і ватныя штаны. Вось Мікалай і кажа: «Пеця, я хачу падсушыць штаны, а ты глядзі, каб дым не пайшоў». Ну, я ўважліва і назіраў за ягонымі штанамі. А ці ж можна адрозніць дым ад пары вечарам? І я даназіраўся да таго, што мой Мікалай раптам ухапіўся за попу і стаў скідваць з сябе ватнікі, а я пачаў сыпаць на іх снег, бо яны ўжо гарэлі. Штаны затушылі, хоць на попе і атрымаліся дзве вялікія дзюркі. Закончыўся гэты цырк хорам смеху. Сябрамі мы сталі пасля гэтага яшчэ лепшымі, а старшына роты выдаў яму новыя ватнікі. Пасля арміі нашы шляхі разышліся. Ён з калгаса ўцёк і паехаў працаваць у Вільню. Я застаўся на Пастаўшчыне, але добрыя сябры ніколі не забываюцца.

Калі я працаваў настаўнікам, пазнаёміўся з Рудавым Авакумам, які і зараз мне піша лісты на чыстай беларускай мове, за што я вельмі ўдзячны яму. Мы з ім пасябравалі, калі толькі пачыналі настаўнічаць. Потым часта сустракаліся на секцыях матэматыкі, фізікі і дырэктараў. Ён не з тых, хто любіць падсмяяць ці падкалупнуць. Гэта добрай душы чалавек, і я рады, што мне Бог паслаў такіх сяброў.

# АСАДНІКІ

Асаднікі — гэта польскія патрыёты-дабравольцы, якія дапамаглі Юзэфу Пілсудзкаму адваяваць незалежнасць Польшчы ад бальшавікоў (і ад Расеі). У жніўні 1920 года наша мясцовасць апынулася пад палякамі, і па Рыжскай дамове 18 сакавіка 1921 года Заходняя Беларусь («Крэсы Всходне») перайшла ў склад Польшчы.

У 1920-я — пачатку 1930-х гадоў польскі ўрад правёў зямельныя рэформы: продаж праз зямельны банк часткі памешчыцкай і дзяржаўнай зямлі і звядзенне дробных сялянскіх палосак у адзін участак з адначасовым высяленнем на хутар. У выніку рэформ уладанні памешчыкаў значна паменшыліся. Рэформы садзейнічалі ўмацаванню сялянскіх гаспадарак, рассяленню сялян на хутары (да 1939 года на хутары выселена каля 70 % гаспадарак) і павышэнню прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі: ураджайнасць збожжавых дасягнула ўзроўню Францыі, а па многіх культурах перасягнула фермераў ЗША.

Адначасова праводзілася насаджэнне асаднікаў. Яны атрымлівалі па невысокім кошце, а часам і бясплатна, зямельныя ўчасткі ад 15 да 45 гектараў. Такім чынам да канца 1939 года ў Заходняй Беларусі было расселена каля 10 тысяч асаднікаў.

У нас яны пасяліліся ў суседнім фальварку Антанова, які раней належаў памешчыку Пшаздзецкаму (а яшчэ раней — графу Тызенгаўзу). Пры маёй памяці асаднікаў было шэсць сямей. Памятаю толькі чатырох гаспадароў: Антэка, Людвіка, Петрыка і Якубіка. Першых трох памятаю таму, што з іхнымі дзецьмі я разам хадзіў у польскую школу, а чацвёртага таму, што ён заляцаўся да нашай пані-настаўніцы Ядвігі, бо быў яшчэ халасцяком. Якубік меў зямлі 20 гектараў, як і ўсе астатнія, дом, гаспадарчыя пабудовы, але сам жыў у Варшаве, зямлю аддаваў запашнікам у арэнду, толькі летам прыязджаў сюды адпачыць, пакупацца ў Дзісенцы і пазагараць на духмяных сенажацях ля ракі.

Хутары Антэка і Петрыка знаходзіліся пры гасцінцы Казяны–Полава, а астатнія размясціліся на паралельнай палявой дарожцы бліжэй да Дзісенкі. Кажуць, што прыехалі яны сюды з сем'ямі на сваіх фурманках. Дзяржава выдзеліла ім лес на пабудовы, які знаходзіўся побач ва ўрочышчы Мхавое. Землі тут былі раўнінныя і ўрадлівыя. 20 гектараў хапала і для пашы, і для сенакосаў, і для пасьбы жывёлы. З нашых сялян мала хто меў столькі зямлі. Паміж іхнымі хутарамі працякаў вялікі ручай з адлогімі берагамі і сенакосамі абапал яго. Месца было добрае і прыгожае. І на кірмаш можна было з'ездзіць у сераду недалёка, у мястэчка Казяны (8 кіламетраў). Ездзілі і ў Паставы па патрэбе па панядзелках за 22 кіламетры.

Паміж хутарамі Антэка і Петрыка пры гасцінцы стаяў вялізны дом, пакрыты гонтам. Ён называўся «Дом людовы». Тут была малачарня, пачатковая школа з сямігадовым навучаннем. Запомніліся мне толькі дзве дзяўчынкі: прыгожанькая Людвікава Зоська і тоўсценькая, як клубочак, Антакава Зузька. Чамусьці палякі не ўмелі вымаўляць гуку «л». Настаўніца наша была беларуска, але ж трэба было ўсім у школе размаўляць на польскай мове. Запомніўся мне адзін эпізод, калі настаўніца захацела пасмяяцца разам з намі з польскага вымаўлення гуку «л». Вось яна і просіць Зузьку сказаць хутка пагаворку: «Садло спадло на ковадло і розбіло собе лэб». Тут жа Зузька і прасакатала: «Садво спадво на ковадво і розбіво собе вэб». Усе засмяяліся. Яшчэ хадзіў разам з намі ў школу сын Петрыка — Манюсь. У яго былі доўгія валасы да шыі, яму было можна насіць, а нас стрыглі пад першы нумар. Вось якая была несправядлівасць!

Людвік і Антэк былі суседзямі, і яны сябравалі паміж сабой. Людвік быў тонкі і высокі, а Антэк — тоўсты ды невялікі. Мужыкі нашай вёскі расказвалі, што асаднікі, як толькі прыехалі, не ўмелі працаваць на зямлі. Пайшлі Людвік з Антэкам касіць, і цяжка было пазнаць, кошана там ці не. Людвік пытаецца ў Антэка:

— Ту пан шэдл? (Тут пан ішоў?)

— Шэдл. (Ішоў.)

— Ну, то я не пуйдэ. (Ну, то я не пайду.)

Можа, яно было так, а можа, і не. Можа, каторы і з горада прыехаў. Але ж і сярод мужыкоў вёскі былі жартаўнікі, якія маглі і не такое прыдумаць.

А мы, малыя, таксама прыглядаліся да іх. У іх усё было не так: і цялегі не такія, як у нас, а доўгія фуры; і коней двух запрагалі без дугі ды пасярэдзіне з нейкім дышлам; яны не казалі «Но-о-о», а «Вё-ё-ё» і гэтак далей.

11 лістапада кожны год вечарамі ў добрае надвор’е збіраліся каля школы вучні і асаднікі-бацькі, каб адзначыць чарговую гадавіну незалежнасці Польшчы. Асаднікі расказвалі аб сваіх подзвігах, аб ролі маршалка Юзэфа Пілсудскага. Спявалі патрыятычныя песні аб польскіх легіёнах, палілі вогнішча, скакалі праз агонь.

Але незалежнасць Польшчы хутка загінула: 1 верасня 1939 года з захаду навaліліся немцы, а з усходу — Саветы.

10 лютага 1940 года асаднікаў павезлі ў Сібір.

# ЯНЫ НЕ БЫЛІ ВІНАВАТЫЯ

## Заходняя Беларусь

Каб маё апавяданне было зразумелым ад самага пачатку і да канца, я хачу пачаць яго з 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Жылі мы пры Польшчы ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя на Пастаўшчыне. Тады гэта было Віленскае ваяводства, зараз гэтыя мясціны адносяцца да Віцебскай вобласці. Прыгожая вёска ў зелені садоў і векавых дрэў размяшчалася на правым беразе адной з прыгажэйшых рэк Беларусі — Дзісны, левага прытока Заходняй Дзвіны. Чаму мае продкі назвалі вёску Чарэмушнікамі, можна лёгка здагадацца, таму што ў тых мясцінах расло многа чаромхі, якая захавалася і да нашых дзён. У вёсцы было 42 хаты, жылі там 236 жыхароў. Усе будынкі ў вёсцы былі крытыя саломай. Хаты размяшчаліся абапал вуліцы адна каля адной. Самым дарагім нажыткам для селяніна была зямля, вось і туліліся як найцясней, каб больш захаваць пахаці. Свірны будаваліся воддаль адзін ад аднаго і далей ад хат. Аднойчы ноччу ад маланкі загарэўся адзін ток, і ўсе астатнія будынкі па ветру таксама згарэлі, хаця і ліло з неба. Да хат пажар не дайшоў. Па адзін бок вуліцы быў пракапаны роў з масточкамі да кожнай хаты. Каля рова былі пароблены балясы, каб не руйнавалі яго каровы. У кожнай гаспадыні каля хаты ад вуліцы быў маленькі агародчык, дзе раслі прыгожыя кветкі і кусты бэзу. На кожнай сядзібе на дрэвах было па некалькі шпакоўняў. На шчытах хатаў гняздзіліся гарадскія ластаўкі. Вясковыя ластаўкі ляпілі свае гняздзечкі ў таках на латах пад страхой. Каля вуліцы на двух дрэвах пасяліліся буслы, якія спрадвеку радавалі вока беларуса. У цэнтры вёскі быў пастаўлены вельмі высокі маланкаадвод, зроблены з дзвюх доўгіх яловых бэлек, змацаваных балтамі пасярэдзіне. Трымалі яго тры адцяжкі з тоўстага дроту.

Гаворачы аб вёсцы, я не магу не выказаць некалькі добрых слоў аб нашай прыгажуні-рэчцы, бо нельга ўявіць вёску без рэчкі і наадварот. Людзі спрадвеку імкнуліся сяліцца на берагах прыгожых рэк і азёр. Адной з такіх рэк была і наша Дзісна — Дзісенка, як мы яе пяшчотна называлі. Любілі мы яе за чыстыя воды, за маляўнічыя берагі, месцамі крутыя, месцамі адлогія, сухія або крынічныя. Каля берагоў яна была паросшы водарасцямі, лілеямі і жоўтымі стаўбункамі. Каля вёскі былі два мелкія месцы, дзе можна было перайсці раку. Для пераправы на другі бок хадзіў паром, разлі-

чаны на дзве фурманкі. Для пешаходаў была лодка. Гаспадаром таго і другога быў Дзіковіч Іван Сямёнавіч. Ён жа быў і леснікам. А перавозам займаліся яго сыны Барыс і Коля. Тут мы купаліся, вучыліся плаваць, лавіць рыбку вудачкай. У рацэ было многа рыбы розных відаў, вадзіўся і сом. Па рацэ сплаўлялі лес плытамі аж у Рыгу. У час паводкі рака разлівалася на метраў 300. Вёска стаяла на высокім месцы, але пасля снежных зім вада даходзіла аж да хлявоў, часамі затапляючы іх.

Палі і сенажаці ў нас былі раўнінныя. Толькі ў адным месцы раўніна крыху ўзвышалася, і гэта месца мела назву «Гарбы». Там быў пясчаны кар’ер, дзе людзі бралі пясок на рамонт дарог і вуліцы ў вёсцы. Па полю працякалі тры руччы, да якіх былі пракапаны равы. Усе равы капаў рыдлёўкай І. К. Дзіковіч, у якога было мала зямлі, а ў сям’і — чацвёра дзяцей. Калі падрос старэйшы сын Іван, ён стаў дапамагаць бацьку. Такім чынам, уся меліярацыя была ў іх руках. Пасля пасеваў збожжа сяляне заўсёды рабілі плугам баразёнкі для сцёку вады ў час ліўневых дажджоў. Потым хадзілі з рыдлёўкамі па полі і спускалі ваду ў равы, калі яна дзе затрымлівалася. Вялася трохпольная сістэма: азімыя, яравыя, папар. На папар вывозілі гной. Гэта значыць, што праз кожныя тры гады зямля ўгнойвалася. Гной вывозілі талакой, і для селяніна гэта было святам. Прыязджалі родзічы, дапамагалі суседзі. Хлявы былі вялікія, туды заязджалі канём і з возам. Усе былі басяком. Работа кіпела ў здаровых мужыкоў, чуліся жарты і смех. Вазы хутка напаўняліся і адпраўляліся ў поле. Першы воз вёз гаспадар, які потым заставаўся ў полі скопваць гной, бо вазы ішлі адзін за другім.

Пад бульбу гной вывозілі кожны год вясной. Жывёлы ў хлявах хапала і кожны дзень падсцілалі саломку, таму і гною было шмат, у выніку і ўраджаі былі добрыя. Былі і засушлівыя гады, але нашы землі не вельмі баяліся гэтага. Горш было, калі залівала. Малацілі коннай малатарняй таксама талакой. І гэта для селяніна зноў было святам — ён бачыў вынік сваёй гадавой працы.

Паша для жывёлы знаходзілася за два кіламетры ад вёскі. Лесу вялікага не было ўжо пры маёй памяці. Ад яго засталіся толькі пні, сярод якіх і пасвіліся коні і авечкі. Ва ўрочышчах Доўгае і Барок рос альшэўнік, на тарфяніках раслі каржакаватыя невысокія сасонкі, дзе і пасвілі кароў. Дроў не было, і людзі летам нарыхтоўвалі карчы, сушылі іх і прывозілі дамоў. Сапраўдны (казённы) лес рос далёка ад нашай вёскі — не менш, чым за 4 кіламетры. Туды ездзілі сяляне ўзімку з дазволу лесніка.

Хачу сказаць некалькі добрых слоў аб людзях, якія жылі ў нашай вёсцы. Хоць многа гадоў прайшло з таго часу, але я іх усіх памятаю ад самых маленькіх і да старых. З імі прайшло маё дзяцінства і мая маладосць. І кожнага з іх я магу ўспомніць толькі цёплым, добрым

словам. Гэта былі добразычлівыя і працавітыя людзі, якія не толькі дбалі аб дабрабыце сваіх сем'яў, але і былі добрымі суседзямі і вяскоўцамі. А каб быў гэты дабрабыт, патрэбна была зямля, якая спрадвеку карміла і апранала селяніна. Малазямельных у вёсцы было ўсяго некалькі сем'яў, але і яны мелі занятак — пасвілі кароў і коней. Яны былі сытыя і адзетыя, мелі агарод, трымалі кароўку, свінак і курак.

А зараз я хачу спыніцца на асобных сем'ях. У Дзіковіча Вінцука і яго жонкі Веры была дачка Ксеня, да якой прыйшоў у прымы Хаткевіч Пётра. У маладой сям'і нарадзіліся тры сыны і адна дачка. Іх лічылі багацейшымі людзьмі вёскі. У іх быў самы прыгожы дом на два канцы з зашклёным ганкам і пакрыты гонтам. Было ў іх шмат зямлі, але і яшчэ ўзялі ў крэдыт 80 гектараў, за якія потым паступова выплачвалі. Іх дзялка знаходзілася ў трох кіламетрах ад вёскі. Там былі пабудаваны дом і гаспадарчыя пабудовы, дзе жылі запашнікі (беззямельная сям'я, якая апрацоўвала тую зямлю). Быў кавалак будаўнічага лесу памерам каля аднаго гектара.

У Дзіковіча Аркадзя і яго жонкі Алімпіяды было шасцёра дзяцей — тры сыны і тры дачкі. З імі жылі старыя бацькі Васіль і Верка. Яны мелі зямлі, але і яшчэ ўзялі на выплату 5 гектараў. У сям'і Дзіковіч Пранусі, яе мужыка я не памятаю, людзі казалі, што ён памёр без пары, было шасцёра дзяцей — чатыры сыны і дзве дачкі. Мелі яны зямлі і таксама куплялі яшчэ. Ва ўсіх вышэйназваных гаспадароў былі конныя малатарні і арфы.

Грынько Мікалай і Надзя мелі двух сыноў — Іллю і Ніла. Бацька займаўся конегадоўляй. Яны мелі сваю лазню і конную ільнамялку з прыводам. Такія лазні ў вёсцы былі яшчэ ў чатырох гаспадароў. У лазнях і мыліся, і мялі лён.

Яшчэ хачу ўспомніць пра сем'і братоў Грынькоў — Аркадзя і Дзяніса, якія жылі праз вуліцу. У Дзяніса з Ганнай былі тры сыны і дачка. У Аркадзя з Кацярынай былі тры сыны і дзве дачкі. Яшчэ жыла з імі і бабулька Аніська. Апрача сельскай гаспадаркі браты займаліся таксама распілоўкай дошак. Яны мелі добрую прадольную пілу і прамышлялі ёй.

Як бачым, сем'і былі вялікія, там былі і малыя дзеці, і старэнькія людзі, якія ў час пільных работ не маглі працаваць на полі. Таму прыходзілася запрашаць наймітаў. І ўсё гэта пры існуючых парадках было нармальнай з'явай.

Я хачу спыніцца больш падрабязна на сям'і дзядулі Дзіковіча Сымона і бабулі Волькі, бо хто ж аб іх мог ведаць больш, чым іх унук. У іх сям'і былі дзве дачкі — Надзя (мая мама) і Марыля (мая цётка). Цётка Марыля выйшла замуж з пасагам у 3 гектары, а да мамы прыйшоў прымака Мурзёнак Сільвестр (мой бацька) з вёскі

Сямёнавічы, што ў 5-ці кіламетрах ад Чарэмушнікаў Падзісенных ніжэй па цячэнні Дзісенкі.

Сільвестр нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і Ігната і Марыі (маіх дзядулі і бабулі), дзе ён быў самы старэйшы. У вёсцы Сямёнавічы ў царскія часы была школа, дзе адзін настаўнік спраўляўся з сотняй вучняў. Правучыўся Сільвестр 5 гадоў у школе, і на той час ён лічыўся даволі пісьменным чалавекам, мог добра чытаць і граматна пісаць. Калі яму споўнілася 12 гадоў, бацька сказаў: «Хопіць, сынок, вучыцца. Бяры сякеру ў рукі і пойдзем зарабляць грошы на сям'ю». І яны пайшлі людзям рубіць зрубы і капаць студні.

У 1914 годзе пачалася Першая сусветная вайна. У 1916 годзе Сільвестра прызвалі ў царскую армію. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі іх вайсковая часць перайшла на бок рэвалюцыі. Пасля гэтага давялося пабыць два гады на фронце і ўдзельнічаць у грамадзянскай вайне. Служыў таксама і ў Мінску і быў сведкам тых гістарычных падзей, якія адбываліся ў сакавіку 1918 года. У час перамір'я ў 1920 годзе яго адпусцілі наведаць сям'ю. У сярэдзіне жніўня 1920 года пачаўся пералом у вайне з Польшчай, і ў хуткім часе палякі занялі нашу мясцовасць. Сільвестр застаўся ў роднай вёсцы Сямёнавічы.

У Сільвестра было яшчэ пяць братоў і дзве сястры. Брат Сяргей яшчэ за царскім часам скончыў настаўніцкую семінарыю ў горадзе Маладзечна. Калі ў нашых краях у 1921 годзе запанавала Польшча, ён узяў з сабой сямігадовага браціка Цімку і нелегальна перайшоў польска-савецкую граніцу. Брат Алёшка жаніўся і жыў у роднай вёсцы Сямёнавічы, сёстры Саша і Поля павыходзілі замуж. Брат Мілецяа памёр у маладым узросце, памерла і іх маці Марыя (мая бабуля). З бацькам Ігнатам застаўся самы малодшы брат Федзя.

У сям'і Сільвестра і Надзі нарадзілася дачка Надзея (мая сястра) і я, сын Пятрусь. Мама была добрая да суседзяў і да аднавяскоўцаў. Яе паважалі ў вёсцы. Яна была добрая гаспадыня. У яе быў заўсёды парадак у хаце, гатавала смачныя стравы. Любіла вырошчваць агуркі, умела іх засаліць і на зіму, што аж да самай вясны захоўваліся. Часта прыносіла вясной смачных агуркоў і суседзям. Калі падрасла сястра Надзея, то маме стала лягчэй спраўляцца і ў хаце, і ў гаспадарцы наогул.

Тата з мамай і я з сястрой часта наведваліся ў Сямёнавічы, каб праведаць бацьку і дзеда. Калі ездзілі на фурманцы, а калі і хадзілі пешшу. Бацькі самі любілі родную прыроду і навучылі дзяцей любіць яе. А прырода вакол нас была цудоўная. Справа, як акінуць вокам, раскінулася раўніна з дагледжанымі палямі, з доўгімі (да двух кіламетраў) палоскамі збажыны, адкуль выглядалі сінія васілёчкі і радавалі вока. У небе віселі жаўранкі з іх звонкімі пералівамі, якім, здавалася, не будзе канца. Праязджалі хутары Антанова, дзе жылі асаднікі, школу, куды потым мы пайшлі вучыцца. Каля былой лес-

нічоўкі рос вялізны сад, а за ім быў глыбокі і шырокі ручай, праз які быў перакінуты мост. Побач з дарогай ішла тэлефонная лінія з Пастаў да Полаўскага лясніцтва. Я з сястрычкай бегалі ад аднаго слупа да другога, каб паслухаць загадкавыя мелодыі. Праязджалі суседнія вёскі Вінаграды, Навасёлкі, Крашнева, і мы задавалі бацькам мноства пытанняў. Нас усё цікавіла ў незнаёмых для нас вёсках. Праз Дзісенку перапраўляліся на пароме. Пешыя перапраўляліся на дубіцы. Дубіца — гэта выдзеўбленае з тоўстай асіны карыта з прыбітымі з бакоў вёсламі-крыллямі.

Ветліва сустракалі нас дзядуля Ігнат і дзядзька Федзя. Нягледзячы на тое, што жылі яны без жанчыны, у іх заўсёды было чыста і ўтульна. Самым цікавым для нас, дзяцей, быў стары дзедаў сад, бо дома ў нас быў толькі што пасаджаны малады сад. Тут раслі яблыкі розных гатункаў, а на старой грушы раслі такія салодкія і вялікія плады, што імі ласаваліся не толькі людзі, але чмялі і восы.

Дзядуля Сымон (мамін бацька) падзяліў сваю зямлю ў 6 гектараў дочкам. У нашай сям’і жыў яшчэ яго родны брат Тумаш, халасцяк, які таксама меў 6 гектараў зямлі. Гэта быў мамін родны дзядзька, а для нас, дзяцей, ён быў таксама дзядулем. Такім чынам, зямлі ў нас было разам 9 гектараў. Каб быць раўнапраўным гаспадаром і незалежным ад дзядзькі Тумаша, бацька захацеў купіць яшчэ 3 гектары зямлі, якія і былі ўзяты ў крэдыт.

У 1934 годзе памёр дзядуля Сымон, а праз яшчэ два гады памерла і бабуля Волька.

Астатнія гаспадары вёскі мелі больш-менш аднолькавыя магчымасці ў вядзенні гаспадаркі. Маючы 3 гектары зямлі, можна было нармальна жыць. Але ж у кожнай сям’і былі дзеці, і бацькам трэба было думаць аб іх будучыні. Таму і куплялі зямлю. А каб купіць зямлі, патрэбны былі грошы. Дзе ж іх было ўзяць, калі пуд жыта каштаваў усяго 2 злоты? Трэба было займацца лёнам. Вось чаму людзі імкнуліся набыць конныя ільнамялкі. У кожнай гаспадарцы былі ручныя ільнамялкі, але імі многа не зробіш. Ручнымі ільнамялкамі карысталіся толькі для сваіх патрэб, каб вырабіць зрэбнае адзенне або вяроўкі.

Сяляне сеялі многа лёну. Каб ён рос чыстым, патрэбны былі мінеральныя ўгнаенні (пасеў). Гною пад лён не клалі, бо тады расла і трава, якую цяжка было выцягваць з лёну па адным каліўцы. Вельмі добра рос лён на ўзнятых дзірванах. Людзі стараліся набыць новы надзел, узараць яго, каб потым пасеяць лён. Да дышла плуга прымацоўвалі вертыкальна нож-разак і аралі. Атрымоўваліся прыгожыя, роўныя скібы. Каля лёну было многа працы, але за яго дорага плацілі. Прадавалі таксама насенне (сяменне), з якога на фабрыцы выраблялі алей. Сарваны лён павінен быў пастаяць на полі ў бабках, пакуль высахнуць галоўкі, каб потым можна было

яго абіваць. Абівалі пранікам на калодцы. Абабіты лён вывозілі на пожні і рассцілалі. А для свайго ўжытку ільнасаломку яшчэ вымочвалі ў сажалках або ў рацэ. Ільнасаломку потым таксама рассцілалі, пакуль не вылежыцца. І толькі пасля ўсяго гэтага яе прывозілі ў лазню, сушылі і мялі. У нас сваёй коннай ільнамялкі не было, і бацька дамовіўся з Дзіковічам Аркадзем, каб карыстацца іхняй. Лазня Аркадзі з мялкай і прыводам знаходзілася за вёскай, а ў нас праз метраў 15 быў шнурок зямлі, дзе мы пабудавалі сваю лазню. Вось зараз можна было заняцца ільнапромыслам. Свайго лёну не хапала, трэба было ездзіць па вёсках, а то і на кірмаш ў Казяны ці Паставы, каб дакупіць яго.

Мялка прыводзілася ў рух прыводам пры дапамозе аднаго запрэжанага каня. Мялі звычайна ў кароткі зімовы дзень. Работа была не цяжкая, але вельмі пыльная. За мялкай сядзелі два чалавекі, якіх у канцы рабочага дня нельга было пазнаць — блішчэлі толькі зубы і вочы. Потым яшчэ трэба было апрацаваць траплом кудзелю, вытрасці кастру і толькі пасля гэтага везці яе на фабрыку ў Паставы за 21 кіламетр. Вось так і зараблялі грошы на зямлю.

І ў заключэнне майго ўступлення хачу сказаць, што людзям пры Польшчы жылося добра. У кожнага гаспадара быў свой надзел зямлі, большы ці меншы, але свой, свая гаспадарка. У нядзелю хадзілі маліцца Богу ў царкву ў Андроны, якія знаходзіліся за 5 кіламетраў ад нас, або ў мястэчка Казяны, якое было за 7 кіламетраў. Ездзілі ў госці да сваіх родзічаў у другія вёскі. Адным словам, людзі адпачывалі ў нядзелю, нічога не рабілі нават у час жніва (у пільніцу). Разлічвалі працу так, каб у нядзелю нічога не рупіла. А сена да нядзелі або прывозілі ў пуню, або складвалі ў копы. Мужчыны збіраліся на лавачках каля хаты Грынько Сяргея, адкуль заўсёды чуліся жарты і смех. Там жа вырашаліся і гаспадарчыя пытанні: рамонт дарог і вуліцы, наймы пастыра, аб пашы і гэтак далей.

Там жа майго бацьку ў 1938 годзе, як самага адукаванага чалавека на той час, сяляне выбралі солтысам вёскі. Жанчыны збіраліся асобна, моладзь — асобна. А вечарамі ў нядзелю звычайна ладзіліся вечарыны. Моладзі ў вёсцы было шмат, музыкаў вясковых таксама хапала. Гучала музыка і беларускія народныя песні, якія кранали душу. Маладыя людзі весяліліся, кахаліся, стваралі новыя сем’і. Вяселлі былі багатыя і шумныя. Моладзь збіралася з усёй ваколіцы.

Беларускія народныя песні гучалі не толькі на вяселлях і вечарынах. Яны гучалі і на працоўных палях у час зажынкаў і дажынкаў, у Купальскую ноч, пры адбельванні на росах палатна начамі. Другімі словамі, вёска жыла поўным жыццём. Людзі добра апраналіся, куплялі веласіпеды і радыёпрыёмнікі. Бацькі марылі аб далейшай вучобе сваіх дзяцей, бо ў Антанове была толькі пачатковая школа з сямігадовым навучаннем. І яшчэ многа аб чым марылі людзі, і ўсё

гэта, магчыма, здзейснілася б, каб не пачалася Другая сусветная вайна і каб не…

## …17 верасня 1939 года

У гэты дзень у Заходнюю Беларусь прыйшлі нашы «вызваліцелі». Сустракалі іх дастойна, не ведаючы, чым гэта ўсё скончыцца. Саветы лічылі панскую Польшчу гнілой, але дарогі былі добраўпарадкаваныя, і масты вытрымалі браневікі, на якіх з'явіліся першыя чырвонаармейцы. У людзей былі радыёпрыёмнікі, і мы ведалі, калі Саветы перайшлі польскую граніцу. Вёска рыхтавалася да сустрэчы, рабілі чырвоныя сцягі. Дзеці вартавалі на гасцінцы, які праходзіў за гумнамі вёскі. Па сігналу «Едуць!» усё насельніцтва высыпала да дарогі. Сцягоў спачатку не падымалі, думалі, што, можа, палякі адступаюць. Як толькі з першага браневіка паказаўся чырвоны сцяжок, тут жа паднялі сцягі і нашы вяскоўцы. Чатыры браневікі пранесліся міма нас, і мы крычалі «Ура-а-а-а!» Потым спынілася легкавая машына, і з яе выйшаў, хутчэй за ўсё, камісар, які выступіў з гарачай прамовай да нас, братоў-беларусаў, «якія цярпелі панскі гнёт і неслі на плячах панскае ярмо, а зараз мы вольныя людзі». І ў канцы прамовы камісар заплакаў. Дзядуля Тумаш, ідучы дамоў, казаў: «Напэўна, убачыў, што мы добра апранутыя, вось і заплакаў». Можа і так. Але, хутчэй за ўсё, камісар ведаў, якую «свабоду» яны прынеслі. І з першых жа дзён мы адчулі гэтую свабоду.

Напэўна, чытач заўважыў, што першы раздзел майго апавядання не адпавядае загалоўку, бо людзі жылі спакойным жыццём без хваляванняў і нерваў. Спакой скончыўся 17 верасня 1939 года, і яго ў Беларусі няма да гэтага часу. З'явіліся вінаватыя (толькі без віны) і абвінавальнікі.

Палітычныя рэпрэсіі ў адносінах да так званых контррэвалюцыйных, антысавецкіх і нацыяналістычных элементаў пачаліся адразу пасля ўступлення Чырвонай арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Украіны. Па стане на 7 кастрычніка 1939 года, усяго праз 20 дзён пасля «вызвалення», органамі НКУС (НКВД) БССР у заходніх абласцях Беларусі было арыштавана 2700 чалавек. Нямала ваеннапалонных, выхадцаў з Пастаўшчыны, знаходзілася ў лагерах Катыні, Казельска, Старабельска, Асташкава, а таксама ў турмах Беларусі і Украіны. Яны ў красавіку–маі 1940 года ўсе былі расстраляны. Праз некалькі дзён пасля прыходу Чырвонай Арміі работнікі НКУС арыштавалі ў нашай вёсцы Някрасава, які жыў у суседа Дзіковіча Івана. У іх сям'і маці і старэйшая дачка былі баптысткамі. І Някрасаў стаў баптыстам. Ён быў майстра на ўсе рукі, нават зрабіў фісгармонь для святочных малебнаў. Яму ў свой час удалося ўцячы з Савецкага Саюза — і вось тут яго знайшлі.

10 лютага 1940 года, у вельмі халодны час, узяліся за асаднікаў з суседніх хутароў Антанова. У іх былі мнагадзетныя сем'і, і яны нічога асаблівага не нажылі за сваё жыццё, хаця і мелі па 20 гектараў зямлі. Сведкі з вёскі расказваюць, што Людвік паехаў у выгнанне ў чаравіках, не меў нават ботаў, не кажучы ўжо пра валёнкі. Вось дзе быў здзек над людзьмі. Везлі іх на станцыю Варапаева за 18 кіламетраў у таварныя вагоны. Там жа былі і дзеці.

У гэты ж час быў арыштаваны жыхар нашай вёскі Дзіковіч Іван Сямёнавіч, які працаваў леснікам. І за што Сталін так неўзлюбіў леснікоў? Звычайна служыць леснікамі ішлі малазямельныя, але добрасумленныя і прынцыповыя людзі, такім быў і Іван. У вёсцы ўсе яго паважалі. А што ж было б без леснікоў? Як бы выглядала лясная гаспадарка? Засуджаны ён быў на цэлых 25 гадоў.

Дэпартацыя насельніцтва заходніх абласцей Беларусі праводзілася ў тры этапы. 10 лютага 1940 года дэпартавалі асаднікаў і леснікоў; 13 красавіка забралі рэшту асаднікаў і леснікоў, а таксама памешчыкаў, кулакоў і іншых. 29 чэрвеня адбылося высяленне бежанцаў з заходніх абласцей Беларусі. Для гэтага ў Паставах Вілейскай вобласці быў арганізаваны аператыўны участак, які узначальваў старшы лейтэнант Архангельскі. Вось якую сілу меў старшы лейтэнант. Такіх участкаў было 7 у акрузе. Сярод васьмі чыгуначных станцый Беларусі, дзе загадзя былі падрыхтаваны эшалоны для адсяляемых, значылася і бліжэйшая да нас станцыя Варапаева. Меншым па колькасці быў трэці этап, пад час якога было выселена 103 сям'і ў складзе 313 чалавек. Такім чынам, было адселена на Поўнач і ў Сібір больш за 2000 чалавек з Пастаўскага раёну.

Пасля дэпартацыі палітычныя рэпрэсіі ў Пастаўскім раёне працягваліся да самай вайны. Нават за два дні да пачатку вайны ў ноч з 19 на 20 чэрвеня 1941 года на Пастаўшчыне было арыштавана 270 чалавек. Лёс іх невядомы.

У спісе ахвяр палітычных рэпрэсій ёсць і тыя нашы землякі, якія ўцяклі ў Савецкі Саюз у пошуках лепшай долі ці ад праследу польскіх улад. У гэтым спісе ёсць і родны брат майго бацькі, якога звалі Сяргей. Што толькі не прыпісвалася несправядліва абвінавачаным людзям. Іх называлі ўдзельнікамі контррэвалюцыйных арганізацый, агентамі замежных разведак, распаўсюджвальнікамі антысавецкіх чутак, праціўнікамі калгаснага ладу. Гэта сеяла ў людзей страх і паніку. Большасць з іх былі пакараны паводле рашэнняў пазасудовых органаў, так званых «двоек» і «троек». Да нас праз 20 гадоў прыехаў родны брат бацькі, Цімафей, які сямігадовым хлапчуком пакінуў радзіму са старэйшым братам Сяргеем. Жыў ён у Маскве, жаніўся, але жонка неўзабаве памерла, пакінуўшы дачушку Рыму. Ён атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў геадэзістам. Перапіскі

не было, таму што ён баяўся пісаць у капіталістычную краіну, каб не абвінавацілі яго ў шпіянажы.

Брат Сяргей жыў у Мінску. Маючы ўжо настаўніцкую прафесію, ён атрымаў яшчэ і юрыдычную. Сяргей працаваў суддзёй у адным з раёнаў горада. У 1937 годзе ён быў арыштаваны і засуджаны на 10 год зняволення без права перапіскі. Аб гэтым Цімафей даведаўся ад Насці, жонкі Сяргея, якая жыла з 10-гадовай дачушкай Рымай у Мінску. Яна расказала, што да іх пастукалі ноччу супрацоўнікі НКУС, зрабілі ператрус, знайшлі кнігу нейкага польскага пісьменніка. І больш пра Сяргея родныя нічога не ведалі, і больш яны яго ніколі не ўбачылі. Расказаў гэта дзядзька Цімафей майму бацьку пад вялікім сакрэтам.

Найбольшы размах бальшавіцкія рэпрэсіі набылі ў 1937–1938 гадах. Толькі пры «выкрыцці» так званага «Аб'яднанага антысавецкага падполля» засудзілі больш за 2,5 тысячы чалавек, значная частка з іх была расстраляная. Тады ж правялі масавую акцыю па выкрыцці польскіх, нямецкіх і латышскіх «шпіёнаў». Было арыштавана амаль 23,5 тысяч чалавек, больш як 21 тысячу чалавек расстралялі. Людзі знікалі начамі. Суседзі толькі здагадваліся, што робяць улады, і маўчалі. У той час што-небудзь ведаць і то было страшна. Страшна было жыць, страшна было гаварыць і нават думаць.

Але вернемся зноў у вёску. Старшынёй вясковага актыву пасля 17 верасня прызначылі майго бацьку. Яму маглі б і не даверыць такую «важную» пасаду, бо ён быў солтысам пры Польшчы. Але ён быў удзельнікам грамадзянскай вайны, і гэта тады, магчыма, спрацавала. Бацька, параіўшыся з аднавяскоўцамі, прапанаваў пабудаваць школу ў вёсцы. Будынак школы, дзе мы вучыліся пры Польшчы, быў вельмі стары і ў ім страшна было сядзець у час ветру. Праз два гады ён сапраўды абваліўся.

Школа пры Польшчы знаходзілася за 1 кіламетр ад вёскі на хутарах Антанова. Туды я адхадзіў 3 гады. Пайшоў я ў школу з шасці год, бо не хацеў адстаць ад сваіх сяброў. З гэтай нагоды мой бацька хадзіў да настаўніцы прасіць дазволу, бо ў першы клас прымалі сямігодак. І пытанне было вырашана ў маю карысць. Да 1939 года я скончыў першы год навучання ў трэцім класе. Па польскіх законах трэба было адсядзець у трэцім класе два гады, а ў чацвёртым — аж 3 гады. Але ўсё змянілася пры Саветах.

У 1939/40 навучальным годзе мы пайшлі ўжо ў чацвёрты клас савецкай школы. Хадзілі за два кіламетры ў былую леснічоўку, прыстасаваную пад клас. Вучыла нас тая ж настаўніца Дрозд Ядвіга, што і пры Польшчы, толькі ўжо на беларускай мове. І гэтаму мы былі вельмі рады. Неўзабаве школу перанеслі ў вёску, адабраўшы палову дома ў Дзіковіча Вінцука («кулака»). Дрозд Ядвіга была вельмі добрай настаўніцай, мы яе вельмі любілі. Сама яна была

беларуска. Бацькі яе жылі за 7 кіламетраў ад нашай вёскі на хутарах Бірвіта. Яны былі заможныя сяляне і змаглі даць сваім дзецям адукацыю. Ядвіга любіла сваю родную мову і прыроду, чаму і нас вучыла. І не яе віна, што беларусы вучыліся ў польскіх школах. З намі яна размаўляла на роднай мове. Але гэта было нядоўга, бо ёй як настаўніцы аказалі недавер. Прыслалі нам новую настаўніцу, ад якой беларушчынай нават і не пахла. Часта прыязджала яе сястра, якая замяняла настаўніцу. Аб іх адукацыі і спецыяльнасці мы так і не разабраліся. Другімі словамі, год мы змарнавалі.

Вясной 1940 года, пасля сяўбы, бацькі ўзяліся за будоўлю школы. У Антанове адзін дабротны дом асадніка пуставаў, астатнія дамы былі ўжо заняты бяздомнымі. Вось гэты дом і перавезлі ў Чарэмушнікі. Будавалі бацькі школу з вялікай ахвотай. Дзяцей у вёсцы было многа, а значыць, і бацькоў. Да сенакосу трэба было скончыць. Тут яшчэ падвярнулася масавая нарыхтоўка бярозавых шышак, за якія абяцалі многа заплаціць. Адзін з бацькоў, назавём яго Нічыпарам, не вельмі цікавіўся будоўляй школы, хаця меў дваіх дзяцей школьнага ўзросту. Ён не прыйшоў на будоўлю, а пайшоў у шышкі. Вось бацька і пакрытыкаваў яго на адным сходзе, і нажыў сабе ворага на ўсё жыццё. Пры савецкай уладзе гэта было вельмі небяспечна. Ды і шышак людзі набралі не такіх, таму што гэта кампанія праходзіла ўпершыню, і людзі не ведалі, што трэба збіраць. Крама, куды здавалі шышкі, была абсталявана ў другой палове дома Дзіковіча Аркадзі — другога «кулака».

Усё ж школу пабудавалі, і мы з ахвотай пайшлі на другі год у чацвёрты клас. На 1940/41 навучальны год нам прыслалі новага настаўніка, якога мы вельмі палюбілі. Прозвішча яго было Асяненка, імя не памятаю. Ён нам пешшу за 21 кіламетр з Пастаў насіў новыя падручнікі і сшыткі. Але ён доўга не пабыў у нас. Вясной 1941 года яго мабілізавалі ў армію. Пасля гэтага нам прыслалі яшчэ аднаго настаўніка. Памятаю толькі яго імя — Густаў, хаця па імёнах тады настаўнікаў не называлі, а казалі «таварыш настаўнік». У яго быў польскі акцэнт, ён казаў, што ён з Вільні. Наша школа была з ганкам на тры сходкі і з дзвюма лавачкамі. Пры ўваходзе быў невялікі калідорчык, направа — пакой для настаўніка, прама — клуб для моладзі, налева — вялікі класны пакой. Школу пабудавалі за вёскай каля скрыжавання дарог.

Нашу вёску вельмі часта стаў наведваць ваенны камісар (палітрук) Гурчанка. Яму на дапамогу прыходзіў спявак Собаль, юнак з суседняй вёскі Цёплыя. Праходзілі бясконцыя сходы ў вёсцы, яны былі мнагалюдныя. Звычайна збіраліся ў вялікія хаты, у хату да Манькі Нікіпяровіч ці да Дзіковіч Мар’яны. Хата не ўмяшчала ўсіх, адчынялі дзверы ў сені. Гутарка вялася: пра савецкі рай і пра капіталістычнае пекла, пра магутнасць непераможнай і легендар-

най Чырвонай арміі. Мэта сходаў была адна — падвесці людзей да шчаслівага калгаснага жыцця. Праўда, пры Польшчы мы, апроч кавалерыі, нічога і не бачылі. А тут, некалькі дзён пасля 17-га верасня, па гасцінцы за ракой ішлі і ішлі бесперапынна і танкі, і артылерыя. І мы ў гэта верылі: бо хто можа ўстаяць перад такой сілай?! Мы ж, хлапчукі, бегалі туды, нам вельмі цікава было паглядзець. Толькі пяхота ішла пешшу, а за ёй — конныя абозы. Яны ішлі па нашым гасцінцы, напэўна, каб не замінаць тэхніцы. У хуткім часе былі пабудаваны тры ваенныя аэрадромы: каля Пастаў, каля Кураполля і за Казянамі.

Яшчэ ў 1930–1934 гадах у Савецкім Саюзе вынішчалася заможнае сялянства і тыя, хто аказваў супраціў утварэнню калгасаў. Кулацкімі ідэолагамі была названая значная частка беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сотні тысяч сялян, іх колькасць паводле розных крыніцаў склала ад 4 да 15 % беларускага сялянства, былі высланыя ў лагеры, а іх сем’і выселеныя за межы БССР.

Прыйшла чарга і да нашай вёскі, пачалі вышукваць кулакоў. Дэпутатам у нашай вёсцы выбралі, правільней сказаць прызначылі, Грынько Тацьцяну. У іх зямлі было нямнога, але гаспадарку трымалі. Яна са скуры лезла, каб дагадзіць уладам ды выкрыць як найбольш кулакоў. Па яе разліках бальшыня вяскоўцаў належала да гэтай катэгорыі. Хацела і нашу сям’ю зрабіць кулацкай. Для гэтага трэба было злучыць зямлю бацькі, мамы і дзядзькі Тумаша ў адно цэлае (12 гектараў). Дзядзька Тумаш даказваў, што ён асобна жыве, сам сабе гатуе ежу. Заглядвала ў печ, дзе там што і чыё стаіць. Мы баяліся з дзедам Тумашам разам садзіцца за стол, баяліся, што вось хто ды зойдзе ў хату. Заходзіла яна і да другіх. На сходах распіналася, што ў гэтых «кулакоў» працавалі найміты. Так, працавалі і ў нас, і ў многіх другіх, бо ў сем’ях былі яшчэ непрацаздольныя (малалетнія дзеці і старэнькія). Карацей кажучы, многія жыхары вёскі пачалі сушыць хлебныя сухары і рыхтавацца ў далёкую дарогу.

Дык вось на гэтых мнагалюдных сходах Гурчанка і вёў прапаганду аб савецкім раі, аб заможным калгасным жыцці, аб бацьку Сталіне, які так клапоціцца аб савецкіх людзях, асабліва аб сялянстве. Прыводзіў прыклады, як у Расіі распраўляліся з тымі («ворагамі народа»), хто аказваў супраціўленне калгаснаму будаўніцтву. Другімі словамі, даваў зразумець сялянам, што і з вамі тое будзе, што было і ў Расіі, і ва Ўсходняй Беларусі. А каму ж хацелася ехаць у Сібір?!

Такім чынам, зімой 1940–1941 года ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя быў арганізаваны калгас імя Калініна. Гэта і выратавала людзей ад Сібіры. Уся зямелька, нажытая крывавымі мазалямі і аблітая потам, была адабрана. Адабралі коней, вупраж, калёсы, сані, плугі і бароны. З некалькіх такоў абсталявалі канюшні. Туды

ж былі звезены калёсы, сані і ўсё астатняе. Да нас малых гэта не зусім даходзіла. Мне было толькі шкада коніка, што яго ўжо больш няма ў хлеве. І ўсе мае сябры адчувалі тое ж самае. Мы бегалі на канюшню, каб праведаць сваіх сяброў, на якіх мы ўлетку ездзілі да рэчкі, каб паіць іх і купаць. Мы давалі коням па кавалачку хлеба. Да Чарэмушніцкіх земляў далучылі асадніцкія землі Антанова. Пацешыліся людцы з зямелькі усяго адзін год. Праз год яе адабралі. Вось дык узнагародзілі! Апошні ўзнос перад самай вайной у памеры 60 злотаў бацька занёс за зямлю. Потым ён казаў: «Каб ведаў, што зямлю Саветы адбяруць, то лепш купіў бы за тыя грошы сыну гармонік».

У суседняй вёсцы Васіліны таксама арганізавалі калгас. Вясной з Пастаўскай машынна-трактарнай станцыі (МТС) прыгналі два калёсныя трактары, на якіх працавалі два трактарысты і два прычэпшчыкі, родам з усходніх раёнаў рэспублікі, бо сваіх механізатараў яшчэ не было. Абслугоўвалі яны абодва калгасы. Рэзалі межы, рэзалі, як кажуць, па жывому. У людзей балела душа, гледзячы на гэта, начамі паціху плакалі і галасілі, але нічога змяніць не маглі.

Мы, хлапчукі, у нядзелю, апрануўшыся па-святочнаму, пайшлі паглядзець, як працуе трактар. Загоны на нашым полі былі доўгія, і мы, нарэшце, дачакаліся. Трактар спыніўся, трактарыст вылез з кабіны і пачаў штосьці рамантаваць, а можа рабіў толькі выгляд, што рамантуе. Вымазаўшы добра рукі ў машыннае масла, ён падышоў і пачаў мазаць нашы святочныя кашулькі тым маслам. Вось мы тут і адчулі культуру «васточнага» чалавека. Замест задавальнення, якое мы чакалі, дамоў мы вярнуліся пакрыўджанымі. Гэта было не што іншае, як злосная зайздрасць, што на яго радзіме дзеці не так апрануты, як мы. Вось ён і адвёў сваю злосць на нашых кашульках.

Чарэмушніцкія і Антаноўскія палі былі засеяны вясной 1941 года сялянскім зернем, якое вымелі амаль поўнасцю, пакідаючы мізэрную долю для пражыцця. У даваенны час у Пастаўскім раёне было арганізавана ўсяго 9 невялікіх калгасаў, куды аб'ядналіся 342 сялянскія гаспадаркі. Усяго ў раёне было 10 382 гаспадаркі. Такім чынам, доля калгасаў складала ўсяго каля 3,3 %. Але разлічвацца калгасу з людзьмі ўжо не давялося, пачалася страшная вайна з немцамі.

## Вайна

22 чэрвеня 1941 года па небе, на поўдні ад вёскі, снавалі самалёты. Мы нічога не ведалі да вечара, хаця ў вёсцы былі ўжо радыёпрыёмнікі, але хто іх слухаў раніцай у нядзелю. Аб жудаснай вестцы даведаліся толькі вечарам ад прадстаўніка Пастаўскага райкама.

Пачалася мабілізацыя, але прызыўнікі вярталіся дамоў. Ваенкаматы эвакуіраваліся, усюды была паніка. Нідзе не было парадку.

Арыштаваных пастаўчан, якія чакалі суда ў турме Беразвечча (каля Глыбокага), расстралялі пры так званым «этапіраванні» ў горад Віцебск. Вось іх спіс: А. А. Банькоўскі, А. І. Бароўка, Б. Х. Бучаль, А. Л. Бягай, Б. А. Бяліцкі, А. С. Вансовіч, Ф. Р. Дзедзіч, К. П. Ерафееў, А. Ф. Аздэбскі, А. Р. Кавальскі, С. Л. Лугоўская, С. І. Пупкевіч, С. В. Радовіч, Л. Ф. Яцкевіч.

Аднойчы, калі сонца хілілася да заходу, мы ўбачылі, што немцы прыгналі вялікую колькасць палонных чырвонаармейцаў у Антанова. Мы, баючыся, падышлі бліжэй. Немцы палкамі выклалі мяжу, за якую палонныя не мелі права ступіць. Палонныя прасілі ў нас хлеба, кідалі нам пад ногі грошы, але гэтых грошай ніхто не браў. Потым адзін з палонных, магчыма, камандзір ці камісар, звярнуўся да нас з просьбай: «Хлопчыкі, бяжыце да вашых мам, бабуль, каб прынеслі хлеба». Мы пабеглі ў вёску, гэта было каля кіламетра, і паднялі ўсіх на ногі. Усе жанчыны адгукнуліся з паразуменнем. Увесь хлеб, які ў каго быў спечаны, панеслі палонным. Але ж трэба было яшчэ атрымаць і дазвол ад немцаў. Дазвол ад немцаў жанчыны атрымалі, але з умовай, што хлеб трэба парэзаць на маленькія кавалачкі, бо булкі ў сялянскіх печах выпякаліся вялікія. Калі хлеб быў парэзаны, немцы кідалі яго жменямі, як сабакам. Можаце сабе ўявіць, што рабілася з галоднымі людзьмі. А немцы рагаталі. Гэта для іх быў цырк. Яшчэ жанчыны прынеслі і малака. Мая сястра Надзея падышла блізка са збаночкам малака. Два палонныя выскачылі за мяжу, ухапіліся за збаночак і разарвалі яго. Малако пачало цячы. Адзін падстаўляў пілотку, а другі — рукі пад малако. Немец, заўважыўшы, што яны пераступілі граніцу, пачаў біць іх палкай па галаве. Мне тады было 11 гадоў, і я пасля ўбачанага быў доўгі час сам не свой. І зараз, калі я гэта ўспамінаю, мне хочацца плакаць. Ваеннапалонныя не былі вінаватыя, што іх прымусова ўцягнулі ў гэту крывавую бойню. Што яны добрага бачылі пры прыгонным савецкім ладзе? А тут яны трапілі ў другое пекла. Бедныя людзі! На маю думку, такія нечалавечыя адносіны немцаў да людзей былі не ў іх карысць. Гэта стала першапрычынай з'яўлення партызанскага руху. На другі дзень, калі немцы гналі палонных на Паставы, поўная вёска была чырвонаармейцаў, якія ўцяклі за ноч з-пад аховы. Яны пераапраналіся ў цывільнае адзенне, уладкоўваліся да каго-небудзь на працу, але гэта было пакуль што толькі часова. Гэта быў партызанскі рэзерв у будучым.

Неўзабаве ў вёсцы размясцілася нямецкая вайсковая часць. Казалі, гэта былі карнікі. Бацька, як старшыня актыву вёскі пры Саветах, стаў хавацца. Ён браў касу і ішоў касіць у поле. Маме казаў, куды пойдзе. Аднойчы тры немцы з перакладчыкам завіталі да нас у хату. Спыталі, дзе «галава» вёскі. Мама сказала, што косіць. Загадалі, каб заўтра бацька выдзеліў чатыры фурманкі, бо ім трэба

некуды ехаць. Тады мама і адправіла мяне да бацькі. Ён касіў у руччы насупраць сваёй палоскі зямлі. Палоскі ўжо былі адноўлены і увесь ураджай на карані быў падзелены па старых межах. Людзі яшчэ не паспелі забыць сваёй зямелькі. І калі я, знайшоўшы бацьку, паведаміў яму, чаго хочуць немцы, ён разгубіўся. Бацька не хацеў служыць немцам. Ён тут жа пайшоў да сваіх сяброў, аўтарытэтных людзей вёскі, на раду, каб вырашыць, што рабіць. Яму сказалі, што толькі ён, як правераны ўжо пры дзвюх уладах, павінен узначаліць вёску. І так бацька пачаў служыць ужо трэцяй уладзе, стаў нямецкім солтысам. Немцы прастаялі ў вёсцы тры тыдні, гойсаючы па лясах і другіх вёсках, ловячы адступаючых чырвонаармейцаў. У нашай вёсцы пакуль што было ціха. Камуністаў у вёсцы не было, а камсамольцаў не чапалі.

Да нас па-ранейшаму вечарамі прыходзіў настаўнік Густаў. Яго немцы прызначылі бургамістрам на некалькі вёсак. Школа не працавала. Кармілі яго вяскоўцы, прыносячы яму тое-сёе ў школу. А ён каму-небудзь дапамагаў у гаспадарцы, нават навучыўся малаціць цэпам. Гаварылі аб вайне, аб неспакойным і трывожным жыцці. І Густаў адчуваў гэтую трывогу па начах. Ён казаў, што начамі кулі свішчуць. Гэта вясковыя камсамольцы апрабоўвалі нямецкі аўтамат, які быў украдзены ў немцаў, калі тыя купаліся ў возеры ў Азёрках, што каля Пастаў.

Людзі маліліся Богу ў цэрквах, якія зноў адчыніліся, моладзь збіралася на фэсты. На свята Падняцця Крыжа Госпадава (Звіжкі) 27 верасня 1941 года быў фэст у Андронах. Пасля фэсту моладзь сабралася ў нашу вёску на вечарыну. Моладзі было вельмі многа з усіх навакольных вёсак, шумелі цэлую ноч, як і не было той вайны. Вечарам настаўнік быў зноў у нас, зноў вёў размову аб трывожных начах. Калі ён сабраўся ісці спаць у школу, мама прапанавала яму заначаваць у нас, вельмі ўжо шумна і трывожна было ў вёсцы, але ён не згадзіўся і пайшоў.

Назаўтра раніцай, калі яшчэ было цемнавата, бацьку, ужо як солтыса, разбудзіў Грынько Міхаіл, які ішоў рана па каня і ўбачыў каля школы застрэленага настаўніка. Ён спаў у клубнай зале школы. Напэўна, яго пастрашылі праз вакно знадворку, і ён накіраваўся ў вёску, а за вуглом яго чакалі. Ён упаў адразу, збегшы з прыступкаў ганка ў напрамку вёскі, дзе ён мог знайсці паратунак. Ляжаў ніцма, галаву паклаўшы на рукі. Я ўпершыню бачыў забітага, добра знаёмага чалавека. Мне было страшна. Ён быў поўнага целаскладу, ночы яшчэ былі цёплыя, і ён любіў спаць без вопраткі. Гэта быў вельмі добры чалавек, любілі яго дзеці і бацькі, нікому нічога дрэннага не зрабіў і не быў вінаваты ні перад народам, ні перад Радзімай. Але забілі яго як «здрадніка»- бургамістра. Немцы не пыталіся згоды, а прызначалі на такія пасады, як прызначылі і

майго бацьку. А паспрабуй адмовіцца! У гэтую ж ноч у суседняй вёсцы Васіліны, якая была даволі вялікая, звыш 100 двароў, забілі яшчэ двух солтысаў. Да майго бацькі не дайшлі, бо ў вёсцы было вельмі людна. Нават у пасляваеннай дакументальнай літаратуры пісалі, што былі знішчаны тры здраднікі. Трэба ж было застрашыць другіх. Так пачалася «работа» органаў КДБ па фізічным знішчэнні «здраднікаў» і «ворагаў народа» ў час вайны.

Наехала немцаў, паліцыі. Вінаватых не знайшлі. А праз пару дзён немцы зрабілі аблаву, ноччу вёску абкружылі. Раніцой усіх жыхароў і гаспадынь ад печаў выгналі на вуліцу. Думалі, што ўсім будзе канец. Сем'і стаялі кожная каля сваёй хаты. Немцы з перакладчыкам і мясцовай паліцыяй, якая ўсіх ведала, правяралі, ці ўсе дома. Не аказалася дома Дзіковіча Сяргея, сакратара камсамольскай арганізацыі вёскі, і яго стрыечнага брата, Дзіковіча Лёнькі. Арыштаў на гэты раз не было, але людзі перахваляваліся.

Прайшоў час, пачаліся халады, набліжалася зіма. Па вёсцы пусцілі пагалоску, каб уцекачы вярталіся дамоў, што ім нічога не будзе. І праз два тыдні вярнуліся Сяргей і Лёнька. Можа, паверылі, а можа, зіма змусіла вярнуцца дамоў. Пражылі зіму спакойна. У красавіку 1942 года снегу ўжо не было, але мароз зямлю яшчэ трымаў. І вось аднойчы ў месячную ноч немцы разам з мясцовай паліцыяй зноў абкружылі нашу вёску. Арыштавалі Дзіковічаў Сяргея і Лёньку. У доме паліцэйскага Грынько Мікалая пачалі рабіць допыт, біць. Сяргей ударыў немца, які вёў допыт, і яму ўдалося выскачыць на вуліцу. Ён пачаў уцякаць на поле. Адбегся ён ад злашчаснай хаты на метраў 300, але ноч была месячная, і куля дагнала яго.

У гэты ж дзень арыштавалі яго бацьку Сяргея, Івана Клямянцевіча, Дзіковіча Яўстафія Раманавіча, іх суседа, Дзіковіча Барыса Іванавіча, сябра Сяргея. Усіх іх і Дзіковіча Лёньку расстралялі ў Паставах 3 мая 1942 года.

Зімой 1941–1942 года пры загадкавых абставінах днём згарэла новая школа. Жыла там прыбіральшчыца бабулька Хвядора. Яна запаліла ў печцы і пайшла «на сяло». Так кажуць. А як было на самай справе, ніхто не ведае, бо палілі не толькі масты, але і школы. Неўзабаве ў вёсцы адчынілі пачатковую школу з беларускай мовай навучання. Настаўніцу звалі Ядзя, прозвішча Курдо. Займаліся ў хаце Грынько Ніла на сваіх табурэтках і калодачках, бо парты згарэлі. Сшыткаў не было, пісалі на чым папала, але мы былі задаволены, што зноў вучымся па-беларуску. Гэта не падабалася партызанскаму кіраўніцтву. У гэты час ужо дзейнічаў партызанскі атрад «Спартак», які размяшчаўся параўнальна недалёка ад нас, у Казянскім лесе. Школу закрылі, а настаўніцы сказалі ехаць дамоў. Такі ўжо лёс быў наканаваны беларускай мове, як і ўсім беларусам.

Аднойчы, калі мы сядзелі на ўроку, па вуліцы прайшлі тры ўзброеныя чалавекі ў паліцэйскай форме. Ішлі яшчэ дзве такія групы: адна каля ракі, другая — загуменнем. Раптам пачалася страляніна. Як стала потым вядома, гэта былі партызаны. Яны прыйшлі адпомсціць паліцэйскаму Грынько Мікалаю за расстраляных нядаўна людзей. Ён з братам пілаваў бэльку на дошкі. Ён убачыў, што ідуць узброеныя людзі, напэўна, сцяміў, што гэта «не свае», і кінуўся ўцякаць. Уцякаў Мікалай па той жа сцежцы, па якой уцякаў Сяргей гэтай вясной. І куля партызанская дагнала яго ў пяці метрах ад таго месца, дзе ўпаў Сяргей. Вось што рабіла вайна. Абодва маладыя, ім бы жыць ды кахаць. Разам жа хадзілі на вечарыны, як аднавяскоўцы. А тут — страляць у бліжэйшага свайго. Ці ж гэта не братазабойства? Пасля гэтага вёска апусцела, людзі паўцякалі. Баяліся, што прыедуць немцы і адпомсцяць за паліцэйскага. Але немцы ўжо баяліся сунуцца ў наш край, бо ён стаў партызанскім. Такім чынам, мы жылі сярод двух агнёў.

Пайшоў у партызаны і Федзя, родны брат майго бацькі. Бацька Ігнат застаўся адзін у хаце. Аднойчы, наведваючы бацьку ў Сямёнавічах, ён трапіў у засаду. Яго злавілі, завезлі ў паліцэйскі ўчастак у Казяны, учынілі дапросы, здзекаваліся і расстралялі. Не дапамагло яму хадайніцтва двух братоў Сільвестра і Алёшкі і двух сясцёр Сашы і Полі, якія хацелі яго вызваліць любымі сродкамі. Не дапамог яму і Казянскі святар, да якога звярталіся за дапамогай.

У вёсцы Рабекі (5 кіламетраў ад Чарэмушнікаў) чэкісты забілі старасту, як здрадніка. Прыйшлі да яго ўдвух, загадалі яму прынесці самагонкі, пасядзелі за абедзенным сталом. Гэта па-іхняму, было судовае пасяджэнне, а пасля абеду вывелі за хлеў і расстралялі.

Мая сястра Надзея з сяброўкамі Людай, Валяй і Рэняй вучыліся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Бацька калі-нікалі ездзіў у Паставы да дачкі ці па службе. Завіталі і да яго тыя чэкісты, якія працягвалі ачышчаць Заходнюю Беларусь ад «здраднікаў» і «ворагаў народа», чаго яны не паспелі зрабіць да вайны. Дык вось, дачакаўся і бацька. Метад у іх быў адзін: паставіць самагонкі, за сталом быў суд і выкананне прысуду адбывалася за хлявом. Самагонкі ён сваёй не меў і не гнаў ніколі. Прыйшлося ісці шукаць у вёсцы. І ён пайшоў зноў на раду да сваіх сяброў, расказаў ім пра сваіх гасцей. І яны тут жа ўсё зразумелі і адправілі Кольку, малодшага брата нядаўна расстралянага Сяргея, сказаць усяго два словы: «Не чапаць!» Вось, калі чэкісты прагульваліся па вуліцы, Колька, праходзячы міма іх, і сказаў патрэбныя словы. І гэта выратавала бацьку. Толькі загадалі яму больш не ездзіць у Паставы, а дачка няхай вучыцца. Але пасля гэтага кінула вучобу і Надзея, і яе сяброўкі. Ужо вельмі неспакойны быў час. Колька, як потым выявілася, быў партызанскім сувязным.

Партызанскі рух шырыўся. Партызаны выгналі ўкраінскае войска з Казян і літоўскае з Васевіч. 22 лістапада 1942 года пачалася карная экспедыцыя немцаў супраць партызан пад кодавай назвай «Нюрнберг».

Аднойчы позняй лістападаўскай ноччу, калі мы спалі, у вёсцы пачаўся нейкі рух. Бацька пайшоў даведацца, дзе і што здарылася, і прынёс нам страшную і трывожную вестку. Немцы ў нядзелю, 21 лістапада, расстралялі габрэяў у Паставах, а сёння ідуць на партызан. Гэту вестку і прынеслі партызаны. А так як наша вёска была ўжо на падазрэнні, то людзі не ведалі, што рабіць: ці ўцякаць ў лес, ці заставацца дома. Усё ж такі рашылі застацца дома: калі памерці, то на роднай зямлі ці ў роднай хаце. Пабеглі нямногія. Пабеглі і трое дзяцей, якія былі маладзейшыя за мяне: Нікіпяровіч Зойка і яе стрыечныя браты Коля і Дунік Рамановічы. Іх бацькі, як і ўсе людзі вёскі, былі ў разгубленасці і не ведалі, дзе будзе лепш. Забягаючы наперад, скажу, што Бог іх памілаваў, засталіся жывыя: яны трапілі ў адну вёску пры лесе, дзе немцы нікога не чапалі.

Снег ужо быў трохі пакрыўшы зямлю, рака замёрзла. Раніцой, калі мы выйшлі за вёску, то ўбачылі за 2 кіламетры ад яе сотні чорных кропачак. Гэта ішлі немцы ланцужком. Было вельмі страшна, і мы разбегліся па сваіх хатах і сталі чакаць. Праз некалькі часу ланцужок паказаўся ў вёсцы. У суседа ў садзе былі пчолы. Адзін немец падышоў да вулёчка, скінуў дашак, выкінуў уцяпленне, падчапіў рамку з мёдам і пчоламі, якія тут жа і абсыпаліся ад холаду на зямлю, і пачаў выразаць вузу з мёдам у жаўнерскі кацялок. Гаспадар, вядома ж, не выйшаў пасароміць, зараз яны былі гаспадарамі на нашай зямлі і рабілі, што хацелі. Другі з аўтаматам накіраваўся да нас у хату, а ў нас ужо ўсё і замёрла. Адчыніў дзверы, але не заходзіць. Мы яго пачалі запрашаць у хату, ведаючы слова «Ком». Ён усміхнуўся, убачыўшы нашу збянтэжанасць і страх, падаў знак рукой «Не бойцеся», закрыў дзверы і пайшоў. Можа хацеў паглядзець, пацікавіцца, як выглядае беларуская хата ўнутры. Злосці на яго твары мы не заўважылі. Усялякія ж людзі былі і сярод немцаў. Магчыма і гэты пайшоў ваяваць не па сваёй волі. Дзесьці і ў яго быў свой дом, сям'я, дзеці. І мы супакоіліся крыху.

Калі ў вёсцы немцаў не стала відаць, я асмеліўся выйсці ў двор і ўбачыў, як гэты ланцужок зноў узбіраецца на процілеглы круты бераг Дзісенкі. Потым мы ўбачылі, што гарыць адна хата ў Ваўках, на суседніх хутарах, потым — другая, але не ўсе. Палілі тыя хутары, дзе нікога не было, а дзе былі людзі, там не чапалі.

Пад вечар прыехалі ў нашу вёску немцы зноў. Падпалілі дзве крайнія хаты, дзе нікога не было. Збегліся людзі, прасілі, каб дазволілі выгнаць жывёлу з хлява, але немцы не дазволілі. Згарэла ўсё. Яшчэ яны хацелі падпаліць дзве хаты ў вёсцы. Дзіковіч Ві-

нцук упрасіў, каб не палілі, бо яго дом, самы багаты і прыгожы, быў побач. Паслухалі. А каб падпалілі, то згарэла б уся вёска з саламянымі дахамі.

Праз пару дзён пасля гэтага, вечарам, мы ўбачылі вялікі пажар, гарэла вёска Баравыя, яна была ў пяці кіламетрах ад нашай. Гарэла яна ўсю ноч, бо нашы бярозкі, што раслі насупраць вокнаў, былі чырвоныя. Раніцай мы даведаліся аб самым страшным — вёска Баравыя згарэла разам з яе жыхарамі. Што за сэрцы былі ў тых людзей, якія гэта ўчынілі? Яны ж былі набожнымі людзьмі. Калі немцы стаялі ў нашай вёсцы, то раніцай і вечарам маліліся. І на спражках у кожнага было напісана «Гот міт унс» — «Бог з намі». Не было Бога ў іхніх сэрцах, а злы д'ябал. Мы чулі пра расстрэлы, пра павешанні — усё гэта было жудасна, але каб паліць жывых людзей, ды ні ў чым нявінных, гэта ніяк не ўкладвалася ў нашы галовы. Усе былі ад гэтага ў стане здранцвеласці.

Потым высветлілася, што немцы не далічыліся двух жаўнераў. Гэтыя два жаўнеры завіталі на хутар да каваля, у якога былі дзве дачкі. Адна дачка схавалася, як убачыла, што ідуць немцы, а другая засталася. Яны і пачалі да яе чапляцца. Гэта ўбачыў бацька і адолеў абодвух. Вось таму і адбылася нечуваная трагедыя. Яшчэ задоўга да гэтага здарэння немцы вывешвалі свае загады, што за аднаго забітага немца будзе забіта сто «рускіх». Для іх тады былі ўсе рускімі. Вось і каваль … Ці мог ён думаць у той час пра нямецкі загад, калі родная дачка была ў небяспецы. А можа аб тым загадзе ён і не чуў, жывучы на хутары. Згарэла ў агні каля 200 жыхароў. Сагналі іх у тры гумны і запалілі. Ноч была ціхая. Плач, галашэнне, крыкі былі чутны ва ўсіх навакольных вёсках. Гумны былі яшчэ немалочаныя. Такі ж лёс чакаў і вёсачку Альцы ў Пастаўскім раёне, дзе 19 студзеня 1943 года згарэлі ў агні ні ў чым не павінныя 72 жыхары.

У Казянскім лесе загінулі нашы вяскоўцы, што ўцяклі з вёскі: Дзіковіч Ліза, Грынько Танька з дарослымі дзецьмі Шуркам і Геняй.

Такім чынам, карная экспедыцыя, арганізаваная немцамі на працягу 22–28 лістапада 1942 года, нічога ім не дала. Карнікі так і не змаглі абкружыць і знішчыць партызан, але спалілі шмат вёсак, загінула шмат мірных жыхароў, якія не былі вінаватыя перад нямецкімі ўладамі. Габрэяў у Паставах расстралялі каля 4000 чалавек, у Дунілавічах — 828 чалавек, і толькі за тое, што яны былі габрэямі. Вынішчалася цэлая нацыя.

Пасля карнай экспедыцыі ў лістападзе 1942 года немцы ў нашы мясціны больш не паказваліся. Утварылася партызанская зона. Жанчынам было загадана, каб быў заўсёды спечаны хлеб і было малако, каб можна было пакарміць партызан. Ім не было канца ні днём, ні ноччу. Ішлі яны то на заданне, то з задання. З жывёлы ў нас нічога не бралі, з адзення таксама, бралі з вёсак, бліжэйшых да горада.

Вясной 1943 года аднавілі пераправу праз раку на вялікай лодцы. Каля лодкі было ўстаноўлена дзяжурства вяскоўцаў, а на конях перапраўляліся бродам. Праз некаторы час для пешаходаў была пабудавана кладка.

Летам 1943 года пачалася масавая мабілізацыя ў партызанскае войска. Немцы, баючыся гэтага, проста знішчалі маладых здаровых мужчын, якія маглі трымаць зброю ў руках. Так адбылася яшчэ адна трагедыя ў мястэчку Казяны, калі немцы выгналі маладых мужчын да Дзісенкі, як бы на пабудову моста, і тут жа на беразе іх расстралялі. Другая страшная трагедыя адбылася ў Пастаўскім раёне яшчэ ў маі 1942 года. 19 мая 1942 года каля мястэчка Лынтупы групай Ф. Г. Маркава быў забіты нямецкі гэбіцкамісар Бэк. Немцы жорстка расправіліся з мужчынамі мястэчка Лынтупы і 12 навакольных вёсак. Было расстраляна каля 150 ні ў чым не павінных мужыкоў. А вінаватыя схаваліся ў лесе, куды немцы не пайшлі шукаць, бо яны баяліся лесу. Лягчэй было сабраць мірных жыхароў і расправіцца з імі. І такія весткі разляталіся вельмі хутка. Што заставалася рабіць астатнім маладым людзям? Вось так і папаўняліся партызанскія атрады. Людзі бачылі зверствы фашыстаў не ў кіно, чулі аб іх не па радыё, а ўсё адбывалася на іх вачах.

Пайшлі ў партызаны і маладыя хлопцы з нашай вёскі: Дзіковіч Мікалай Іванавіч (Колька, партызанскі сувязны), другі Дзіковіч Мікалай Іванавіч (сын засуджанага лесніка), трэці Дзіковіч Мікалай, але ўжо Восіпавіч, і Хаткевіч Барыс Пятровіч (сын кулака). Праз некалькі часу мы даведаліся, што Хаткевіча Барыса партызаны расстралялі. Ён нібыта хацеў атруціць партызан і немцы яму за гэта абяцалі даць карову. Усё гэта былі выдумкі чэкістаў, якія падлажылі яму яду, а потым самі і знайшлі. Гэта быў малады прыгожы хлопец сямнаццаці гадоў. У вёсцы ўсе яго паважалі. А ў яго бацькі і кароў сваіх было.

Пайшоў у партызаны і Нічыпар, атрымаў ён вінтоўку і зараз мог спакойна разлічыцца са сваім крыўдзіцелем — маім бацькам. Бацька быў «старастам», так партызаны называлі солтысаў. І бацька пачаў хавацца ад партызан, калі яны прыходзілі ў вёску. А аднавясковец Дзіковіч Аляксандр пры сустрэчы з бацькам казаў: «Шукаў цябе ўчора твой “сябра” Нічыпар». А Дзіковіч Аркадзь з сынам Мішам уцяклі аж у Паставы, у іх таксама былі свае «нічыпары». Калі Аркадзь прыйшоў наведаць у адну суботу сваю сям’ю, то яго ў нядзелю арыштавалі чэкісты і, прывязаўшы за рукі да двух сёдлаў, павялі босага ў свой лагер, дзе і расстралялі. Трэба сказаць, што сувязь, ці, як казалі, «лапцевая пошта» ў партызан працавала на ўзроўні.

Яшчэ раз пра сувязь. Партызаны ведалі, што хутка будуць налёты нямецкай авіяцыі, і папярэдзілі насельніцтва аб гэтым. І гэта неўзабаве адбылося. Аднойчы раніцай мы пачулі дзесьці недалёка

страшэнныя выбухі. Калі я выйшаў на вуліцу, то пачуў гул самалётаў, якія, выстраіўшыся адзін за другім, пікіравалі на вёску Азерава (у трох кіламетрах ад нас), якая знаходзілася каля Казянскага лесу. Яны скідвалі бомбы і стралялі з кулямётаў. Вёска Азерава гарэла. Налёты немцы рабілі тры дні, па тры разы на дзень, па 9 самалётаў кожны раз. Папалілі і зруйнавалі вёскі, якія былі ў лесе і каля лесу, а ці скінулі яны хоць адну бомбу на партызанскі лагер — гэта невядома. Зноў цярпелі і пакутавалі бедныя сяляне, якія не былі вінаватыя. Нашу вёсачку гэтым часам бяда не зачапіла, але ж пасля першага налёту ўсе вяскоўцы парабілі сабе акопы.

Неўзабаве пасля налётаў, у верасні 1943 года, на вялікай тэрыторыі, якая ахоплівала Браслаўскі, Глыбоцкі, Дунілавіцкі, Міёрскі, Пастаўскі і Шаркоўшчынскі раёны, акупанты правялі карную аперацыю «Фрыц». Былі задзейнічаны значныя сілы немцаў. Калі ў 1942 годзе мы бачылі ланцужок немцаў, то зараз гэта быў ужо ланцужок пажараў, які сціскаўся з кожным днём вакол нас. А людзі зноў, як і перад карнай экспедыцыяй 1942 года, былі ў разгубленасці і роспачы, але жыта сеялі. І запомнілася прымаўка тых страшных часоў: «Памірай, а жыта сей».

Людзей немцы з вёсак выгналі, вёскі папалілі, а партызаны ў хуткім часе вярнуліся на свае базы ў Казянскія лясы. Ізноў пацярпеў бедны народ. Гналі немцы людзей у Нямеччыну, але з нашай вёскі паехала толькі адна сям’я «да дзяцей», якія былі вывезены туды раней. Астатнія паўцякалі. Людзі знаходзілі прытулак у Паставах і ў навакольных вёсках у сваякоў, у знаёмых або проста ў добрых і спагадлівых людзей. Дамоў у тую пустэчу баяліся ехаць. Наша сям’я знайшла прытулак у Паставах. Я пайшоў вучыцца ў шосты клас, а сястра Надзея — працягнула вучобу ў настаўніцкай семінарыі. Бацькі нашы жабравалі ў навакольных вёсках. Людзі ведалі наша гора, спачувалі нам і кармілі нас. Вось так і жылі.

Многа сем’яў з нашай вёскі жыло ў Паставах. Наша вёска была спалена напалову. Наша хата з хлявамі засталася цэлая, згарэў свіран і ток. І вось вясной 1944 года партызаны пачалі запрашаць вяскоўцаў вярнуцца. Было запрашэнне і нам, але мы не паехалі, бо баяліся Нічыпара і чэкістаў.

Паехаў Грынько Ніл з жонкай і трыма дочкамі ў родную вёску. Пасля прыезду, па партызанскіх законах, трэба было ісці зарэгістравацца ў партызанскі штаб, які знаходзіўся па той бок Дзісенкі, у вёсцы Пента, якая было ў 4 кіламетрах ад нашай вёскі ўніз па цячэнню. Пайшоў Ніл, а дамоў не вярнуўся — расстралялі там жа. Чалавек ехаў з сям’ёй у родную вёску, не адчуваючы за сабой ніякай віны. Ці мог бы паехаць чалавек у тое пекла, калі б ён быў вінаваты перад сваім народам? Ніколі! Яго запрасілі, і ён прыехаў, але ж ён не ведаў чэкісцкіх законаў, па якіх трэба было караць не

толькі «здраднікаў і ворагаў Савецкай Айчыны», але і іх сем'і. У яго брат быў у нямецкай паліцыі. Але дзе ж ты яго возьмеш, таго брата? Добра, што яшчэ жонку Дуню і дзяўчынак заставілі ў спакоі.

Вярнуліся ў вёску людзі старэчага ўзросту, Грынько Дзяніс з жонкай Аленай, баптысты. Яны былі добрыя людзі, якіх у вёсцы ўсе паважалі. Сын іхні быў таксама ў паліцыі. Прыйшлі днём п'яныя партызаны, пачалі здзекавацца, ставілі на калені, прымушалі маліцца, а потым завялі ў варыўню і расстралялі. Закапалі за хлявом у неглыбокай ямцы. Пахавалі іх на могілках толькі ў ліпені пасля вызвалення. Аб усім гэтым потым расказала Дуня, жонка Ніла, якая жыла па суседству з пакутнікамі.

Прыехалі ў вёску і бацькі Дзіковіча Аркадзя: Васіль і Верка з унукам Венем, які быў сынам Аркадзя. Пра Аркадзя вы ўжо чулі. У паліцыі ён не быў і ні ў якой цывільнай адміністрацыі немцаў не служыў. Не ведаю яго віны, але ж некаму не дагадзіў. А можа за тое, што ён жыў лепш за другіх. Васіль і Верка таксама былі паважаныя людзі ў вёсцы. Веня быў старэйшы за мяне на пару гадоў, ён быў у нас верхаводам. Добры хлопец, любіў галубоў, для якіх у яго было цэлае гарышча гнёздаў. Да іх прыйшлі ноччу і ўсіх пастралялі.

Вось так распраўляліся з нявіннымі людзьмі нашай вёскі ўжо не немцы, а чэкісты, якія потым у сваіх справаздачах пісалі: «Знішчана яшчэ 6 здраднікаў Радзімы». Усё рабілі, што хацелі, помсцілі тым, каму хацелі, пакуль была іх улада і зброя ў руках. Барацьба з «класавым ворагам-кулаком» працягвалася і ў час вайны. Ды яшчэ вышуквалі «здраднікаў» народа і Радзімы. Паводле афіцыйных звестак восенню 1941 года — вясной 1942 года па ўсёй Беларусі дзейнічалі 16 аддзелаў НКДБ (НКГБ). Паводле звестак Беларускага штаба партызанскага руху, у складзе партызанскіх атрадаў, брыгад і злучэнняў знаходзілася болей за 1850 камуністаў-чэкістаў. Кіравала іх дзейнасцю аператыўна-чэкісцкая група НКДБ па БССР, якую ўзначальваў Лаўрэнцій Цанава.

Як пісаў Васіль Быкаў: «Чэкісты не паспелі ачысціць да 1941 года Заходнюю Беларусь ад ворагаў народа. Яны прадаўжалі рабіць гэта у час вайны. У гады вайны ўся "партызанка" была пад кіраўніцтвам Масквы. Адтуль дасылаліся розныя групы, у тым ліку і чэкісцкія. Яны дасылаліся пад выглядам разведвальных. Але што было выведваць у глыбокім нямецкім тыле, у лясах, балотах ды глухіх вёсках. Я ўсё думаў, што тут нешта не тое. Аказалася, сапраўды не так. Не выклікае сумненняў, што чэкісцкія групы мелі больш пэўнае заданне: вынішчаць класава чужды элемент, які быў неданішчаны ў перадваенныя гады, што яны і рабілі з апорай на мясцовы актыў».

## «Радзімая» пляма

У пачатку ліпеня 1944 года баі ішлі на подступах да Пастаў. Немцы адступалі па Задзеўскай вуліцы. Мы пагрузілі свае небагатыя пажыткі на воз і паехалі па той жа вуліцы, што і немцы, каб не выклікаць падазрэння, што мы ўцякаем да партызан. Многа было такіх уцекачоў, але яны ўцякалі ад бальшавікоў. Бацька таксама баяўся, ён жа быў нямецкім солтысам, але ён не адчуваў за сабой ніякай віны перад людзьмі і ехаў дамоў смела. У нашай хаце ўжо жыла сям'я аднавяскоўца Павініча Пятра, хата якога была спалена ў час карнай экспедыцыі ў 1943 годзе. Прыехалі мы да голых вуглоў родных хат. Радавала нас тое, што на палях раслі азімыя, якія даспявалі, чаго мы не маглі дачакацца: зразалі недаспеўшыя каласкі, сушылі і малолі. Дапамагала нам і крапіва.

Зноў устанавілася савецкая ўлада. І зноў майго бацьку, былога нямецкага солтыса, вылучылі ў дэпутаты сельскага савета. А справа была такая. Яшчэ ў 1942 годзе нямецкія ўлады зрабілі бацьку акруговым солтысам, далучыўшы ў яго распараджэнне яшчэ вёску Чарэмушнікі Пагарныя. Аднойчы яго запрасіў папалуднаваць адзін жыхар гэтай вёскі. Бацька згадзіўся. І вось гэты чалавек за сталом ды за чаркай пачаў хваліць Гітлера, яго армію і немцаў. А бацька і кажа: «Давай мы лепш спяём беларускую народную песню». У гэты час на печы ляжаў партызан з аўтаматам. Гэта быў Чукін Іван — жыхар суседняй вёскі Васіліны. Пасля вызвалення яго прызначылі старшынёй Андронаўскага сельсавета. Вось ён і прызначыў бацьку дэпутатам. Здаецца, для бацькі ўсё добра скончылася. Яго не судзілі, бо не было за што. Ніхто ў час вайны з-за яго не пацярпеў, але пляма «нямецкі стараста» так і засталася на ім. Яна замінала яму ў яго жыцці, а потым перакінулася і на нас, ягоных дзяцей.

Для ўстанаўлення савецкай улады на месцах пакідалі былых партызан, у асноўным з начальства, а радавых — гналі на фронт. Адправілі на фронт і сына засуджанага лесніка Дзіковіча Мікалая Іванавіча (ён потым вярнуўся без нагі), дваюрадных братоў Дзіковічаў Віцьку і Алега — з заможных сямей, якія загінулі пад Рыгай. Нічыпара, ворага нашага бацькі, пакінулі ў раёне. Не ведаю, якая была ў яго партызанская пасада, але сяброў з начальства ён меў. І неўзабаве ён запрасіў іх да сябе ў госці. Яму не давала спакою думка, што па вёсцы ходзіць жывы і здаровы Сільвестр, якога ён не зжыў са свету, калі можна было, калі была ў яго зброя ў руках. Хаця і цяпер была ў іх зброя, бо яшчэ некаторы час пасля вайны ім дазвалялі мець яе. І вось яны прысылаюць пісульку бацьку, каб ён прыйшоў да іх, бо яны хочуць даць даведку аб тым, што ён супрацоўнічаў з партызанамі. Мама і мы, дзеці, расцанілі гэта запрашэнне па-свойму і не пусцілі бацьку ў п'яную ды ўзброеную кампанію. Даведкі выдаюць у дзяржаўных установах, а не ў п'янай кампаніі.

Не ўдалося Нічыпару зжыць бацьку са свету ў час партызанкі, гэта можна было зрабіць цяпер, спісаўшы на няшчасны выпадак. Потым не дабіўся б нідзе аніякай праўды. І пракурор, і суддзя — усе ж былыя партызаны, яго сябры.

Аднойчы ў хату да нас заглянуў п’яны сябра Нічыпара, якога адпраўлялі на фронт. На шчасце, бацькі ў хаце не было. Напомніў маме пра бацькаву «здраду», вярцеў у руках пісталет і пагражаў: «Усю сям’ю вашу трэба было пад корань!» Выйшаўшы на вуліцу разрадзіў пісталет у неба, адвёў душу.

Не ведаў Нічыпар, што бацька не аднойчы дапамог партызанам. Да прыкладу, даведку аб гэтым бацьку ў адну з начэй спрабаваў даць адзін партызан за пераправу праз Дзісенку. Была цёмная дажджлівая ноч, а дзяжурнага каля лодкі не аказалася. Бацька пачуў чалавека, які гукаў перавоз. Ён апрануўся і падаў лодку. Гэта быў партызанскі сувязны, які прапанаваў яму тады даведку. Бацька не ўзяў даведку, матывуючы тым, што ён нічога асаблівага не зрабіў. Не ведаў ён тады, якую цану будуць мець тыя даведкі ў далейшым.

1 кастрычніка 1944 года ў Паставах адчынілася сярэдняя школа. Спачатку было толькі 8 класаў. Я пайшоў вучыцца ў 7 клас, а сястра Надзея — працягваць вучобу ў педвучэльні. Цяжка было бацькам, цяжка было і нам. Набылі кароўку, якая была на цяленні, і пакуль што малака ад яе не мелі, купілі парасят, але што з іх толку — на стол не паставіш. Другімі словамі, мы галадалі. Добра што ўрадзіла жыта, было чым плаціць за кватэру — па пуду за кожнага студэнта ў месяц. Але ж жылі і вучыліся. Лягчэй стала, калі ацялілася кароўка.

9 мая 1945 года — Дзень Перамогі. Гэта было вялікай радасцю для людзей, усе радаваліся, што больш не будуць гінуць маладыя, здаровыя людзі. У тых сем’ях, дзе хтосьці загінуў, там былі слёзы. Жывучы ў партызанскай зоне, мы кожны дзень чакалі смерці то ад немцаў, то ад нядобрых людзей. Бацькі нам казалі: «У час небяспекі ўцякайце за Дзісенку, плаваць умееце. А калі заб’юць — усё ж не гарэць».

Прыязджаў у водпуск дзядзька Цімафей у лётнай форме ў званні старшага лейтэнанта. Зараз ён служыў у польскім войску ў якасці савецкага кансультанта. Наконт лёсу брата Сяргея пісалі ў розныя органы. І адусюль атрымоўвалі адмоўныя адказы — звестак няма. Не іначай, як ляжыць ён у вядомых зараз усяму свету Курапатах з прастрэленай патыліцай. Дзядзька Цімафей таксама казаў, што яго ўвесь час пераследавалі чэкісты.

Пасля 1944/45 галоднага навучальнага года вучыцца я нікуды не пайшоў. Наступны год хутка праляцеў, і мяне зноў пацягнула да вучобы. Я хацеў стаць чыгуначнікам. Напісаў у Гарадзенскі чыгуначны тэхнікум, адкуль прыйшло паведамленне, што мне будзе адзенне, інтэрнат, і стыпендыя, і бронь ад арміі. Але бацькі

мяне не пусцілі. Было на свеце неспакойна, хадзілі чуткі аб новай вайне. 1 верасня 1946 года я стаў студэнтам Пастаўскай педвучэльні. Мая сястра Надзея скончыла яе ў тым жа годзе і стала працаваць настаўніцай у Пастаўскім раёне.

Сярод студэнтаў педвучэльні былі члены Саюза Беларускіх Патрыётаў — падпольнай арганізацыі. Вольнасць і незалежнасць нашай краіны былі галоўнай мэтай дзейнасці гэтай арганізацыі. Ейныя сябры займаліся самаадукацыяй і прапагандай сваіх поглядаў сярод прыяцеляў і знаёмых, пашыралі шэрагі аднадумцаў у мясцовасцях, куды траплялі на працу пасля заканчэння вучобы. Рыхтаваліся дзейнічаць не толькі словам, сярод падпольшчыкаў праводзілася таксама і вайсковая падрыхтоўка.

Перад бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня» моладзь прымала прысягу:

«Я, беларус (імя і прозвішча), уступаючы ў Саюз Беларускіх Патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Калі ж па слабасці сваёй або ліхім намеры я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, няхай пакарае мяне Бог ганебнай смерцю здрадніка Радзімы».

Не маючы практыкі падпольнай працы, без падтрымкі сталых людзей і сувязей з іншымі нелегальнымі арганізацыямі Беларусі, СБП быў асуджаны на правал, калі ў яго шэрагі ўбіўся правакатар. Арышты пачаліся ў лютым 1947 года. Прама ў класе ў час заняткаў былі арыштаваны студэнты Бароўка Ангеліна, Бароўка Іван, Лапушынскі Павел, Сідаровіч Яўген, Стахоўскі Віктар і іншыя.

Апрача іх, былі арыштаваны настаўнікі пачатковых класаў, якія належалі да гэтай арганізацыі: Асіненка Мікола (кіраўнік арганізацыі), Мацук Алена. З 16 па 19 чэрвеня ў Мінску адбывалася закрытае пасяджэнне трыбунала ваеннай акругі, а 20 чэрвеня 1947 года па яго прысудзе 33 члены СБП былі пазбаўлены волі на тэрміны ад 5 да 25 гадоў. Асіненка Мікола як кіраўнік атрымаў 25 год зняволення ў лагерах. Большасць была рэабілітавана толькі 29 лістапада 1991 года, а Асіненка Мікола і Бароўка Ангеліна — 30 кастрычніка 1992 года. Такая ж арганізацыя была і ў Глыбоцкай педвучэльні, там таксама арыштавалі ўсіх удзельнікаў.

Патрэбна адзначыць, што падобнае адбылося ў Пастаўскай педвучэльні і ў 1945 годзе. У час заняткаў былі арыштаваны студэнты Сушко Іосіф, Колесава Марыя, Конаш Антаніна (мая стрыечная сястра), Троцкая Аўгіння, Чыпко Галіна. Арыштавалі і настаўнікаў пачатковых класаў Волах Валянціну, Каранчука Уладзіміра, Счаснага Пятра. Усім ім далі па 10 гадоў зняволення ў лагерах. Абвінавацілі іх у тым, што, навучаючыся пры немцах у Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, яны былі членамі Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). Усе

яны былі рэабілітаваныя ў 1962–1963 гадах. Зламалі турма і лагер іх маладыя жыцці, у некаторых не атрымалася і сем'яў. Зараз яны дажываюць свой невясёлы век. А колькі ж такіх пакалечаных лёсаў засталося ў былым Саюзе! Колькі мільёнаў замардаваных людзей ляжыць у зямельцы!

Прыпыненыя вайною, рэпрэсіі набылі ў Заходняй Беларусі асабліва размах у другой палове 1940-х гадоў у сувязі з правядзеннем татальнай калектывізацыі. Працягваліся рэпрэсіі аж да 1953 года, года смерці Сталіна. У выніку рэпрэсій у Беларусі было ліквідавана найбольш дзейнае, працавітае і прадпрымальнае сялянства, практычна знішчана нацыянальная інтэлігенцыя, былі зачынены або зруйнаваны цэрквы і касцёлы.

30 сакавіка 1946 года па злосных даносах былі асуджаны ні ў чым не вінаватыя жыхары нашай вёскі Дзіковіч Алімпіяда Сямёнаўна, жонка Аркадзі, расстралянага чэкістамі яшчэ ў 1943 годзе, Грынько Аркадзь Міхайлавіч (родны брат Дзяніса, замучанага чэкістамі) і яго жонка Кацярына Андрэеўна. Кожнаму далі па 10 год зняволення ў лагерах. Вярнуліся дамоў пасля смерці Сталіна. Рэабілітаваныя былі пазней, 12 чэрвеня 1965 года.

Неяк у маі 1949 года, калі мы заканчвалі вучобу ў педвучэльні, завітаў да нас, хлопцаў-выпускнікоў, начальнік КДБ раёна, маёр Рашчэня. Запрашаў нас пасля заканчэння педвучэльні паступаць у вучэльню КДБ. Мне запомніліся яго словы: «Вы павінны будзеце навучыцца вывярочваць душу чалавека навыварат». Вось я і падумаў: «Колькі нявінных душ яны загубілі? Мільёны!» Сярод нас, будучых настаўнікаў, не знайшлося, як мне здаецца, ніводнага з каменным сэрцам.

У чэрвені 1949 года мы закончылі вучобу і атрымалі пасведчанне настаўнікаў пачатковай школы. Мяне накіравалі ў Вайшкунскую сямігодку (Пастаўскі раён) выкладаць матэматыку.

10 жніўня 1949 года, ва ўзросце 59 гадоў, памерла мая мама. Яна многа перажыла, баючыся раскулачвання і вывазу ў Сібір, а ў час партызаншчыны — баялася за сям'ю, якой кожную мінуту пагражала смерць ці ад немцаў, ці ад партызан. Яна перажыла дзве нямецкія блакады, апошнюю — з выгнаннем з родных мясцін. Яна сур'ёзна захварэла сэрцам і шчытападобнай залозай. Яна хацела дачакацца зяця і нявесткі, хацела дачакацца ўнукаў і не дачакалася.

Скончылася пасляваеннае зацішша і для аднаасобнікаў. Зімой і вясной 1950 года зноў пачалі іх уцягваць у калгас, заганялі сілай. Прычым уцякалі ў лес і хаваліся ў будынках не многазямельныя аднаасобнікі, а малазямельныя, якія не хацелі аддаць свой невялічкі кавалачак зямлі, з якога яны жылі, коніка і ўвесь інвентар, нажыты гадамі. Багацейшыя выязджалі ў Польшчу, бо баяліся высылкі ў Сібір.

Аднойчы ў вёску Вайшкуны прыехала 8 чалавек «заганяйлаў» з начальнікам міліцыі маёрам Пузакам. Яны лавілі мужыкоў, страшылі турмой ці высылкай і прымушалі падпісаць заяву аб «добраахвотным» уступленні ў калгас. Сядзелі яны цэлы тыдзень, пакуль не дамагліся свайго. Так было і ў другіх вёсках, так было і ў нашых Чарэмушніках. Уцякаў з хаты ад калгасу малазямельны Райчонак Іван, а старшыня сельсавета кінуў услед яму са злосці з сяней ў хату кацёл з вадой. А там на падлозе спалі дзеці, у якіх нават ложка не было. Цудам гэты кацёл не папаў на дзяцей. Выкарыстоўвалі розныя метады і спосабы, не грэбуючы і дзікімі, але ж арганізавалі калгасы ўсюды.

16 кастрычніка 1950 года мяне паклікалі ў Пастаўскі райваенкамат на прызыўную камісію. Пасля агляду ўсімі дактарамі трэба было падысці да стала, дзе сядзела камісія, якая вырашала наш лёс. За сталом сядзеў ваенкам, побач з ім галоўны кадэбіст раёна, прадстаўнікі райкама партыі і райкама камсамола. Калі я падышоў да стала, то заўважыў, як кадэбіст штосьці пашаптаў ваенкаму. Мне нічога не сказалі, толькі ўручылі павестку, у якой паведамлялася, што я павінен з’явіцца 26 кастрычніка ў ваенкамат для адпраўкі ў армію. Я толькі потым зразумеў, што прашаптаў кадэбіст: «Яго бацька пры немцах быў старастам». Гэта азначала, што мяне трэба піхнуць не ў сапраўдную армію, а ў пекла, так потым і адбылося: мяне адправілі ў Архангельскую тайгу на лесараспрацоўкі, у так званы «стройбат» — будаўнічы батальён. У час вайны такія батальёны называліся штрафнымі.

Прывезлі нас раніцой на станцыю Кулой, не даязджаючы нейкіх 200 кіламетраў да Котласа. Везлі нас у таварных вагонах з двайнымі дашчатымі нарамі. Калі поезд спыніўся, да вагона падышла бабулька і папрасіла хлеба. Я, добрая душа, і высыпаў усё, што было ў рэчмяшку. Я думаў, што хутка ж нас пакормяць смачным жаўнерскім снеданнем. Нас пастроілі і павялі ў лес. Прайшоўшы два кіламетры, мы ўбачылі дашчатыя баракі і зямлянкі, ужо ўросшыя ў зямлю. Як потым мы даведаліся, гэта быў былы лагер для зняволеных, дзе адбывалі сваю кару «ворагі народа». Прыйшла машына з саломай. Аказваецца, і ў тайзе былі калгасы. Выдалі нам доўгія цёмнага колеру мяшкі на матрацы і кароценькія мяшкі — на падушачныя насыпкі. Загадалі набіваць мяшкі саломай як можна тужэй, бо больш саломы на працягу года не будзе. А тут ужо і час абеду падышоў. Мы яшчэ і не снедалі, а ў нашага начальства пра ежу і гаворкі няма. Тут я і ўспомніў пра свой мяшок, у якім ужо нічога не было. Больш запаслівыя хлопцы пачалі даставаць са сваіх мяшкоў хлеб, пах якога казытаў у носе, ім прыйшлося частаваць і мяне.

Потым павялі нас у пасёлак у лазню. Лазня была невялікай, на 25 чалавек, а нас — 200. Такія роты былі ў будаўнічых батальёнах.

Нас запускалі ў лазню па чарзе ў некалькі прыёмаў. Я трапіў у апошнюю групу. Сваё адзенне загадалі скласці ў рэчавыя мяшкі і прывязаць бірку з прозвішчам і ініцыяламі. Нам сказалі: «Будзеце дэмабілізавацца — возьмеце зноў». Праз пару месяцаў я пазнаў свой пінжак на адной жанчыне, якая працавала прарабам у лесе. Яшчэ праз пару дзён я ўбачыў і свой карычневы плашч на ёй. Усё прапілі нашы сяржанцікі, ці «стараслужачыя», як мы іх называлі.

Калі мы памыліся, нас сталі абмундзіроўваць. Выдалі бялізну, гімнасцёрку, штаны, анучы, абмоткі, чаравікі. Усё было новае. Навучылі карыстацца абмоткамі. А вось шынелькі новай і шапкі-вушанкі нам, апошнім, і не хапіла — прапілі сяржанцікі авансам. І адзелі мяне ў стары, мазаны і парваны кажух і ў такую ж шапку-вушанку. Раздзелі нейкага трактарыста, а мяне адзелі. Як глянуў я ў люстэрка — спалохаўся сам сябе. У мяне пацяклі слёзы: каб убачыла родная маці, то яна самлела б.

Нарэшце дачакаліся вячэры. Ну, думаю, адвяду душу за цэлы дзень. У міску ўкінулі чарпачок кашы-пюрэ на 2–3 лыжкі, хлеба 300 грам і чай. Думаў, заўтра ж лепш пакормяць. Першы дзень ёсць першы, мабыць не зусім падрыхтаваліся да нашай сустрэчы. Назаўтра было тое ж самае, што і ўчора. І так пайшло дзень ада дня, думка была толькі пра ежу. Тут яшчэ не паспелі папіць чаю, як гучыць каманда: «Устаць, выхадзі строіцца». Дапівалі чай і даядалі хлеб на хаду.

Пасля вячэры нам выдалі дзве прасціны, навалачку і байкавую коўдру. Потым была вячэрняя пераклічка і каманда «Адбой!» Трэба было за нейкую мінуту распрануцца, прывесці ў парадак адзенне і абутак. Каб адны абмоткі скачаць у качулкі, патрэбен быў час. Дзе ж мы той загад маглі выканаць у тэрмін? Ложкаў не было, былі двухпавярховыя нары, зробленыя з дошак. Пры распрананні было цесна, піхалі адзін аднаго. З другога боку гэтым «стараслужачым сяржанцікам» хацелася паздзекавацца з нас, быццам бы мы былі вінаватыя ў тым, што ім давялося служыць па 6 гадоў. Прызваныя яны былі ў войска ў канцы вайны. Калі некаму з іх здавалася, што хтосьці спазніўся, то гучала каманда «Рота, пад’ём!» Зноў выстройвалі роту ў 200 чалавек, тым, хто спазніўся, чыталі мараль, потым зноў «Адбой» , «Пад’ём» і г. д. Адным словам, здзекаваліся з нас столькі, колькі ім хацелася. Гэта для іх была забава пасля п’янак. Раніцой пры пад’ёме паўтаралася тое ж самае. Вось такі быў першы дзень маёй службы.

Пачалася цяжкая праца ў лесе. Прыйшла зіма з яе снягамі і маразамі. Лес пілавалі лучковымі і двухручнымі піламі. Снег раскопвалі драўлянымі лапатамі, каб дабрацца да елкі. Глыбіня снегу была не менш аднаго метра. Валёнкі зверху замотвалі абмоткамі (вось дзе яны нам спатрэбіліся). Каб спілаваць елку, трэба было падпаўзці

да яе, ударыць абухом па ствале і ўцякаць, бо засыпле снегам, які ляжаў на лапках. Вятроў тут не было, і снег падаў зверху на лапкі, утвараючы на іх вялізныя гурбы. Не было тут і адліг. Пасля трэба было абсекчы ніжнія сукі і ад ствала адкапаць снег аж да мёрзлай зямлі. Пянёк трэба было пакідаць не больш 10 сантыметраў.

Грузілі машыны і вагоны без ніякіх механізмаў. Асноўным механізмам быў «driuchok» (доўгі кол). Камялькі-пілоўкі былі даўжынёй па 6,5 метры, а вяршаліны па 4,5 метры. Вагоны грузілі з эстакады і днём і ноччу ў любое надвор’е, як толькі іх падавалі. Шафёры працавалі ў дзве змены, а з імі і жаўнеры, якія грузілі машыны пры электрычным асвятленні ад генератара. Тралявалі лес на адлегласць 50 метраў ад дарогі жаўнеры на сваіх плячах, а больш за 50 метраў ад дарогі — коньмі. Гэта была рабская праца, ногі распаўзаліся на сухім снезе. З часам мы сталі настолькі спрактыкаваныя, што бервяно даўжынёй 4,5 метры бралі ўдвух па камандзе «Раз, два, тры» і неслі. Толькі аднойчы я пакалечыў указальны палец левай рукі, які трапіў паміж бярвеннямі ў час скідвання з пляча на кучу, калі рукавіца зачапілася за сучок. Скура на пальцы разарвалася ў трох напрамках пад вуглом у 120 градусаў. І знак у выглядзе трохлапага павука застаўся мне на памяць на ўсё жыццё аб тых «шчаслівых» часах. 6,5-метровыя бярвенні-пілоўкі насілі цэлым аддзяленнем. Насілі на плячах бярвенні і ўлетку. Зімой хоць не адчувалі курганоў, а зараз прыходзілася несці бярвенні па ямах і купінах. Толькі бралі ўсе на адно плячо.

Я атрымліваў лісты ад сваіх сяброў па педвучэльні Чабатаронка Мікалая і Сіповіча Часлава. Яны служылі ў нармальнай вайсковай часці, дзе іх рыхтавалі на афіцэраў запасу з двухгадовым тэрмінам службы. Калі я даведаўся аб гэтым, я праклінаў тую несправядлівасць, што ў органах КДБ сядзяць такія тупыя, сляпыя і чэрствыя людзі, якія не могуць адрозніць вінаватага ад невінаватага. Бацька мой быў ні ў чым не вінаваты. Яго і не судзілі, бо не было за што. Вайна ў нашых краях скончылася ў 1944 годзе, а нас прызвалі ў армію ў 1950 годзе. Пасля вайны прайшло ўжо 6 гадоў, а я так і застаўся з «радзімай» плямай і несправядліва пакутаваў.

Але што такое недавер да аднаго чалавека? Бальшавікі не давяралі палове беларускай нацыі, асабліва тым, хто жыў у Заходняй Беларусі. Наш батальён маскоўскае камандаванне рашыла перавесці ва Усходнюю Прусію, ці, як яе тады сталі называць, Калінінградскую вобласць. У Маскве знаходзіўся штаб супрацьпаветранай абароны, якому падпарадкоўваліся два будаўнічыя батальёны, якія знаходзіліся ў Кулоі. Лес ішоў на ваенныя аб’екты ў гарадкі, размешчаныя вакол Масквы. Такім чынам, наш батальён і вырашылі перавесці. Усе беларусы былі задаволены, што будуць служыць недалёка ад Радзімы. Але нашай радасці прыйшоў канец, калі ка-

мандзір батальёна і нампаліт вярнуліся з Масквы, дзе ім сказалі: «З Заходняй Беларусі нікога не браць».

Мяне, як і дзве сотні маіх саслужыўцаў-беларусаў, перавялі ў другі батальён. Камандзір і нампаліт роты хацелі мяне ўзяць з сабой, бо я дапамагаў выпускаць насценгазеты і баявыя лісткі, вучыў грамаце неадукаваных жаўнераў. На ўсю роту з 200 чалавек толькі я і Супіталёў мелі сярэднюю адукацыю. Супіталёва ўзялі, бо ён быў з Усходняй Беларусі, а мяне — не. Багуцкага, які праслужыў 6 гадоў, таксама не ўзялі, бо ён быў з Заходняй Беларусі. Хадзіў нампаліт роты старшы лейтэнант Часнакоў да камандзіра батальёна прасіць, каб узялі мяне, але там адказалі: «Загад ёсць загад».

Праца была цяжкая, а ежы было мала і, часам, не даспадобы. Бульбы свежай хапала да Новага года, а потым варылі сушоную, якая пасля варкі была як гума. Не хапала гародніны. Варылі часта макароны, крупы, паху якіх жаўнеры ўжо не маглі пераносіць. На трэцім годзе службы я сур’ёзна захварэў, мне стала балець пад «лыжачкай». Калі я звярнуўся да галоўнага ўрача батальёна, ён мне сказаў: «Калі б вы служылі першы ці другі год, мы б вас накіравалі ў шпіталь, дзе вас лячылі б, а можа і камісавалі б. А зараз, калі вы канчаеце службу, няма сэнсу гэта рабіць». Я зразумеў яго словы так: «Адслужыў, выканаў “свой пачэсны абавязак перад Радзімай” і ты больш нікому не патрэбны». Замест двух гадоў службы я адслужыў роўненька тры гады. 26 кастрычніка 1950 года я прызываўся і 26 кастрычніка 1953 года я дэмабілізаваўся.

Пасля дэмабілізацыі нікога, за выключэннем маіх родных, не хвалявала, што я вярнуўся з арміі хворы. Вярнуўшыся з арміі, я працаваў зноў настаўнікам, потым скончыў завочна фізіка-матэматычны факультэт педінстытута. Хвароба мяне суправаджала ўсё жыццё. Пасля гастрыту ўтварылася кроватачывая язва дванаццаціперснай кішкі. Чатыры разы з кровацячэннем я ляжаў у бальніцы.

Вось так «працавалі» органы КДБ. У невінаватага бацькі сын аказаўся вінаватым і пацярпеў за гэта. У кнізе «Памяць», гісторыка-дакументальнай хронiцы Пастаўскага раёна, напісана: «Раённая камісія па стварэнні кнігі “Памяць” працягвае пошук несправядліва абвінавачаных людзей». А чым яны могуць дапамагчы тым, хто не вярнуўся з высылкі, і тым, хто вярнуўся, але застаўся навекі пакалечаны і пакрыўджаны? А колькі такіх незаконна пакрыўджаных было ў Беларусі, у Саюзе? Колькі расстраляных?! Колькі пакалечаных лёсаў?!

Не ведаю, ці жывы ты, начальнік КДБ Пастаўскага раёна 1950 года! Хацелася б, каб ты прачытаў маё пасланне і пакаяўся перад Богам і перад людзьмі за ўчыненыя табой злачынствы. Я ж быў не вінаваты! А вас жа было сотні тысяч! Дык колькі ж тады было «вінаватых»? Мільёны!

# АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ Ў БНР
## *(аповесць, якая магла б быць быллю)*

— Мама, тата, мы пайшлі. І вы не спазняйцеся, — гэта нашы хлопчыкі ідуць у школу № 7 горада Паставы на святкаванне 90-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Васіль вучыцца ў дванаццатым класе, а Антось — у дзявятым. Школа працуе першы год. Будавалася ў гонар 90-х угодкаў БНР і здадзена датэрмінова. Школе ў дзень яе адкрыцця, 1 верасня 2007 года, Радай БНР прысвоена імя Язэпа Карнацэвіча, які быў удзельнікам паўстання Кастуся Каліноўскага. Мы з жонкаю Алесяй атрымалі ў пятніцу запрашэнне ад дырэкцыі школы і таксама збіраемся. Я, Райчонак Яўген, працую ў рэдакцыі раённай газеты «Пастаўскі край» карэспандэнтам, а Алеся — выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў гэтай жа школе.

— Паедзем ці пойдзем? — пытаецца Алеся.

— Думаю, пойдзем, няхай машына «адпачне». І ў нас яшчэ ёсць часу, ды і ісці ж не так далёка. А якое цудоўнае надвор’е!

За апошнія два тыдні давялося аб’ездзіць амаль увесь раён. Рэдакцыю цікавіў перадсвяточны настрой людзей, як у горадзе, так і ў вёсках, і на хутарах. Гутарка вялася аб жыцці гараджан і сялян. І ўсюды выказвалася задаволенасць сваім жыццём, працай і існуючымі законамі і парадкамі.

Жывём мы на ўскрайку горада на вуліцы Кастуся Каліноўскага. Калі выйшлі на вуліцу, мы адчулі подых вясны. Ясна свяціла сакавіцкае сонейка. Ужо прыляцелі з выраю гракі, шпакі, жаўранкі. Бусла яшчэ не відаць. На вуліцы яшчэ дзе-нідзе захаваліся гурбы снегу. А каля шпакоўняў можна бачыць іх гаспадароў, якія толькі што вярнуліся на радзіму з далёкіх краёў і дзякуюць небу і сонцу сваімі песнямі, раскрываючы свае дзюбкі, у якіх дрыжыць маленькі ружовы язычок, пасылаючы ў наваколле цудоўныя мелодыі ды махаючы ў такт ім крыльцамі.

Побач з горадам раскінуліся палі, якія чакаюць свайго руплівага гаспадара — фермера. А ў сінім небе яшчэ нясмела спрабуюць свае трэлі жаўранкі. На кожным доме бел-чырвона-белы сцяг. Нас даганяюць нашы сябры Коля і Вера, вітаемся і горача віншуем адно аднаго са святам. Яны таксама ідуць у школу. Іх сын Адась вучыцца ў адным класе з нашым Антосем, а дачушка Паўлінка — у сёмым класе.

А вось і школа. Будынак упрыгожаны бела-чырвона-белымі сцягамі і двума вялізнымі лозунгамі, размешчанымі на фасадзе: «90 год Беларускай Народнай Рэспублікі», «Жыве Беларусь!» У вестыбюлі школы сустракаем многа сваіх сяброў, вітаемся, віншуем са святам.

Заходзім у актавую залю, дзе нас сустрэлі дзве дзяўчынкі з бела-чырвона-белымі стужкамі на рукавах, відаць дзяжурныя,

віншуюць нас і падаюць нам білеты з указанымі месцамі. Да пачатку ўрачыстасцей застаецца яшчэ 15 хвілін, ёсць час агледзецца, прывітацца са знаёмымі. Сцэна ўпрыгожана ялінкамі і дзеразой. На сцэне стаіць стол, пакрыты белым абрусам з вышытым беларускім арнаментам. У глыбіні сцэны вялікі партрэт Прэзідэнта БНР Яніны Сушко, герб «Пагоня» з бела-чырвона-белымі сцягамі абапал. Над сцэнай — лозунг «90 год БНР». На сценах партрэты тых, хто прымаў непасрэдны ўдзел у гістарычным акце абвяшчэння БНР незалежнай і вольнай дзяржавай, а таксама тагачасныя старшыні Рады БНР Янка Серада, Язэп Лёсік, Пётра Крэчэўскі, старшыні ўраду БНР Язэп Варонка, Раман Скірмунт, Антон Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі і іншыя.

Роўна ў 11 гадзін на сцэну выходзіць дырэктар школы Бароўка Валянціна, кіраўнік раёна Дзіковіч Янка, загадчык аддзела народнай адукацыі Аўсюк Віталь, загадчыца аддзела нацыянальнай культуры Скрыпка Алёна, камандзір вайсковай часці палкоўнік Парахневіч Кастусь, выкладчык гісторыі Рамановіч Язэп. Усе ўстаюць і вітаюць іх апладысментамі. Гучыць Гімн БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ў выкананні духавога аркестра школьнікаў. Усе прысутныя спяваюць.

Дырэктар школы пачынае сваю прамову з віншавання з вялікім святам. Потым яна гаворыць, што 90 гадоў для нашай краіны — гэта маладосць. Краіна знаходзіцца ў росквіце сваіх сіл і дасягненняў. Яна зачытвае вытрымку са Звароту да беларускага народа Прэзідэнта БНР Яніны Сушко, якая прысвяціла ўсё сваё жыццё Беларусі: «Я ўважаю, што наша краіна своеасаблівая, таму што яна найбольш перажыла ад усіх краін. Столькі войнаў адбывалася на яе зямлі, столькі здзекаваліся з людзей. Таму наш народ выпрацаваў у сябе велізарную цярплівасць — абы толькі выжыць. Абы дажыць да заўтра, абы мець што есці, каб быў дах над галавой — і хаця б толькі не было вайны. І беларускі народ выжыў, захаваў сваю мову, культуру. І ўсе мы гэта зараз добра бачым. БНР дасягнула свайго небывалага росквіту ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці, культуры, навуцы і тэхніцы. Беларускі народ жыве заможным, шчаслівым і спакойным жыццём. БНР стаіць у адным радзе з другімі цывілізаванымі і высокаразвітымі краінамі Еўразвязу, з якімі мы сябруем і гандлюем. У многіх краінах працуюць беларускія трактары “Беларус”, грузавыя аўтамабілі і самазвалы, выпушчаныя на заводах Мінска і Жодзіна, тэлевізары “Віцязь” і “Гарызонт”, выпушчаныя на заводах Мінска і Віцебска, віцебскія металарэжучыя варштаты і многае іншае. Беларуская бульба, лён і ільняныя вырабы, якія славяцца ва ўсім свеце, экспартуюцца за рубеж».

Далей спадарыня Бароўка В. спынілася на рабоце школы. Школа поўнасцю забяспечана падручнікамі і дапаможнікамі на

беларускай мове, кабінет фізікі і матэматыкі — самым сучасным абсталяваннем, вылічальнай тэхнікай, прыладамі, неабходнымі для засваення праграмы і для пазакласнай работы з вучнямі. Пры школе працуе свой кінатэатр, дзе школьнікі праглядаюць як навуковыя, так і мастацкія кінафільмы. Працуе фотагурток. Усім гэтым кіруе выкладчык фізікі спадар Валасевіч Лёнька. Кабінет хіміі, майстэрня, фізкультурная зала таксама маюць усё неабходнае. Апрача ўсяго гэтага вучні старэйшых класаў вывучаюць трактар і камбайн. Школа мае свой прышкольны надзел памерам у 5 га, дзякуючы якому вучні атрымоўваюць бясплатныя абеды. Самае галоўнае, што са школы выходзяць ужо амаль падрыхтаваныя фермеры. А каб з вырашчанай на ўчастку гародніны нарыхтаваць смачныя стравы — працуе кулінарны гурток, якім кіруе выкладчыца біялогіі спадарыня Смятанка Лёля. Гэта добрая справа для будучых маладых гаспадынь. Для тых, хто захоча звязаць свой лёс з навукай і далейшай вучобай, працуюць у краіне вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Выкладчык гісторыі Рамановіч Язэп зрабіў экскурсію ў мінулае нашай Радзімы. Ён падрабязна спыніўся на гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, якое праіснавала 350 гадоў. Тады наш народ меў сваю дзяржаўнасць, беларуская мова была дзяржаўнаю мовою. У 1569 годзе па Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае і Польскае Каралеўства аб'ядналіся ў Рэч Паспалітую. Палякі мелі свае інтарэсы, ідэі і імкненні, зусім процілеглыя патрыятычным пачуццям беларускага народа. Згодна з Люблінскай уніяй, Беларусь перайшла ва ўладу Польшчы і палякаў. Пачалася каталізацыя і паланізацыя беларускага насельніцтва. У канцы 18-га стагоддзя ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гады) Беларусь была захоплена Расійскай імперыяй.

Беларускі народ не хацеў скарыцца чужаземцам, як і іншыя вольналюбівыя народы. У сакавіку 1794 года ўспыхнула паўстанне Тадэвуша Касцюшкі. Паўстала і Варшава, Вільня. У Вільні ў паўстанні прымалі актыўны ўдзел беларусы. Паўстанне было жорстка падаўлена рускімі войскамі пад кіраўніцтвам Аляксандра Суворава.

У 1830–1831 гадах у паўстанні за незалежнасць прымаў удзел граф Канстанцін Тызенгаўз, памешчык, уладальнік Пастаў. Ён дапамагаў паўстанцам матэрыяльнымі сродкамі. Сярод паўстанцаў было многа сялян, якія добраахвотна ішлі ў паўстанцкія атрады. Ініцыятарамі руху сталі браты Антон і Станіслаў Кубліцкія з вёскі Палессе, якая знаходзілася недалёка ад Пастаў. Яны арганізавалі атрад і захапілі Свянцяны. Памешчык Міхаіл Сямашка, уладальнік маёнтка Ляхаўшчына, таксама прымаў актыўны ўдзел у паўстанні.

Паўстанне 1863–1864 гадоў за волю на беларускіх землях узначаліў Кастусь Каліноўскі. Ваеннае становішча ў Пастаўскім павеце было ўведзена 29 студзеня 1863 года. На сёмы дзень пасля пачатку

паўстання Станіслаў Бухавецкі арганізаваў атрад паўстанцаў, які дзейнічаў па ўсёй Віленскай губерні. Густаў Чаховіч, афіцэр царскай арміі ў адстаўцы, які паходзіў з нашага павета, узначаліў атрад паўстанцаў Свянцянскага павета. У нашым павеце размяшчалася база паўстанцаў, узначальваў яе Апалінары Танскі. А. Танскі забяспечваў паўстанцаў грашыма, а ў яго маёнтках Камаі і Бежаны нарыхтоўвалася харчаванне для паўстанцаў. У паўстанні 1863 года ўдзельнічаў і 27-гадовы жыхар вёскі Станелевічы Язэп Карнацэвіч, яго імя носіць наша школа. Танскі быў арыштаваны і сасланы на пасяленне ў Пензенскую губерню, а Карнацэвіча спачатку пасадзілі ў Дынабургскую крэпасць, а потым засудзілі на 4 гады арыштанцкіх рот. Пасля адбыцця пакарання ён быў высланы ў Сібір.

Падзеі 1917 года спрыялі згуртаванню нацыянальных арганізацый, якія аб’ядналіся ў Вялікую Беларускую Раду. Для вызначэння далейшага лёсу Беларусі Рада склікала ў Мінску Усебеларускі з’езд (кангрэс). На кангрэс, які праходзіў у Гарадскім тэатры Мінску (цяпер тэатр імя Янкі Купалы), з’ехаліся дэлегаты з усяго этнічнага беларускага абшару ад Смаленшчыны да Беласточчыны. Першы Беларускі Кангрэс праходзіў з 18 па 30 снежня, на ім прысутнічалі 1872 дэпутаты. 1167 выбраныя дэпутаты ад валасцей, павятовых і губернскіх самаўпраўленняў і беларускіх гарадоў мелі права рашаючага голасу. Акрамя гэтага, у рабоце Кангрэсу ўдзельнічала таксама 705 дэлегатаў з дарадчым голасам. Апрача дэлегатаў ад мясцовага жыхарства, на з’ездзе прысутнічалі прадстаўнікі беларусаў, якія служылі ў войску і на флоце, а таксама беларусаў-уцекачоў, што мусілі пакінуць Бацькаўшчыну ў сувязі з вайною. Такім чынам, калі ўлічваць колькасць дэпутатаў, то можна сцвярджаць, што Кангрэс прадстаўляў найбольш шырокія колы грамадства і быў абраны на дэмакратычных прынцыпах. Старшынёй кангрэсу быў абраны Янка Серада.

На з’ездзе прагучаў заклік «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка». Дэлегаты Кангрэсу падзяліліся на тых, хто змагаўся за поўную незалежнасць, і тых, хто выступаў за аўтаномную дэмакратычную рэспубліку ў складзе Расеі. Убачыўшы, што на з’ездзе няўхільна набіраюць сілу незалежніцкія настроі, бальшавікі аддалі загад разагнаць з’езд, а ягоны прэзідыум — арыштаваць. З’езд вымушаны быў спыніць свае пасяджэнні, частку дэпутатаў бальшавікі паспелі арыштаваць. Прытулак астатнім удзельнікам кангрэсу далі менскія чыгуначнікі, пад аховаю якіх была абрана Рада і Выканаўчы Камітэт Усебеларускага з’езду. Выканкам узначаліў Язэп Варонка, адзін з кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

21 лютага 1918 года Выканаўчы Камітэт у сваёй 1-й Устаўной грамаце абвясціў сябе часоваю ўладай на Беларусі і ўзяў курс на скліканне Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове ўсеагуль-

нага выбарчага права. Выканкам стварыў урад — Народны Сакратарыят — на чале з Язэпам Варонкам. Я. Варонка быў таксама абраны міністрам замежных спраў. Сакратары: І. Серада — народнай гаспадаркі, А. Аўсянік — сябра, Я. Бялевіч — юстыцыі, Г. Белкінд — фінансаў, Т. Грыб — земляробства, К. Езавітаў — вайсковых спраў, І. Макрэеў — унутраных спраў, А. Смоліч — асветы, П. Бадунова — апекі, В. Рэдзька — шляхоў зносін, А. Карач — пошты і тэлеграфу, П. Крэчэўскі — кантролю, А. Бурбіс — прадстаўнік БНР у Маскве, П. Злобін — расейскіх спраў, Л. Гутман — габрэйскіх спраў, В. Захарка — скарбнік, Л. Заяц — кіраўнік канцылярыі.

У сакавіку 1918 года Мінск занялі немцы. Яны забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту, скінулі з яго будынку бела-чырвона-белы сцяг і разагналі службоўцаў. Акупанты папярэдзілі, што не дазволяць ніякай палітычнай дзейнасці. Не зважаючы на гэта, Выканкам Рады Усебеларускага з’езду працягваў сваю палітыку. 9 сакавіка 1918 года ён звярнуўся да жыхароў Беларусі з 2-й Устаўной граматай, у якой акрэсліваў дзяржаўны лад Беларусі, правы і свабоды яе грамадзянаў:

«У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасць сумлення, недатыкальнасць асобы і памешкання». Такім чынам, якраз 9 сакавіка магло б лічыцца Днём Рэспублікі ці Днём Волі.

Ідэя незалежнасці заваёўвала ўсё больш прыхільнікаў. Выканкам Рады Усебеларускага з’езда абвясціў яе Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). У яе склад былі ўведзены Іван і Антон Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі, прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, выдатныя дзеячы беларускага адраджэння.

23 сакавіка 1918 года А. Луцкевіч выступіў на пасяджэнні Народнага Сакратарыяту. Ён гаварыў, што фармальна Беларусь застаецца тэрыторыяй Расеі, бо ні Першая, ні Другая ўстаўныя граматы не скасоўваюць абвешчанай на кангрэсе федэратыўнай сувязі з Расеяй. Тым часам падзеі паказалі, што спадзявацца на ўсходняга суседа нельга. Згодна з умовамі, Расія з Нямеччынай, не спытаўшыся ў беларусаў, дзялілі нашу зямлю паміж сабою ў выніку падпісанага бальшавікамі Берасцейскага міру.

24 сакавіка а 8-й гадзіне вечара адкрылася пасяджэнне Рады БНР. Праца доўжылася ўсю ноч і завяршылася ўранні прыняццем наступнага дакументу:

«3-я ўстаўная грамата Беларускае Народнае Рэспублікі.

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь. Не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай

Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай…

…Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ…

…Абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, яе Рада пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі».

Гвардыя добраахвотнікаў, якая пазней склала аснову беларускага войска, абараніла БНР. Узначаліў беларускую гвардыю Кастусь Езавітаў, удзельнік абвяшчэння незалежнасці БНР. У 1920 годзе Радай БНР яму было прысвоена званне генерал-маёра.

Такім чынам, на карце свету з’явілася новая незалежная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка, у якой зараз мы і жывём.

Усе, хто аказаўся годны гістарычнага моманту, не зважаючы на партыйна-палітычныя прыхільнасці, вартыя вечнай удзячнасці нашчадкаў. Гэта тагачасныя старшыні Рады БНР Янка Серада, Язэп Лёсік, Пётра Крэчэўскі, старшыні ўраду БНР Язэп Варонка, Раман Скірмунт, Антон Луцэвіч, Вацлаў Ластоўскі і многія іншыя, тыя, хто ўзяў тады на сябе адказнасць за Бацькаўшчыну. У іхны гонар паўсталі помнікі і названы вуліцы, школы, прадпрыемствы.

Загадчык раённага аддзела народнай адукацыі Аўсюк Віталь адзначыў, што ў раёне працуе 87 школ, у якіх працуе 1005 настаўнікаў. Усе маюць вышэйшую адукацыю. Школы знаходзяцца на поўным дзяржаўным утрыманні, забяспечаны ўсім неабходным абсталяваннем. Усе школьнікі бясплатна атрымліваюць гарачыя снеданні і забяспечаны бясплатным падвозам аўтобусамі іх да школы. У школах раёна дзеці вывучаюць ангельскую, французскую або нямецкую мову па іх жаданні і па жаданні бацькоў. Вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі рыхтуюць высокакваліфікаваных спецыялістаў па ўсіх галінах прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры. Нашы студэнты едуць за мяжу на стажыроўку, а студэнты іншых краін прыязджаюць да нас. Студэнты нашых ВНУ забяспечаны стыпендыяй і жыллём.

Скрыпка Алёна хоча дапоўніць Віталя. Яна адзначае, што ў час канікул вучні многіх школ пабывалі ў прыгажэйшых, славутых і дарагіх кожнаму беларусу мясцінах: Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка»; азнаёміліся з архітэктурай замкаў у Лідзе (XIV ст.), Наваградку (XIV–XVI стст.) — першай сталіцы ВКЛ, Міры (XIV–XVI стст.), Нясвіжы (XVI ст.), з Сафійскім саборам у Полацку (XI ст., перабудаваны ў 1750 г.), Белай Вежай, пабудаванай

у 1276–1288 гг., Вільняй — другой сталіцай ВКЛ. У кожнай мясціне наведалі багатыя музеі, у якіх нашы дзеткі азнаёміліся з гераічным мінулым нашага народу.

Ездзяць нашы людзі ў час адпачынкаў у іншыя краіны свету, каб паглядзець на людзей, азнаёміцца з іх культурай, убачыць прыгажосць гарадоў, гістарычных помнікаў, пабываць каля мора і ў гарах. Не менш прыязджае і да нас турыстаў з замежных краінаў. Ёсць у Беларусі і на што паглядзець і што паказаць: цудоўныя гарады і вёскі з помнікамі архітэктуры, музеямі. Ёсць магчымасць азнаёміцца з багатай культурай беларускага народа. Наша прырода проста зачароўвае турыстаў гаямі, блакітнымі рэкамі і азёрамі з чыстымі водамі. Беларуская прырода не ўступае па прыгажосці ні Карпатам, ні міжземнаморскаму ўзбярэжжу. А калі яшчэ паслухаць салаўя ці жаўранка, то лепшай краіны і не знойдзеш. Многа прыязджае да нас нашчадкаў беларусаў, тых, якія пакінулі Радзіму ў далёкім мінулым у пошуках лепшай долі. Прыемна здзіўляе той факт, што яны не забылі роднай беларускай мовы, жывучы ў другіх асяродках, хаця і гавораць з іншамоўным акцэнтам. Мабыць, не адно пакаленне змянілася, а яны не згубілі роднай мовы.

Едуць і да нас у Паставы. Першыя гістарычныя згадкі пра Паставы адносяцца да X стагоддзя. У 60-х гадах XVIII стагоддзя ўладаром мястэчка стаў Антоні Тызенгаўз, надворны падскарбі ВКЛ. Рэфарматар, асветнік і аматар мастацтваў, ёнператварыў драўлянае паселішча ў каменны гарадок, было ўзведзена шмат барочных будынкаў, якія ўтварылі ў цэнтры горада закончаны архітэктурны ансамбль. На выездзе на Мядзел ён пачаў будаўніцтва шыкоўнага палаца, які стаў помнікам архітэктуры класіцызму. На працягу сваёй гісторыі палац адыгрываў ролю адметнага цэнтра, які быў вядомы не толькі ў наваколлі, але і за яго межамі. У розныя часы ў палацы дзейнічалі тэатр і музычная школа, у якіх навучаліся дзеці з мястэчка і навакольных вёсак. У 1755 годзе ў мястэчку была адкрыта свецкая школа з сярэдняй ступенню навучання. У 1781–1785 гадах тут існавала прыватная балетная школа, адзіная на той час у Рэчы Паспалітай. У 1785 годзе ў Варшаве быў паказаны балет «Гілас і Сільвія» пастаўскімі выканаўцамі.

У першай палове XIX стагоддзя Паставы сталі вядомыя як навуковы і культурны цэнтр. Канстанцін Тызенгаўз, унук Міхаіла, старэйшага брата Антонія, дабудаваў палац. Узведзеныя мураваныя будынкі ўтварылі адзіны палацавы ансамбль, адметны сваімі знешнімі і ўнутранымі характарыстыкамі. Ён выклікаў захапленне сучаснікаў. Палац перажыў часы ліхалеццяў XX стагоддзя і на сённяшні дзень знаходзіцца ў прыстойным стане. Зараз там багаты музэй.

З дапамогай нашчадкаў Тызенгаўзаў быў узведзены касцёл Св. Антонія Падуанскага і царква Св. Мікалая Цудатворца.

Зараз у Паставах дзейнічае Дом культуры, бібліятэка, краязнаўчы музей, Дом рамёстваў, дзіцячая мастацкая школа і музычная школа. Ансамбль народнай музыкі «Паазер'е» і Груздаўскі цымбальны аркестр карыстаюцца шырокай папулярнасцю як на радзіме, так і за яе межамі. Штогод у Паставах праводзіцца міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», куды прыязджаюць фальклорныя калектывы з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Украіны, Расеі, Італіі і іншых краін.

Пастаўскі край ганарыцца імёнамі знакамітых землякоў. Тут нарадзіліся паэт і перакладчык У. Дубоўка, садавод І. Сікора, сучасныя паэты і пісьменнікі А. Нафрановіч, І. Пракаповіч і іншыя.

Палкоўнік Парахневіч Кастусь: «Мне хлопчыкі прыслалі запытанне. Іх цікавіць стан беларускіх узброеных сіл і колькі ім давядзецца служыць. Улічваючы тое, што зараз у армію прыходзяць адукаваныя людзі, то для авалодання сучаснай ваеннай тэхнікай дастаткова аднаго года. Распрацоўваецца праграма аб пераводзе нашай арміі на кантрактную аснову, як і ў другіх краінах свету. Што тычыцца ваеннай тэхнікі і ўзбраення, то яно адпавядае сучасным патрабаванням. Мы ўваходзім у ваенны саюз "Сусветны шчыт", які аб'ядноўвае вядучыя краіны ўсіх частак Зямнога шара. Атамнае ўзбраенне зараз нікому не патрэбна, бо ніхто ні на каго не збіраецца нападаць. У ААН, членам якой з'яўляецца і БНР, рыхтуецца законапраект аб забароне атамнай зброі».

Дзіковіч Янка, кіраўнік раёна: «Вялікі ўклад у эканоміку БНР уносяць працаўнікі нашага раёна. Фермерскія гаспадаркі забяспечваюць не толькі патрэбы раёна, але і пастаўляюць прадукцыю ў гарады рэспублікі. Частка тавараў ідзе на экспарт. Толькі Пастаўскі маслазавод вырабляе звыш 40 гатункаў прадукцыі. Прадукцыя ільнозавода (кудзеля), які з'яўляецца адкрытым акцыянерным таварыствам, ідзе не толькі на Аршанскі ткацкі камбінат, але і на фабрыкі замежжа. На заводзе наладжана безадходная вытворчасць. Тут вырабляюць кастрапліту для будаўніцтва. Кожны фермер спецыялізуецца на якой-небудзь сельскагаспадарчай культуры: бульбе, гародніне або ягадах. На кожнай фермерскай сядзібе расце сад. Прадукцыя садоў, агародаў і ягаднікаў паступае на Пастаўскі кансервавы завод, дзе з іх вырабляюць сокі, варэнні і іншыя смачныя прадукты. Слоікамі іх забяспечвае шклозавод "Гута". Працуе хлебазавод, мясакамбінат, дрэваапрацоўчы камбінат "Варапаева" па вырабе мэблі. Унітарнае кааператыўнае вытворчае прадпрыемства "Паставы-мэбля" забяспечвае БНР вучэбным абсталяваннем. Частка яго прадукцыі (сталы, шафы, канапы, наборы для кухні) ідзе за мяжу. Завод трансфарматараў для тэлевізараў новага пакалення вырабляе прадукцыю, якая ідзе на заводы ў Менску і Віцебску і за мяжу. Пастаўская будаўнічая кампанія будуе дамы з усімі выгодамі

для жыхароў раёна. Раён поўнасцю электрыфікаваны і газіфікаваны. Гэта адбылося некалькі дзесяцігоддзяў назад. Электрычнасцю забяспечвае Новалукомльская ДРЭС. Раённая спажывецкая кааперацыя, якая налічвае больш за 100 крамаў, забяспечвае насельніцтва ўсімі неабходнымі таварамі. Пастаўскае аўтапрадпрыемства — адкрытая акцыянерная кампанія — забяспечвае жыхароў раёна аўтобуснымі перавозкамі, хаця амаль ва ўсіх ёсць свае аўтамабілі. Дарожная кампанія трымае асфальтавыя магістралі ў выдатным стане. Ажыццявілася мара людзей Падзісеншчыны — Дзісенка стала суднаходнай. Зараз з Казян можна на катары даплыць у Полацк, Віцебск і Рыгу. Людзі жывуць у добраўпарадкаваных дамах з усімі выгодамі. У кожным доме тэлефон і камп’ютар».

У заключэнне Дзіковіч Янка адзначыў, што беларускі народ спрадвеку быў працалюбівым — ці то на сельскім полі, ці то за ганчарным кругам. Людзі жывуць у вольнай краіне, працуюць без ніякага прымусу, без цівуноў і брыгадзіраў, а таму і работа спорыцца як у сялян-фермераў, так і ў рабочых заводаў. Яны маюць сваю ўласнасць, берагуць яе і памнажаюць для дабрабыту людзей і на карысць Бацькаўшчыны. Пенсіянеры атрымліваюць добрую пенсію, адпачываюць у дамах адпачынку і санаторыях, хворыя знаходзяцца пад наглядам дактароў.

Першая частка свята закончана. Зноў прагучаў Гімн БНР.

Пасля перапынку адбыўся вялікі канцэрт, які падрыхтавалі вучні ўсіх класаў. Гучалі беларускія песні, патрыятычныя вершы, цікавыя сцэнкі і выконваліся народныя танцы. Прысутныя дзякавалі выканаўцам працяглымі апладысментамі. Усе засталіся задаволенымі.

Потым дырэктар школы запрасіла прысутных на абед. У сталоўцы школы былі накрыты сталы, каля якіх завіхаліся афіцыянткі-школьніцы — члены кулінарнага гуртка. Гэта іх рукамі былі прыгатаваны розныя прысмакі, якімі з задавальненнем частаваліся як бацькі, так і дзеці. Відаць, будуць яны добрымі гаспадынямі. Да сталоў падносяць гарбату, каву, сок.

У заключэнне святочнай праграмы ў спартыўнай зале сустрэліся лепшыя спартыўныя каманды школы па баскетболе. Пераможцам выйшла каманда 11«Б» класа. У школе таксама працуюць спартыўныя секцыі па валейболе, футболе, хакею і шахматах. Пры гарадскім стадыёне маецца лядовы каток.

Для вучняў старэйшых класаў была арганізавана дыскатэка.

Шчаслівай вам дарогі ў жыццё, маладое пакаленне!

Запісаў гэта ўсё карэспандэнт газеты «Пастаўскі край» Райчонак Яўген.

Вечарам мы з жонкаю Алесяй і нашымі сябрамі наведалі таксама мясцовы Народны тэатр і паглядзелі п’есу Янкі Купалы «Тутэйшыя».

# УСТУП

«Добры дзень, далёкая і невядомая Канада!» — такімі словамі я закончыў сваю кнігу «Над Дзісенкай ракой». Ужо шосты год пайшоў, як мы пакінулі родную Беларусь і жывём у Канадзе, але ніколі і нічога не саснілася мне за гэты час канадыйскага. Сніцца мне мая родная Беларусь, Пастаўшчына, Дварчаны, дзе мы пражылі 45 гадоў, Чарэмушнікі Падзісенныя, дзе я нарадзіўся. Сняцца мне суседзі, вяскоўцы, сябры. Сніцца мне хатка, сад, агарод.

Нядаўна прыснілася мне родная мамачка, якую я абняў з вялікай радасцю са слязамі на вачах, што так яе даўно не бачыў. 10 жніўня 1949 года яна пакінула нас, гэта адбылося 59 гадоў таму назад. Толькі 59 гадоў яна пражыла. Рэдка яна мне снілася ў апошні час, можа, і з-за даўнасці гадоў. А тут я так выразна адчуў яе худзенькае цела. Адбылося гэта ў ноч з 13 на 14 жніўня 2008 года, на трэці дзень пасля гадавіны яе смерці. Я кладуся спаць і ўстаю з яе вобразам, я размаўляю з ёй, я чую яе галасок, такі мілы майму сэрцу. Я бачу яе ў маёй роднай хатцы каля печы за гатаваннем ежы або ў агародзе за полівам агуркоў. Я памятаю, як выпраўляла яна мяне ў школу. Калі школа была пабудавана ў вёсцы, то я прыбягаў дамоў на вялікім перапынку, каб чаго смачненькага перакусіць. Яна заўсёды казала: «Прыгожыя вы песні спяваеце ў школе, але твой галасок я добра чую здалёк». Я ніколі не быў спеваком, а голас мой мама чула. Калі кароўкі прыходзілі з поля, то мы з сястрычкай беглі за кубкамі, каб мама пры даенні нам наліла малачка. Малачко было цёплае, духмянае і вельмі смачнае. Засталося толькі ўспамінаць. Я бачу яе заўсёды жывую і адчуваю побач з сабой. Наступны раз мамачку сасніў у ноч з 2 на 3 верасня 2009 года.

Бацька мне сніцца часцей. Можа таму, што менш гадоў прайшло пасля яго смерці. Памёр ён 19 студзеня 1992 года, не дажыўшы аднаго месяца да сваёй 97-й гадавіны. І яго я бачу заўсёды жывога то за варштатам, габлюючы дошкі, то за плугам на полі ці з касой на сенажаці. А ў святы мы з бацькам і з дзядулем Тумашом лавілі вудачкамі ў Дзісенцы рыбку.

Зараз я ўсіх іх бачу жывымі і здаровымі, чую іх галасы і размаўляю з імі, звяртаюся да іх за парадай, калі ўзнікае пытанне, якое цяжка вырашыць. Думаю, як бы вырашылі тую ці іншую праблему яны, такія дарагія мае родныя. Яны памерлі, але яны жывуць у маёй душы і будуць жыць, пакуль будзе біцца маё сэрца.

Успамінаю сваіх дзядуляў і бабуляў, цётак і дзядзькоў, стрыечных братоў, Сашку, Пецьку, Рэніка, Колю і стрыечную сястру Люсю, якія ўжо адышлі ў свет другі, Анастасею Пятроўну, якая была другою жонкай майго бацькі. Успамінаю дзядулю Тумаша, роднага дзядзьку маёй мамы, які жыў у нашай сям'і. Я ўспамінаю іх кожны дзень.

Я бачу вясковыя могілкі. Бачу магілку мамачкі з помнікам над ёй. І я заўсёды думкамі пераношуся туды, калі хачу паразмаўляць з ёй. Сотні пахавана тут нашых продкаў, дзясяткі сучаснікаў. Розныя лёсы былі ў кожнага з іх, але я іх лічу зараз усіх аднолькава шчаслівымі, бо яны знайшлі апошні прыстанак у роднай зямельцы каля роднай вёсачкі і каля роднай рэчкі. Хаця і вёсачкі ўжо няма. Яна памерла разам з апошнімі яе жыхарамі: Грынько Пятром Сцяпанавічам, Грынько Міхаілам Аляксандравічам, Міхайлавым Якавам Васільевічам і Дзіковічам Фёдарам Восіпавічам, самым апошнім яе жыхаром. Ім трэба паставіць помнік за іх адданасць роднай вёсцы, яны пражылі там да апошняга дня.

Татачка мой і Анастасея Пятроўна ляжаць у латвійскай зямлі. Брат Віталій з сям'ёй вярнуўся з Латвіі ў Беларусь, у Казяны. Паміж Латвіяй і Беларуссю пралягла дзяржаўная мяжа. І ніхто не прыйдзе да іхных магілак, не прынясе беларускіх пахучых кветак, не памоліцца за іх душы. Дык няхай захаваюцца іх вобразы навекі ў нашых сэрцах.

Нядаўна адгукнулася знайсці магілы бацькі і Анастасеі Пятроўны мая пляменніца Рыма — дачка майго стрыечнага брата Брэсцкага Міхаіла. Я буду вельмі рады яе ўчынку і ўдзячны ёй, бо яна паабяцала класці кветкі і даглядаць іхнія могілкі.

Вось з такім сумным настроем мы і прыехалі ў Канаду, новую і невядомую для нас краіну. Некалі і нас не будзе. І не заспявае над нашымі магілкамі беларускі салавей і жаўранак, не закукуе зязюля, не заклякоча бусел — іх тут няма.

Тут нашым дзецям і ўнукам жыць! Маладыя хутчэй прывыкаюць. І няхай для іх новая краіна будзе мамай, а не мачыхай. А мы з Данатай, пражыўшы ўжо тут 5 гадоў, спадзяёмся, што гэта будзе так, бо мы бачым жыццё ў гэтай новай краіне сваімі вачыма..

Шчасця вам, здароўя і радасці ў жыцці, нашы дарагія і любімыя дзеці і ўнукі.

## ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ

З Манрэаля ў Атаву мы прыехалі ноччу. Пасля ўсяго перажытага і далёкага падарожжа мы былі ў стане нейкага здранцвення ці гіпнатычнага сну і не маглі нічога ўспрымаць. Пасяліліся мы ў доме сына Пеці па вуліцы Erin Crescent за № 117. Завялі нас у пакойчык, у якім

было ўсё падрыхтавана для нашага прыезду дзякуючы клапатлівай гаспадыні — нашай нявестцы Наталлі: два ложкі, тумбачкі, камода, крэслы і стол. Каля кожнага ложка — электралямпачкі. Шафаў для адзення тут асобных няма, як у Беларусі, яны ўманціраваны ў сценах яшчэ пры будоўлі дома. Тут жа ўнізе месца і для абутку.

Перш за ўсё трэба было выспацца пасля ўсіх дарог і трывог, а таксама прывыкнуць да розніцы ў часе — 7 гадзін паміж Мінскам і Атавай. І розніца гэта была значная: калі ў 11 гадзін вечара ў Атаве мы клаліся спаць, то ў Дварчанах ужо ўставалі. Там ужо было 6 гадзін раніцы, і гучала радыё. І наадварот, калі мы ўставалі ў 6 гадзін раніцы, то ў Дварчанах ужо абедалі, была першая гадзіна дня. Так што далёка мы заехалі.

Пасля таго, як наш стан прыйшоў да нормы, мы атрымалі магчымасць нешта ўспрымаць. І пачалі з дому. Знадворку паглядзець — дом двухпавярховы, злева — уваход у дом, справа — дзверы ў гараж з машынай, якія аўтаматычна адчыняюцца і зачыняюцца. А ўнутры дома — аказалася аж 5 узроўняў. Першы — бэйсмэнт, па-нашаму падвал або цокальны паверх. У Беларусі падвал выкарыстоўваўся для гаспадарчых патрэбаў, там захоўвалі агародніну, вугаль і гэтак далей. Тут бэйсмэнт быў абсталяваны пад жылы пакой, дзе жыў унук Віця. Паркетная падлога была зроблена Пецем. Каля сцяны стаяў ложак Віці, у вугле — рабочы стол з камп'ютарам. Каля сцяны — тэлевізар, насупраць — мяккая канапа. За сцяной — газавае абсталяванне для абагрэву дома зімой і пральная машына.

Другі ўзровень займаў гараж, трэці — пакой для прыёму гасцей з тэлевізарам і канапай перад ім, побач — сталовая з кухняй, якая абсталявана электрычнай плітой, халадзільнікам, ракавінай для мыцця посуду і мноствам шафачак для іх, злева ад уваходу знаходзіцца туалет. Чацвёрты ўзровень — спальня Пеці і Наталлі з ваннай і туалетам. І пяты ўзровень — наша спальня, рабочы кабінет Пеці з Наталляй з камп'ютарам, побач ванная з туалетам. На чатырох узроўнях ёсць тэлефонныя апараты.

Вокны тут, у адрозненне ад беларускіх, не адчыняюцца, а рассоўваюцца. Двайных вакон тут таксама няма. Затое зашклёныя яны ў дзве тоўстыя шыбы. На кожным вакне знадворку ёсць гусценькая металічная сетачка з вельмі тоненькага дроціку ад мух, камароў і мошак. Так што можна смела праветрываць пакой, туды не заляціць і мошка. Дзверы ад вуліцы адчыняюцца, у іх уманціраваны замок. Збоку агарода дзверы таксама рассоўваюцца, ёсць і сетка, як і на вокнах.

З пакоя — выхад у двор, на ганак, які займае плошчу 8 квадратных метраў. Улетку ў добрае надвор'е тут прымалі гасцей. Тут быў і стол са складнымі крэсламі вакол яго. Спусціўшыся па сходках уніз, можна ўбачыць пляцоўку ў адну сотку, абгароджаную дашча-

тым плотам. Каля плоту раслі слівы, агрэст, вінаград і прыгожыя кветкі. У цэнтры пляцоўкі расла трава, якую Пецfolk абкошваў раз у тыдзень. Тут стаіць «смажоўня», якая тут называецца барбекю, на якой смажаць мяса ці рыбу. Працуе яна на газе. З вуліцы, каля ўваходу ў дом, таксама пасаджаны прыгожыя кветкі.

На вуліцу мы выходзіць баяліся, бо мелі малы запас ангельскіх слоў. Быў у нас куплены яшчэ ў Беларусі падручнік ангельскай мовы ў двух частках, аўтарам якога з’яўляецца Бонк Н. А., і гукавы дадатак да яго. Па гэтым падручніку мы і вучыліся. У канцы кнігі быў слоўнік да тэкстаў. Тэксты мы добрасумленна пераклалі, праслухалі гукавыя дадаткі і ўжо ж нешта ведалі. Калі чыталі тэксты, мы ўсё разумелі. Але каб што-небудзь сказаць па-ангельску, закрыўшы кнігу, то нам гэта было цяжка зрабіць, не лезлі ў галаву ангельскія словы. Мы ж пачалі вывучаць гэтую мову ва ўзросце 70 гадоў. Мы таксама не мелі магчымасці з кім-небудзь размаўляць па-ангельску, патрэбна была практыка. Калі мы прыехалі ў Канаду, нам дзеці прапанавалі ісці на курсы ангельскай мовы, якія тут бясплатныя. Мы ж падумалі, што цяжка будзе нам там сядзець па тры гадзіны, а то і больш, у нашым узросце. Так і не пайшлі, хаця заявы былі ўжо пададзены. Вось так і прадаўжаем вывучаць ангельскую мову самастойна: праглядаем фільмы з тэкстамі да іх на ангельскай мове, спрабуем чытаць газеты пры дапамозе слоўніка і нешта разумеем. Але, выходзячы на вуліцу, трэба было ведаць, як сказаць на ангельскай мове «Мы не разумеем».

Ну і пайшлі мы знаёміцца з горадам і з людзьмі, трэба ж было некалі пачынаць. Выйшлі на вуліцу, сустрэлі нашага суседа, які збіраўся ехаць некуды на сваёй машыне. Павіталіся з ім. А ён загаварыў з намі аб добрым надвор’і. О, дык мы ж гэтыя словы ведаем! І гэта нам прыдало смеласці, мы ж ужо не такія бездапаможныя. Мы пайшлі па вуліцы. Вуліца ціхая, сустракаюцца рэдкія людзі, зусім незнаёмыя, але ўсе ўсміхаюцца і вітаюцца з намі. Абганяе нас адзін чалавек нашага ўзросту і мне здалося, што ён нешта сказаў па-руску «добро-добро», і я сказаў яму: «Здравствуйте». Можа, мне так хацелася што-небудзь пачуць па-руску ці па-беларуску, па чым я вельмі сумаваў. І ён спыніўся. Аказалася, што ён і сапраўды ведае некалькі слоў па-руску, толькі не ведаю, дзе ён іх вывучыў. Ён ведаў, што на іхнюю вуліцу прыехалі старыя «рускія» бацькі да сваіх дзяцей. Хто жыў у Савецкім Саюзе, усе былі для іх рускімі. Пачалі размаўляць на ангельскай мове. З цяжкасцю, але мы сумелі расказаць, што мы не рускія, а беларусы, што Беларусь — гэта адна з 15 былых рэспублік, што зараз гэта незалежная дзяржава са сталіцай горадам Мінскам. З нашай размовы мы зразумелі, што ён нешта ведае пра Беларусь, і мы былі вельмі рады гэтаму. А потым ён расказаў і пра сябе, што ён італьянец, даўно ўжо жыве тут, мае

свой дом, сям'ю, хоча пазнаёміць нас са сваёй жонкай. Даў нумар свайго дома, які быў зусім недалёка ад нас. Гэта былі нашы першыя сябры пасля нашага прыезду ў гэтую краіну. Пазнаёміліся потым і з яго жонкай, якая аказалася вельмі прыемнай жанчынай і стала добрай сяброўкай Данаты. У далейшым мы бывалі ў гасцях у іх, а яны — у нас. Звалі яго Робэрто, а жонку Іда. Зараз яны ўжо на пенсіі. Ён будаваў дамы, а яна працавала швачкай. Расказалі, што як яны прыехалі сюды, то цяжка было жыць у Канадзе эмігрантам. І жыццё наладзілася ў іх, ды і наогул у Канадзе, толькі гадоў 20 таму назад. Зараз у іх вялікі і прыгожы двухпавярховы дом з прыгожай мэбляй. Многа працавалі і змаглі даць дзецям, дзвюм дочкам і сыну, вышэйшую адукацыю. Дзеці маюць ужо свае сем'і, жывуць асобна ад бацькоў. Тут так заведзена, што кожная сям'я хоча самастойнасці. За домам — агародзік у 3 соткі, дзе яны вырошчваюць памідоры, кабачкі, моркаўку, кроп і гэтак далей.

Перш за ўсё трэба было азнаёміцца з нашай вуліцай. Crescent па-нашаму азначае «паўмесяц». Такую форму мае наша вуліца, калі глядзець з самалёта. І такіх вуліц, як мы пераканаліся потым, у горадзе вельмі многа. Гэта было выгадна для жыхароў, якія жылі на такіх «паўмесяцах». Гэта ціхія вуліцы, пазбаўленыя шуму аўтамабіляў, чаго няма на другіх вуліцах. Такім чынам, наша вуліца абодвума канцамі выходзіць на суседнюю вуліцу Liliko, больш шырокую, якая ўпіраецца ў яшчэ шырэйшую — Paul Anka, а Paul Anka ўжо выводзіць на Hunt Club. Гэта вельмі шумная вуліца з трыма праезджымі палосамі з аднаго і з другога боку, з нейтральнай паласой пасярэдзіне. Там не сціхаў гул машын ні днём, ні ноччу.

Усе дамы на нашай вуліцы — двухпавярховыя катэджы з гаражамі, прычым прыгожыя і ўсе розных канструкцый. Мы не бачылі ніводнага дома, каб ён быў падобны на другі. У многіх дамах — каміны, аб чым нагадвалі коміны з аднаго боку дома. Гэта былі асобныя домікі (асабнячкі), у якіх жылі багацейшыя людзі. Усе прыезджыя людзі пачыналі жыць у кватэрах, а з цягам часу нажывалі сабе і асабнячкі. Аб тым, колькі сем'яў жыве ў доме, можна было судзіць па колькасці дзвярэй у ім. Домікі ўяўляюць сабой непаўторны ансамбль катэджаў курортнага гарадка ў зелені дрэў. Былі дамы і кватэрнага тыпу, якія былі пабудаваны пад адным дахам (ад чатырох да дзесяці кватэр). Такія дамы былі трох, чатырох і больш паверхаў. Прамысловых прадпрыемстваў блізка мы не бачылі, а шматпавярховыя дамы (да 30 паверхаў) ёсць у цэнтры. Каля кожнага дома высаджаны кветкі ў грунт або падвешаны ў вазонніцах на сценах дамоў. І каля кожнага дома растуць дрэвы і ад вуліцы, і за домам. Многа клёнаў, дубоў, ліп і бяроз. І амаль каля кожнага дома расце елка, якую перад Калядамі ўпрыгожваюць цацкамі і гірляндамі. Каля дамоў для птушак падвешаны кармушкі розных канструкцый

для кармлення іх узімку. Ёсць птушыныя домікі (шпакоўні) розных памераў і з рознымі круглымі адтулінамі для ўсялякіх відаў птушак. Вечарам перад дамамі запальваюцца электрычныя агні, прычым у кожнага гаспадара на свой манер. Сканструяваны электрасілуэты аленяў і другіх жывёл, якія рухаюцца. З ранняй вясны і да позняй восені, адзін раз на тыдзень, гаспадары абкошваюць траву механічнымі або электрычнымі косамі (на калёсіках). Такіх косаў, якімі я касіў усё жыццё, я тут не бачыў.

Праходзячы вечарам па вуліцы, заўважалі, што каля кожнага дома стаяць машыны — адна ці дзве, а каля некаторых па тры і чатыры. Ёсць легкавыя і грузавыя, якія маюць выгляд легкавых, толькі з невялікім кузаўком. Гэта аўтамабілі дробных прадпрымальнікаў, якія рамантуюць дамы, дахі і гэтак далей. Бартавых аўтамабіляў, як у Беларусі, мы тут не бачылі. Для перавозкі грузаў на працаёмкіх работах ужываюцца магутныя самазвалы. А для перавозкі тавараў ужываюцца крытыя фуры, даўжынёй да 15–20 метраў.

Атава — горад вялікі, таму на працу прыходзіцца ехаць далёка. Ходзяць і аўтобусы, але на іх трэба затраціць многа часу, ды яшчэ з перасадкамі. Тут людзі не ўяўляюць сабе жыцця без аўтамабіля. Прычым, ездзяць на машынах усе: мужчыны і жанчыны, маладыя людзі і старыя пенсіянеры. Нас здзівіла тое, што да машыны падыходзіць дзядулька ці бабулька з кіёчкам, адчыняе машыну, садзіцца за руль і паехаў ці паехала. Яны ўсё жыццё праездзілі на машынах, ведаюць добра правілы дарожнага руху і вялікі горад. Апрача гэтага, у кожнага кіроўцы ёсць карта горада. А калі едуць у другі вялікі горад, то набываюць і карту гэтага горада. А на бензакалонках, у рамонтных майстэрнях, на мыечных станцыях працуюць маладыя людзі, якія абслугоўваюць так, што не трэба выходзіць з машыны. У старых людзей хапае грошай, каб заплаціць за ўсё. Яны зарабілі за сваё жыццё. А калі машына пачынае псавацца, яе мяняюць на другую, якая была ва ўжытку, або на зусім новую. Гэта часта робіцца ў крэдыт.

Ідзём па гораду. У адным месцы на продаж стаіць шэсць машын, якія былі ва ўжытку, і каля іх — ніводнага гаспадара. Каля іх толькі завіхаецца адна жанчына — агент па нерухомасці, якая і прадае гэтыя машыны па дамоўленасці з гаспадаром. За лабавым шклом кожнай машыны выстаўлены нумары тэлефонаў гаспадароў гэтых машын, каб можна было пазваніць, калі пакупніку што-небудзь незразумела.

Дамы купляюцца і прадаюцца таксама праз гэтых агентаў па нерухомасці. Калі чалавек хоча купіць дом, ён паведамляе агенту, які дом ён хоча купіць: новы ці быўшы ва ўжытку, з гаражом ці без яго, аднапавярховы ці двухпавярховы і гэтак далей. Яшчэ ўказваецца і месца, у якім раёне горада пакупнік хоча жыць. Дамы таксама

купляюцца ў крэдыт, абы толькі чалавек меў працу. Здзівіла нас і тое, што на тратуарах мы не бачылі людзей. Толькі потым мы зразумелі, што тут усе на колах. І ў газеце мы знайшлі лічбу, што канадыйцы займаюць першае месца ў свеце па колькасці машын на 1000 жыхароў. І гэта лічба высокая — 514. Большасць дамоў будуецца з гаражамі на адну або на дзве машыны. Гаражоў няма хіба ў старых кварталах горада. У тыя часы людзі яшчэ не думалі пра машыны, ды іх, можа, яшчэ тады і не было, а калі і былі — то мала. Каля вялікіх магазінаў, каля школ, цэркваў і касцёлаў пабудаваны пляцоўкі для стаянак, якія ніколі не пустуюць. Пад тэатрамі і музеямі пабудаваны трохпавярховыя гаражы з вуліцамі і рэгуліроўшчыкамі-паліцыянтамі. Пад шматкватэрнымі дамамі — таксама гаражы. Калі едзеш па горадзе, то складваецца такое ўражанне, што тут больш машын, чым людзей.

Яшчэ адна акалічнасць нас здзівіла: на вуліцах мы не бачылі ніводнага паліцэйскага. Прайшло некалькі месяцаў, а мы не ведалі, як ён выглядае. Потым нам растлумачылі, што яны нясуць службу на паліцэйскіх машынах і едуць на месца здарэння па выкліку.

Стаянкі аўтамабіляў ёсць платныя і бясплатныя. Каля магазінаў, школ — стаянкі бясплатныя. А калі паехалі з Пецем у паліклініку , то там за адну гадзіны стаянкі Пеця заплаціў 8 долараў. Прычым няма там ніводнага дзяжурнага, а пастаўлены робаты, якія ўпускаюць і выпускаюць за грошы. І з ім не дамовішся ніяк, каб было дзешавей.

На дарогах існуе тэхнічная служба дапамогі, калі ў каго што здарыцца з аўтамабілем. Ва ўсіх кіроўцаў аўтамабіляў ёсць сотавыя тэлефоны, па якіх выклікаюць тую службу. Калі нельга аказаць дапамогі на месцы, машыну забіраюць на спецыяльным прычэпе ў майстэрню.

Калі мы пачалі жыць у Эйлмэры, то супраць нашага дома № 450, праз вуліцу, быў дом састарэлых. Па ліку аўтамабіляў абслугоўваючага персаналу, якія заўсёды стаялі ў дварышчы ноччу і днём, можна судзіць, што там многа жыве старых людзей. Часам, у добрае надвор’е, іх можна было бачыць з хадулькамі, яны рабілі прагулкі. Іншыя самастойна яшчэ прагульваюцца пры дапамозе ляскі. Тых, хто не можа хадзіць, — возяць нянечкі. Родныя прыязджаюць наведваць сваіх, прыязджаюць наведваць іх і іх сябры, таксама старэнькія.

Аднойчы выйшла з іхняга дому старэнькая жанчына з хадулькамі ды з сабачкам на павадку. Няўжо ж, думаю, там дазваляюць жыць разам з сабакамі. Яна памаленьку падышла да сваёй машыны, адчыніла багажнік. Сабачка адразу ўскочыў туды. Напэўна, ён ужо цвёрда ведаў сваё месца. Туды ж паклала і свае хадулькі, якія складваюцца, села і паехала. Вось так жывуць капіталісты! Такога ў Беларусі я ніколі не бачыў. І другі выпадак. У вялікім магазіне, што недалёка ад нас, ёсць аддзяленне банка. Мне выпадкова давялося

назіраць, як адна бабулька, залацвіўшы свае справы ў банку, пайшла з хадулькамі да машыны, хадулькі схавала ў багажнік і паехала. Усе старыя тут, пакуль дазваляе іх здароўе, ездзяць на машынах.

Калі каму з дому хочацца паехаць куды-небудзь, то яны выклікаюць спецыяльны аўтобус, які мае пагрузачную пляцоўку. Нянечкі падвозяць старых на калясках, ставяць на пагрузачную пляцоўку, якая і падымае іх у аўтобус.

Школьныя аўтобусы возяць у школу і са школы малодшых школьнікаў. Усе аўтобусы памаляваны ў жоўты колер. Дзетак збіраюць, пад'язджаючы амаль да кожнага дома. Развозяць таксама па дамах. Пры выхадзе дзетак з аўтобуса, усе машыны, якія едуць за ім, спыняюцца. І пакуль не прыйдзе хто-небудзь за дзіцём са старэйшых, то аўтобус далей не пойдзе. Кіроўца аўтобуса будзе чакаць бацькоў. Старэйшыя вучні ездзяць у аўтобусах па праязных білетах.

У адзін з выхадных дзён Пеця завёз нас да міжнароднага аэрапорта, які быў размешчаны ў двух кіламетрах ад нашага дома. Мы кожны дзень назіралі за самалётамі, якія адляталі з аэрадрома, і ў думках благаслаўлялі іх, жадалі шчаслівага палёту і шчаслівага прызямлення. Адсюль можна даляцець у любую краіну свету, у тым ліку — і ў родную Беларусь. Але ў нашым веку ўжо не да палётаў. Няхай лётаюць нашы дзеці і ўнукі, якія нам потым аб усім раскажуць, а ў нас складзецца ўражанне, што і мы там былі.

Аэрадром мае дзве узаемна перпендыкулярныя ўзлётныя паласы. Паглядзелі на вялізныя пасажырскія лайнеры. Наведалі памяшканне аэравакзала, які быў запоўнены разнамоўнымі пасажырамі, касы, каля якіх тоўпіліся невялікія чэргі, зал адпачынку. Усюды адчуваўся спакой і парадак. Надвор'е было добрае, і самалёты адляталі па раскладу.

Кожны дзень улетку над горадам можна ўбачыць вялізныя рознакаляровыя паветраныя шары, дзе ў падвешаных кашах знаходзяцца людзі, тыя каму хочацца ў час адпачынку палюбавацца панарамай горада зверху. Плывуць яны павольна з ветрам, так што можна агледзець вялізны раён Атавы. У кастрычніку 2008 года Пеця з Наташай, у юбілей іх сумеснага жыцця, дазволілі сабе паглядзець на Атаву з вышыні птушынага палёту (800 метраў) — з паветранага шара.

Два разы мы прысутнічалі на свяце сеньёраў (пажылых людзей), адзін раз — восенню, а другі — перад Калядамі. Нас запрашала дэпутат гарадскога муніцыпалітэту Марыя Мак Рэй. У памяшканні, у якім адбывалася сустрэча, нас ветліва сустракалі і праводзілі ў зал, дзе былі накрыты сталы з рознымі прысмакамі. З прывітальным словам да прысутных выступала дэпутатка, жадала здароўя, шчасця нам і нашым сем'ям. Была музыка, можна было і патанцаваць. Гэта было на першым годзе нашага прабывання ў Канадзе, і мы сябе яшчэ адчувалі «не ў сваёй талерцы». Потым частавалі кавай, гарбатай,

сокам (што каму па выбары). Пры развітанні Данаце падарылі вазон прыгожых зімовых кветак.

Другі раз нас запрасіла тая ж дэпутатка, каб паказаць перадсвяточны горад вечарам за некалькі дзён перад Калядамі, для гэтага выдзелілі чатыры вялікія аўтобусы. З намі ехала і сама Марыя. Спыняліся ў самых прыгожых месцах, хаця цяжка было сказаць, дзе прыгажэй. Увесь горад ззяў у рознакаляровых гірляндах. Уласныя дамы былі прыбраны гірляндамі ад падмурку і да коміна. Уласнікі не скупіліся на ўбранства сваіх дамоў. І ўражанне было такое, што яны спаборнічалі паміж сабой. Выразна выдзяляліся контуры вокнаў, дзвярэй, абрысы даху і коміна. Знутры вокны таксама свяціліся. Дрэвы каля дамоў былі таксама ў гірляндах. Стаялі сілуэты розных звяроў, якія паварочвалі свае галовы. І ўражанне такое, што ты знаходзішся ў нейкім другім, незямным свеце. Пад'ехалі мы да парламенцкіх палацаў. Усё прыгожа! Так сустракае канадыйскі народ, а разам і мы, вялікае свята — Хрыстова Нараджэнне. Калі мы вярнуліся назад — зноў запрасілі на каву.

Дэпутатка Марыя Мак Рэй перад Калядамі штогод прысылала нам віншавальныя паштоўкі.

## ПАДАРОЖЖА НА НІЯГАРУ

Хутка пасля нашага прыезду сын Пеця прапанаваў нам паехаць і паглядзець на Ніягарскі вадаспад. Гэта мы ўспрынялі з радасцю. З горадам Атавай мы больш-менш азнаёміліся. А што ж мы ўбачым за горадам? Гэта нас вельмі цікавіла, бо з Манрэаля ў Атаву мы ехалі ноччу, ды і ўспрымаць што-небудзь мы тады былі не ў стане. Дарога да Ніягарскага вадаспаду далёкая, каля 500 кіламетраў з хвосцікам. Дзень быў сонечны, надвор'е цудоўнае, у нас таксама адпаведны настрой. І мы паехалі, хаця і было штосьці прыемна-хвалюючае, як і перад любой паездкай у невядомасць.

Але, перш чым ехаць, хацелася крыху азнаёміцца з правінцыяй Антарыа, па тэрыторыі якой мы будзем праязджаць, з яе геаграфіяй і гісторыяй. Трэцяя частка ўсіх канадыйцаў пражывае ў Антарыа. Большая частка насельніцтва размаўляе на ангельскай мове, астатнія — на французскай. Самымі першымі людзьмі ў Антарыа, як і ва ўсёй Канадзе, былі карэнныя жыхары, у якіх ёсць свая мова і свая культура. Пасля 1700 года насельніцтва Канады пачало вельмі хутка расці. Ехалі з Брытаніі і з другіх краін свету і рассяляліся ў Антарыа. Багатыя рэсурсы і стратэгічнае месцазнаходжанне правінцыі Антарыа спрыялі развіццю эканомікі. Сёння большасць працаздольнага насельніцтва працуе ў абслугоўванні і вытворчасці. У Паўднёвым Антарыа вырабляюцца аўтамабілі, аўтазапчасткі

і іншае транспартнае абсталяванне. Развіта вытворчасць сталі, машын, металу, пластыку і хімпрадуктаў, прадуктаў харчавання. Шахты Антарыа здабываюць нікель, золата, серабро, плаціну, уран, цынк і медзь. Лясная прамысловасць дае папяровую масу і. іншыя папяровыя прадукты, лесаматэрыялы. Шматлікія рэкі правінцыі, на якіх часта сустракаюцца парогі, з'яўляюцца крыніцамі электрычнай магутнасці. Ніягарскі вадаспад у Антарыа — добравядомы ўзор магутнасці вады, што нараджае электрычнасць. Паўднёвае Антарыа багата фермерскімі гаспадаркамі. Ніягарскі паўвостраў з'яўляецца буйным вытворцам персікаў, яблыкаў, вінаграду і іншых фруктовых культур. Фермеры Антарыа займаюцца конегадоўляй, вырошчваюць буйную рагатую жывёлу, дамашніх птушак, гадуюць авечак, коз, свіней. Таксама займаюцца гароднінай, пчалярствам і, часткова, зерневымі культурамі. Канадыйцы вырошчваюць зерне ў правінцыях прэрый (Манітоба, Саскачэван, Альберта).

Ітак, мы едзем. Што ж мы ўбачылі, што нас здзівіла і ўразіла?

Перш за ўсё гэта прыгожыя, шырокія, добрыя асфальтавыя магістралі ў некалькі палос з рознымі дарожнымі абазначэннямі і знакамі. З кожнага папярочнага выезду на дарогу пазначана лінія бяспекі. Сустрэчная паласа была асобна. Для папярочных пераездаў пабудаваны масты. Лясы, якія падступаюць да самай дарогі, абгароджаны металічнымі сеткамі, каб дзікія жывёлы не маглі выскачыць на дарогу. І бесперапынны рух аўтамабіляў розных канструкцый і марак, ад двухмясцовых турысцкіх — да дваццаціметровых фурвагонаў. Каля дарогі абсталявана многа месцаў для адпачынку, дзе можна перакусіць і папіць. Многа запраўчных станцый. У туалетах чысціня і парадак, і ўсюды бясплатна.

Раўніны чаргуюцца з невысокімі пагоркамі і гарамі, вышынёй да 200–300 метраў. Месцамі дарогі прабіты ў гарах. Нас перш за ўсё ўразіла веліч выемак у скалістых гарах, дзе будаваліся аўтамабільныя магістралі. Злева і справа — голыя скалы вышынёй больш за дваццаць метраў. Часам скалы знаходзяцца толькі з аднаго боку, а з другога — цэментавыя агароджы, каб не паляцець у прорву. Колькі ж прыйшлося вывезці гэтага грузу, каб атрымалася дарога? І складваецца такое ўражанне, што ўся Канада размешчана на скалах. Вышэй знаходзіцца непралазны лес, дзе растуць амаль такія ж самыя дрэвы, як і ў Беларусі: розныя віды клёнаў, які з'яўляецца сімвалам Канады, дубы, бярозы, вольхі, елкі, сосны і гэтак далей. Але ёсць і такія дрэвы, якіх няма ў Беларусі. Месцамі мільгаюць горныя азёры, рэкі і масты над імі.

На раўнінных месцах размешчаны фермерскія гаспадаркі з прыгожымі двухпавярховымі дамамі гарадскога тыпу, гаспадарчымі пабудовамі вакол іх і жывёлагадоўчымі фермамі. У асноўным у Канадзе хутарная сістэма, але ёсць і невялікія вёскі. Вакол хутароў

знаходзяцца палі, засеяныя кукурузай, і пашы, дзе пасуцца каровы, коні, авечкі. Пашы абгароджаны электрапастухамі. У некаторых фермераў стойлавае ўтрыманне жывёлы і летам. Вакол некаторых хутароў вялізныя сенажаці, месцамі ўжо скошаныя. Сушанае сена спрасаванае ў цыліндрычныя цюкі. Месцамі яшчэ косяць. На кожным хутары працуюць 1–2 трактары, магчыма бацька з сынам. У кожнага фермера ёсць уся неабходная тэхніка і прычапны інвентар. Ніхто не стаіць над ім «з пугай» — ні брыгадзір, ні старшыня. Ён сам сабе гаспадар — ён і старшыня, і бухгалтар, і аграном, і эканаміст, і касір. Некаторыя фермеры спецыялізуюцца па малаку. Яны трымаюць ад 20 і да 50 дойных кароў, у залежнасці ад працаздольнасці сям'і. Адпаведна на ферме знаходзяцца даільныя ўстаноўкі. І іх прадукцыя запаўняе магазіны ў гарадах малаком, маслам і іншымі малочнымі прадуктамі.

Праязджаем многа хутароў, невялікіх вёсак і гарадкоў. Пад'язджаем да возера Антарыа. Выязджаем на мост, што перасякае шумную дарогу, і мы — на спецыяльнай стаянцы каля самага возера. О-о-о! Дык гэта ж не возера, а мора ўнутры краіны! Процілеглых берагоў, амаль за 100 кіламетраў, не ўбачыш. Ды і ў даўжыню не менш 300 кіламетраў. Гэта мы вызначаем па карце, якую прыхапілі з сабой. На карце кропачкай абазначана і самае глыбокае месца — 237 метраў. Возера ўваходзіць у групу так званых «Вялікіх Азёр». Яшчэ тры з іх: Верхняе, Гурон і Эры — амываюць берагі Канады. Пятае возера Мічыган знаходзіцца на тэрыторыі ЗША.

І крыху гісторыі: аб тым, як адкрылі возера Антарыа. Малады француз Эц'ен Бруле пяць год даследаваў па даручэнню Самуэля Шэмплейна ваколіцы Вялікіх Азёр. Адкрыў раку і праход, на якіх ад ракі Святога Лаўрэнція дабраўся аж да возера Гурон. Даследаваў вялікі абшар уздоўж гэтага возера, дайшоў да Верхняга возера і, праўдападобна, да возера Мічыган. Ён любіў гэты занятак. Любіў не толькі чароўныя рэкі, азёры, лясы, але і людзей, якія тут жылі, індзейцаў. І індзейцы любілі яго ды часта дапамагалі гэтаму беламу хлопцу. Бруле меў усяго васямнаццаць гадоў, калі ён стаў даследнікам.

І вось улетку 1615 года індзейцы паказалі свайму прыяцелю дарогу да яшчэ аднаго возера на поўдні.

Ад Джорджэн Бэй, затокі возера Гурон, паплылі яны на поўдзень, плылі пераважна праз дзікі лес, поўны звяроў, па рэках з чыстай вадой і багатых на рыбу.

Не раз яны мусілі чаўны і ўсё, што ў іх было, па зямлі волакам цягнуць, каб з аднаго возера ці ракі перайсці ў другую.

Нарэшце, трымаючыся ракі з абрывістымі берагамі, што вілася па балацяных лугах, Бруле і дванаццаць яго праваднікоў-індзейцаў

даплылі да вышэйшага месца і тут спыніліся. Прад імі мігцеў у сонцы бязмежны, як мора, абшар вады.

Гэта звілістая рака цяпер завецца Гамбэр Рывэр, а вялікая вада — возера Антарыа.

Уздоўж берага возера далей на ўсход аж да другой ракі, што завецца цяпер Дон Рывэр, ішла дарога. Важнае гэта было месца ў індзейцаў. Яны тут, як на кірмашы, сустракаліся, каб выменяць рэчы і тавар. Сюды сходзіліся на нарады, а можа, і пагуляць. Дык і звалася яно «месца сустрэчаў», па-індзейску «Торонто».

Пасля адкрыцця возера Антарыа ў 1615 годзе ў Таронта ўсё часцей пачалі наведвацца скупшчыкі шкураў. За муку, за розныя хатнія прылады, а часам і за зброю выменьвалі яны ад індзейцаў шкуры, якія пасля прадавалі з вялікім прыбыткам у Еўропу на дарагія футры. Гэтак на працягу пяцідзесяці гадоў ля вусця ракі Гамбэр разбудавалася вялікая індзейская вёска.

Пройдзе, аднак, яшчэ больш паўстагоддзя, пакуль французы разбудуюць тут сваю сталую гандлёвую пляцоўку, каб ахоўваць сваіх купцоў і іхні каштоўны тавар. Толькі нядоўга стаяў гэты форт. Праз дзевяць гадоў самі французы спалілі гэты форт дашчэнту, каб ён не трапіў у рукі ангельцаў, якія ў 1759 годзе канчаткова перамаглі французаў у Новым Свеце ды захапілі нават Квэбек.

На працягу наступных гадоў індзейцы ды іхняе Таронта зноў былі пакінутыя самі сабе. Ангельшчына была занята вайною са сваімі трынаццаццю калоніямі, якія знаходзіліся на поўдзень ад возера Антарыа. Калі ж гэтую вайну яна прайграла, тады калоніі абвясцілі сябе самастойнай дзяржавай — Злучанымі Штатамі Амерыкі (1776). Некаторыя жыхары гэтых калоній, застаючыся вернымі Ангельшчыне, эміґравалі ў Ангельскую Канаду.

Мясцовасць з працярэбленымі дарогамі праз лясны гушчар, дзе некалі стаяў французскі форт, здалася брытанскаму губернатару ў Квэбеку вельмі адпаведнай, каб пасяліць туды верных Ангельшчыне людзей, што прыбывалі з поўдня. Да таго ж разумеў ён, што карысна будзе ажывіць зноў гандлёвы пункт, які некалі даваў такія вялікія прыбыткі французам. Цяпер гандаль мог даваць прыбыткі і яму. Ён і пачаў перамовы з правадырамі мясцовых індзейцаў, каб адкупіць ад іх зямлю. Неўзабаве зямля была куплена за няпоўныя дзве тысячы ангельскіх фунтаў, паўтары сотні бочак мукі ды іншую дробязь. Дзялянка лесу была шырынёй 14 міляў і ўпіралася ў возера Антарыа там, дзе знаходзіцца сённяшні Таронта. Даўжыня дзялянкі была 30 міляў на поўнач.

Тады ж быў складзены план пабудовы горада і прыстані Таронта. Праводзіць у жыццё гэты план пачалі толькі пасля падзелу Канады на Ніжнюю Канаду (усходнюю), дзе пражывала большасць насель-

ніцтва французскага паходжання, і Верхнюю Канаду (заходнюю), якая была ў большасці англамоўная (1791).

Ітак, мы на беразе возера Антарыа. Сонца ўжо паспела пакупацца ў яго чыстых водах і схілілася да гарызонту. Рэдкія невялічкія воблачкі яшчэ адлюстроўваюцца ў яго водах. Людзі адпачываюць на беразе, некаторыя купаюцца ў дазволеным бяспечным месцы, якое абазначана рознакаляровымі паплаўкамі. Па возеры плаваюць яхты, катары, маторныя і звычайныя лодкі. Каля берага і на беразе многа дзікіх качак і гусей, якія не баяцца людзей, што нас таксама здзівіла. Многа ўжо маладых вывадкаў, якія разам са сваімі «мамамі» і «татамі» спакойна шчыпаюць траўку, не звяртаючы ўвагі ні на кога.

Вяртаемся зноў на шашу. Адчуваецца, што мы пад’язджаем да вялікага горада. Гэта Таронта з двухмільённым насельніцтвам, з прамысловымі прадпрыемствамі, з высотнымі дамамі-хмарачосамі. Дарога шырокая, 8 палос як у адным, так і ў процілеглым напрамку, і ўся запоўнена машынамі. Здаецца, што з гэтага цячэння мы не выедзем. Уязджаем у горад і захапляемся яго веліччу і любуемся яго прыгажосцю.

Заначавалі ў добрых, гасцінных людзей, сяброў сына Пятра, Шаўчэнкаў Юры і Валі з іх мілымі дачушкамі. Яны таксама з Беларусі.

На наступны дзень мы прадоўжылі сваё падарожжа. Гэта яшчэ каля 130 кіламетраў. Увесь час едзем каля возера. Аб’язджаем вялікі прамысловы горад Гамільтон.

Уязджаем у невялікі гарадок Ніягара-Фолс. Скончылася наша доўгае падарожжа. Шукаем месца для паркоўкі машыны, якую не так проста і знайсці. Многа людзей прыязджае сюды летам, каб паглядзець на гэтае цуда прыроды. Як толькі мы выйшлі з машыны, мы адразу пачулі шум з громам. Ён быў такі, што як бы там нешта рабілася незямное, непрывычнае для нашага вуха. З вялікім хваляваннем падыходзім бліжэй, і нашаму зроку адчыняецца велічная панарама Ніягарскага вадаспаду. Вада падае з вялікай вышыні (каля 51 метра). Уражанне такое, што нейкая жывая белая стужка зматваецца з вялізнага нябачнага матавіла і знікае ў бурлячай вадзе, над якой стаіць воблака пары. Там, да самага вадаспаду, падплываюць катары з турыстамі. Апускаемся і мы на ліфце да месца прыпынку катараў. Купляем білеты, і нас апранаюць у сінія цэлафанавыя дажджавічкі з каптуркамі. Сядаем на катар і плывём супраць бурнага цячэння. Падплываем да самага падножжа вадаспаду, і тут пачынаецца дождж, створаны пырскамі падаючай вады. У воблаку іграе вясёлка ад падаючых праменяў яснага паўднёвага сонца. Вяртаемся назад. Дажджавічкі застаюцца нам на памяць аб гэтым цудоўным падарожжы. На ліфце зноў падымаемся на пляцоўку агляду.

А па другі бок ракі — там хвалёная і даўно чутая, багатая Амерыка (ЗША). Туды пры Польшчы з Заходняй Беларусі ехалі людзі ў заробкі, а адтуль ужо прыязджалі «амерыканцамі» — так у нашых краях звалі іх. Прыязджалі адтуль яны багатымі, з грашыма, што маглі купіць зямлі і жыць нябедна. Ведаў такога Шорца з Зосіна, які ўзяў прыгожую дзяўчыну Жэню з нашай вёскі, Чукіна Міхаіла з Васілін, пазней ён стаў нашым сватам (мая сястра Надзея выйшла замуж за яго сына Колю), Антуха з вёскі Волахі, які працаваў у Амерыцы дворнікам, але, вярнуўшыся, стаў заможным селянінам.

На рацэ Ніягары, якая злучае азёры Эры і Антарыа, у месцы вадаспаду ёсць два вострававы, меншы і большы. Меншы называецца «Luna» (магчыма гэта ад слова «lunatic», што азначае «шалёны»), а большы востраў — «Goad», што літаральна азначае «прыводзіць у шаленства». Такім чынам, прырода стварыла аж тры вадаспады. Паміж правым берагам ракі і меншым востравам знаходзіцца Амерыканскі вадаспад, паміж астравамі — невялічкі, па даўжыні прорвы (абрыву), «Вясельны вэлюм» (вуаль, заслона) і паміж большым востравам і левым берагам знаходзіцца Канадыйскі вадаспад, які мае назву «Конская падкова» (калі глядзець з верталёта). На Амерыканскім вадаспадзе і «Вэлюме» вада падае з вышыні 54 метраў, даўжыня прорвы (абрыву) — каля 324 метраў, аб'ём вады, які падае за адну секунду, каля 683 тон. На Канадыйскім вадаспадзе вада падае з вышыні 51 метра, даўжыня прорвы 793 метры, аб'ём вады за адну секунду дасягае 2730 тон. Тут праходзіць дзяржаўная граніца паміж Канадай і ЗША.

Рака Ніягара, як і ўвесь басейн Вялікіх азёр, з'яўляецца неад'емнай часткай басейна і наследдзем ледніковай эпохі. 18 000 гадоў таму назад Паўднёвае Антарыа, тэрыторыя сучаснай правінцыі Антарыа, было пакрыта лёдавай посцілкай таўшчынёй ад двух да трох кіламетраў. Калі абледзяненне кантынента пачало пасоўвацца на поўдзень, лёд пачаў таяць, сабралася многа вады. Праходзілі стагоддзі, ляднік адступаў на поўнач, вызваляючы ад лёду вялізныя ўпадзіны, запоўненыя вадой, якія ўтварыліся ад вялікага ціску лёду на паверхню зямной кары. Так утварыліся Вялікія азёры.

Ніягарскі паўвостраў вызваліўся ад лёду каля 12 500 гадоў таму назад. Прыблізна ў гэты час (12 000 гадоў таму) і ўтварылася рака Ніягара. Яе напаўняла вада, якая цякла з возера Эры ў возера Антарыа. А з возера Антарыа вада пракапала сабе дарогу ў Атлантычны акіян, і дарога гэта стала называцца ракой Святога Лаўрэнція. Ніягарскі вадаспад прыцягвае турыстаў з усяго свету. Кожны год тут бывае каля 12 мільёнаў чалавек. Яго велічэзная прыгажосць выклікае ў прысутных нейкі загадкава-прыемны страх.

Поўныя прыемных уражанняў мы вяртаемся назад. Заначавалі ў Таронта ў тых жа гасцінных гаспадароў, Шаўчэнкаў. З Таронта

паехалі па зусім другой дарозе, каб убачыць што-небудзь іншае, невядомае для нас. Заехалі у горад Бэры. У якасці экскурсавода ўзялі з сабой патрыётку-беларуску спадарыню Раісу Жук-Грышкевіч. Прыехалі ў горад Мідлянд, спыніліся каля касцёла, які пабудаваны на тым месцы, дзе індзейцы замучвалі ксяндзоў, якія неслі Хрыстову веру ў гэты край. Цяпер гэта месца стала гістарычным для людзей з усяго свету — тут узведзены помнікі пакутнікам усіх краін. Ёсць два беларускія помнікі: помнік ахвярам сталінізму і Памятны Крыж, узведзены дзякуючы намаганням спадароў Вінцэнта і Раісы Жук-Грышкевічаў. Паглядзелі помнікі пакутнікам іншых краін. У верасні 1984 года гэта Святое месца наведаў Папа Рымскі Ян Паўла II. Недалёка адсюль ляжаць руіны Цэнтра імя Святой Марыі, пабудаванага місіянерамі езуітамі ў 1639 годзе, якія выкарыстоўвалі яго ў выхаваўчай рабоце па прапагандзе хрысціянства сярод індзейцаў — карэнных жыхароў Гурона.

Сёння Святыня на ўзгорку выглядае як звычайнае месца. Але ёсць там штосьці такое, чаго вока не можа ўбачыць. Яно засталося там, гэтае «штосьці», яно цягне да адзіноты сэрца і дае яму спакой. Амаль 400 гадоў таму назад езуіты-місіянеры прыплылі з Еўропы ў краіну карэнных жыхароў Гурон з марай у душах, з вялікай мужнасцю, каб ажыццявіць гэту мару. Місіянеры верылі, што калі яны будуць мець зручны выпадак вучыць простых людзей хрысціянству ад самага пачатку, то яны змогуць пабудаваць Хрысціянскую Дзяржаву, дзе людзі змогуць жыць у роўнасці і міры. Гуронія была б такой дзяржавай у Паўночнай Амерыцы.

Святары верылі, што калі ў іх будзе дастаткова часу, то яны змогуць абараніць абарыгенаў ад прагнасці белых людзей. На працягу 10 гадоў Цэнтр Святой Марыі служыў езуіцкай місіі ў Гуроне. Там святары вучылі абарыгенаў, як абыходзіцца з краем, які корміць іх, як жыць, каб яны былі здаровымі, каб жыць згодна закону, які павінен прынесці ім вялікую карысць, як падтрымліваць духоўнае жыццё, якое можа быць мацней жыццёвай практыкі. Святары вывучалі мову абарыгенаў і жылі разам з імі. Яны вучылі людзей дабру, справядлівасці, давалі прыклад сваімі паводзінамі.

У 1649 годзе сюды набеглі іракезы — суседняе племя. Пяць святароў-місіянераў было засечана ў пакутах, насельніцтва вёскі Гурон знішчана, будынкі спалены. Зараз сюды прыязджаюць людзі з розных канцоў свету (ад 100 000 да 200 000 штогод), каб пакланіцца гэтаму святому месцу.

Мы адвезлі спадарыню Раісу дамоў, дзе яна пачаставала нас смачным абедам і расказала аб сабе і сваім мужу. Вінцэнт да вайны быў выкладчыкам у Віленскай беларускай гімназіі і праваслаўнай духоўнай семінарыі. У 1939 годзе быў арыштаваны і высланы ў Варкуту. Затым армія генерала Андэрса: Іран, Палестына, Італія,

дзе Вінцэнт пачаў гуртаваць вакол сябе маладых жаўнераў. У 1946 годзе фармаванні польскага корпусу былі пераведзены ў Вялікабрытанію. Там Вінцэнт стаў адным з заснавальнікаў і першым старшынёй Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі.

У 1950 годзе ён пераехаў у Канаду, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, або, як тут кажуць, дактарат. У 1954–1956 гадах кіраваў беларускай рэдакцыяй Радыё «Вызваленне» у Мюнхене, потым зноў вярнуўся ў Канаду і пасяліўся з жонкай Раісай у Бэры. У 1970 годзе ён ўзначаліў Раду БНР. Калі б у Беларусі была серыя кшталту «Жыццё выдатных людзей», то даследаванне пра Вінцэнта Жука-Грышкевіча заняло б у ёй пачэснае месца. Яго ўклад у справу беларускай эміграцыі велізарны. Памёр ён у 1989 годзе.

Раіса стварыла Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК), усталявала разам з мужам Вінцэнтам у горадзе Мідленд Беларускі Памятны Крыж і Помнік Ахвярам камуністычных рэпрэсій у Беларусі, напісала і выдала кнігу «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» (1993 год), арганізавала матэрыяльную падтрымку шматлікіх праектаў у Беларусі. Яна з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў у беларускіх выданнях за мяжой і на Радзіме. Спадарыня Жук-Грышкевіч актыўна ўдзельнічала ў працы Згуртавання Беларусаў Канады і Канадыйскага сектара Рады БНР. Яна пакінула рукапіс кнігі «Запісы. Беларускае Грамадства другой паловы XX стагоддзя ў Канадзе», які яна прасіла разглядаць як другую частку кнігі «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

У Атаву мы вярталіся па тэрыторыі Нацыянальнага парку Алгонкін. І тут нам давялося здзіўляцца: дзікія жывёліны не баяцца людзей не толькі ў горадзе, але і ў лесе. Як казаў наш добры сябра Юра Пелюшонак: «Калі б Беларусь гранічыла з Канадай, то ўсе звяры ўцяклі б з Беларусі ў Канаду». Мы сустракалі і ласёў з ласянятамі, і аленяў, якія спакойна пазіравалі фотааматарам. Сфатаграфаваліся і мы на фоне лесу і балота, у якое залезла ласіха, каб паласавацца водарасцямі.

Падарожжам засталіся мы вельмі задаволеныя.

# З ГІСТОРЫІ І ГЕАГРАФІІ КАНАДЫ

Калі мы прыехалі ў Канаду ў 2003 годзе, нам пашанцавала паглядзець шматсерыйны гістарычны фільм аб Канадзе, прычым на рускай мове. Гэты фільм перакладзены на многія мовы свету. Сёння Канада мае дзве дзяржаўныя мовы — ангельскую і французскую. Канадыйцы ганарацца, што каля 150 розных культур і этнічных груп жывуць і працуюць тут у згодзе.

Абарыгены, карэнныя жыхары Канады, якія жылі тут на працягу тысяч гадоў перад першымі перасяленцамі, складаюць значную частку сярод канадыйскага насельніцтва. Яны працуюць, абараняюць сваю мову, культуру, традыцыі, маюць свае школы, самакіраванне. У краіне, такой вялікай і рознай, як Канада, ідэя роўнасці з'яўляецца вельмі важнай. Гэта ідэя запісана ў Канстытуцыі Канады. Яшчэ важным фактарам жыцця ў Канадзе з'яўляецца ўзаемадапамога. Людзі, якія дапамагаюць адзін аднаму без аплаты, называюцца валанцёрамі, іх мільёны ва ўсёй Канадзе. І мы з Данатай з'яўляемся валанцёрамі па вырошчванні кветак каля нашага шматкватэрнага дома. Валанцёры дапамагаюць і дзяржаве, установам, а таксама сябрам і суседзям.

Тут існуюць тры асноўныя тыпы індустрыі: прыродныя рэсурсы, вытворчасць і абслугоўванне. Індустрыя прыродных рэсурсаў уключае лесараспрацоўкі, рыбную лоўлю, сельскую гаспадарку, горную справу і энергетыку. Сёння эканоміка многіх раёнаў краіны яшчэ залежыць ад развіцця індустрыі прыродных рэсурсаў. Індустрыя вырабляе прадукты і тавары на продаж у Канадзе і ў іншых краінах (паперу, тэхнічнае абслугоўванне, аўтамабілі, прадукты харчавання, адзенне і многія іншыя тавары). Адным з асноўных гандлёвых партнёраў Канады з'яўляюцца ЗША.

Сфера абслугоўвання, якая ўключае транспарт, адукацыю, ахову здароўя, будаўніцтва, банкі, сувязь і ўрад, забяспечвае тысячы рабочых месцаў. Больш 70 % канадыйцаў заняты ў сферы абслугоўвання.

Канада вельмі вялікая краіна. Яна амываецца трыма акіянамі і мае плошчу 10 мільёнаў квадратных кіламетраў з насельніцтвам 33 мільёны чалавек. Шчыльнасць насельніцтва невялікая. Большасць канадыйцаў жыве ў паўднёвай частцы. Па стане на 2001 год Канада была падзелена на 10 правінцый і 3 тэрыторыі.

Кожны год 1 ліпеня канадыйцы святкуюць Дзень Канады, гадавіну Канфедэрацыі. У гэты дзень вечарамі Атаву і другія гарады Канады асвятляюць святочныя феерверкі. 1 ліпеня 1867 года правінцыі Антарыа, Квэбек, Нью Брансвік і Нова Скоція аб'ядналіся ў Канфедэрацыю і ўтварылі новую дзяржаву — Канаду. Потым да яе далучаліся іншыя правінцыі і тэрыторыі. Назва краіны «Кана-

да» паходзіць ад слова «kanata», што на мове абарыгенаў азначае «вёска» або «селішча».

Канада падзяляецца на пяць рэгіёнаў: Атлантычны, Цэнтральная Канада, Прэрыі, Заходняе Узбярэжжа і Поўнач.

Атава — сталіца Канады. Вежа ў цэнтры будынка парламента называецца Вежай Міру.

Першымі пасяленцамі ў раёне Атавы былі Algonquin — індыяне, якія сябе называлі людзьмі «Вялікай Ракі». Французскія гандляры футрам (і скурай) назвалі раку Атавай паводле назвы племя Outaouais, якое на самай справе жыло ў гэтым раёне. Яны служылі пасярэднікамі ў гандлі футрам. Яны куплялі скуры ў індзейцаў-іракезаў і прадавалі іх у Квэбек.

У 1759 годзе англічане прагналі французаў з раёна Атавы, і ён перайшоў пад брытанскае праўленне. Пасля вайны 1812 года паміж Канадай і ЗША сувязь паміж Манрэалем і заходняй часткай краіны мела вялікае значэнне. 200-кіламетровы Рыдо-канал павінен быў забяспечыць сувязь па водным шляху паміж Манрэалем і Кінгстанам, які ў той час быў канадыйскай сталіцай, праз Атаву. Будаўніцтва канала было даручана лейтэнант-палкоўніку Джону Баю, які планаваў выкапаць яго паміж 1826 і 1832 годам. Палкоўніка Бая прызнаюць першым будаўніком і планіроўшчыкам горада, які пазней стане сталіцай. Спачатку месца злучэння канала з ракой было выкарыстана для будаўніцтва ваенных умацаванняў, але потым тут з’явіліся і будынкі канадыйскага парламента.

Рыдо-канал будаваўся 30 год. Вакол горада Атавы, якая тады называлася Байтаўн, развівалася галоўным чынам лясная гаспадарка. З’явіліся магазіны, фабрыкі (у асноўным па вырабу кухонных пліт і сякер), банкі, касцёлы і школы, былі арганізаваны і невялікія фабрычныя таварыствы, якія працавалі ў Новым Эдынбургу каля вадаспаду Рыдо. Па рацэ і каналу плавалі параходы. У Байтаўне пачала выходзіць газета ў 1836 годзе. У 1857 годзе каралева Англіі Вікторыя правяла ў парламенце слуханні па пытанню сталіцы Канады. З 5 гарадоў Канады, Квэбек Сіці, Манрэаль, Таронта, Кінгстан, Атава, была выбрана Атава, якая і стала сталіцай дзяржавы. Адразу пачаліся работы па ўзвядзенні будынка Парламента на ўзгорку Barrick. Паміж 1859 і 1866 гадамі цэнтр горада быў пабудаваны.

У 1867 годзе Атава стала сталіцай новых канадыйскіх канфедэрацый. У яе склад увайшлі Новая Скоція і Нью-Брансвік, а таксама часткі сучасных правінцый Квэбек і Антарыа. Насельніцтва Атавы ў той час складала ўсяго 18 000 чалавек, а плошча горада — 760 га.

Два разы (26 красавіка 1900 года і 3 лютага 1916 года) Атава гарэла. Як першы, так і другі раз пажары нанеслі вялікую шкоду будынкам. Засталося многа бяздомных. Нягледзячы на тое, што не хапала сродкаў, бо ішла Першая сусветная вайна, аднаўленне

будынкаў пачалося адразу пасля пажару. Будаўніцтва Канадыйскага Парламента, які быў спраектаваны ў гатычным стылі Джонам Пэрсанам і Джэн Омэр Марчэнд, было закончана ў 1922 годзе.

У 1958 годзе Урад Канады прыняў рашэнне аб стварэнні зялёнага поясу вакол Атавы, плошчай каля 17 600 га і працягласцю ў 44,8 км. У 2009 годзе ў Атаве жыло амаль 900 000 чалавек, а разам з раёнам Гаціно, які знаходзіцца на процілеглым беразе ракі Атава і адміністрацыйна адносіцца да правінцыі Квебек, звыш 1,2 млн чалавек. Горад у асноўным забудаваны ўздоўж ракі і займае плошчу каля 2800 квадратных кіламетраў.

Сімвалам Канады з'яўляецца кляновы ліст. Гісторыкі кажуць, што гэты сімвал быў выбраны яшчэ ў 1700 годзе. 15 лютага 1965 года чырвоны кляновы ліст быў змешчаны на нацыянальны сцяг Канады.

Канада мае сваю Канстытуцыю, Канадыйскі ўстаў правоў і свабод, Парламент. Кіраўніком парламенту з'яўляецца прэм'ер-міністр. Першым прэм'ер-міністрам Канады ў 1867 годзе быў сэр Джон Макдональд. На 10-доларавай банкноце можна бачыць яго партрэт. Зараз прэм'ер-міністрам Канады з'яўляецца Стывен Харпэр. Яе Вялікасць Каралева Елізавета II з'яўляецца і Каралевай Канады і фармальна кіраўніком дзяржавы. Губернатар-генерал з'яўляецца прадстаўніком Каралевы ў краіне, у правінцыях гэту функцыю выконваюць лейтэнант-губернатары, у тэрыторыях — камісары.

Існуюць тры асноўныя групы карэннага насельніцтва: індзейцы, якія маюць афіцыйны статус First Nation (першая нацыя), інуіты і мецісы. Іх агульная колькасць каля 1 млн. Людзі Першай нацыі жывуць ва ўсіх рэгіёнах Канады. Тыя, якія жылі на ўзбярэжжы, займаліся рыбнай лоўляй і паляваннем. Тыя, хто жыў у прэрыях, перамяшчаліся за статкамі буйвалаў, на якіх яны палявалі дзеля ежы, адзення і прылад працы. Індзейцы, якія жылі ў цэнтральнай і ўсходняй частцы Канады, вырошчвалі гародніну і зерневыя культуры. Сёння большая палова з іх жыве ў запаведніках. Іншыя жывуць і працуюць у гарадах па ўсёй Канадзе.

Інуіты рассяліліся па рэгіёнах Поўначы. Яны прыстасаваліся да халоднага паўночнага клімату, палююць на цюленяў, кітоў і белых мядзведзяў.

Многія раннія французскія гандляры футрам і некаторыя англійскія гандляры жаніліся на індыянках. Іх патомкі сталі называцца мецісамі. Мецісы, якія развівалі сваю культуру ў прэрыях, адыгралі важную ролю ў гандлі футрам.

Абарыгены прымаюць актыўны ўдзел у жыцці Канады. Яны маюць розныя духоўныя веры, перакананні і культурныя традыцыі. Зараз існуе больш за 53 моў, на якіх гавораць карэнныя жыхары. Большасць з іх можна пачуць толькі ў Канадзе.

У Атлантычны рэгіён уваходзяць Нова Скоція, Н'ю Брансвік і востраў Прынц Эдвард. Першы французскі даследчык Карцье прыбыў сюды ў 1500 годзе, а ў 1600 годзе сюды прыехалі французы на пастаяннае жыхарства.

У час амерыканскай рэвалюцыі (1775–1789 гады) тысячы людзей пакінулі ЗША і пасяліліся ў Атлантычным рэгіёне. Гэта былі людзі розных этнічных груп і нацый: англічане, ірландцы, шатландцы, немцы, швейцарцы і датчане.

Рэсурсы прамысловасці, якія ўключалі рыбную лоўлю, сельскую і лясную гаспадарку, горную справу, заўсёды ігралі асноўную ролю ў эканоміцы гэтага рэгіёна. Тут вырошчваюць бульбу і фрукты. Край багаты будаўнічым лесам. Лясная гаспадарка вырабляе папяровую масу, паперу і лесаматэрыялы, сельская — раслiннае масла, горная прамысловасць здабывае нікель, медзь, кобальт. Прыгожыя пейзажы і марскія ўзбярэжжы прыцягваюць увагу шматлікіх турыстаў і адпачываючых.

Цэнтральная Канада складаецца з дзвюх правінцый: Антарыа і Квэбек. Больш паловы людзей, насяляючых Канаду, пражываюць у гэтым рэгіёне недалёка ад Вялікіх Азёр і ракі Святога Лаўрэнцiя. Тут вырабляецца тры чвэрці ўсіх тавараў Канады. Пяць Вялікіх Азёр (Верхняе, Мічыган, Гурон, Эры і Антарыа) і рака Святога Лаўрэнцiя былі асноўнымі воднымі шляхамі на працягу тысяч гадоў. Вялікія азёры таксама забяспечвалі людзей свежай вадой і прамысловасцю, якая развівалася ўздоўж іх берагоў.

Тэрыторыя паўночных раёнаў правінцый Антарыа і Квэбек — гэта частка Канадыйскага Шчыта, паверхня якога фарміравалася мільёны гадоў. Канада з'яўляецца адной з вядучых краін свету па вытворчасці мінералаў. Яна багатая на залежы золата, серабра, нікелю і жалезнай руды.

Нізіна ракі Святога Лаўрэнцiя вядома сваімі ўраджайнымі землямі, на якіх вырошчваюцца сельскагаспадарчыя культуры. Квэбек мае найбуйнейшыя малочныя фермы ў Канадзе. Тут многа правінцыяльных паркаў, прыгожыя невысокія горы, якія прыцягваюць турыстаў.

Рэгіён Манрэаля застаецца адным з важнейшых фінансавых, службовых і індустрыяльных цэнтраў з часоў утварэння Канфедэрацыі. Рабочыя будавалі заводы, фабрыкі, выраблялі адзенне, харчовыя прадукты, паперу, метал, хімічныя і лясныя прадукты. Манрэаль таксама з'яўляецца цэнтрам шырокіх транспартных сувязей.

Манітоба, Саскачэван і Альберта называюцца правінцыямі прэрый. Гэты рэгіён Канады славіцца ўраджайнымі землямі і цэннымі энергарэсурсамі. Прэрыі — плоская раўніна, якая цягнецца праз паўднёвую частку рэгіёна. Тут расце мала дрэў. На землях

прэрый вырошчваюць зерневыя культуры і разводзяць буйную рагатую жывёлу. Людзі першай нацыі былі добрымі паляўнічымі на буйвалаў. Іх нашчадкі і насельніцтва мецісаў былі асноўнымі пастаўшчыкамі і гандлярамі шкурамі (футрам). Яны былі таксама добрымі праваднікамі і перакладчыкамі.

З 1800-х гадоў канадыйскі ўрад будаваў чыгункі праз прэрыі да ўзбярэжжа Ціхага акіяна. Да 1900 года каля 3 000 000 людзей прыехалі ў прэрыі з Еўропы і Брытаніі. Канадыйскі ўрад заахвочваў людзей ехаць сюды, прадаючы ўраджайныя землі па нізкай цане.

У Манітобе выраблялі прадукты харчавання, машыны, транспартныя сродкі і абсталяванне для іх, метал і адзенне. У Саскачэване выраблялі сельскагаспадарчыя прадукты, хімічную прадукцыю. Фермеры і жывёлаводы прэрый пастаўлялі пшаніцу і мяса на ўнутраны рынак і ў другія краіны. Саскачэван з'яўляецца вядучым вытворцам пшаніцы не толькі ў Канадзе, але і ў свеце. Альберта — вядучая правінцыя па вытворчасці ялавічыны.

Прэрыі багаты энергарэсурсамі. Амаль палавіна ўсёй энергіі, якая выкарыстоўваецца ў Канадзе, выпрацоўваецца з нафты і прыроднага газу, што здабываюцца ў прэрыях. Альберта з'яўляецца буйным вытворцам паліва і пастаўшчыком каменнага вугалю. Саскачэван — вытворца нафты, прыроднага газу і ўрану. Манітобу ведаюць як краіну 100 000 азёр, на якіх пабудаваны магутныя гідраэлектрастанцыі.

Рэгіён Заходняга ўзбярэжжа Ціхага акіяна прадстаўлены правінцыяй Брытанская Калумбія. Тут размешчаны тры горныя хрыбты: Скалісты (Макэнзі), Калумбійскі і Берагавы. Абарыгены займаліся паляваннем на кітоў, мядзведзяў і іншых жывёл, лавілі рыбу. Правінцыю засялялі еўрапейцы па меры таго, як гандаль футрам распаўсюджваўся далей на захад. Гэты працэс працягваўся прыкладна да 1800 года. Потым у правінцыю прыехалі кітайцы. Яны дапамагалі будаваць апошнюю частку ціхаакіянскай чыгункі. Брытанская Калумбія з'яўляецца другім па велічыні вытворцам гідраэлектрычнасці ў Канадзе. Рыбакі ловяць каштоўную рыбу ласося, якая прадаецца ў краіне і ва ўсім свеце. У міжгор'ях растуць знакамітыя сады. Прыгожая прырода Заходняга Узбярэжжа вабіць тысячы турыстаў, якія прыязджаюць сюды, каб палавіць рыбкі і пакатацца на горных лыжах.

Канадыйская Поўнач аб'яднала Юкон, Паўночна-заходнія тэрыторыі і Нунавут. Разам яны займаюць больш за адну трэцюю тэрыторыі Канады. 1 красавіка 1999 года людзі Паўночна-ўсходніх тэрыторый прагаласавалі, каб зрабіць усходні рэгіён асобнай тэрыторыяй, і назвалі яго Нунавут. Поўнач Канады — велізарны край, а насельніцтва там пражывае мала. Больш паловы людзей, якія насяляюць Паўночна-заходнія тэрыторыі і Нунавут, а таксама

чвэрць насельніцтва Юкона складаюць абарыгены. Некалькі моў абарыгенаў маюць такі ж самы афіцыйны статус, як ангельская і французская мовы.

Першыя еўрапейскія гандляры шкурамі прыйшлі на Поўнач пасля 1600 года. Абарыгены за шкуры атрымоўвалі грошы, харчовыя прадукты і капканы. Гэты край багаты нафтай і газам. Тысячы шахцёраў прыйшлі ў Юкон у час залатой ліхаманкі ў канцы XIX стагоддзя. Там ёсць золата, свінец і цынк.

Поўнач часта называюць «Краем сонечнай поўначы». У сярэдзіне лета дзённае святло можа прадаўжацца 24 гадзіны. У час кароткага лета гэты край цвіце. Зіма на Поўначы доўгая, халодная і цёмная. Юкон трымае рэкорд па холадзе — часам тэмпература тут апускаецца да –63 градусаў па Цэльсію.

## АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПАДЗЕЛ КАНАДЫ

Урад Канады мае тры ўзроўні: федэральны, правінцыяльны (або тэрытарыяльны) і муніцыпальны (або мясцовы). Федэральны ўрад адказвае за справы ўсёй Канады, уключаючы нацыянальную абарону, паліцыю і пытанні грамадзянства. Правінцыяльны і тэрытарыяльны ўрад адказвае за адукацыю, ахову здароўя і дарогі. Муніцыпальны ўрад кожнага горада і вёскі адказвае за чысціню, пажарную ахову, стан дарог і гэтак далей. Канадыйскія грамадзяне прымаюць удзел у выбарах улад усіх трох узроўняў.

Канада — дэмакратычная краіна. Яна мае сістэму парламенцкага ўрада. Парламент складаецца з трох частак: каралеўская, палата абшчын і сенат. Канадыйцы выбіраюць прадстаўнікоў у палату абшчын, якія называюцца членамі парламента. Прэм’ер-міністрам прызначаецца лідар палітычнай партыі, якая мае большасць у парламенце. Члены парламента засядаюць у палаце абшчын.

Калі ўрад уносіць на разгляд парламента прапанову аб новым законе, то яна называецца законапраектам. Законапраект абмяркоўваецца ў палаце абшчын і ў сенаце. Законапраект становіцца законам, калі за яго прагаласуе большасць членаў парламента і сенатараў. Закон павінен быць зацверджаны Губернатар-генералам.

Кожная правінцыя і тэрыторыя маюць свае ўрады, якія таксама прымаюць неабходныя законы. Ва ўсе структуры ўлады дэпутаты выбіраюцца тайным галасаваннем. У кожным горадзе выбіраецца мэр.

Федэральныя выбары праводзяцца кожныя 4 гады. Канада падзелена на 310 выбарчых акруг. Грамадзяне кожнай акругі выбіраюць аднаго дэпутата ў парламент. Выбары альтэрнатыўныя. У час перадвыбарчай кампаніі ўсе кандыдаты маюць аднолькавыя

правы, ніхто нікому не перашкаджае. Ім прадастаўляюцца свабодна будынкі тэатраў, школ, а таксама іншыя плошчы для агітацыі. Яны выступаюць са сваімі праграмамі на тэлебачанні і радыё. Канадыйскія грамадзяне, якім споўнілася 18 год, маюць права галасаваць. Галасуюць тут у звычайны рабочы дзень. І нікога тут не вязуць прымусова на выбарчы ўчастак. Чалавек можа пайсці, а можа і не пайсці на выбарчы ўчастак. Гэта яго справа, і няма ніякага пераследу. Людзі ідуць самі на выбарчы ўчастак, каб выканаць свой грамадзянскі абавязак. Яны ганарацца сваёй краінай, сваім урадам і аддаюць галасы за тых кандыдатаў, чые праграмы лепшыя.

У 2008 годзе федэральныя выбары адбыліся 14 кастрычніка. Перамаглі кансерватары на чале са Стэфанам Харпэрам. Другое месца занялі лібералы, а трэцяе — НДП (Народная Дэмакратычная Партыя).

Найбольш папулярнымі палітычнымі партыямі з’яўляюцца: Кансерватыўная, якая зараз знаходзіцца ва ўладзе, Ліберальная партыя і Новая дэмакратычная партыя. Пры неабходнасці праводзяцца рэферэндумы.

Правы і свабоды канадыйцаў гарантуюцца Канадыйскай хартыяй правоў і свабод праз юрыдычную сістэму. Асноўнымі свабодамі з’яўляюцца: свабода веравызнання, мыслення, поглядаў і выказванняў.

## ЖЫВЁЛЬНЫ І РАСЛІННЫ СВЕТ

Тут ён вельмі разнастайны, але няма нашага бусла, салаўя, жаўранка. Кажуць, жаўранак дзесьці ў Канадзе ёсць, але, збіраючы ягады на фермерскіх палях, мы яго не чулі. Няма салаўя, зязюлі, нават сарокі і шэрай вароны, па якіх мы вельмі сумуем. Не чуваць восенню і курлыкання жураўлёў. Кажуць, што і яны ёсць дзесьці, але не такія, як у Беларусі. Вясной з выраю ляцяць чорныя вароны, кажуць, што гэта гракі, але ж у беларускіх гракоў дзюбы белыя, а ў гэтых — чорныя. Ёсць суродзіч нашаму крумкачу. Тут ён крыху меншы за беларускага. Аднойчы перад вясной нам давялося назіраць цікавую з’яву: пара крумкачоў, калі ім надышла пара рабіць гняздо, а сухіх сукоў на зямлі не было, бо яна яшчэ была пакрыта снегам, пачалі ламаць «жывыя» галінкі клёну і рабіць з іх гняздо. Вераб’і і шпакі такія ж самыя і спяваюць па-беларуску. Многа шпакоў зімуе тут, хаця зімы тут бываюць і снежныя, і марозныя. Тут амаль каля кожнага дома развешаны кармушкі на дрэвах. І ёсць спецыяльныя магазіны, дзе можна купіць прадукты харчавання для любой птушкі і жывёліны. Тут з малых гадоў прывучаюць дзетак любіць жывых істот: сабачак, коцікаў, марскіх свінак, нават шэрых і белых

пацукоў, а таксама папугайчыкаў і другіх пеўчых птушак, рыбак. У горадзе многа вавёрак, шэрых і чорных. Часта праз вакно бачу, як шэрая вавёрка гоніць са сваіх уладанняў чорную. Бачу і зайцаў, шэрых і белякоў. Хоць завуць іх тут чамусьці трусамі. Праўда, яны меншыя тут за беларускіх. І ніхто за імі тут не ганяецца з палкай ды з сабакам. Няма тут ні бадзялых сабак, ні катоў. Сабак выгульваюць на спецыяльных раменьчыках, якія пры неабходнасці аўтаматычна скручваюцца. Катоў выгульваюць у спецыяльных месцах і пад наглядам гаспадара. На кожным коціку ёсць бірка з адрасам і нумарам тэлефона. Гэта на той выпадак, калі кот згубіцца. Наш двор часам наведвае кошка бліжэйшых суседзяў. Гэта прыгожая чорная кошка з белай шыйкай. Аднойчы, я бачыў як яна несла ў зубах птушку, маладога робіна. На прагулянку ўладары сабак і кошак выходзяць з цэлафанавым мяшочкам. Гэта на той выпадак, калі жывёліна захоча схадзіць «да ветру».

Самай пявучай і прыгожай птушкай тут з’яўляецца кардынал. Гэта прыгожая птушка мае чырвонае апярэнне. Самец мае чубок на галаве. Ростам птушка з нашага дразда. У самачкі чырвонага апярэння менш. Кардынал зімуе тут рэдка; ён пачынае спяваць дзесьці ў сярэдзіне лютага. Добра спявае, але, як кажуць, не падцінае. Мае не больш сямі песень, не тое, што беларускі салавей, у якога рэпертуар, здаецца, не мае канца. Другая прыгожая птушка — гэта робін. Ён мае зверху карычневае апярэнне і чырвонае брушка, але песня яго нікудышная. Складаецца з чатырох-пяці гукаў і зноў спачатку. Звычайна ён спявае, калі самачка сядзіць на яйках. Ягоны спеў раздаецца ўсю ноч, каб не сумавала жонка. Гора тым жыхарам, калі робіны недалёка паселяцца — яны не дадуць спаць. А можа людзі ўжо прывыклі да іх і не заўважаюць? Але сам па сабе робін — цікавая птушка. Ён не баіцца людзей і робіць сабе гняздзечка недалёка ад чалавечага жылля: у паддашках ці нават у вазонніцах. Тут вельмі многа дрэў, якія называюцца сідрам і падобныя на тую. Імі абсаджаны сядзібы дамоў, утвараючы жывыя платы, якія час ад часу абпілоўваюцца, пасля чаго яны маюць форму прызмы, конуса або і шара, у залежнасці ад густу гаспадароў. Гэта дрэва напамінае наш, беларускі ядленец, толькі больш высокае і густое. Вось тут робіны і любяць гняздзіцца. Птушанят сваіх любяць карміць не толькі рознымі насякомымі, але і дажджавымі чарвякамі. Дварышчы тут раз на тыдзень абкошваюцца, а таму ім лёгка шукаць чарвякоў. Вельмі цікава назіраць за робінам у час яго палявання на чарвяка. Ён чуе яго ў зямлі. Калі чарвяк захоча падыхаць свежым паветрам, ён падпаўзае да паверхні зямлі. Тады робін на хуткіх сваіх ножках аббягае тэрыторыю і раптам спыняецца там, дзе чуе чарвяка, і беспамылкова цягне яго з зямлі.

Многа тут чорных драздоў. Ёсць ластаўкі, якія таксама адрозніваюцца ад нашых чырвоным брушкам. Яны любяць гняздзіцца пад доўгімі мастамі, узведзенымі над ракой Атавай.

Вясной каля дамоў можна ўбачыць домікі для птушак розных канструкцый і памераў, з адтулінамі рознага дыяметру. Ёсць тут і маленькія птушачкі з жоўтым апярэннем, ёсць і калібры. Ну а сінічка — такая ж, як і ў Беларусі. Ёсць тут птушачка і майго густу, якую я слухаю з заміраннем сэрца і вялікім хваляваннем. Я спыняюся, слухаю яе і ў думках пераношуся ў маё дзяцінства, у мой родны край. Калісьці ў дзяцінстве я чуў яе на могілках роднай вёскі, калі мы з мамай крышылі велікодныя яечкі на магілы памерлых на Радаўніцу. Могілкі нашы размешчаны на высокім беразе Дзісенкі, і акустыка была такая, што я чуў голас гэтай птушачкі ўсё жыццё і чую яго зараз у новай краіне. Яна як бы прыляцела разам з намі, каб радаваць нас, пакуль мы будзем жыць.

Ёсць тут і каршуны, большыя і меншыя. Ёсць і горныя арлы, часам іх можна назіраць і над горадам, яны плаўна рысуюць кругі высока ў небе. Часта можна чуць крык варон, калі тыя праганяюць каршуна ці крумкача са сваіх уладанняў. Канадыйскі крумкач большы за чорную варону, але меншы за беларускага крумкача. Ёсць і «беларускія» крумкачы ў Канадзе, толькі яны гняздзяцца дзесьці ў другіх месцах. Аб гэтым паведамлялася ў тэлеперадачах, прысвечаных жывёльнаму свету.

Ідзём мы аднойчы ранняй вясной паліваць кветкі, што насупраць нашай паркоўкі, і здалёк бачым, што там сядзіць чорная маладая варона. Калі мы падышлі бліжэй, яна хацела схавацца ад нас і спрабавала ўскочыць на цэментавы плот, але, відаць, у яе яшчэ не было сіл у крылах, каб падняцца на плот. Калі мы падышлі яшчэ бліжэй да яе, то страх дапамог ёй ускочыць на плот і схавацца ў зарасніках, якія раслі побач з плотам. У гэты час аднекуль узяліся «мама» з «татам» і такі ўчынілі гоман, што хоць уцякай: «Не р-р-р-рухайце дар-р-р-рагога нашага р-р-р-рабяці!» І нам давялося пакінуць тое месца, каб не лопнулі іх сэрцы. Паліваць кветкі мы прыйшлі пазней.

Ёсць тут і лекар дрэў — даўганосы дзяцел, які амаль нічым не адрозніваецца ад беларускага, хіба што больш модным апярэннем. Вельмі многа дзікіх гусей і качак, іх можна заўсёды бачыць на берагах ракі, восенню гусі часта сілкуюцца на кукурузных палях. Аднойчы мы назіралі, як качка рашыла са сваім зусім маладым вывадкам пераадолець бурны парог. Качка-мама першай кінулася ў бурны паток, а за ёй ужо не паплылі, а пакуляліся пяць жоўценькіх шарыкаў-качанятак, а шосты, мабыць самы маленькі, спужаўся шумнага патоку і не паплыў, застаўся адзін перад гэтым патокам. Тады качка-мама вярнулася, ужо на крыллях, і павяла ўсё-такі малога за сабой. Якое адчуванне адказнасці за захаванне сваёй сям’і!

І як толькі можна было згледзець яго ў такім водавароце, падлічыць членаў сям'і?!

На рацэ многа чаек, шмат іх і ў горадзе. Асабліва іх многа прылятае ў горад пасля дажджу, калі дажджавыя чарвякі выпаўзаюць аж на асфальт. Але іх многа бывае і ў добрае надвор'е ў людных месцах. Нездарма чаек празываюць тут папрашайкамі. Завёў я з імі сяброўства таксама. У нас няма ні коціка, ні сабачкі, а пасля абеду штосьці застаецца. Вось і насіў ім тое-сёе. Дык як толькі я выйду з хаты, а яны ўбачаць мяне — то над горадам учыняецца гвалт.

Аднойчы вясной мы назіралі за адной вавёркай, якая рабіла гняздо на высокім разгалістым клёне. Перш за ўсё яна шукала патрэбную галінку, бо на гэтым клёне выбар быў вялікі. Зразала сваімі вострымі, як нажніцы, зубкамі галінку і бегла ў аблюбаванае месца для гнязда, уладкоўвала яе і зноў імгненна бегла за наступнай. Такой імклівасці ў працы можна было толькі пазайздросціць. За тры гадзіны гняздо было гатова. Па колькасці гнёздаў (а іх можна ўбачыць толькі восенню, калі ападае лісце) можна меркаваць, колькі тут ёсць вавёрак. І ў кожнай ёсць поле свайго ўплыву. Часта можна бачыць, як адна вавёрка ганяе другую са сваёй тэрыторыі. Тут вельмі многа дубоў. І восенню пачынаецца сезон назапашвання вавёркамі жалудоў на зіму. Часта іх можна бачыць пад дубамі, яны шукаюць жалуды або лезуць на дрэва, мабыць, там жалуды смачнейшыя. Знайшоўшы жолуд, вавёрка хутка нясе яго ў сваіх зубках у гняздо. Многа вавёрак гіне пад коламі аўтамабіляў, хаця яны і асцярожныя. Трэба сказаць добрае слова і ў адрас кіроўцаў аўтамабіляў, якія стараюцца затармазіць, убачыўшы перад сабой жывёліну, але гэта не заўсёды ўдаецца.

Ёсць яшчэ тут вельмі цікавы і прыгожы маленькі звярок — бурундучок, жоўценькі з пяццю цёмнымі і дзвюма белымі палоскамі ўздоўж цела. Жыве ён пад падлогамі ганкаў і летніх збудаванняў. Жыве такая сямейка пад ганкам майго малодшага сына Гены. Тут можна бачыць і прыплод, калі-нікалі маладыя бурундучкі вылазяць са свайго гнязда ў дварышча, каб пагуляць.

Многа тут горных азёр, дзе водзяцца бабры.

У лясах многа шэрых і чорных ваўкоў, якія сябруюць паміж сабой. Многа бурых мядзведзяў, якія часам восенню наведваюць сады на акраінах горада, каб паласавацца яблыкамі. Тут ёсць служба па ахове дзікіх жывёл. Мядзведзя, які прыблукаў да людзей, ловяць і адвозяць далёка ў лес. Каля дарог ёсць засцерагальныя сеткі, але ўсё роўна многа звяроў гіне пад коламі машын. Пакалечаных звяроў лечаць у спецыяльных «бальніцах» і зноў выпускаюць на волю.

Ёсць тут спецыяльнае таварыства па выратаванні дзікіх жывёл, у якое ахвотна ўступаюць людзі, якія любяць жывёл. Яны плацяць грошы (узносы), за якія існуе ветэрынарная служба: дактары,

абслугоўваючы персанал, транспарт, паліклінікі, аперацыйныя і бальніцы. Калі дзе паранілі жывёліну, то людзі звоняць у ветслужбу. Адтуль прыязджаюць на машыне, забіраюць яе, даюць кісларод і кропельніцу і вязуць у бальніцу, дзе робяць аперацыю (пад наркозам) і пакідаюць на выздараўленне. Большасць жывёл прывозяць з паламанымі касцямі, іх даследуюць пры дапамозе рэнтгена, а потым робяць аперацыі. Кормяць іх неабходнымі прадуктамі, малых кормяць малачком. Розныя віды жывёл разгароджаны паміж сабой. Тут можна ўбачыць ласят і алянят, янотаў і баброў, мядзведзяў, рысей і ваўкоў. Ёсць і птушкі: гусі, качкі, совы і галубы. Пасля выздараўлення іх вязуць у тыя мясціны, дзе жывуць іх родзічы.

Многа ласёў, аленяў, касуль, лісіц, якіх можна часта бачыць каля дарог. Тут яны не баяцца чалавека, бо людзі тут сапраўды лічаць іх сваімі малодшымі братамі.

Аднойчы паглядзелі мы па тэлевізары сумную гісторыю пра адну зімоўку на далёкім паўночным востраве. Там жыў радыст з некалькімі сабакамі, якіх ён запрагаў, калі яму трэба было даехаць да метэаралагічных прылад, размешчаных у розных частках вострава. Але радыст раптоўна памёр, пакінуўшы сабак на прывязі. Сабакі нейкі час знаходзіліся на месцы, але калі ім захацелася есці, яны пачалі пазбаўляцца ад прывязі: адны рвалі ланцугі, другія вызваляліся ад ашыйнікаў. Не было чаго есці, і яны знайшлі выкінутае з мора на бераг цела касаткі. Сабакі гэтым і жылі. Сюды таксама прыходзіў пажывіцца нейкі марскі драпежнік, і аднойчы ён пашкодзіў заднюю лапу аднаму сабаку, пасля чаго сабака не мог хадзіць. І яму яго сябры-сабакі прыносілі мышэй. І калі спыніліся радыёсігналы з вострава, сюды на дапамогу была накіравана экспедыцыя. Члены экспедыцыі знайшлі нежывога радыста і павезлі на карабель на верталёце. Затым яны вярнуліся шукаць сабак і знайшлі іх. Але адзін сабака ніяк не хацеў ісці ў верталёт, скуголіў, а потым кінуўся бегчы да горкі, дзе быў паранены сабака. Лётчыкі здагадаліся, у чым справа, і пабеглі за ім, і прынеслі параненага сабаку. А побач бег яго сябра. Як толькі параненага сабачку занеслі ў верталёт, туды ўскочыў і яго верны сябра.

Для тых хто хоча паслухаць узімку ваўкоў, тут наладжваюцца цэлыя экспедыцыі.

Многа дрэў расце тут такіх, як і ў Беларусі: елка, сасна, дуб, многа разнавіднасцей клёнаў, блакітная елка.

# НАША ХАТА

Ад 2 красавіка 2006 года жывём мы ў чатырохпавярховым шматкватэрным доме (64 кватэры). Калідоры асветлены электралямпачкамі, якія гараць кругласутачна. На сценах развешаны мастацкія карціны ў рамках і жывыя кветкі ў вазонніцах. Падлогі пакрыты мяккім матэрыялам, які час ад часу чысцяць магутнымі пыласосамі. Ёсць ліфт, які перыядычна правяраюць спецыялісты службы бяспекі. Калі ў кватэры здараюцца непаладкі (напрыклад, не выцякае вада з ракавіны ўмывальніка, згарэў вентылятар і гэтак далей), людзі звяртаюцца да загадчыка ўсёй гаспадаркі дома Майкла. І тут жа ён выклікае спецыялістаў, каб ліквідаваць гэтыя непаладкі. Калі дзе з'яўляецца якая драпінка — яе тут жа замалёўваюць або замазваюць. І ўсё робіцца своечасова і якасна.

Абаграванне дома электрычнае. На сцяне ў доме ўстаноўлена невялічкая прылада, па якой гаспадары ўстанаўліваюць жаданую тэмпературу. І гэта прылада рэгулюе яе. Электрычныя батарэі (калі іх толькі можна назваць батарэямі) уяўляюць сабой трубку дыяметрам 2 сантыметры з прыпаянымі да яе металічнымі пласцінкамі 5 см на 5 см, размешчанымі на 0,5 см адна ад другой. Гэта батарэя ўманціравана крыху вышэй падлогі ў сцяну з невялічкімі адтулінкамі для праходу цяпла. Батарэя не апаясвае ўсю кватэру, а размешчана толькі пад дзвярыма, вакном і каля ложкаў у спальні.

У кожнай кватэры ёсць прылада — супрацьпажарны папярэджвальнік, які вельмі адчувальны да з'яўлення ў кватэры дыму, аб чым ён паведаміць рэзкімі частымі гукамі. Працуе на батарэйках.

Недалёка ад нашага дома ёсць пажарная станцыя. Горад вялікі, і часта мы чуем аб няшчасцях у людзей, аб чым нам гавораць трывожныя сігналы пажарных машын, якія праязджаюць па вуліцы. Аднойчы жыхары нашага дома былі напалоханы, калі каля дома спыніліся тры пажарныя машыны. Аказалася, згарэў вентылятар, які быў уманціраваны ў сцяне. Людзі павыходзілі на калідор, і тут жа з'явіўся пажарнік, які папярэдзіў, што небяспека мінула.

Пры ўваходзе ў нашу кватэру ёсць калідорчык, справа ад якога ёсць двое дзвярэй для ўваходу ў невялічкі складзік і ў ванны пакой з ваннай, умывальнікам і туалетам. Злева ў сцяне знаходзяцца шафы для адзення, якія закрываюцца створчатымі дзверцамі. Прама па калідоры — спальня, злева — кухня і пакой.

Кухня абсталявана электраплітой на чатыры камфоркі з духоўкай, вентылятарам над ёй, электрачайнікам, вялізным халадзільнікам, умывальнікам для посуду і пятнаццаццю шафачкамі розных памераў для посуду і для захавання прадуктаў, якія не псуюцца (цукар, крупы і г. д.). Пяць шафачак размешчаны на сцяне, астатнія — ля сцяны пад кухонным сталом.

У пакоі знаходзіцца стол, крэслы, канапа, тэлевізар, радыёпрыёмнік з прайгравальнікамі для дыскаў і касет, камп'ютар, тэлефон, стол з 15 вазонамі кветак, якія вырасціла Даната. Яны пачаргова цвітуць круглы год. На сцяне фотамантаж, які час ад часу мы абнаўляем, карціна Пастаўскай царквы, па-мастацку выкананая нашым старэйшым унукам Віктарам, тэлефон, прайгравальнік DVD, пры дапамозе якога мы глядзім канцэрты любімых комікаў — Вінакура, Еўдакімава, Петрасяна, глядзім кінакамедыі «Каўказская палонніца», «Брыльянтавая рука» і іншыя савецкія фільмы. На сённяшні дзень (8 чэрвеня 2009 года) маем 45 камедыйных фільмаў з «залатога» фонду савецкага кіно. Маем відэадыск пра вяселле Марысі са Станіславам з Польшчы і пра падарожжы Ядзі і Антанаса па Паўночнай Афрыцы і па Беларусі. Часта слухаем беларускія песні з міжнароднага фестывалю ў Паставах «Звіняць цымбалы і гармонік». Маем дыскі з беларускімі народнымі песнямі, а таксама з песнямі Кабзона, Эдзіты П'ехі, Анны Герман і другіх любімых спевакоў, песні з любімых кінафільмаў. На сцяне вісіць прылада для прадказання надвор'я, на сталах — настольныя лямпы, у спальні — электронны будзільнік з мяняючыміся ўвесь час блакітнымі лічбамі, другі тэлефон. Усё гэта нам надарылі нашы дзеці і ўнукі, а таксама нашы сябры Клімавы, Мартышэнкі, Форціны.

## КВЕТКІ

Тут кожны год праводзіцца фестываль цюльпанаў. Каралева Галандыі з сям'ёй у час другой сусветнай вайны збегла ў Канаду ад фашысцкага нашэсця і жыла ў Атаве. Пасля вайны ў знак удзячнасці канадыйскаму ўраду і народу Канады яна прыслала мноства цюльпанаў для пасадкі ў Канадзе. І зараз у многіх месцах Атавы растуць рознакаляровыя цюльпаны на вялікіх плошчах ля дарог і вуліц. І ў маі месяцы тут адбываецца фестываль цюльпанаў. Сюды едуць паглядзець на гэту прыгажосць тысячы турыстаў з іншых краін свету.

Вясной 2006 года, калі мы з Данатай пераехалі жыць у Эйлмэр, мы пазнаёміліся са славачкамі, якія жылі ў нашым доме, — з Аннай і Драгамірай. Драгаміра яшчэ працуе, а Анна была ўжо на пенсіі. Але неўзабаве яна з мужам Роджэрам пераехалі ў дарагі пансіён, недалёка ад нашага дома. Анна, жывучы яшчэ ў гэтым доме, дапамагала жонцы дырэктара домаўправы вырошчваць кветкі вакол дома. І яна папрасіла Данату, каб тая ўзялася за гэту справу. І Даната згадзілася. Работа гэта неаплачваемая, як у нас казалі, «на грамадскіх пачатках», а тут гэта бясплатная работа называецца «валанцёрствам».

У пачатку красавіка Даната пасеяла кветкі ў хаце ў скрынках. Насенне яна сабрала мінулай восенню на кветніках Наташы, дзе раслі прыгожыя кветкі. Ды яшчэ ёй з Польшчы прыслала насення цыніі, космасу і дзівачкі Галіна, пляменніца Данаты. Дзівачкі і на самай справе былі дзіўныя: яны цвілі ад вечара і да раніцы, гэта былі начныя кветкі. Чорнай зямлі купілі ў магазіне, узяўшы рахунак, які нам дырэктар потым аплаціў. У сярэдзіне мая перакапалі зямлю на клумбах (дзве перад домам і дзве ў дварышчы). Як толькі ўсталявалася цёплае надвор’е, кветкі былі высаджаны на клумбы. Зараз трэба было час ад часу рабіць праполку, а паліваць амаль кожны дзень. Потым мы палівалі кветкі па неабходнасці ў залежнасці ад надвор’я. Для палівання былі абсталяваны чатыры пункты: два перад домам і два ў дварышчы — з доўгімі шлангамі і «пісталетамі», пры дапамозе якіх можна было рэгуляваць струмень аж да «дожджыку».

І чакаць доўга не прыйшлося. Кветкі раслі, пачыналі цвісці і расквітаць, радаваць людское вока жыхароў дома і прахожых. І цвілі яны да глыбокай восені. Аднойчы, калі мы з Данатай палівалі кветкі, да нас падышоў жыхар нашага дома Лары Робертсан з фотаапаратам і пачаў фатаграфаваць нас на фоне кветак. А праз некалькі дзён прынёс нам фатаграфій штук 150 і сказаў: «Выбірайце!» Ну, мы і выбралі, якія нам падабаліся. Спыталіся, а колькі ж плаціць? Сказаў: «Нуль». Вось такі ў нас быў сусед. Нам нічога не заставалася рабіць, як запрасіць яго ў госці. Многія восенню прыходзілі да Данаты за насеннем кветак. Усе захапляліся кветкамі Данаты і дзякавалі ёй. Восенню зноў збіралі насенне, а перад выпадзеннем снегу вырывалі кветкі з каранямі, складвалі іх у цэлафанавыя мяшкі, выдадзеныя дырэктарам, і выносілі ў кантэйнеры для смецця.

## ВАКОЛІЦЫ АТАВЫ

Перш за ўсё хачу пачаць з пейзажа горада Эйлмэра, аднаго з найпрыгажэйшых раёнаў Атавы, які мы назіраем кожны дзень з нашага вакна на чацвёртым паверсе, дзе мы жывём ужо трэці год па вуліцы Wilfrid-Lavigne 450. За шумнай вуліцай — у тры праезджыя паласы з кожнага боку (да чаго мы доўга прывыкалі, ды і не зусім прывыклі) ды зялёнай паласой паміж імі, дзе размешчаны слупы з электрычнымі ліхтарамі і па дзве вісячыя вазонніцы з прыгожымі кветкамі на кожным з іх, пабудаваны прыгожыя дамы, а за імі — мора дрэў розных відаў. Улетку ўсе яны аднолькава зялёныя. Зараз канец верасня — пачатак кастрычніка. Мы з любоўю ўспамінаем беларускую залатую восень і ніколі яе не забудзем, сумуем па ёй,

але ж яе тут няма. І сум гэты мы гасім прыгажосцю пейзажаў другой краіны, у якой нам давялося жыць на старасці гадоў.

Зараз раніца асенняга сонечнага дня. Нашы вокны выходзяць на захад. І мы з Данатай не можам налюбавацца прыгажосцю ранішняга пейзажу, створанага каляровай восенню. Сонечныя прамені падаюць з усходняга боку і надаюць колерам яшчэ большую яскравасць. І мы часта гаворым — вось бы сюды якога мастака-пейзажыста. Фатаграфавалі гэтую прыгажосць нашы сыны і ўнукі. Атрымоўваецца неспадзеўны малюнак.

Справа перад намі прыгожы беленькі трохпавярховы шматкватэрны дом. Перад ім — блакітная елка з мноствам шышак на вяршаліне. Другі такі ж дом стаіць за ім, толькі ўпоперак яго, з-за даху яго выступае таполя, з яшчэ зялёнымі лістамі. Лявей выступае шапка светла-чырвонага клёну. А яшчэ лявей дома паўстае ва ўсёй яго красе клён з яскрава-чырвонай лістотай, такой, што коле ў вочы. Перад намі вялікі аднапавярховы дом адчыняе панараму рознакаляровых дрэў за ім: жоўтых, аранжавых і яшчэ зусім зялёных. А між імі прытулілася блакітная елачка. Перад домам растуць два клёны: адзін ужо жоўты, а другі — з карычневай лістотай — буры. Не хапае толькі сіняга, але яго дапаўняе сіняе неба. Другімі словамі, усе колеры вясёлкі тут ёсць. Вось чаму мы называем тут восень рознакаляровай. За гэтай вясёлкай дрэў выступаюць яшчэ зусім зялёныя. А яшчэ далей упрыгожвае гэты пейзаж вежа французскага касцёла. Недалёка ёсць і пачатковая школа, якой зараз з-за лісцяў не відаць. А калі лісці ападуць, мы будзем назіраць за маленькімі грамадзянамі Канады ў час іх перапынкаў. Успамінаем тады і свае школы, і беларускіх дзетак, якіх мы некалі вучылі. І ўсё гэта: прыгожы ансамбль дрэў, школа, касцёл — ствараюць нам настрой на цэлы дзень.

У 2007 годзе каляровую восень мы назіралі з Каралеўскай гары, якая размешчана на поўнач ад горада на адлегласці 4–5 кіламетраў, куды завёз нас сын Пеця ў выхадны дзень. Вышыня гары — 343 метры над узроўнем мора. Перад гарой — стаянка для аўтамабіляў. Калі мы прыехалі, тут ўжо стаяла некалькі машын. Сюды прыязджаюць гараджане, каб палюбавацца цудоўнай прыродай Канады, асабліва ў часы каляровай восені.

Каб узысці на гару, клапатлівымі гаспадарамі горада пракладзена сцежка, на стромкіх пад’ёмах зроблены сходкі з поручнямі. Гара пакрыта лесам, дзе растуць дрэвы розных відаў, уключаючы кемлок, сідар. Паўсюдна выступаюць сівыя скалы. Месцамі невялікія горныя азёркі з бабровымі хаткамі на іх. Мы ішлі, паступова падымаючыся на гару, апаясваючы яе некалькі разоў. Даўжыня дарожкі аказалася не менш двух кіламетраў. На вяршыні гары манумент, ўзведзены ў гонар канадскага вучонага-геадэзіста Вільяма-Фрэ-

дэрыка Кінга. Абыйшлі па вяршыні па кругу, любаваліся зверху фермерскімі гаспадаркамі і палямі, амаль ужо сабранымі. Дзе-нідзе пасвіліся яшчэ статкі кароў. Любаваліся веліччу горада Атавы, які заканчваўся дзесьці разам з гарызонтам. Глядзелі з вышыні на свой Эйлмэр. Праз бінокль, які прыхапіў з сабой Пеця, адшукалі пажарную вышку, якая пабудавана ў 300 метрах ад нашага дома. Дома не ўдалося ўбачыць. Сфатаграфаваліся на памяць. Больш можа ўжо не прыйдзецца ўзысці на гару. З кожным годам сілы мяняюцца не ў лепшы бок. Але ж во ўзышлі! І мы рады гэтаму, што змаглі ў 79 гадоў ажыццявіць гэта.

Пераехаўшы ў Эйлмэр, пайшлі мы з Данатай знаёміцца з горадам. Перш за ўсё мяне цягнула да ракі Атавы, каб паглядзець, ці не можна дзе-небудзь закінуць вудачку, якую я прыхваціў з сабой. Кірунак ведалі і пайшлі рабіць адкрыцці ў незнаёмым нам горадзе. Перш за ўсё ўбачылі касцёл Св. Марка. Гэта ў паўкіламетры ад нашага дома, куды мы потым хадзілі маліцца амаль кожную нядзелю. Ішлі далей, любаваліся прыгожымі дамамі ў зелені векавых дрэў. І склалася такое ўражанне, што горад будаваўся ў лесе, дзе дрэвы захаваліся на сваіх спрадвечных месцах. На кожнай сядзібе было шмат кветак.

Ітак, мы на левым беразе ракі Атава. О-о-о! Якая прыгажосць і веліч воднай прасторы! Дзесьці месцамі, на парожыстых месцах, бурляць белыя баранчыкі. На процілеглым беразе ракі — панарама вялікага горада Атавы. Па рацэ праходзіць граніца паміж правінцыямі Антарыа і Квэбек.

Шукаем месца, дзе можна закінуць вудачку. Але гэта не так проста зрабіць. Каля берага мелкаводдзе, якое цягнецца не менш за 20 метраў. Дно ракі ўслана вострымі каменнямі, так што басанож не пойдзеш. Патрэбны гумовыя рыбацкія боты.

Супраць адной сядзібы ўбачылі прыстань-кладку з прывязанай лодкай каля яе. Вось я туды і кінуўся, думаю, можа ж, не прагоняць. Канечне ж, ніхто не прагнаў, але нічога і не злавіў. Там таксама аказалася не так глыбока. Прастаяў мінут 20, але ні адна і не клюнула. Рыба таксама любіць глыбокія месцы. Можа б і завітала якая шукальніца прыгод, але ў рыбака не хапіла вытрымкі.

Прайшліся па беразе ракі і падумалі, што пашчасціла тым людзям, якія пасяліліся каля ракі. Каля кожнага дома многа кветак, дрэў, а ў іх цені прыгожа абсталяванае месца для адпачынку пасля працы: крэслы, канапы і вялізныя парасоны над імі. Каля берагу ракі заўсёды можна бачыць дзікіх качак з качанятамі, якія не баяцца людзей. Яшчэ ўбачылі вельмі прыгожую птушку ростам з беларускага дразда, але чорную ды з чырвонымі плямкамі на крыльцах. Вельмі прыгожая птушка. Яна не звяртала ўвагі на нас, клапатліва выконваючы свае мацярынскія ці бацькоўскія абавязкі. Над ракой,

там, дзе каля берагу расце многа водарасцяў, лятае многа розных насякомых. Вось і палюе птушка на іх, адносячы іх потым да сваіх дзетак у бліжэйшы ля ракі куст. Не пройдзе і хвіліны, як яна вяртаецца зноў. Праходзім далей і бачым новую сцэнку з вераб'іхай і яе жаўтаротым птушанём. Такім клопатам аб сваім дзіцяці можа пазайздросціць і іншая маці. Хтосьці з адпачываючых насыпаў на невялікай пляцоўцы сланечнікавых семечак. Вераб'іха-мама бярэ семечка ў дзюбку, вылушчвае з шалупіны беленькае зярнятка і нясе яго свайму малому, які тут недалёка сядзіць і чакае маці з раскрытай дзюбкай, трасучы крыльцамі ад задавальнення. Гледзячы на гэты малюнак, аніяк не скажаш, што ў вераб'ёў няма розуму.

Другі раз мы з Данатай зрабілі прагулку да ракі па другім маршруце, на захад ад нашага дома, дзе прыйшлося прайсці кіламетры два з паловай. Гэта было ў суботу, у выхадны дзень. Каля ракі тут вельмі прыгожае месца, многа адпачываючых. Ёсць месца для купання, месца, дзе можна пераапрануцца, недалёка і туалет. Раўнюткі бераг пакрыты травой, дзе сярод людзей пасуцца дзікія гусі, як ні ў чым не бывала. Сюды на спецыяльных прычэпах людзі прывозяць маторныя лодкі, невялікія катары (сямейныя). Ёсць спецыяльнае месца, дзе іх спускаюць на ваду. Побач размешчана лодачная станцыя, многа ветразяў. Некалькі іх ужо плавае на рацэ, парогаў у гэтым месцы няма. Ёсць аматары і водных лыжаў, якія імчацца з вялікай хуткасцю за матаботамі, прычапіўшыся да іх. На беразе для паслуг адпачываючых ёсць і «Закусачная», дзе можна перакусіць, з'есці марожанае. Лодачная станцыя адгароджана ад ракі выцэментаванай дамбай, з якой можна закінуць вудачку. Людзі прыязджаюць сюды цэлымі сем'ямі, каб з прыемнасцю правесці час, адпачыць з уцехай.

У выхадныя сонечныя летнія дні каля нашага дома праязджаюць цэлыя сем'і аматараў пакатацца на веласіпедах. Там уздоўж ракі ёсць веласіпедная дарожка, а месцамі паліцыя перакрывае і цэлыя ўчасткі вуліц для гэтай мэты. А дзе ж можна лепш адпачыць, як не каля прыгожай ракі. Тут можна і палавіць рыбкі, пакупацца і пазагараць у адведзеных для гэтага месцах. Большыя дзеці едуць з бацькамі, але самастойна на сваіх веласіпедах, меншыя — на спецыяльных прычэпах-веласіпедах з адным колам і двума педалямі, прымацаваных да татавага ці мамінага веласіпеда, і немаўляткі, таксама на прычэпах бацькоў, але ўжо без педаляў. Ва ўсіх іх ёсць аўтамабілі, але адпачываць цікавей з веласіпедам.

Аднойчы сын Гена прапанаваў нам праехаць па ваколіцах Атавы. Пачалі з вялікага вострава на рацэ. Праз яго пракладзены доўгі і шырокі мост, з якога ёсць спуск на востраў. Тут заўсёды многа адпачываючых. І зноў побач гусі. Прайшлася і качка з усім сваім вывадкам, каб пахваліцца людзям: «Вось якія прыгожыя мае дзет-

кі!» Нездарма тут, у Канадзе, рысуюць іх на грашовых манетах: качку, лася, бабра, кляновыя лісточкі і гэтак далей. Вада на парогах бушуе з неймаверным шумам. Тут знайшлі сабе занятак спартсмены на аднамесцавых каяках. Яны ў спецыяльных непрамакальных касцюмах змагаюцца з бурным цячэннем, стараючыся пераадолець яго, часам знікаючы з галавой пад ваду ды потым усплываючы зноў.

У гэты ж дзень мы паехалі на невялікую рэчку, якая напамінае па шырыні нашу родную Дзісенку. Гена завёз нас на прыступнае месца, дзе можна было палавіць рыбкі. Тут была і невялічкая прыстанька. Людзі плаваюць на гумовых надзіманых лодках, таксама з вудачкамі. Пасля некалькіх закідванняў мне папалася добрая рыбіна, падобная да нашага акуня. Лавіў я на чарвяка. Гэта была мая першая рыбіна, злоўленая ў Канадзе. Тут жа злавіў і яшчэ некалькі такіх жа рыбак, пакуль не пакінуў кручок з паплаўком на суку вялікага дрэва. Цягнуў вялікую рыбіну, ды яна сарвалася з кручка, які па інерцыі і аказаўся на дрэве разам з паплаўком. Кручкоў у мяне было многа, а вось паплавок быў толькі адзін. І з гэтага дня мяне пачало цягнуць да ракі ці да возера.

Потым неаднойчы прыязджалі мы на раку Рыдо то з Пецем, то з Генам. Рака шырокая, у тых месцах, куды мы прыязджалі, парогаў няма. Людзі катаюцца на катарах і маторных лодках так хутка, што вялікія хвалі дасягалі нашага берага. У адным месцы была доўгая і шырокая прыстань. На гэтай жа прыстані, у метрах васьмі ад мяне, уладкавалася качка-мама на адпачынак, а яе качаняты плавалі пад прыстанню. Як толькі яны заўважылі мяне, то прыплылі пад мой памост і пачалі глядзець на мяне, нахіліўшы галаву і накіраваўшы адно вока на мяне. «Чагосьці хочуць», — падумаў я. Рыбкі маленькай у мяне не было, а большай было шкода. Дай, думаю, кіну я ім чарвячка. Ну і кінуў. Як жа яны кінуліся шукаць яго, але ўхапіла толькі адна, а другая за ёй, але ў яе нічога не атрымалася. І мне вельмі спадабаўся гэты занятак — карміць дзікіх качак чарвякамі. На гэтым мая рыбалка ў той дзень скончылася.

Пазнаёміліся мы з вельмі добрымі маладымі людзьмі Клімавымі, Славам і Ленай, сябрамі нашых дзяцей, нашымі суайчыннікамі. Хутка пасля нашага прыезду ў Канаду вазілі яны нас у польскі касцёл, так сказаць, «па дарозе». Слава — заядлы рыбак, але ён меў справу толькі са спінінгам. Завёз ён мяне на невялікую рэчку. Лавіў я тых жа акунёў ці яршоў. І мне гэты дзень запомніўся таму, што я ўпершыню тут убачыў на беразе невялікіх трох чарапашак, недалёка ад мяне, у метрах пяці, праплыла самая асцярожная жывёліна — выдра. А за метраў 20 ад мяне палявала чапля. Ці ж гэта не цудоўны край?!

Потым ездзілі яшчэ разам з жанчынамі, Данатай і Ленай, і на раку Атаву, і на невялікую рэчку Гаціно, каля якой размешчаны

курортны гарадок Блэк Шып з чыгункай, па якой любяць праехаць турысты, каб паглядзець жывапісныя горныя мясціны і палюбавацца імі. Тут наведалі мясцовы рэстаранчык, дзе столік ужо быў заказаны раней нашымі маладымі сябрамі.

І самай запамінальнай рыбалкай была для мяне тая, калі Слава прывёз нас на горнае возера Ля Пэш. Гэта таксама курортнае месца. Тут за ўезд ужо трэба было плаціць. Паставіўшы машыну, мы пайшлі выбіраць сабе месца. Возера вельмі прыгожае, абкружана невысокімі гарамі, парослымі лесам. На процілеглым беразе возера на вяршыні гары мы заўважылі сухое дрэва, вакол якога ляталі горныя арлы, час ад часу адпачываючы на ім. Відаць, маладыя арлы спрабуюць свае крыллі. На травяністым беразе між векавых дрэў пароблены столікі з лавачкамі, ёсць тут і жароўні для прыгатавання смачнай закускі. Піць спіртное тут забаронена. Ёсць лодачная станцыя, адведзена месца для купання і пераапранання. Карацей кажучы, ёсць усё неабходнае для здаровага адпачынку людзей.

І зноў я не магу не спыніцца на жывёльным свеце Канады. Ён мяне ўжо каторы раз здзіўляе. Да адпачываючых на палянку выйшла з лесу аляніха і спакойна шчыпле сабе траўку. Вакол яе пачалі збірацца фотааматары з апаратамі ды камерамі. І калі ўжо яны захацелі зняць яе з усіх бакоў, то яна не вытрымала, зафанабэрылася і пайшла спакойна ў лес.

Адышоўшы ад люднага натоўпу, мы з Данатай пайшлі шукаць месца для рыбнай лоўлі, якое не так проста і знайсці, бо каля самага возера многа дрэў. Не хацеў я яшчэ раз пакінуць кручок з паплаўком на дрэве. Знайшлі ўсё ж такі куточак, хаця спуск да возера быў неважнецкі — адны сівыя голыя скалы. Побач — гара з абрывам, куды пачалі падыходзіць купальшчыкі, каб кінуцца ўніз галавой у возера. Напэўна ж, гэта месца для іх было ўжо знаёмае, апрабаванае. Я прымасціўся дзесьці на сярэдзіне абрыву, надзеў на кручок чарвяка і закінуў недалёка. Падумаў, што ж я тут злаўлю каля самага берага? Але дна, здаецца, я не ўбачыў зверху. Ды я ўспомніў хлопцаў, якія ляцелі ў прорву. Так разважаючы, я і не заўважыў, як знік мой паплавок. Цягну і чую, як нехта старанна ўпіраецца там пад вадой. О-о-о! Дык гэта ж добрая рыбіна! Ды ўжо яна ў паветры, але я ад радаснага хвалявання доўга не магу злавіць яе. Злавіў. А дзе ж той кручок з чарвяком? Уела так, што прыйшлося «рабіць аперацыю». Злоўленую рыбіну я даручыў жонцы, каб аднесла далей ад возера: не дай Бог вырвецца, то зноў апынецца ў возеры, на гэтым абрыве яе не затрымаеш. Даната дала мне цэлафанавы мяшочак, спусціўся я да вады, запоўніў яго да паловы і перадаў Данаце. Ну, зараз пайшла справа. Толькі закіну — паплавок у дно. Вось гэта рыбалка! Такога яшчэ ніколі не было ў маім жыцці. І гэта ўсё з лёгкай рукі і добразычлівасці Славы. І так за пару гадзін я

злавіў 41 рыбіну і ніводнай маленькай. Злавіў бы яшчэ больш, каб не затрымка з выбіраннем кручка. Амаль кожны раз даводзілася «рабіць аперацыю» пры дапамозе нажа. Даната стамілася, адносячы рыбу па касагоры. Прытомленыя, але задаволеныя вярнуліся мы, пасля ўсіх уражанняў дня, дамоў.

Вазілі нас і Пеця, і Гена то на раку Атаву, то на Рыдо, то на азёры. Аднойчы я ўзяў з сабой дзве вудачкі, і паехалі мы на Рыдо. Знайшлі сабе ўтульнае месца і, як потым аказалася, вельмі рыбнае. Тут каля берагу была таксама глыбокая яма. На гэты раз я спаборнічаў з Данатай. І яна ў гэтым спаборніцтве перамагла. Справа ў тым, што ў яе была кароценькая вудачка, якой каля берагу толькі і лавіць. Мне таксама прыходзілася ратаваць кручок не толькі мной злоўленай рыбіны, але і дапамагаць Данаце. Вось такія мы рыбакі. Ну а дома рыбу чысціў я, а Даната падсмажыць рыбу так, што пальчыкі абліжаш.

Апрача рыбалкі вазілі нас дзеці проста палюбавацца прыродай. Аднойчы мы ездзілі паглядзець з адной гары, як заходзіць сонца. Туды вядзе заасфальтаваная горная дарога. Там абсталявана спецыяльная пляцоўка для назірання. І тут можна было заўважыць, як хутка верціцца наша Зямля вакол сваёй восі: не прайшло і пяці хвілін, як сонечны дыск паступова схаваўся за гарызонт. Аднойчы, калі мы паехалі на прыгожае горнае возера Філіп, дзе збіраліся беларусы на адпачынак, мы з Данатай натрапілі на лісічак, якіх і набралі невялікую сумку.

З’ездзілі мы і ў грыбы. Лясы тут, трэба сказаць, дзікія, носа не ўсунеш. Такое ўражанне, што там не ступала нага чалавека. Не тое, што ў нас, у Беларусі: лясы чыстыя, незасмечаныя, дагледжаныя. Грыбоў мы набралі на акраінах лесу, на лясных сцежках. Грыбы растуць тут такія ж, як і ў Беларусі: падбярозавікі, падасінавікі, сыраежкі, лісічкі і тыя ж мухаморы. Бачылі, як каля лесу паслася парачка аленяў. Цудоўная прырода, тым больш што гораў у Беларусі такіх няма.

Пабывалі мы і ў фермерскіх гаспадарках. Адзін раз збіралі маліны, а другі — трускаўкі. Фермерамі працуюць маладыя людзі. Ёсць стаянкі для машын. Многа людзей прыязджае сюды, каб выбраць тое, што падабаецца. І тут крыху дзешавей, чым у магазіне. Зроблены навесік, дзе ягады ўзважваюцца, а людзі разлічваюцца за іх. Прыехаўшы, тут людзі атрымліваюць невялікія кошычкі і ідуць збіраць на выдзеленае для іх месца. І якую мову тут толькі не пачуеш. А калі пачуеш польскую, украінскую ці рускую, не кажучы ўжо пра беларускую, так і хочацца пайсці да іх і пагаварыць. Сумуем мы тут без сваёй роднай мовы.

Плантацыі малін і трускавак тут дагледжаныя, як кажуць, ягадка ў ягадку. Каб хацеў знайсці чарвячка — не знойдзеш. Гнілых ягад

таксама няма. Травы каля раслін таксама няма, бо зямля засцелена паперай. Міжрадкоўі апрацоўваюць на невялікіх трактарчыках. На другіх фермах вырошчваюць чарніцы, брусніцы і журавіны. Многія спецыялізуюцца на вырошчванні капусты, памідораў, бульбы, агуркоў і гэтак далей. Многа малочна-таварных ферм і свінагадоўчых. Некаторыя гадуюць коней. Іншыя займаюцца птушкагадоўляй (куры, качкі, індыкі, гусі). Ёсць фермы і пчалярскія. Ёсць і садаводы. Пагэтаму і магазіны заўсёды запоўнены неабходнымі харчовымі таварамі. А калі чаго ў Паўночнай Амерыцы няма, дык тое будзе ў Паўднёвай. Вось чаму ў магазінах і зімой ёсць і маліна, і памідоры, і вінаград, і ўсё неабходнае.

## ШТО МЫ СЛУХАЛІ ПА РАДЫЁ І ГЛЯДЗЕЛІ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ

На вялікі жаль, ні па радыё, ні на тэлебачанні нічога няма па-беларуску. Мала тут беларусаў у параўнанні з другімі народамі свету. Радыё на рускай мове слухалі адну гадзіну ў нядзелю ў 3 гадзіны дня. Перадавалі навіны з Расіі, часам і з Беларусі. Любілі мы паслухаць песні Русланавай, Зыкінай, Кабзона, Лешчанкі і другіх. Былі перадачы і амаральныя, у чым аднойчы прызналася сама вядучая перадач. І руская праграма знікла, мабыць па патрабаванні саміх жа рускіх. З вялікім задавальненнем слухалі ўкраінскае радыё. Вядучая была сапраўдным патрыётам сваёй радзімы і народа. Былі тут таксама і навіны, і любімыя ўкраінскія песні ў выкананні Гнацюка, Ратару і другіх спевакоў. І яшчэ адну славянскую праграму слухалі па радыё — «Тройку», з прыгожымі песнямі. Чамусьці знікла і яна.

На гэтай хвалі зараз слухаем прыгожыя песні на французскай, італьянскай і іншых мовах народаў свету. Ёсць хваля, на якой гучыць класічная музыка цэлы дзень. Тут можна пачуць творы вядомых кампазітараў свету, у тым ліку і рускіх: Чайкоўскага, Мусаргскага, Глінкі і іншых. Аднойчы праспявалі ад пачатку і да канца ленінскі «Інтэрнацыянал».

Тэлебачанне тут працуе круглыя суткі. Тут існуе вельмі многа тэлекампаній («CTV», «CBC» і іншыя), а таму і безліч каналаў. За тэлевізар нічога не трэба плаціць, калі глядзець яго пры дапамозе пакаёвай антэны. Калі ж тэлевізар падключаецца да кабельнай сістэмы, тут ужо трэба плаціць у залежнасці ад колькасці падключаных каналаў. Па адной гадзіне ў тыдзень можна глядзець перадачы на рускай, украінскай і польскай мовах. Ёсць цэлы серыял, прысвечаны гісторыі Канады, які мы прагледзелі на рускай мове. Серыял

перакладзены на розныя мовы свету і пачаргова дэманструецца для розных нацый.

Пачыналася Канада з мясцовых жыхароў — абарыгенаў. Пасля адкрыцця Амерыкі Калумбам сюды пачалі ехаць еўрапейцы. Ехалі англічане, французы, ваявалі з абарыгенамі і паміж сабой.

Усе перадачы мы глядзім з уключаным падтэкстам на ангельскай мове. Навіны глядзім тры разы ў дзень. Навіны пачынаюцца з асноўных падзей у краіне і за рубяжом. Заўсёды праз 20 хвілін расказваюць аб надвор'і. Гавораць аб вулічным руху ў горадзе, аб спорце і аб прыгатаванні смачнай ежы. У самым канцы навін, каб стварыць добры настрой людзям, бавяць анекдоты. 21-ы канал цэлы дзень расказвае аб надвор'і ў Канадзе і ў цэлым свеце.

Любім глядзець перадачу «Хачу стаць мільянерам», копія перадачы, якую калісьці вёў Галкін, толькі невядома, хто ў каго скапіраваў. Ёсць яшчэ гульня, падобная да «Поля цудаў» з Якубовічам, дзе можна нават выйграць і легкавую машыну. Іграюць трое, а пераможцу даюць яшчэ адно пытанне: калі адказ будзе правільны — ён выйграе аўтамабіль. Ёсць яшчэ гульня «Небяспека» і другія. У «Небяспецы» іграюць таксама трое, але выігрывае толькі адзін. Калі ж іграюць вучні старэйшых класаў або студэнты, то выйграюць усе.

Створаны цікавыя дзіцячыя мультфільмы, там можна вучыцца ангельскай мове, бо там павольна гавораць і надпісы можна паспець прачытаць. Ёсць спецыяльныя фільмы, выпушчаныя для курсаў па авалоданні ангельскай мовай. Дзецям паказваюць не толькі казкі. Тут вучаць іх грамаце (чытаць і пісаць), знаёмяць з правіламі дарожнага руху, з працай фермераў, з дамашняй жывёлай. Знаёмяць і з дзікімі жывёламі, якія жывуць у Канадзе і ў другіх краінах і частках свету.

Кожны вечар глядзім дэтэктыўныя серыялы: «Закон і парадак», «Халодны выпадак», «Маямі» і другія. Усе гэтыя серыялы аб забойствах і іх расследаваннях. А серыял «Халодны выпадак» апавядае аб забойствах у мінулым, якія адбыліся некалькі гадоў назад. Паказваюць, як вядзецца расследаванне, і знаходзяць забойцу. Серыял «Маямі» цікавы яшчэ тым, што ён здымаўся ў найпрыгажэйшым горадзе свету Маямі, які стаіць як бы на вадзе і якому не шкодзяць ні марскія прылівы, ні адлівы. Глядзім серыялы па барацьбе з тэрарыстамі. Адзін з іх, «Томас С'ю», паказваюць па 13-м канале ўжо ў каторы раз. Фільм цікавы, пра тэрарыстаў, забойцаў, жулікаў. Але ж не глядзець яго колькі разоў. Ролі выконваюць заслужаныя артысты. А ў С'ю ёсць сабака Лівай, які ад яе не адстае ні на крок і якому ў фільме вельмі многа ўдзяляецца ўвагі. Ёсць яшчэ адзін фільм пра «разумнага» сабаку, які паказваюць кожную суботу ў 7 гадзін раніцы. Ён дапамагае выкрываць жулікаў і бандытаў.

Паказваюць даўнейшыя мастацкія фільмы і цэлыя серыялы з жыцця англічан і другіх заходнееўрапейскіх краін, аб іх звычках, абрадах, культуры і, канечне ж, аб каханні, што таксама цікава глядзець. Па 65-м канале паказваюць цікавыя індыйскія фільмы, якія мы з задавальненнем глядзелі яшчэ ў Беларусі.

Ёсць камедыйныя перадачы. Кожны панядзелак вечарам у 9.30 дэманструецца камедыйны фільм «Газавы вугалок». Ідзе паўгадзіны. Часта можна бачыць на экране комікаў Канады, якія выступаюць у перапоўненых глядзельных залах тэатраў. Ёсць праграма «У гэтай гадзіне — 22 хвіліны». Гэта вельмі цікавая праграма для нас, бо мы такога ў Беларусі не чулі і не бачылі, каб дзеючага прэзідэнта ці прэм'ер-міністра крытыкавалі. Тут крытыкуюць не толькі канадыйскага прэм'ер-міністра і лідараў апазіцыйных партый (ліберальнай, народна-дэмакратычнай і іншых), але і прэзідэнтаў, і прэм'ер-міністраў другіх краін (Абаму, Буша, Пуціна і іншых). І ніхто гэтых крытыкаў не арыштоўвае, не садзіць у турму. Вось дзе дэмакратыя!

Цікава глядзець перадачы «Са схаванай камерай». Тут не трэба ведаць і ангельскай мовы, усё зразумела. Прывяду толькі адзін эпізод. У летнім парку на лавачцы сядзіць маладая мама, а побач з ёй у закрытай люльцы спіць яе немаўля. На суседніх лаўках сядзяць маладыя пары, некаторыя прагульваюцца па сцежках парка. Вакол людзі. Маладая мама курыць. І раптам яе немаўля пачынае голасна плакаць. Прысутныя, якія знаходзяцца бліжэй, звяртаюць увагу на люльку. У гэты час мама вымае з роту папяросу і засоўвае яе ў рот немаўляці. Малы супакоіўся, а з люлькі часу ад часу фантанам выходзіць дым ад папяросы. Прысутныя знаходзяцца ў недаўменні. Яны падыходзяць да дрэнна выхаванай мамы, каб сказаць ёй нешта павучальнае. Мама расчыняе заслону з люлькі і ўсім становіцца зразумела, што там няма ніякага немаўляці, а папяроса ўстаўлена ў невялікую прыладу, якая аўтаматычна пачаргова пускае дым. Усе смяюцца. А плач немаўляці быў запісаны на магнітафонную стужку.

Кожны будні дзень з 9 гадзін раніцы па тэлевізары цэлую гадзіну ідзе сустрэча з артыстамі Кэлі і Рэдыс (я яго заву Радыска). Расказваюць розныя былі і небылі, розныя смешныя выпадкі з жыцця, з артыкулаў і з рысункаў, надрукаваных у газетах, і г. д.

«Амерыканскі ідал» (амерыканская праграма) і «Канадыйскі ідал» (канадыйская праграма) — падобныя на тыя праграмы, якія былі і ў Беларусі («Шукаем таленты»). Маладыя людзі спрабуюць свае сілы ў выкананні песень. Набіраецца вельмі многа жадаючых. Кампетэнтнае журы пакрыху адсявае ўдзельнікаў. Адным кажуць прыйсці праз год, другіх — адпраўляюць назаўсёды. Некаторыя ўспрымаюць гэта спакойна, другія абвінавачваюць журы ў несправядлівасці, а трэція няўдачнікі проста плачуць. Усе ж яны лічаць

сябе чуць не заслужанымі, а тут іх недаацэньваюць. Тых, якія прайшлі па конкурсе — зноў перасяваюць, шукаюць лепшага з лепшых — ідала. Яго чакае вялікая ўзнагарода. Астатнія удзельнікі, якія прайшлі конкурс, маюць права паступаць у кансерваторыі і на працу ў Галівуд, у знакамітую амерыканскую кінастудыю.

Перадача Опры вядзецца ў будныя дні ў 4 гадзіны дня, а прафесара Філа — у 5 гадзін. Опра на свае перадачы запрашае незвычайных людзей. Вось перад намі маленькая двухгадовая дзяўчынка. Яна на геаграфічнай карце свету беспамылкова паказвае любую краіну па просьбе прысутных у зале. Хлопчык, у якога няма правай рукі і яе замяняе пратэз, у які ўманціраваны смычок, іграе на скрыпцы класічныя творы. Мы добра ведаем, хто такія двайняты. Калі з'яўляюцца трайняты, то мы ўжо здзіўляемся. А тут мы сустрэліся з двума выпадкамі, калі маці нарадзіла шасцёра дзяцей. Потым паказваюць фільм, зняты ў гэтай сям'і ад дня нараджэння і потым праз кожны год да трох-чатырох гадоў. Опра дапамагае людзям не толькі парадамі, але і матэрыяльна: сваімі грашыма або прыцягвае да ўдзелу ў тым або іншым мерапрыемстве багатых людзей. У Афрыцы яна пабудавала школу з сучасным абсталяваннем, апранула ўсіх дзетак у школьную форму. Яна бывае ў ваенным шпіталі, дзе ляжаць параненыя ў Афганістане жаўнеры.

Перадачы прафесара Філа прысвечаны сямейным тэмам, калі ў маладой сям'і даходзіць да разводу. Ён выступае ў якасці суддзі і ў большасці выпадкаў прыводзіць маладых да згоды. На гэтыя перадачы (Опры і Філа) збіраецца многа людзей, а тэлевізар глядзяць мільёны. Цікавыя перадачы.

У перадачы «Штодзённая планета» паказваюць навінкі навукі і тэхнікі, новыя дасягненні ў астраноміі, якія сталі магчымымі дзякуючы радыётэлескопам. Ёсць перадачы аб сучасных палётах на міжнародную касмічную станцыю і аб былых палётах амерыканскіх астранаўтаў і савецкіх касманаўтаў, аб наведванні астранаўтамі Месяца і падрыхтоўцы да палёту на Марс.

У так званым «Бермудскім трохвугольніку» працуюць навуковыя экспедыцыі па вывучэнні марскіх і паветраных цячэнняў. Караблі, якія знаходзяцца там, абсталяваны самай сучаснай тэхнікай. Вучоныя хочуць даведацца, як зараджаюцца ўраганы, якія прыносяць вялікую шкоду гарадам і вёскам. Тут яны зараджаюцца ў другой палове лета і адтуль ідуць на Кубу, ЗША, а іх водгукі парой дасягаюць і Канады.

Многа паказваюць работ вынаходнікаў-аматараў: двухпавярховы веласіпед (які можна бачыць і ў Атаве), веласіпед з адным колам, на якім вельмі добра адчувае сябе чалавек, едучы не толькі па добрай дарозе, але і па поручнях, і з гары ў лесе па каранях дрэў. І чаго толькі не хапае чалавеку? Вось едзе чалавек па горадзе на трохко-

лавым веласіпедзе, але сам знаходзіцца як бы ў кабіне двухкрылага самалёта з прапелерам. Веласіпед на дваіх, веласіпед з прымацаванай закрытай дзіцячай каляскай. Тут, як і ў нашай Беларусі, многа аматараў-вынаходнікаў, і ўсе яны штосьці паказваюць, штосьці дэманструюць.

Цікавыя перадачы ў праграме «Адкрыцці». Тут можна апынуцца ў глыбокай старажытнасці, паглядзець афрыканскія піраміды, еўрапейскія замкі на вяршынях гор (і як там іх толькі пабудавалі), кітайскую сцяну. Дзякуючы сучаснай тэхніцы і вынаходніцтву разумных людзей можна сустрэцца і з дыназаўрамі, і з звераяшчарамі. Людзям, канечне, усё гэта цікава. Каб гэтыя падарожжы не былі аднабаковымі і сумнымі, мясцовыя прадпрымальнікі побач са славутасцямі старажытнасці паказваюць таксама свае забаўляльныя праграмы. Вось ідзе маладая грамадзянка і вядзе на раменьчыку дарослага леапарда (замест сабачкі). А вось у парку за сеткай чалавек працуе з двума тыграмі, прымушае іх залезці на дрэва, пераскочыць перашкоду і г. д. Тыгр становіцца на заднія лапы, а пярэднія кладзе на плечы чалавеку, каб узяць з яго паднятай рукі ежу. За сеткай знаходзяцца дзясяткі гледачоў. У другім месцы сабачка іграе на піяніна і «спявае».

Дзяўчына ўладкавалася на спіне льва і комкае яго грыву, ад чаго цар звяроў мае вялікае задавальненне. А каля глыбокага басейна людзей забаўляюць дэльфіны. У спецыяльных памяшканнях са шклянымі сценамі можна апусціцца ніжэй узроўню мора і паглядзець на жывёльны і раслінны свет мора, паглядзець зблізку на акулу, васьмінога і іншых марскіх жывёл. На воднай гладзі ракі спартсмены-аматары паказваюць сваё майстэрства на водных лыжах па скачках з трампліну.

Самымі цікавымі перадачамі мы лічым падарожжы па нашай цудоўнай, блакітнай планеце Зямля, па яе кантынентах і акіянах, па яе розных краінах і морах, па асобных астравах. І найбольш нас цікавіць краіна Канада, у якой мы нядаўна пачалі жыць. І дапамагае нам у гэтым падарожніца Валерыя. Яна едзе цягніком з усходу на захад ці наадварот. Яе вагон абсталяваны зашклёным другім паверхам, адкуль можна назіраць за цудоўнымі прыроднымі пейзажамі, якія бягуць міма цягніка, — гэта малыя і вялікія рэкі з прыгожымі мастамі над імі, раўнінныя мясціны з фермерскімі хутарамі і вёскамі, невысокія і высокія горы, пакрытыя хваёвымі і ліецевымі лясамі, горныя азёры. У гарадах або знакамітых мясцінах Валерыя спыняецца, і яе падарожжа прадаўжаецца на аўтамабілі да тых мясцін, якія яна хоча паказаць. Яна бывае ў музеях, магазінах і на народных кірмашах, дзе можна купіць выраблены мясцовымі ўмельцамі рэчы са шкла, металу, дрэва, якія ў магазіне не прадаюцца. У вагоне яна сустракаецца з людзьмі розных нацыянальна-

сцей, прафесій і веравызнанняў. І ўражанне такое, што людзям тут жывецца добра і весела, аб чым можна меркаваць па іх тварах. Ды і сама вядучая вясёлая жанчына.

Можна пабыць і ў цырку. Тут няма нічога больш моднага, чым у нас: тыя ж клоўны, тыя ж паветраныя гімнасты, веласіпедысты на двух колах і на адным на канатах пад купалам цырку і гэтак далей.

У краіне многа стадыёнаў, лядовых палацаў, спецыяльных палёў для гульні ў гольф, у бейсбол і гэтак далей, дзе адпачываюць тысячы людзей. Вельмі цікавыя спаборніцтвы коннікаў, якія пераадольваюць 22 перашкоды, розныя па вышыні і шырыні, а то па дзве і тры перашкоды запар. Пераможцамі становяцца тыя, хто зрабіў менш памылак і затраціў на ўвесь маршрут менш часу.

У горадзе Калгары адбываюцца спаборніцтвы па ўтрыманні ў сядле коннікаў на маладых конях. А потым тое ж самае адбываецца і на быках, на якіх толькі глянуць, і то апаноўвае страх: яны з гарбамі ды з вялізнымі рагамі. Праўда, рогі абрэзаны. Каўбой, ці як іх там называюць яшчэ, на галаву надзявае шлем, а на тулава — засцерагальную камізэлю. На пляцоўцы, дзе адбываецца гэта відовішча, дзяжураць людзі, якіх быкі чамусьці не чапаюць.

І яшчэ адзін від спаборніцтваў коннікаў: патрэбна аб'ехаць вакол трох бочак, размешчаных ў розных месцах пясчанай пляцоўкі, і не паваліць іх. Улічваецца таксама час, патрачаны на заезд. А вось праграма «Забаўны рэйс» нам не падабаецца. Загаловак многаабяцаючы, а глядзець няма чаго. Людзі робяць падарожжы па розных краінах і кантынентах. Здавалася б, гэта цікава. Але прыгожы пейзаж там — рэдка ўбачыш. Яны больш паказваюць сябе, а не прыроду: то стаяць у чарзе ля касы аэрапорту за білетамі, то едуць у аўтамабілі, разглядаючы наваколле, а гледачу не паказваюць, то рамантуюць кола аўтамабіля і гэтак далей. Часам яны яшчэ жартуюць непрыгожа, абліваючы адзін аднаго не толькі вадой, але і ежай.

Праграму аб прыгодах з жывёламі (дзікімі і дамашнімі) я б глядзеў без канца. Гэта дакументальныя зарысоўкі, знятыя ў натуры. Ці ж не цікава паглядзець, як мядзведзі на мелкаводдзі горнай рэчкі ловяць вялікую рыбу, а потым ласуюцца ёю, вынесшы на бераг. Кажуць, што касалапы Мішка мешкаваты, непаваротлівы, але калі паглядзіш, як ён спрытна ловіць рыбу, то гэта не скажаш. Ён стаіць нерухома на задніх лапах, і зверху яму ўсё відаць. Калі падплывае да яго вялікая рыбіна, ён імгненна хапае яе дзвюма пярэднімі лапамі з вострымі кіпцюрамі.

Лама пасе ў фермера авечак. Тое, што ў Аўстраліі сабакі пасуць авечак (але не кусаюць), у гэтым нічога дзіўнага няма. І нашы сабачкі ў Беларусі дапамагалі нам пасвіць кароў і авечак. А то ж лама. Можа яна гадавалася разам з авечкамі. Вядома, што як у дамашніх, так і ў дзікіх жывёл выпрацаваны інстынкт самазахавання ад ваўка.

Конь у параўнанні з ваўком — гэта ж гігант, але ж і ён баіцца ваўка, храпе пры сустрэчы. Лама зорка глядзіць за статкам, абыходзіць яго вакол, а пры набліжэнні ваўка — смела кідаецца на яго і праганяе.

Вось казёл дапамагае гаспадыні карміць курэй. На вышыні метра паўтара пад страхой падвешана кармушка з зернем. Для таго, каб зерне пасыпалася з кармушкі, трэба па ёй стукнуць. Гэта і даручана казлу. Калі яму захочацца паласавацца зернем, ён падскоквае і б’е рагамі па кармушцы, і яна пачынае працаваць. Зерне некалькі секунд сыплецца, а потым зноў спыняецца. Ласуецца казёл, а разам з ім і куркі. Гэта гаспадарка адной маладой жанчыны-мастачкі. У яе гаспадарцы ёсць яшчэ два конікі-поні, якіх яна вельмі любіць. Яна чысціць іх шчоткай, выпускае іх пагуляць у абгароджанае дварышча, дзе яны ад задавальнення падкідваюць азадкамі, потым дае ім сена. Запрогшы коніка ў каляску, яна робіць прагулкі па ваколіцах свайго хутара. У вольны час яна малюе сваіх выхаванцаў: то коніка, то казла, то пеўня, яны з задавальненнем пазіруюць сваёй гаспадыні.

Убачылі мы і адзін сумны эпізод з жыцця жывёл афрыканскага кантыненту. Мы лічым слана самай вялікай і магутнай жывёлінай на сушы. Здаецца, у яго не павінна быць ворагаў і яму няма каго асцерагацца. Але ёсць яшчэ цар звяроў — леў, хаця ён адзін супраць слана — нішто. Калі ільвоў многа, то і слон становіцца іх ахвярай. Гэта мы ўбачылі ў дакументальнай стужцы. Спачатку львы адагналі слана ад статку, а потым пачалі скакаць на хаду прама на яго спіну і грызці, другія хапалі яго за ногі, за жывот і грызлі. Дзе ж ён мог вытрымаць такі боль, ды і крывёй сцякаў ён, а потым і апусціўся ўсім целам на зямлю.

У нядзелю на шостым канале рыбаловы на невялікім катары ловяць цэлую гадзіну рыбу. Адплыўшы дзесьці на сярэдзіну ракі Атавы і выкінуўшы якар, яны закідваюць свае вуды. Пападаецца вялікая рыба на кручок, які потым дастаюць пры дапамозе пласкагубцаў. Рыбу выпускаюць зноў у раку, толькі ці будзе яна жыць пасля іхняй аперацыі. Потым на беразе нешта і смажаць, напэўна ж ведаюць у рыбе смак.

Паказваюць паляванне на гусей восенню ў тундры. Паляўнічыя ў маскіровачным адзенні расстаўляюць чучалы белых гусей, каб прыцягнуць увагу пералётных гусей, якія садзяцца без ніякага падазрэння, пасля чаго пачынаецца іх расстрэл. Страшна! Няўжо людзям няма чаго есці? Паказалі яшчэ адзін спосаб палявання на гусей. Расцягнута вялізная сетка. Да яе краёў у трох месцах прымацоўваюць ракеты. Калі гусі збяруцца на патрэбнай адлегласці, ракеты дзякуючы сучаснай тэхніцы адначасова спрацоўваюць і нясуць сетку над гусямі, і накрываюць іх. Ідзі і лаві.

Палярныя лісіцы палююць на гусіныя яйкі і гусянят. Двух яек у ляпу ліса не можа ўзяць, а гусянятак ухапіла б і траіх, ды таксама

ўсе не ўлезуць. Дарослыя гусі мужна адбіваюць гусянят, але без ахвяр не абыходзіцца. Трэба ж і лісіцы чаго-небудзь з'есці ды і дзеткам сваім прынесці.

У Афрыцы, каб паглядзець на львоў у саванах, турысты едуць на аўтамабілях. У Індыі, каб паглядзець на тыграў у джунглях, едуць на сланах. У Аўстралію едуць паглядзець на кенгуру. І яшчэ там турыстаў, прыехаўшых з паўночнага паўшар'я Зямлі, здзіўляе, што там сонца не так ходзіць, як у нас. У нас сонца ідзе злева направа, а ў Аўстраліі — справа налева, да чаго не могуць прывыкнуць прыехаўшыя з нашых краёў.

20 студзеня 2009 года мы глядзелі ўрачыстае ўступленне на пасаду прэзідэнта ЗША Барака Абамы. Плошча каля Белага дому і ўсе вуліцы ў яго ваколіцах былі запоўнены людзьмі. Дыктары кажуць, што прысутнічае не менш як 4,5 мільёнаў чалавек. Усе з невялікімі сцяжкамі ЗША. Нехта размахвае вялікім двухбаковым сцягам, на адным баку якога сцяг ЗША, а на другім — сцяг Канады. Значыць, і канадыйцы прыехалі віншаваць новага прэзідэнта ЗША. На плошчы і на вуліцах устаноўлены вялізныя тэлеэкраны, каб людзі ўсё маглі бачыць і чуць, што будзе адбывацца. У небе час ад часу з'яўляецца верталёт, за Белым домам нясуць службу паліцэйскія з сабакамі. Служба бяспекі сочыць за ўсім, каб не адбыліся якія неспадзеўкі. Паказваюць кадры інаўгурацыі былых прэзідэнтаў (Рэйгана, Клінтана, Буша-старэйшага і іншых), кадры балаціравання Барака Абамы. Прыбываюць на святкаванне былыя прэзідэнты, многія з іх ужо сівыя і з палачкамі. Яны з жонкамі выходзяць на вялізную веранду Белага Дома, дзе адбываецца цырымонія. Выходзіць апошні прэзідэнт з жонкай, Джордж Буш, які быў прэзідэнтам два тэрміны.

На вуліцы з'яўляецца прэзідэнцкі картэж у суправаджэнні матацыклістаў. Каля тратуараў стаяць загародкі, каля якіх стаяць паліцэйскія ў метрах 5 адзін ад аднаго. Тратуары запоўнены людзьмі, якія вітаюць новага прэзідэнта сцяжкамі. Выходзіць будучы прэзідэнт Барак Абама з жонкай і з дзвюма дочкамі Сашай і Міліяй. Іграе духавы аркестр. На плошчы і вуліцах гучаць воклікі «Абама-Абама-Абама…», вось так амерыканцам падабаецца новы прэзідэнт, хаця ён і «чорны». Вось гэта дэмакратыя!!!

Адчыняе цырымонію кароткая ўступная прамова служачай Белага Дома; яна заканчвае словамі: «Блаславі, Божа, Амерыку!» Потым усе прысутныя моляцца, у канцы — «Ойча наш». Барак Обама прымае прысягу, паклаўшы левую руку на Біблію, якую трымае ў руках яго жонка. Страляюць гарматы. Потым з вялікай прамовай выступае Абама. Гучыць гімн ЗША. Усё, новы прэзідэнт уступіў у свае правы і пайшоў кіраваць краінай. Буш з жонкай сеў у верталёт і паляцеў на радзіму. Во цуд, і «замочкі» не было.

19 лютага 2009 года — візіт новага прэзідэнта ЗША ў Канаду. Рыхтаваліся канадыйцы да гэтага візіту задоўга да яго. З экранаў тэлевізараў не зыходзіў партрэт Барака Абамы. Вядучы праграмы Лойд размаўляе з карэспандэнтамі, якія знаходзяцца ў аэрапорце і на Парламенцкай плошчы, дзе сабралося многа людзей з амерыканскімі дзяржаўнымі сцяжкамі ў руках. Будынкі аэравакзала, Парламента, вуліцы горада ўпрыгожаны амерыканскімі і канадыйскімі дзяржаўнымі сцягамі і партрэтамі Барака Абамы. Паказваюць дакументальныя кінастужкі аб візітах былых прэзідэнтаў ЗША ў Канаду: Рузвельта, Кенэдзі, Рэйгана, Клінтана, Буша.

Прызямляецца чатырохтурбінны прэзідэнцкі самалёт, які вырульвае да будынка аэрапорта. Самалёт спыняецца, да яго падганяюць трап, рассцілаюць дарожку, уздоўж якой выстраілася ганаровая варта з паліцэйскіх у параднай форме, стварыўшы «жывы калідор». Да самалёта ідзе генерал-губернатар у суправаджэнні адказных асоб. У небе лятае верталёт. Відаць усе службы бяспекі на нагах, якія хочуць, каб высокаму госцю з Амерыкі нічога не пагражала.

Барак Абама выходзіць з самалёта, вітаецца з генерал-губернатарам і з другімі афіцыйнымі асобамі. Людзі, якія прыйшлі на сустрэчу, вітаюць прэзідэнта сцяжкамі і воклічамі «Барак Абама»! Потым у прэзідэнта ЗША і генерал-губернатара Канады адбыліся перамовы ў пакойчыку аэравакзала.

Потым картэж машын рушыў з аэрапорта ў напрамку Парламента. Тут таксама сабралася многа людзей. Паліцыю можна было бачыць не толькі вакол будынка парламента, але і на даху і на самай высокай вежы будынка Парламента.

Машына прэзідэнта спынілася каля задняга ўваходу ў будынак, дзе яго сустрэў прэм’ер-міністр Канады Стывен Харпер. Прэзідэнт знаёміцца з афіцыйнымі асобамі канадыйскага парламента. Потым прэзідэнт з прэм’ер-міністрам Канады выходзяць праз парадныя дзверы да людзей, віншуюць іх узмахамі рук. Людзі вітаюць іх сцяжкамі і воклічамі «Барак Абама»!

Прэм’ер-міністр вядзе прэзідэнта ў свой кабінет, і перамовы пачаліся.

12 лютага 2010 года — Зімовая алімпіяда ў Ванкуверы.

Калі мы ўключылі тэлевізар у 9 гадзін раніцы, у Ванкуверы было яшчэ цёмна. Розніца ў часе паміж намі — 3 гадзіны, але эстафета з факеламі алімпійскага агню ўжо ішла. Праз кожныя 300 метраў адбываецца перадача алімпійскага агню. Нясуць агонь маладыя спартсмены і пажылыя. Нясуць пешшу і бягом, на веласіпедзе і на машыне. Вось едзе інвалід на інваліднай калясцы, рухаючы колы рукамі, а спераду каляскі прымацаваны факел. Няйначай, ён пакалечыўся на спартыўных спаборніцтвах. Здымкі вядуцца і з верталёта, паказваюць вялізны, прыгожы горад з мноствам шмат-

павярховых будынкаў. Вуліцы запоўнены людзьмі. Многія выйшлі сустракаць алімпійскі агонь з Дзяржаўнымі сцягамі з кляновым лістом — сімвалам Канады. Алімпійскі агонь суправаджаецца воклічамі прысутных. Месцамі людзі выконваюць дзяржаўны гімн. Факельшчыкі спыняюцца каля знакамітых помнікаў. Вось піраміда, складзеная з каменных глыбаў абарыгенамі, а вось помнік загінуўшым воінам, куды прыйшлі ветэраны, каб сустрэць алімпійскі агонь. Усюды факельшчыкі спыняюцца і фатаграфуюцца з жыхарамі горада. Агонь суправаджае паліцыя. За імі едзе паліцыя на веласіпедах у жоўтых мундзірах і на прыгожых конях у парадная чырвонай форме. Вязуць інваліда ў калясцы, які трымае факел, ўсміхаецца, а на вачах слёзы ад радасці, што былога спартсмена не забылі і даручылі яму алімпійскі агонь пранесці, хоць 300 метраў. Карэспандэнты радыё і тэлебачання звяртаюцца да гараджан і пытаюцца іх меркаванне аб будучай спартыўнай алімпіядзе. Усе яны ганарацца тым, што алімпіяда адбываецца ў Канадзе. Агонь пранеслі па доўгім мосце, праз вялікі парк Stanley і праз вуліцы горада. На свята прыехаў прэм’ер-міністр Канады Стывен Гарпэр, якога акружылі карэспандэнты, і ён выступіў з кароткай прамовай. Агонь передалі на лодку з шаснаццаццю веслярамі, а яны перадалі на другую, такую ж самую.

Алімпійскі агонь знаходзіцца яшчэ далёка ад велічнага стадыёна, які запоўнены да адказу тысячамі аматараў спорту. Ва ўрадавых ложах генерал-губернатар і прэм’ер-міністр Стывэн Гарпэр. З цэнтра арэны ўздымаюцца чатыры высокія слупы ў вобразе багоў з рухаючыміся рукамі. На арэне стадыёна з’яўляюцца сотні абарыгенаў, якія паказваюць сваё майстэрства. Іх тут называюць «прадстаўнікамі першай нацыі». Так, гэта іхняя краіна, іхняя зямля. Яны пранеслі сваю культуру праз стагоддзі і зараз развіваюць яе далей. У іх ёсць свая мова, свае песні, свая музыка і танцы. І ніхто ім нічога не забараняе. Яны адзеты ў рознакаляровыя ўбранні, з мноствам вялікіх птушыных пер’яў.

Гучыць гімн Канады. Восем паліцэйскіх у парадная чырвонай форме нясуць алімпійскі сцяг. Сцяг падымаецца пад канадыйскі дзяржаўны гімн, які выконвае спявачка Ніккі Яноўскі.

Пачынаецца шэсце спартыўных каманд з розных краінаў свету ў алфавітным парадку: Албанія, Алжыр, Андора, Аргенціна, Аўстралія, Аўстрыя, Азербайджан, Беларусь, Бельгія… Латвія, Літва… Румынія, Расія… Перу, Польшча… Украіна, Узбекістан, Канада.

Канцэрт працягваецца. Над арэнай стадыёна з’яўляецца паўночнае ззянне. Ляціць арол, бяжыць буры мядзведзь, воўк, белы мядзведзь. У белага мядзведзя трэснуў лёд пад нагамі і ён паплыў. І ўсё гэта, здаецца, наяве, але гэта не што іншае, як дасягненні су-

часнага кіно. Далей паказваюць бязмежнае мора, па якім плаваюць кіты. Ці ж не цуд! Падымаюцца слупы святла з зямлі, яны ўпіраюцца ў паўночнае ззянне, потым з іх робяцца дрэвы. На пляцоўцы, якая вырасла з зямлі, іграе аркестр, спявачка выконвае прыгожую песню. Дрэвы апускаюцца ўніз, на небе з'яўляецца месяц, да якога з зямлі ляціць чалавек. З'явіўся і чорт, які пекна іграе на скрыпцы. Зверху ляцяць кляновыя лісточкі. Мяняецца пейзаж: то хвалюючае мора, то хлебнае поле, па якім хутка бягуць коні. Усё было прыгожа! На стадыён убягае факельшчык з алімпійскім агнём. Запальвае тыя слупы, што выйшлі з зямлі. Потым бяжыць на вуліцу — запальвае і там. Неба таксама салютуе адкрыццю алімпійскіх зімовых гульняў 2010 года.

## ЯК ПРАЦУЮЦЬ КАМУНАЛЬНЫЯ СЛУЖБЫ

З набліжэннем зімы, калі яшчэ не выпаў снег, на вуліцах і тратуарах, а таксама на плошчах і ў дварышчах рассыпаецца тэхнічная соль. Зіма тут бывае і снежная, і марозная, падобная да беларускай зімы, хаця Атава размешчана на паралелі Крыма. Але паўночным вятрам Гудзонава заліва нічога не перашкаджае дасягнуць Атавы. Бываюць зімы тут і ўмераныя. Аб снежных бурах паведамляюць тут па радыё і па тэлебачанні. Снегаачышчальная тэхніка тады працуе дзень і ноч. Магутныя бульдозеры чысцяць вуліцы, меншыя — дварышчы, пад'езды да дамоў, а зусім маленькія — тратуары. На невялікіх вулачках пад'езды да дамоў абслугоўваюць цэлыя брыгады маладых хлопцаў. Яны з лапатамі ў руках расчышчаюць снег са сходак аж да дзвярэй кожнага дома. Снег згортваецца ў вал збоку тратуараў. Калі яго накопліваецца вельмі многа, то яго пры дапамозе спецыяльных пагрузчыкаў грузяць на самазвалы і вывозяць за горад. Часам вялікія гурбы снегу ляжаць аж да мая.

Вясной, пасля зыходу снегу, вуліцы і тратуары, плошчы і дварышчы ачышчаюць ад солі. Жыхароў дамоў папярэджваюць раней аб маючых быць работах, каб у вызначаны дзень і час яны вывелі свае машыны са стаянак. Вуліцы мыюць. Асфальтам заліваюць трэшчыны (пасля марознай зімы) і выбоіны. Абнаўляюць дарожныя палосы ў белы колер і пешаходныя пераходы ў жоўты.

Пры наступленні ўстойлівай цеплыні высаджваюць ужо расцвіўшыя кветкі ў спецыяльныя цэментныя скрынкі, размешчаныя каля тратуараў, куды папярэдне падвозяць свежага чарназёму. А каля тратуараў, дзе трава вытаптаная, рассыпаюць чарназём і па ім сеюць насенне травы. Потым гэтыя месцы час ад часу паліваюць. Пасярод вуліцы знаходзіцца нейтральная паласа шырынёй у 4 метры і засеяная травой. На ёй знаходзяцца металічныя электраслупы,

разгалінаваныя ў верхняй частцы, падобна вусам жука, на кожным з якіх вісяць лямпачкі для асвятлення абедзвюх частак вуліцы. На кожным слупе з абодвух бакоў ёсць прыстасаванні для падвешвання кветак у вазонах. Паліваюць кветкі са спецыяльных машын.

Звычайна машыны мыюцца на мыйках пры аўтазапраўках. Але ў суботу і нядзелю на скрыжаваннях можна бачыць старэйшых школьнікаў, якія мыюць машыны ў спецыяльным адведзеным для гэтага месцы, там памыць машыну дзешавей. Гэта іх бізнес. Яны хочуць быць незалежнымі ад бацькоў і мець свае грошы, за якія яны купляюць камп’ютары, сотавыя тэлефоны, фотаапараты і гэтак далей.

Будкі на аўтобусных прыпынках шкляныя, ніхто іх не б’е і не ламае. Перыядычна яны мыюцца знутры і знадворку спецыяльнымі машынамі. Побач размешчаны закрыты сметнік, куды ўстаўляецца пусты цэлафанавы мяшок. Як ён напаўняецца, яго замяняюць новым. Смецце жыхары дамоў збіраюць у невялікія кантэйнеры, прычым з колцамі. У адны складваюць паперу і пластык, у другія — металічныя банкі, у трэція — шкло. Адходы з кухні складваюць у цэлафанавыя мяшочкі, шчыльна завязваюць іх і выкідваюць у асобны кантэйнер. У вызначаны дзень кантэйнеры вывозяць на вуліцу, куды прыязджае спецыяльная машына і ўсё забірае. Каля вялікіх дамоў, магазінаў стаяць вялікія кантэйнеры, у якія выкідваюць смецце ў цэлафанавых мяшках. Жыхары дамоў выкідваюць смецце толькі ў завязаных цэлафанавых мяшочках. У шматпавярховых дамах ёсць спецыяльныя смеццепровады, па якіх гэтыя мяшочкі ляцяць аж у падвальнае памяшканне у кантэйнер, які пасля запаўнення вывозяць у дварышча, дзе і вытрасае яго спецмашына. Кантэйнеры з дварышчаў забіраюць спецыяльныя вялізныя машыны. Уперадзе гэтай машыны ёсць вілы, якімі яна падчэплівае знізу кантэйнер, падымае яго і перакульвае. Мяшкі са смеццем ляцяць у сярэдзіну машыны і там прэсуюцца.

Туалетаў адкрытых, дзе плодзяцца мухі, я тут нідзе не бачыў: ні ў горадзе, ні каля дарог, ні каля возера. Тут усё закрыта. Калі якая муха і з’явіцца, то яна ў дом не ўлезе, бо на кожным вакне і дзвярах ёсць сетачкі, праз якія нават маленькая мошка не ўлезе.

Часта можна бачыць каля дамоў выкінутыя рэчы, на першы погляд, зусім яшчэ добрыя: канапы, крэслы, шафачкі, тэлевізары, камп’ютары, якія прыйшлі ў непрыгоднасць, але, хутчэй за ўсё, проста выйшлі з моды. І гэту ўсю маёмасць камунальныя службы вязуць на звалку.

Другі спосаб пазбавіцца ад старых, але добрых рэчаў — гэта суботнія кірмашы ў гаражах або каля дамоў. На скрыжаваннях вуліц вывешваюцца таблічкі з адрасамі, дзе будзе гэты кірмаш.

Адны людзі хочуць пазбыцца старых рэчаў, а другія — з прычыны пераезду ў другі горад. І прадаюцца гэтыя рэчы па сімвалічнай цане.

Пошту развозяць на машынах і складваюць у спецыяльныя скрынкі, якія размешчаны ў розных частках горада, адкуль яе забіраюць паштальёны і разносяць па дамах. На вуліцах устаноўлены скрынкі для продажу газет, а ў другіх скрынках — мясцовыя газеты рэкламнага характару можна атрымаць і бясплатна. Мы доўга карысталіся часопісам «24 hours» («24 гадзіны»), надрукаваным на ангельскай і французскай мовах, у якім былі навіны і тэлевізійныя праграмы. Мы чыталі іх пакрыху на ангельскай мове, часам звяртаючыся да слоўніка. Рэкламнай літаратуры мы бясплатна атрымліваем цэлыя горы ад адзінкавых лісточкаў да цэлых часопісаў. І часта думаем: ці аплочваецца яна вытворцу тавараў? Перш за ўсё патрэбен мастак, а потым фарба, друкарня, папера. І за ўсё ж гэта трэба заплаціць.

Сукі невялікіх дрэў пачаргова абразаюцца, пасля чаго яны прымаюць выгляд прызмаў ці шароў. Ссохшыя дрэвы спілоўваюць пры дапамозе пад’ёмнікаў, пачынаючы зверху. Спілаваныя сукі звязваюцца ў невялікія пучкі, якія забірае спецыяльная служба. У некаторых выпадках сукі здрабняюцца на спецыяльнай машыне, потым атрыманую масу ссыпаюць у цэлафанавыя мяшкі і адвозяць.

Касіць прыязджаюць цэлай брыгадай. Машына з двайной кабінай і з прычэпам, на якім размешчана тэхніка. На базе невялікіх трактарчыкаў зманціраваны касы. Шырыня пракоса паўтара метра. Каля дрэў і тратуара абкошваюць ручнымі косамі, якія сілкуюцца бензінам. Косяць не радзей, як праз тыдзень. Скошаная маса рассыпаецца ў траве і ператвараецца ў перагной. Скошаная трава, якая пападае на тратуар, потым здуваецца паветрам пры дапамозе спецыяльных ручных прыстасаванняў.

А як людзі працуюць? Рабілі ў Пеці новую веранду і мянялі мяккае пакрыццё ў доме. І нас здзівіла, што і адны, і другія працавалі без перакураў, хаця яны былі курцамі. Закурылі ў час адпачынку на абед.

У горадзе многа інвалідаў. Яны перамяшчаюцца на інвалідных калясачках, якія сілкуюцца акумулятарамі. Ёсць калясачкі, колы якіх прыводзяцца ў рух рукамі чалавека, які сядзіць у ёй. Калясачка невялікая, спераду і ззаду ёсць месцы, куды можна што-небудзь пакласці. Інвалідаў на калясках можна часта сустрэць у магазіне, куды яны заязджаюць праз дзверы, якія адчыняюцца аўтаматычна.

Калі ж інваліду трэба з’ездзіць у госці або да доктара, ён выклікае спецыяльную машыну, у якой ёсць пагрузачнае прыстасаванне. Інвалід пад’язджае на калясачцы да машыны, яму апускаюць пляцоўку, на якую ён заязджае. Яго падымаюць да ўзроўню падлогі машыны, і ён заязджае ў машыну.

Усе аўтамабілі для інвалідаў забяспечаны пагрузачна-разгрузачнымі механізмамі, уманціраванымі пад машынай. Пры неабходнасці гэта сістэма ператвараецца ў пад'ёмнік. Унутры машыны знаходзіцца і каляска, якая загружаецца неабходным таварам і пры дапамозе механізма апускаецца на зямлю.

## ЯК ТУТ БУДУЮЦЬ

Атава горад вялікі, але ўсё будуецца. Калі мы жылі па вуліцы Эрына, мы хадзілі на адну новабудоўлю. Тут будавалі жылы мікраараён (каля 100 дамоў). Вуліцы былі заасфальтаваны да пачатку будаўніцтва дамоў. Кожны дом пачыналі будаваць з катлавіны пад падвальнае памяшканне, куды падводзілі газ, ваду, закладвалі фундамент. А потым усё ішло як па канвееры. Будаваліся цэментныя слупы, металічныя канструкцыі, да якіх мацаваліся сцены, падлогі, стаяванні, вокны, дзверы (яны выраблялісяна домакамбінаце, а сюды завозіліся ўжо гатовыя). Дах мацаваўся драўлянымі рэечкамі і, здавалася, як там усё можа ўтрымацца. Да зімы дамы былі знешне гатовыя. Зімой выконвалі ўнутраныя работы. Гэта былі двухпавярховыя домікі, не улічваючы падвальнае памяшканне, якое тут у многіх можа быць таксама жылым. Гэта былі дамы розных архітэктурных канструкцый.

Вясной добраўпарадкавалі тэрыторыю мікраараёна. Будаваліся тратуары, выраўнівалі тэрыторыю вакол дамоў, садзілі маладыя, але ўжо даволі вялікія дрэвы, прывезеныя са спецыяльных гадавальнікаў з каранямі ў бочках, тэрыторыю засцілалі дзірваном, пакідаючы месца для кветнікаў пры кожным доме.

У Aymler у 2008 годзе пачалі будаваць пансіянат для састарэлых. Адзін такі вялікі дом ужо быў даўно пабудаваны, аднак гэтага было недастаткова для патрэб вялікага горада, бо старых з кожным годам становіцца больш і больш. І гарадскія ўлады рашылі пабудаваць яшчэ два (адзін большы — пяціпавярховы, другі меншы — чатырохпавярховы) дамы, каб задаволіць патрэбы хаця б на бліжэйшы час. І сюды мы таксама хадзілі паглядзець. З нашага вакна было відаць, як кожны дзень будоўля мяняла аблічча. Зноў жа пачыналі з катлавіны і з падвядзення водных і газавых камунікацый. Былі ўстаноўлены два стацыянарныя пад'ёмныя краны. Устанаўліваліся яны пры дапамозе магутнага пад'ёмнага крана на калёсах са стралой не менш 50 метраў у даўжыню. За два дні краны былі зманціраваны. Меншы дом к зіме быў пабудаваны і накрыты. Засталіся ўнутраныя работы. Большы дом на зіму пакінулі, не будавалі яго і ўвесь 2009 год. Няйначай абанкруцілася будаўнічая кампанія ў сувязі з фінансавым і эканамічным сусветным крызісам. Пазакрывалі вок-

ны і дзверы цэлафанавай плёнкай. У мяне толькі засталося нейкае недаўменне да іхняй сістэмы будоўлі. Я назіраў кожны дзень. Раслі слупы, потым на іх клалі перакрыцці, і зноў слупы і перакрыцці, і гэтак да пятага паверха. Атрымлівалася нешта падобнае да сіта, прадуваемага вятрамі. А дзе ж сцены? У нас у Беларусі пачыналі з фундамента і са сцен, а тут сцены разам з адтулінамі для вакон і дзвярэй пачыналі ляпіць да пастаўленых ужо слупоў. Наш дом, таксама чатырохпавярховы, магчыма так жа будавалі, але ж во, дзякуй Богу, стаіць ужо больш за 30 гадоў і не думае развальвацца.

Жывуць у пансіёне для састарэлых нашы сябры Роджэр (француз) і Анна (славачка). Жывуць на ўсім гатовым, адпачываюць. За пражыванне ў гэтым доме кожны з іх плаціць у месяц 1700 долараў, ды яшчэ дзяржава ці кампанія даплачвае за кожнага па 400 долараў у месяц. Роджэр працаваў ва ўрадзе Канады, а Анна — медсястрой. І яны сумелі сабраць такія грошы, каб можна было нябедна старавацъ. Яны часта наведваюць свае радзімы — Францыю і Славакію. Ездзяць адпачываць на курорты Кубы, Францыі, Славакіі, Італіі і ў другія прыгожыя мясціны Зямлі.

— А куды мы з Данатай маглі з’ездзіць, жывучы ў Беларусі, на які курорт?

— На Дашкаўскую сенажаць!

Насупраць нашага дома размешчаны другі пансіянат для пажылых людзей, магчыма, не такіх багатых, як у першым выпадку. Тут кожны год нешта дабудоўваюць. У 2007 годзе прыбудавалі невялікі складзік. У 2008 годзе дабудавалі ззаду дома дадатковую жылплошчу і побач з ім — кветнік.

23 кастрычніка 2009 года пачалося зноў будаўніцтва. За два дні ўзламалі і вывезлі ўвесь асфальт з усіх стаянак і пад’ездаў да дому, тут жа адразу ўсё зараўнялі. За адзін дзень выкарчавалі ўсе дрэвы і кусты, якія заміналі будаўніцтву. Потым пачалі капаць катлаваны, зямлю вывозілі магутнымі самазваламі, засцілалі іх дно шырокай плёнкай і засыпалі яе маленькімі каменьчыкамі, якія прывозілі на тых жа самазвалах.

А мы з Данатай любаваліся праз вакно працай экскаватаршчыка, яго дакладнасцю і ювелірнасцю. Здавалася, як можна такім вялізным каўшом не толькі дакладна загрузіць вялізныя машыны, але потым і выгладзіць дно той ямы. Прычым усё адбываецца хутка і беспамылкова. Відаць, сядзіць там чалавек высокай кваліфікацыі.

Працуюць з сямі гадзін раніцы да пяці гадзін вечара. На снеданне і на абед выдзяляюць не больш паўгадзіны. Вось так працуюць у Канадзе! І ніякіх «перакураў».

# ЯК ГАНДЛЮЮЦЬ

Магазіны ў асноўным аднапавярховыя, што спрыяе пакупнікам любога ўзросту. Сустракаюцца і двух, і трохпавярховыя з лесвіцамі, але туды з каляскай не заедзеш. Затое ёсць ліфты.

Перад кожным магазінам адведзены вялікія пляцоўкі для паркоўкі аўтамабіляў. Пляцоўкі размечаны, таму машыны заўсёды стаяць у пэўным парадку.

Дзверы ў магазін, калі падыходзіш да іх, самі адчыняюцца, як туды, так і назад. Гэта зроблена для таго, каб у людзей, якія выязджаюць з магазіна з напоўненымі калясачкамі, не было праблем.

Людзі прыязджаюць на машынах і робяць закупы не менш, чым на тыдзень, ды яшчэ ў залежнасці ад велічыні сям’і. У магазіне бяруць калясачку, часам прыязджаюць з дзецьмі. Самага малога садзяць у каляску, для яго там ёсць спецыяльнае месца. Прыязджаюць і з немаўляткамі ў кошычках, але і для гэтага кошычка ў калясачцы ёсць месца. А большыя «дапамагаюць» маме. Як у магазіне, так і на вуліцы можна бачыць тыповую сітуацыю, калі маму суправаджаюць тры, чатыры, а часам і ўсе пяць. Для тых, хто збіраецца зрабіць менш пакупак, стаяць невялікія кошыкі.

Амаль усе цэны заканчваюцца на 99 цэнтаў. Не ведаю з якой мэтай гэта зроблена, але здачу ў 1 цэнт — заўсёды аддаюць. Нават бачыў цану за матацыкл — 3999,99 долара.

З каляскай едуць па праходах і выбіраюць, што каму трэба. На паліцах магазіна ўсё ўпакавана ў папяровых ці кардонных скрыначках або ў цэлафанавых мяшочках. Нават ёсць мяшочкі з замочкамі «маланка», у якіх прадаецца вінаград. Усё расфасавана і ўпакавана, і на кожнай упакоўцы напісана вага і кошт.

Што тычыцца асартыменту харчовых тавараў, тут няма розніцы, ці гэта лета, ці зіма. Чаго няма ў Канадзе — вязуць з паўднёвых раёнаў ЗША ці Мексікі. І тут у магазінах ёсць усё круглы год: бананы, вінаград, клубніцы, агуркі, памідоры і гэтак далей. Вялізныя аўтамабілі, фуры-вагоны, заўсёды ў руху.

Ёсць магазіны, дзе ўсё прадаецца па дзяшоўцы, гэта так званыя «даларамы». Тут можна купіць зусім добрую рэч за адзін долар, у крайнім выпадку — за два. За 1 долар я тут купіў набор з 12 ручак: 8 — з сінім чарнілам, 2 — з чорным і 2 з чырвоным. У другіх магазінах за такі ж самы тавар трэба было б заплаціць у некалькі разоў даражэй. Магчыма, тавар і мае якія дэфекты, якія не можа заўважыць чалавечае вока. Тут жа прадаецца і самы дзяшовы хлеб (паўтара долара за бохан, а раней каштаваў адзін долар). Ёсць жа і тут бяднейшыя людзі, а есці хочацца ўсім аднолькава.

У будныя дні менш людзей, таму менш працуе касаў, а ў выхадныя — хоць вушы затыкай ад тых сігналаў, якія адтуль даля-

таюць. Усё адбываецца хутка і спакойна. І дзякуючы гэтаму чэргі ствараюцца невялікія. Некаторыя разлічваюцца за куплены тавар грашыма, а некаторыя банкаўскімі карткамі, а «разумныя» машыны-аўтаматы здымуць з рахунка пакупніка ў банку столькі, колькі трэба заплаціць. Падыдзе твая чарга — прадаўшчыца абавязкова павітаецца і ўсміхнецца. Калі разлічышся — падзякуе і развітаецца.

Невялічкі эскалатар вывезе твае закупы да месца ўпакоўкі, дзе вывешаны цэлафанавыя бясплатныя мяшочкі. На другі эскалатар прадаўшчыца пачне выкладваць закупы другога пакупніка. Так што няма ніякай спешкі, усё робіцца спакойна. У выхадныя дні тут можна сустрэць школьнікаў і студэнтаў, якія дапамогуць упакавацца. Перад магазінам можна сустрэць і малодшых школьнікаў, якія прапануюць купіць у іх шакаладак. У Канадзе існуюць кампаніі літасці, якія дапамагаюць бедным. За працу школьнікам плацяць нейкія працэнты, а астатнія грошы ідуць на дапамогу бедным.

Ёсць тут і бамжы, і бяздомныя, якіх можна бачыць на скрыжаваннях вуліц з таблічкамі на грудзях. Цяжка сказаць, што іх прымусіла быць такімі. Тым, хто мае працу, можна добра жыць.

Распаўсюджана тут і валанцёрства — бясплатная дапамога. Гэтым звычайна займаюцца пенсіянеры, якія маюць добрыя пенсіі і ўсім забяспечаны. Яны ідуць папрацаваць бясплатна, каб сустрэцца з людзьмі, не сядзець дома і не сумаваць. Сярод людзей заўсёды весялей. Ды і падзяку потым атрымаць таксама прыемна. Вось вам і камунізм.

Магазін, які недалёка размешчаны ад нас і куды мы больш за ўсё ходзім, вельмі вялікі, па плошчы, напэўна, не менш чым Пастаўскі рынак. Пад дахам гэтага будынка размешчаны не толькі гандлёвыя памяшканні, але і пошта, аддзяленне банка, аптэка, магазін оптыкі, дзе прадаюцца акуляры і працуе доктар-акуліст, рэстаран, більярдная, фатаграфія, аддзел падарункаў і сувеніраў, рамонт абутку, цырульня і нават чатыры кінатэатры. Для паслуг пакупнікоў тут працуюць тры банкаўскія касы-аўтаматы. Тут не трэба хадзіць на паклон да банкіра, каб дазволіў зняць свае ўласныя грошы. Тут грошы ёсць увесь час. На калідоры стаяць крэслы, дзе можна адпачыць. Вось мы тут з Данатай і пасядзелі мінут пяць. За гэты час касы-аўтаматы абслужылі сем пакупнікоў.

Магазін мае вельмі прасторныя калідоры, час ад часу тут стаяць легкавыя аўтамабілі, «хаты» на калёсах для турызму, маторныя лодкі, катары, матацыклы, матаролеры і мінітрактары, веласіпеды. Кошт аўтамабіляў бывае розны — ад 20 000 да 50 000 тысяч долараў. Бываюць і дзешавейшыя, і даражэйшыя. Іншы раз калідоры запаўняюцца сталамі прадпрымальнікаў, якія арандуюць плошчы на некаторы час. На ноч тавары закрываюцца спецыяльнымі стэндамі

з замкамі-«маланкамі». Магазін закрываецца, магчыма, застаецца дзяжурны паліцыянт, бо і для яго тут ёсць памяшканне.

Наведалі мы магазін, у якім можна купіць сабачку, коціка, папугайчыка, рыбак розных парод. Жывёлы знаходзяцца ў асобным памяшканні, дзе іх даглядаюць. Калі прадаюць сабак, то прадаюць маладое пакаленне (шчанюкоў), яны хутчэй прывыкаюць да гаспадара. А яны проста просяцца з-за сеткі: «Вазьмі мяне з няволі», — стоячы на задніх лапках, а пярэднімі абапёршыся на сетку. Тут працуе і цырульня для іх, куды гараджане прыводзяць сваіх чацвераногіх сяброў. І што здзівіла нас, што сядзіць «у крэсле» вялізны бульдог, яго стрыгуць, а ён нават без намордніка. Ну а як прычасаць свайго выхаванца — ці «пад ільва», ці «пад лісіцу» — гэта ўжо справа гаспадара ці гаспадыні.

У другім вялікім памяшканні знаходзяцца прадукты харчавання для жывёл. За парадай можна звярнуцца да дзяжурнага ветэрынара, які працуе пры магазіне. Пры неабходнасці будуць і лячыць, і зробяць неабходную хірургічную аперацыю для жывёл. Ёсць і прыёмны пакой, куды заходзяць «пацыенты», кладуцца на спецыяльную ляжанку, няйначай, тут ужо пабываўшы не раз. І доктар робіць агляд. А «хворыя» ляжаць спакойна, хаця і без наркозу, і дзіву даешся.

Магазін будаўнічых матэрыялаў здзіўляе сваёй веліччу і разнастайнасцю тавараў. Тут можна знайсці ўсё для будаўніцтва і для рамонту: дошкі і рамштукі розных памераў і ў даўжыню і ў шырыню, калі трэба, то на месцы адрэжуць дошку неабходнага памеру.

Вялікая ўвага надаецца тут рэкламе па тэлебачанні і радыё. Мы глядзім адзін цікавы тэлесерыял. Ідзе ён усяго паўгадзіны, але чуць не палову гэтага часу займае рэклама. Тую рэкламу, што друкуюць і ўкідваюць у паштовыя скрынкі, мы называем макулатурай. Прывозяць яе ў дамы цэлыя пачкі, бясплатна. Думаю, ці аплочваецца ўсё гэта рабіць. Гэта ж не толькі папера. Трэба ж нешта напісаць, намаляваць, а потым надрукаваць. Чалавеку, які гэта робіць, трэба таксама заплаціць, а потым і развесці рэкламу па горадзе.

На пачатку года прыносяць тэлефонныя кнігі таксама бясплатна. На вуліцы стаяць скрынкі з газетамі, якія можна ўзяць бясплатна, а за некаторыя газеты трэба плаціць.

Вельмі часта ў магазіне сустракаем аднаго дзядульку, які манетай сцірае засакрэчаныя нумары латарэйнага білета, а потым нясе яго ў сметнік. Кошт білета — 6,47 долара. Можа, ён калі і выйграў і ўвайшоў у ахвоту. Няйначай, многа грошы мае.

# РЭЛІГІЯ

Канада — краіна шматнацыянальная і шматканфесійная. Тут пражываюць праваслаўныя, католікі, мусульмане, іўдзеі, баптысты, людзі іншых веравызнанняў. Таму тут ёсць цэрквы, касцёлы, мячэці, сінагогі, малітоўныя дамы. У праваслаўных цэрквах моляцца на ўкраінскай, рускай, грэчаскай, сербскай мовах. У касцёлах, якія мы наведвалі, моляцца на ангельскай і польскай мовах. Даната нават наведала французскі касцёл.

Мы наведвалі ўкраінскую царкву на свята Уваскрасення Хрыстова. Там можна было паслухаць службу на зразумелай мове і пасвенціць Пасху. Служба тут вядзецца на ўкраінскай мове маладым і вясёлым святаром. Хацелася б сюды хадзіць часцей, але гэта царква знаходзіцца ад нас далёка.

Касцёлы, якія пабудаваны ў мінулых стагоддзях адрозніваюцца сваёй архітэктурай і веліччу ад сучасных: высокімі, стромкімі вежамі са званіцамі, знешнім і ўнутраным убранствам, скульптурамі розных святых, арганамі. Сучасны касцёл — вялізны будынак з высокім дахам і з невялікім крыжыкам на ім. Вялікі крыж прымацаваны да сцяны ад вуліцы.

Вось у адзін з такіх касцёлаў мы і ходзім ужо трэці год. Размешчаны ён недалёка ад нашага дома, усяго ў 10 мінутах хадзьбы. Да царквы ад нас далёка, а Бог у нас, праваслаўных і католікаў, адзін. Тут нам вельмі падабаецца. Перш за ўсё мы тут судакранаемся з Богам, молімся за наша здароўе, за здароўе і шчасце нашых дзяцей і ўнукаў, за іх поспехі ў працы і вучобе, за здароўе і шчасце нашых родных і сяброў, якія пражываюць у Беларусі, Польшчы, Латвіі, Літве, Расіі і Украіне. Мы молімся за Беларусь і за яе народ, якому жадаем шчаслівага будучага і заможнага жыцця. Мы молімся за нашых родных, якія пакінулі гэты свет і перайшлі ў свет іншы.

Мы сустракаемся ў касцёле з зусім незнаёмымі для нас людзьмі, але з добрымі і душэўнымі, аб гэтым можна судзіць па іх добразычлівых адносінах да нас і па іх усмешках. Пры ўваходзе нас заўсёды сустракае чалавек, які ветліва вітаецца з намі, пытаецца пра наша здароўе. Пасля службы пры выхадзе з касцёла ксёндз ветліва развітваецца з усімі веруючымі, жадае ўсяго добрага на наступную нядзелю.

У нашым касцёле амбон знаходзіцца каля левай бакавой сцяны, а сядзенні ахопліваюць яго літарай «П». Сталяванне мае выгляд чатырохграннай усечанай піраміды, адкуль на спецыяльных падвесках спушчаны палотнішчы з вытрымкамі са Святога Евангелля ад Мацея, Марка, Лукі і Яна і малюнкамі да іх, якія перыядычна абнаўляюцца ў залежнасці ад надыходзячага свята. На сцяне перад амбонам — «Укрыжаванне Ісуса Хрыста».

У пярэдняй частцы касцельнага зала знаходзіцца сцэна з занавескай. Тут часта збіраюцца людзі для праслухоўвання касцельных хораў і класічнай музыкі, што прынята і ў другіх цэрквах і касцёлах. Мы прысутнічалі некалькі разоў на такіх канцэртах. У задняй частцы касцёла на другім паверсе зроблены асобны пакой для бацькоў з маленькімі дзецьмі, якія яшчэ не умеюць кантраляваць сваіх паводзін і могуць моцна гаварыць, смяяцца ці плакаць. Большых дзетак бацькі прыводзяць у касцёл і прыносяць з сабой цацкі, дзіцячыя кнігі, сшыткі для малявання, дзеці спакойна «працуюць». Хрышчэнне немаўлят адбываецца вельмі проста. Бацькі падаюць ксяндзу заяўкі раней. Бацькі з дзецьмі падыходзяць да амбона або ксёндз сам падыходзіць да маці з дзіцём і правай рукой праводзіць па немаўлятку ад галавы да ножак, а потым злева направа, сімвалізуючы крыж. Потым усе апладзіруюць. Быў выпадак, калі спачатку ксёндз ахрысціў немаўля, а потым ахрысціў і маці. Вянчання мы яшчэ ні разу не назіралі.

Час ад часу ксёндз запрашае ў падвальнае памяшканне для пачастункаў. Гэта адбываецца як за кошт веруючых, так і за кошт касцёла. Адзін раз летам моляцца за касцёлам на двары ў цені векавых дрэў. Тут ксёндз свенціць прыхаджан свянцонай вадой.

Перад кожным сядзеннем ёсць невялічкая палічка, дзе знаходзяцца песеннікі з панумараванымі песнямі. На сцяне злева вісіць таблічка нумароў тых песень, якія ў гэты дзень павінны выконвацца. «Ойча наш» і «Верую» людзі гавораць на памяць разам з ксяндзом.

У вызначаны час збіраюць ахвяру. У пачатку года для кожнага прыхаджаніна падрыхтаваны канверты на цэлы год з памечанымі датамі нядзеляў і другіх гадавых свят. У гэтыя канверты кладуцца грошы, хто колькі можа, а зборшчыкі ходзяць з кошычкамі па радах і збіраюць. Людзі прыносяць прадукты харчавання і ксяндзу, якія пакідаюць у асобным кошыку. Потым усё гэта нясуць да амбона і ставяць перад ім.

У канцы свайго казання ксёндз жадае ўсім спакою, шчасця, здароўя і ідзе да людзей, каб пажадаць ім усяго найлепшага. У гэты час усе прысутныя паціскаюць рукі адно аднаму і жадаюць спакою і шчасця ў жыцці.

Потым людзі ідуць адзін за адным да прычасця. У розных месцах касцёла людзі, якія прыслугоўваюць ксяндзу, трымаюць хлеб і віно. Ксёндз таксама раздае хлеб. Пасля прычасця кожны вяртаецца на сваё месца, становіцца на калені на спецыяльную падстаўку і мовіць адпаведную малітву.

Пасля апошняй малітвы выходзіць наперад ксёндз у суправаджэнні прыслугі, перад ім ідзе чалавек, які нясе высока паднятае Евангелле. Прыслугоўваюць ксяндзу і дзеці. Найбольш дзяцей з

бацькамі збіраюцца на маленне ў 11 гадзін. Мы звычайна прыходзім на 9 гадзін. Каля амбона заўсёды многа жывых кветак у вазонніцах.

На Каляды касцёл упрыгожваецца некалькімі ёлкамі з рознакаляровымі гірляндамі. Яны размешчаны ў розных месцах. У Вербную нядзелю, замест вербачак, касцёл забяспечвае прыхаджан свежымі сцяблінкамі аеру, прывезенымі аднекуль з поўдня. Тут так прынята.

Служба ў касцёле праходзіць пад акампанемент піяніна. Час ад часу выступаюць маладыя аматары музыкі з гітарамі. Іх прывозіць прафесар тэалогіі, ксёндз, які часам замяняе нашага ксяндза. Вельмі прыемны чалавек, заўсёды ўсміхаецца. Пытаецца, як здароўе, як жыццё-быццё. Абодва яны родам з Галандыі. Сюды паслаў іх Ватыкан служыць Богу.

1 лютага 2009 года бацькі прывялі сваіх дзетак да камуніі. З гэтага пачалася і служба. Пры ўваходзе ў касцёл была падрыхтавана табліца, куды прымацавалі на лісточках паперы прозвішчы і імёны дзяцей, якія прыйшлі да камуніі. Потым ксёндз з дзецьмі і іх бацькамі перайшлі да амбона, дзе запалілі свечкі. Пасля запалілі свечкі і ўсе прысутныя ў касцёле. Свечкі былі выдадзены ўсім прысутным пры ўваходзе ў касцёл. Потым ксёндз пасвенціў усіх свянцонай вадой. Радуе тое, што прыходзіць сюды многа моладзі і дзяцей.

6 лютага 2010 года я наведаў касцёл пасля трохмесячнага перапынку з прычыны маёй хваробы. Ксёндз сустрэў мяне з вясёлай усмешкай, а я падзякаваў яму за тое, што ён памятаў пра мяне, бо ён заўсёды распытваў у Данаты пра стан майго здароўя. І яшчэ я дзякаваў за яго малітвы ў мой адрас, аб гэтым мне паведаміла наша сяброўка-славачка Анна.

## АХОВА ЗДАРОЎЯ

Хутка пасля нашага прыезду ў Канаду нам выдалі медыцынскія карткі. З гэтага часу мы мелі права наведваць дактароў. Тут амаль кожная сям’я мае свайго сямейнага доктара. У нас быў доктар па прозвішчы Нгуен, якога звалі Олівэр. Вельмі прыемны і прыветлівы малады чалавек, які вырас і вывучыўся тут. Дактарам-эмігрантам, якія прыязджаюць сюды на пастаяннае месца жыхарства, даводзіцца перавучвацца на спецыяльных курсах некалькі гадоў і здаваць экзамены.

Гэта чамусьці не датычыцца дантыстаў, якія тут знаходзяць сабе працу. У іх і заробкі вялікія, хаця ў іх многа і вылічваюць: трэба плаціць за арэнду памяшкання, зарплату персаналу. Многа таксама розных падаткаў, але ж застаецца і яму.

Давялося і мне сустрэцца з дантыстам, які прыехаў з Савецкага Саюза. Ён па нацыянальнасці армянін. Кабінет абсталяваны самай

сучаснай тэхнікай, нават на столі падвешаны плоскі тэлевізар. Доктар лечыць зубы хворага, а хворы ў гэты час глядзіць тэлевізар. У чакальнай залі ёсць таксама тэлевізар, але чакаць тут доўга не трэба, бо ўсе хворыя прыязджаюць сюды у вызначаны для кожнага час, аб чым пацыент дамаўляецца з доктарам загадзя. Таму тут чэргаў ніякіх не існуе. Тое ж самае робіцца, калі трэба наведаць доктара іншай спецыяльнасці.

Я прыехаў да дантыста, каб ён мне прымацаваў каронку да пярэдняга зуба, якая чамусьці адвалілася. Перад выездам з Беларусі ў 2003 годзе мне добрыя спецыялісты па вуліцы Чырвонаармейскай у Паставах, дай Бог ім здароўя, зрабілі добрыя зубныя пратэзы, пакінуўшы мае ўласныя чатыры зубы з каронкамі на іх. Дык вось адна з іх і вывалілася. На мой погляд, каб прыклеіць каронку, не павінна было б быць ніякіх праблем: пачысціў зуб ды каронку, наліў у яе клею ды і паставіў на зуб. Але доктар паглядзеў і кажа, што з гэтага нічога не выйдзе. Трэба зуб вырваць і на яго месца да пратэза прыпаяць каронку, і гэта будзе каштаваць 300 долараў, другі доктар прапанаваў варыянт за 600 долараў, яшчэ адзін доктар прапанаваў за 1100 долараў зрабіць новыя пратэзы. Да яго я больш не паехаў, дасць Бог, дажыву і з пастаўскімі зубамі.

Вось ужо шосты год жывём мы ў Канадзе. Зляцелі ўжо тры каронкі, адна яшчэ трымаецца ў верхнім левым куце, засталіся тры карані, і мае пратэзы трымаюцца. І я ўспамінаю пастаўскіх спецыялістаў, прозвішчаў якіх, на вялікі жаль, не запомніў. Вялікі дзякуй вам! Можа калі-небудзь і вы прачытаеце маю гэтую кнігу і прымеце маю падзяку.

У Данаты яшчэ ў Паставах, а потым і ў Мінску ў час медыцынскіх даследаванняў былі выяўлены камяні ў жоўцевым пузыры. Прапаноўвалі аперацыю, але ўсё не было калі. Прывезла яна тыя камяні аж у Канаду, якія час ад часу яе непакоілі. Звярнулася яна да свайго доктара. Былі зроблены неабходныя аналізы, якія былі накіраваны хірургу.

9 лютага 2005 года ёй зрабілі аперацыю. І да чаго ж дайшла сучасная медыцынская навука: дасталі яе жоўцевы пузыр, не ўскрываючы жывата, а зрабіўшы толькі чатыры невялікія адтуліны. Аперацыю рабілі пад наркозам, пасля аперацыі далі адпачыць пару гадзін і адправілі дамоў. Але з’явіліся другія болі: печань выдзяляе жоўць, а дзявацца ёй няма куды. Божанька надзяліў чалавека так, што лішняга нічога не павінна быць.

Давялося і мне вытрымаць адну далікатную аперацыю па «панскай хваробе». Толькі чаму яе назвалі «панскай», я не ведаю. Яна бывае ў мужчын ад цяжкай працы і ў сталым узросце. Прыпомніўся мне і плуг, і каса, і цяганне бярвенняў на плячах у Архангельскай тайзе. Справа ў тым, што незадоўга пасля прыезду

ў Канаду я заўважыў, што ў мяне ў правай пахвіне ніжэй жывата расце пухірок. Звярнуўся я да доктара, які і накіраваў мяне да хірурга. Аперацыю рабілі пад наркозам, пасля чаго таксама далі адпачыць пару гадзін, і я паехаў дамоў. Аперацыі і мне, і Данаце былі бясплатныя. Тут толькі за лякарствы трэба плаціць, людзі старэйшага ўзросту плацяць менш чым паўцаны, для гэтага трэба мець неабходны дакумент. Гэты дакумент прыгодны толькі тады, калі купляеш лякарствы па рэцэпце доктара. За астатнія лякарствы трэба плаціць іх сапраўдны кошт.

Медыцынскія карткі час ад часу мяняюць. Данаце памянялі ў 2006 годзе. Мне памянялі ў пачатку 2009 года. Для гэтага трэба мець адпаведныя дакументы, фатаграфію, якую зробяць там жа бясплатна. Дакумент робяць у прысутнасці чалавека, якому трэба распісацца.

Кожныя два гады мы наведваем акуліста. Акулістам працуе малады доктар Пэдра Суэн. Ён паўднёваамерыканскага паходжання, вельмі ветлівы і прыемны чалавек. Аглядаў ён нас 29 студзеня 2009 года цэлыя дзве гадзіны і дасканала ўсё праверыў на сучаснай апаратуры і прызначыў акуляры. Тыя акуляры, што мы носім, таксама праверыў. Мае акуляры, купленыя за адзін долар, аказаліся добрымі. Ёсць тут такія магазіны, называюцца «Даларамы», дзе за адзін-два долары можна купіць добрую рэч. Ёсць таксама акуляры коштам 500 долараў і больш.

У рэгістратуры працуе маладая і ветлівая дзяўчына. Чаму яны ўсе такія ветлівыя тут? На этажэрцы стаіць літаратура (газеты, журналы) на ангельскай мове, сярод якой — палова дзіцячай. Гэта ўсё зроблена для пацыентаў, каб яны ніводнай мінуты не сумавалі.

У аптэках ёсць апаратура, пры дапамозе якой можна вымераць крывяны ціск любому наведвальніку самастойна, прытым бясплатна. Тут жа ёсць і фармацэўт, які можа парадзіць у выбары лякарства ад той ці іншай хваробы.

6 мая 2009 года доктар выклікаў Данату на праверку і даў ёй накіраванне да гінеколага на 13 мая. На працягу двух месяцаў яна лячыла сваю «жаночую» хваробу, зараз яна чакае выкліку да хірурга.

Сын Пеця параіў мне праверыцца таксама, сямейны доктар выклікаў мяне на даследаванне 6 жніўня 2009 года. Пасля аперацыі ў 2006 годзе я ў доктара не быў. Здаецца, за тры апошнія гады асаблівага нічога не адбылося, толькі апошнім часам пульс калі-нікалі мяняецца ад 66 да 72, што я лічыў нармальнай з’явай. А калі даходзіць да 90 і вышэй, то я з-за гэтага спаць не магу. Гэта ўжо ненармальна. Такое было разы са тры. Галава забаліць, калі пахвалююся. Праўда, хвалявацца няма чаго, бо жывём мы нармальна, усім забяспечаны. Зноў вырошчваем кветкі каля дому, гэта значыць, робім прыемнае людзям. Глядзім любімыя серыялы на ангельскай

мове і любімыя камедыйныя фільмы савецкіх часоў на рускай мове, слухаем беларускія народныя песні і песні рускіх спевакоў. Гэта выклікае настальгію па Радзіме і па ўсім тым лепшым, што было некалі ў нашым жыцці. Здаецца, жыць бы і радавацца, дзеці і ўнукі пры нас, але ж нельга выкінуць усяго з галавы. Вось яна час ад часу і баліць, а потым галаўны боль даходзіць і да сэрца. Часам дае аб сабе знаць і хвароба страўніка ў выглядзе пякоткі.

Доктар паслухаў сэрца і лёгкія, абгледзеў вочы і вушы, прашчупаў страўнік, даследаваў прамую кішку і выкрыў паліпы прастаты. Толькі злаякасныя яны ці не, аб гэтым пакажа аналіз той прастаты. Вось з гэтага часу і парушыўся мой спакой. Мяне пачалі пасылаць на розныя аналізы, праверкі і рэнтгены. Пакуль што доктар даў накіраванне толькі на аналіз крыві. Паедзем туды 13 жніўня, здаваць кроў на аналіз трэба нашча. Будзем спадзявацца, што ўсё будзе добра.

Хацелася б дачакацца вольнага, цывілізаванага жыцця ў Беларусі і больш, здаецца, нічога не трэба. Мы ўжо аджылі сваё. І за гэта дзякуй Богу! Я ніколі не думаў, што дажыву да гэтых гадоў, пасля таго як даведаўся ў студзені 1955 года аб сваёй страшнай хваробе, крыватачывай язве 12-перснай кішкі. Мне тады ішоў 25-ы год. І пасля гэтага я ў розныя гады тры разы ляжаў у бальніцы з крывацёкам ад 1,5 да 2 месяцаў кожны раз.

Мы з Данатай спакойныя за сваіх дзяцей і ўнукаў, якія жывуць добра. Хацелася б, каб і ў Беларусі ў хуткім часе наладзілася б такое жыццё, як ў Канадзе і другіх свабодалюбівых краінах.

Кабінеты дактароў тут зусім маленькія. У камп’ютары доктара запісаны гісторыі хваробаў кожнага пацыента. У другім пакоі медсястра зрабіла мне і Данаце кардыяграму сэрца. Другая медсястра зрабіла мне два ўколы вакцыны ад пнеўманіі (запалення лёгкіх). Пры неабходнасці сямейны доктар накіроўвае да вузкіх спецыялістаў.

13 жніўня 2009 года мы здалі на аналіз кроў і мачу. Засталося чакаць вынікаў аналізаў і выкліку да доктара. Толькі чым ён нас парадуе?! Пасля ўсіх аналізаў Пеця завёз нас у вялікі магазін на каву, бо на аналізы паехалі не снедаўшы.

2 верасня 2009 года я быў на прыёме ў доктара-уролага. Пакуль доктара не было, Пеця запоўніў маю анкету. Тут так прынята. Прыйшоў доктар. Гэта малады, рухавы чалавек. Аналіз маёй крыві, дасланы яму, аказаўся невыразным, і ён адправіў яго назад на ўдакладненне. Абследаванне рабіў тое самае, што і Нгуен. На 15 кастрычніка даў накіраванне на абследаванне мачавога пузыра. Праверацць таксама на злаякаснасць паліпы (будуць шчыкаць праз тоўстую кішку) і ныркі. Вось што мне давядзецца перацярпець, пакуль знойдуць той рак. Каб не пайшоў бы да доктара, дык лічыў бы сябе здаровым. Дажыў бы і так да прызначаных мне дзён. На

першае мерапрыемства я ўжо даў згоду, аб чым распісаўся на адпаведным дакуменце.

14 верасня мяне ўжо выклікалі на праверку нырак. Звычайна прыходзіцца чакаць гэтага доўга, але мне пашчасьлівіла: напэўна, хтосьці па нейкай прычыне адмовіўся ад сваёй чаргі. Яшчэ дома, за гадзіну да прыёму ў доктара, мне трэба было выпіць дзве шклянкі вады. Зноў запоўнілі анкету, і мне ў вену ўвялі нейкае лякарства, каб на экране было лепш відаць. Паклалі мяне на вузенькі тапчанок у верхнім адзенні (я быў без пінжака), толькі загадалі апусціць штаны да кален. Спачатку праверылі лёгкія. Сказалі мне слухаць каманды машыны: «Дыхаць нармальна!» і «Затрымаць дыханне!» (на ангельскай мове). Пеця з доктаркай пайшлі ў кабінет, дзе быў пульт кіравання і экран. Ітак, каля мяне не было нікога. Мой тапчан «паехаў» у нейкую печ. Потым пачалі мяне «тузаць» туды-сюды. Во, нячысты дух! Словы я тыя ведаў, але машына — гэта не чалавек, гаварыла невыразна. Здаецца ж, выконваў яе патрабаванні. Праз хвілін 20 вывезлі мяне з той «печы». Дасталі з вены іголку, і маё абследаванне скончылася. Вынікі будуць у доктара-уролага пасля ўсіх абследаванняў. Уперадзе засталося яшчэ некалькі абследаванняў.

15 кастрычніка было абследаванне мачавога пузыра і грудной клеткі. Не спадабалася мне толькі тое, што пры наведванні шпіталя трэба плаціць за стаянку аўтамабіля. Сюды ж прыязджаюць хворыя людзі да дактароў або іх сваякі, каб наведаць хворых. Гэта ж не тэатр і не цырк. Сума аплаты залежыць ад працягласці стаянкі. Першы раз Пеця заплаціў 8 долараў, а сёння аж 14. Упускаюць на стаянку і выпускаюць робаты. Пад’язджаем да шлагбаума, злева і ззаду ад якой і стаіць слуп-робат. Кіроўца аўтамабіля націскае на кнопачку, не вылазячы з аўтамабіля, а апусціўшы толькі шкло ў вакенцы. З таго слупа выпаўзае картка, на якой запісаны дакладны час уезду. У гэты час шлагбаум падымаецца і можна ехаць. Як толькі праедзеш рагатку, яна зноў закрыецца перад другім наведвальнікам шпіталю. Калі вы хочаце выехаць з тэрыторыі, трэба заплаціць грошы. Гэта ўжо робіць другі робат, ён і падобны да банкіра, больш шырокі. Ён знаходзіцца ў памяшканні, каб «не прастыў», і ўмее нават гаварыць. Ён скажа, на якую кнопку патрэбна націснуць, у якую адтуліну ўсунуць тую картку, якую даў першы робат, сам жа падлічыць грошы, скажа, колькі плаціць, у якую адтуліну кідаць тыя грошы і ў якой адтуліне атрымаць здачу. Хутка чалавек застанецца без работы! Усё будуць рабіць робаты! І як жыць будзем?!

Прыехалі мы своечасова ў 1:40, але прыйшлося яшчэ цэлую гадзіну чакаць. За гэты час я пераапрануўся ва ўсё шпітальнае: штаны, кашулю і зверху фартух. Толькі шкарпэткі свае. Там, дзе я пераапранаўся, напісана, што мачавы пузыр павінен быць пусты.

Дома, яшчэ перад выездам, я схадзіў у туалет. Так што тут ужо нічога не атрымалася.

Дачакаўшыся сваёй чаргі, я зайшоў у кабінет доктара. Загадалі мне легчы на спіну, вызваліць цела ад адзення ад жывата да каленяў. Сястра ці санітарка памыла мне «патрэбнае месца». Ляжаў я спакойна. Санітарка толькі дала мне ручнік, каб сам выцер мокрае месца.

Потым доктар уставіў у мачавы пузыр трубачку з мініяцюрнай лямпачкай, глядзеў у акуляр і накіроўваў яго. Усё гэта заняло мінут пяць. Як толькі доктар выняў тую трубачку, то мне так захацелася «па-маленькаму» у той туалет, што хоць плач. Дабег я да туалета, прымасціўся, а тут другая праблема — няма чым, хоць ты займі ў каго, а пісаць хочацца. І так я бегаў раз за разам нейкай паўгадзіны, пакуль усё нармалізавалася.

Потым доктар запрасіў нас у свой кабінет і сказаў, што мачавы пузыр у мяне здаровы, за што я кінуўся абдымаць доктара і дзякаваць яму за такую добрую вестку. А вось з левай ныркай справы дрэнь, яна павялічана ў два разы, гэта значыць, рак ныркі, што вельмі занепакоіла нас. Для мяне гэта быў, як гром з яснага неба! Увесь апошні час я лічыў сябе здаровым, чаму і вельмі радаваўся. А тут — на табе! А яна, кастлявая, кралася да мяне паціху, каб знянацку мяне скасіць.

Доктар, малады чалавек афрыканскага паходжання, падобны да негра, а хутчэй падобны на цыгана. Вельмі прыемны чалавек. Завуць яго Сеан А. Піеррэ.

22 кастрычніка адбылося абследаванне маіх касцей ў той жа рэнтген-трубе. Косці, здаецца, усе цэлыя. 3 лістапада будзе праверка прастаты на злаякаснасць.

## ШПІТАЛЬ

Захварэў я ў маладосці на трэцім годзе цяжкай службы ў «стройбаце», дзе выконваў «свой пачэсны абавязак перад радзімай». Вярнуўшыся з арміі дамоў, я кінуўся да лепшых дактароў, у тым ліку і да вядомага доктара Івантэра ў Вільні. Калі я другі раз прыехаў да яго, ён знайшоў пры дапамозе рэнтгена язву дванаццаціперснай кішкі з крывацёкам. І ён мяне папярэдзіў, што аперацыя будзе немагчыма, таму што язва размешчана ў нязручным месцы (адразу пры выхадзе са страўніка). Тры разы за сваё жыццё з гэтай язвай я адлежаў у бальніцы (у 1955-м, 1979-м і 1988-м). Пасля апошняй бальніцы мне сынок Пеця прапанаваў прэпарат «Histak», які я прымаў штодзённа на працягу некалькіх гадоў, пасля чаго я адчуў сябе здаровым. І я быў вельмі рады, што я хоць на старасці гадоў пражыву без хвароб.

Зараз ідзе 2009 год. У Канадзе жыць мы пачалі ўжо сёмы год. І я да апошняга часу лічыў сябе здаровым. Але ж во знайшлі ў мяне і хворую нырку, і нейкую прастату, якую і трэба праверыць на злаякаснасць. У лабараторыі мяне папярэдзілі, каб я не палохаўся «шчоўканняў», якіх будзе 12. Гэта значыць, што столькі разоў возьмуць пробу з той прастаты. За кожным разам апарат вышчыпваў кавалачак жывой тканкі з прастаты, а той вузялок-пухлінка, з якога вышчыпвалі, мабыць, быў крыху больш гарошыны. Калі працэдуру закончылі, то мяне папярэдзілі, што магчымы крывацёк. І тут мне захацелася ў туалет. Калі я зайшоў туды, то заўважыў за сабой на падлозе кроплі свежай крыві, якая капала праз маю штаніну. У туалет я схадзіў з крывёй. Але ж, думаю, хутка павінна спыніцца кроў. І мы з Пецем паехалі дамоў. Калі мы падняліся ў нашу кватэру, мяне зноў пацягнула ў туалет. І тут ужо кроў прама лілася ды са згусткамі, якія былі ўжо запёкшыся. Тут жа Пеця павёз мяне ў «скорую» пры тым жа шпіталі, дзе мне рабілі тую прышчыпку. «Скорая» складаецца з двух аддзяленняў па дзесяць палат у кожнай. Палата разлічана на аднаго чалавека. Паклалі мяне ў палату № 3. Незадоўга з’явіўся і мой збавіцель доктар-уролаг, ён жа і хірург, Сеан А. Піеррэ. Ён пачаў засоўваць у маю прамую кішку тампон. І так забіваў туга, што мне рабілася не па сабе. Добра заткнуў, і кроў спынілася.

4 лістапада доктару захацелася праверыць яшчэ раз маю хворую нырку. З таго часу, як ён яе бачыў упершыню, прайшло зусім мала часу. А яна за гэты кароткі час прагрэсіравала, расла. І доктар прыняў рашэнне: як найхутчэй яе трэба выразаць — гэта значыць, зрабіць тэрміновую аперацыю. Але, каб яе выразаць, мяшаў тромб у вене каля гэтай ныркі. Ды яшчэ рэнтген высветліў другі тромб у маіх лёгкіх. Вось як! А пра тую прастату ўжо і гаворкі няма. І калі я спытаў у доктара: «Колькі я пражыву без аперацыі?» — «Паўгода», — быў адказ.

5 лістапада мяне перавялі ў шпіталь Queensway Carleton на трэці паверх. Палата на аднаго з туалетам, рукамыйніцай, тэлефонам і тэлевізарам. За тэлефон і тэлевізар трэба было плаціць невялікія грошы. Тэлевізар мне быў непатрэбны, а за тэлефон Пеця заплаціў, і яго тут жа падключылі да гарадской сеткі. Званіць трэба было Пецю да мяне, а мне — да яго. І гэта было вельмі добра. Пеця, як доктар, быў у курсе ўсіх маіх спраў. Ён мне сказаў, каб я яму гаварыў аб усіх маіх навінах, якія тычацца здароўя. І я яму званіў і дамоў, і на працу, калі ўзнікалі якія пытанні. Перазвоньваліся мы і з Генкам, і з яго сям’ёй, і з Данатай.

Ложак быў аўтаматычны. Яго можна зрабіць і для ляжання, і для сядзення. Упраўляць ім можа самы слабы хворы пры дапамозе кнопак, змешчаных каля падушкі. Тут жа ёсць кнопка і для выкліку

дзяжурнай медсястры. Ложак мае перылы, якія лёгка апускаюцца і падымаюцца.

Вазілі зноў на рэнтген. Ён быў у выглядзе трубы. Машына на гэты раз падавала каманды на рускай мове: «Вдохните и задержите дыхание» і «Дышите свободно». На гэты раз шукалі тромбы ў нагах. Кажуць, што не знайшлі. Лёгкія правяраюць за кожным разам.

Есці прыносяць усё запакаванае ў маленькіх пачачках: карычневы цукар, белы цукар, мёд, малако для гарбаты, соль, маргарын, шакалад, розныя сокі. У большай пачцы, таксама папяровай, прыносяць 2 % малако (125 мл). Раніцай даюць каву, у абед і вечарам — гарбату. З гарачых блюд: суп, бульбу, рыбу, індыка, яечню, белы і чорны хлеб. Яду мне прыносяць, а есці не хочацца, апетыт у мяне знік.

6 лістапада, у пятніцу, у абедзенны перапынак на «скорай» мяне перавезлі ў другі шпіталь, які называецца Ottawa Hospital — Civic Campus, дзе ёсць спецыялісты па тромбах. Памясцілі мяне ў палату № 355. Лічба «3» — азначае нумар паверху, а за ёй ідуць дзве «пяцёркі». Хоць я ў забабоны і не веру моцна, але гэтыя лічбы мяне ўзрадавалі. Можа яшчэ засталося ад школьных часоў, але яны мяне натхнялі на добры зыход.

Для прадухілення тромбаў мне будуць уводзіць рэчыва Fragmin. Шанс, што гэта рэчыва мне дапаможа, складае 20 %, 3 % прыпадае на магчымасць крывацёку пасля гэтых уколаў. Тэрмін лячэння — два тыдні. Калі гэтыя тромбы не разыдуцца, то я не паеду на аперацыю. Пажыву яшчэ хоць паўгода, што ж ты зробіш. А можа, рызыкну, буду спадзявацца на высокую кваліфікацыю канадыйскай медыцыны, на разумныя галовы і залатыя рукі хірургаў. Ну, а які будзе канец — аднаму Боганьку вядома, бо ўсё ў яго волі.

Пры такім доглядзе за хворымі з боку медыцынскіх сясцёр (ёсць тут і медбраты) і іх адносінах да хворых, пачынаючы ад дактароў і канчаючы санітарамі, не памрэш. Сёння раніцой падышоў да мяне невялічкі чалавек азіяцкага паходжання, назваўся Сэмашом. Трэба сказаць, што тут усе, хто хоча з табой гаварыць, ці гэта доктар, ці сястра, ці санітар, перш за ўсё называюць сваё імя. Санітараў-мужчын я называў братамі міласэрнасці. Тут іх працуе многа. Сэмаш прынёс ручнік, сурвэтку і прасціну. Я пайшоў у туалет. А ён за гэты час памяняў на ложку прасціну і стукае ў туалет. Я адчыніў. Ён прынёс мне свежы халат, загадаў памыць рукі, твар, пад пахамі, грудзі і жывот. Даў мне ручнік, каб я выцерся. Ён памачыў у цёплую ваду сурвэтку і пачаў мыць мне плечы. Ногі я памыў сам. Дапамог мне выцерціся і змяніў мой халат. Такія «браты» дапамагаюць памыцца, пабрыцца, выводзяць хворага пахадзіць.

9 лістапада раніцой прыйшлі чатыры дактары, якія, як я зразумеў, будуць рабіць мне аперацыю. Усе маладыя, з усмешкамі. Галоўны

з іх пастукаў мяне рукой па плячы, як бы падбадзёрыў. Я таксама падумаў, што ўсё будзе добра. Я бачыў іх настрой і ўпэўненасць у поспеху аперацыі. І мне стала лягчэй. Яны пыталіся, ці баліць што, ці ёсць крывацёк.

Як я ўжо казаў, апетыт у мяне знік. Але Пеця загадваў есці, каб быць дужым у час аперацыі. І я еў, хоць і праз сілу. Учора з'еў абед і вячэру, сёння — сняданне.

Кожны дзень раніцой прыязджаў да мяне мой самы лепшы доктар, мой родны сынок Пеця. Часам наведваў мяне і два разы на дзень: раніцой і вечарам. Каб пагаварыць з дактарамі, Пеця стараўся папасці на абход, які яны пачыналі рабіць у 7 гадзін раніцы. 7 лістапада мяне наведалі Пеця і Даната, Гена з Люсяй і Сашанькам, а 8 лістапада — Гена з Пеценькам. 8 лістапада мне званіў унук Віця з Ванкувера, званілі з Гаціно нашы сябры Клімавы — Лена і яе маці Марыя Янаўна. 10 лістапада пазваніў унук Валюшка з Нью-Ёрка.

12 лістапада мяне пусцілі дамоў, каб набіраўся сіл перад аперацыяй. Навучылі рабіць укол для ліквідацыі тромба ў лёгкіх. Пульс панізіўся да 80.

Адпачыў я дома 11 дзён і 24 лістапада вярнуўся ў шпіталь, дзе мяне пачалі рыхтаваць да аперацыі. Зноў бралі на аналіз кроў, зноў вазілі мяне ў тую рэнтген-трубу, рабілі патрэбныя здымкі, рабілі ўсё, каб на аперацыі не памыліцца і выканаць усё да канца. У 5 гадзін вечара мяне паклалі зноў у тую ж самую палату № 355 і на той жа ложак. І тут я падумаў, што ў гэтай палаце мне пашанцуе. Далі павячэраць, памералі крывяны ціск, пульс і тэмпературу.

25 лістапада ў 7-30 раніцы прыходзілі чатыры дактары. Адзін з іх паслухаў грудзі, жывот. Сястра памерала крывяны ціск, пульс, тэмпературу. Другая сястра ўзяла кроў на аналіз. Знялі кардыяграму. Пеця запоўніў за мяне паперы, дзе я распісаўся аб згодзе на аперацыю.

27 лістапада мне зрабілі аперацыю. І пра гэты дзень сказаць я нічога не магу. Я нават нічога не магу сказаць пра раніцу гэтага дня. Магчыма я быў так усхваляваны, а можа ўжо дактары мне штосьці зрабілі, а я і не заўважыў. Магу толькі расказаць тое, што мне паведаміў Пеця на другі дзень пасля аперацыі, бо ён аддзяжурыў ля аперацыйнай цэлы дзень ад пачатку да канца аперацыі, і што яму паведамілі дактары. Пеця сказаў, што калі мяне везлі з аперацыйнай і калі ён загаварыў да мяне, то я толькі змог на нейкую хвілінку адкрыць вочы і зноў закрыў. Паказаў сыночку, што я жывы. У гэты дзень я нанава нарадзіўся, дзякуючы вопытным хірургам, анестэзіёлагам і другім спецыялістам, якія рабілі аперацыю.

Аперацыя была складанай і цяжкай. Перш за ўсё, дактары не маглі дабіцца на працягу дзвюх гадзін згортвання крыві, без чаго нельга было пачынаць аперацыю. Калі нарэшце гэта атрымалася —

аперацыя працягвалася яшчэ шэсць гадзін. Ітак, за 8 гадзін выразалі мне левую нырку і селязёнку, якая была ўжо хворая таксама, і яшчэ вынялі тромб з вены, размешчанай побач з хворай ныркай. Аперацыя ішла так доўга, бо частка тромба трапіла ў сэрца і заняло час, каб з гэтым нейкім чынам справіцца. Як мне пасля сказалі, падчас аперацыі два разы я быў на грані са смерцю. Аперацыю выконвала каманда ў складзе 15 чалавек (4 хірургі і 4 памочнікі хірургаў, 3 анестэзіёлагі, трамболагі, тэхнічныя работнікі, якія абслугоўвалі складаныя апараты ў аперацыйнай). Разрэз, які мне зрабілі на жываце, меў у даўжыню 44 сантыметры.

Кожны дзень у 7 гадзін раніцы прыходзілі да мяне мае выратавальнікі (ад чатырох да сямі чалавек), распытвалі пра мой стан здароўя, а я дзякаваў ім за маё выратаванне. І мне заставалася толькі ляжаць і набіраць сілаў выпраўляць здароўе. А гэта было зрабіць не так лёгка. Пульс у мяне быў высокі (да 100), апетыт на нулі. Праўда, мне есці і не давалі, а кармілі пры дапамозе кропельніц, улівалі кроў. Калі мне дазволілі есці, то нічога мне не лезла, у роце была адна горкасць. Выбіўся са сну, не дапамагалі і снатворныя таблеткі. Ноч была доўгая, і я не мог дачакацца раніцы.

Зноў наведвалі мяне мае дарагія родныя: жоначка, сыночкі, нявестачкі, унучкі. Кожную раніцу наведваў Пеця, а вечарамі — Генка з кім-небудзь або адзін. На другі дзень пасля аперацыі мяне наведалі Валік з Марыяй, а потым і Віця. Наведалі мяне і нашы маладыя сябры, Слава і Лена Клімавы. Атрымаў многа лістоў ад родных, ад сяброў, у якіх усе жадаюць мне хутчэйшага выздараўлення.

Я праляжаў у шпіталі пасля аперацыі 26 дзён. За гэты час я згубіў у вазе 12 кілаграмаў. Любая ежа, якую прыносілі мне, выклікала агіду, хаця ўсё было смачнае і каларыйнае. Прыняцце ежы для мяне было сапраўдным выпрабаваннем. Прапаў сон. Я прасіў снатворных таблетак. Часта балела галава, і зноў прасіў таблетак. Час ад часу мне рабілася зімна. І мне прыносілі сагрэтыя прасціны. І ўсё гэта выконвалі такія маладзенькія і мілыя дзяўчаткі, якім ці споўнілася хоць па 22 гады. І калі яны паспелі вывучыцца на сясцёр. З якім бы пытаннем яны не падыходзілі да мяне (ці баліць што, ці цёпла табе і г. д.) — заўсёды на іх тварах былі ўсмешкі. Хачу назваць іх імёны: Lid Kushnerenko (руская, але ўжо размаўляе з ангельскім акцэнтам), Chrissy Larocque, Sue Allen, Theresa Wopereis, Toanna Mills, Christine Lafontaine, Nejat Pca.

Яшчэ вечарамі заходзілі ў палату маладыя дзяўчаткі-валанцёркі. Гэта, напэўна, будучыя сёстры міласэрнасці або будучыя дактары, якія яшчэ толькі вучацца.

Нягледзячы на дабрыню дактароў і сясцёр, добрыя іх адносіны да мяне, мне хацелася дамоў, да сваёй Данаткі, якая таксама сума-

вала па мне. Тым больш, што набліжаліся Каляды. І мяне 23 снежня выпісалі са шпіталю. Прыпісалі дамашняе лячэнне.

4 студзеня 2010 года мяне паклікаў на першы агляд вядучы хірург. Яго памочнік мяне абслухаў і абгледзеў. У мяне было ўсё добра. Прыйшоў хірург і расказаў, як выдалялі тромб з вены. Усе доступы да яе перакрылі, вену разрэзалі, дасталі тромб і вену зноў зашылі. А наконт прастаты ён сказаў, што ў маім узросце (80-ы год) з прастатай нічога не робяць. Яна ў першай стадыі развіцця. Пакуль яна дойдзе да чацвёртай стадыі і пачне разбураць мой арганізм, можа прайсці нямала часу. Карацей кажучы, буду жыць, колькі Божанька мне дазволіць. Ці злаякасная яна — невядома, аб гэтым не гавораць.

На імя прэзідэнта шпіталя Пеця паслаў падзяку ўсім дактарам, якія аперыравалі мяне, і сёстрам, якія даглядалі мяне пасля аперацыі.

Зараз мяне і Данату не пакідаюць дактары без увагі. Пабывалі ў свайго сямейнага доктара Нгуена Олівэра на прыёме. 11 лютага 2010 года здалі мы з Данатай кроў на аналіз. 29 сакавіка 2010 года клічуць мяне на рэнтген. 19 красавіка 2010 года выклікае мяне вядучы доктар, які ўзначальваў аперацыю.

*30 чэрвеня 2010 года таты не стала. Хвароба прагрэсавала вельмі хутка. Апроч абязбольваючых сродкаў нічым больш нельга было дапамагчы.*

## БЕЛАРУСКІ КЛАС У АТАВЕ

Прыехалі мы ў Канаду ў 2003 годзе да сваіх дзяцей і ўнукаў. Усё жыццё ў Беларусі мы адпрацавалі настаўнікамі. Я скончыў фізіка-матэматычны факультэт педагагічнага інстытута. Усё працоўнае жыццё ў школе, апрача фізікі і матэматыкі, мне даводзілася весці розныя прадметы з-за недахопу настаўнікаў-спецыялістаў. Жонка мая, Даната Генрыхаўна, працавала настаўніцай пачатковых класаў і вяла ў школе танцавальны і харавы гурток. Працавалі ў базавай, 9-гадовай школе, дзе ўсе прадметы вяліся на беларускай мове.

Наш старэйшы сын Пётр, які на той час быў старшынёй Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК), расказаў нам, што ў Атаве пражывае каля адной тысячы беларусаў. Адны з іх прыехалі сюды раней (так званая старэйшая эміграцыя), а другія — нядаўна (новая эміграцыя). Беларускай школы не было. Пётр рабіў захады раней, каб арганізаваць беларускі клас: размаўляў з бацькамі, шукаў кандыдатаў на настаўнікаў. Але ўсё гэта адкладвалася, не так проста гэта было

зрабіць. Калі мы прыехалі, то Пеця прапанаваў нам папрацаваць з беларускімі дзеткамі. Мы з ахвотай пагадзіліся.

Пётр звязаўся са спецыяльным адукацыйным цэнтрам, з афіцыйнымі ўладамі, і яны прадставілі нам памяшканне ў адной школе горада Атавы. На сходах беларусаў Атавы мы размаўлялі з бацькамі і збіралі заявы на паступленне ў суботнюю школу. Пачыналі мы з пяці вучняў у класе, з цягам часу ў класе аднačасова займаліся 12 дзяцей.

Першыя заняткі пачаліся 14 лютага 2004 года. Нас вельмі ветліва сустрэла дырэктар школы і яе намесніца, Анна Боўлес. Перш за ўсё агледзелі школу, свой клас. Будынак школы быў двухпавярховы. Пры школе была вялізная спартыўная пляцоўка. Клас абсталяваны, як і ў Беларусі: той жа эпідыяскоп, тыя ж табліцы, напісаныя ад рукі настаўнікам. Хіба толькі ў нас не было камп’ютараў (зараз, кажуць, яны ёсць і ў Беларусі). У кожным класе знаходзіўся радыёпрыёмнік школьнай радыёсеткі і ўнутрышкольны тэлефон.

Урокі тут пачынаюцца з гімну Канады, аб чым папярэджваюць па школьным радыё. Пры выкананні гімнаў усе ўстаюць. Канада прыцягвае людзей усяго свету добрай нацыянальнай палітыкай. Тут жывуць людзі ці не з усіх куткоў Зямлі. І кожная нацыя хоча захаваць сваю мову і культуру. Афіцыйнымі дзяржаўнымі мовамі тут з’яўляюцца ангельская і французская, на якіх і вучаць у школах. На роднай мове дзеці імігрантаў вучацца ў суботніх школах. Напрыклад, у 2007/08 навучальным годзе ў Атаве ў суботніх школах на 50 розных мовах навучалася звыш 10 000 вучняў ад першага да дзявятага класаў.

Разам з намі ў гэтай школе ў суботу вучыліся дзеці грэчаскай нацыянальнасці. Іх было вельмі многа, некалькі класаў. Беларускіх дзяцей быў толькі адзін клас, але мы ганарыліся і гэтым. Так, мы пачалі працаваць. Ідучы сюды, мы не думалі пра зарплату, мы не ведалі нават, што за гэта будуць плаціць. Мне пачалі плаціць за 2,5 гадзіны, якія мы працавалі ў суботу, ад 9 да 11-30. Каб у нас было 15 вучняў, тады плацілі б і Данаце. Але ж ці ў грашах справа. Мы атрымоўвалі асалоду ад таго, што мы зноў вярнуліся ў сваю стыхію, з якой было звязана ўсё наша жыццё. Мы сустракаліся з беларускімі дзеткамі і іх бацькамі і адчувалі сябе гэтыя 2,5 гадзіны, што мы зноў у роднай Беларусі.

Даната працавала з малодшымі вучнямі. Некаторым з іх было ўсяго па 4 гады. Яны ўжо нарадзіліся тут, у Канадзе. У сем’ях яны размаўлялі на ангельскай мове, па-беларуску толькі крыху маглі. Вось такая перад Данатай стаяла задача: навучыць дзяцей размаўляць па-беларуску. Пачынала з «Буквароў» Анатоля Клышкі і яго ілюстраванага слоўніка «Чую, бачу, гавару», «Роднага слова» Васіля Віткі і Марыі Шаўлоўскай, якія прывезла Даната з Беларусі.

Потым яна рабіла многа заказаў тым, хто ехаў у Беларусь, і ёй прывезлі «Цік-так, ходзікі» Леаніда Пранчака, «Скажы па-беларуску» Т. М. Шылько, «Займальна ад А да Я» А. В. Солахава і многа іншых. Добры быў матэрыял, які расстаралася Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР. Яна прывезла з Беластока ад Аліны Ваўранюк «Сцэнарый заняткаў па беларускай мове для І-га класа» і «Беларускія гульні».

Я займаўся са старэйшымі хлопчыкамі. Перачыталі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Рыбакова хата», «Суд у лесе», «Адплата» і другія творы, паэмы Янкі Купалы «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», камедыю «Паўлінка». Чыталі кнігі Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, давалі дзецям пачытаць і дамоў. Вывучалі гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, чым дзеці вельмі цікавіліся. Карысталіся кнігамі беларускіх гісторыкаў М. Ермаловіча, В. Чаропкі «Імя ў летапісе», А. Аляксеева і А. Лукашэвіча «Спадчына Беларусі», І. Пракаповіча «Крыжы і камяні», З. Санько і І. Саверчанка «150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі» і іншымі.

Апрача гісторыі і беларускай літаратуры, займаліся матэматыкай і фізікай. Я з Беларусі прывёз даведнік па матэматыцы І. Бранштэйна і К. Семяндзяева, «Задачы па алгебры для 6–8 класаў павышанай цяжкасці», многа літаратуры па займальнай матэматыцы, «Завочныя матэматычныя алімпіяды» і іншыя. Па фізіцы мы мелі: «Даведачныя матэрыялы па фізіцы» О. Кабардзіна, два зборнікі задач па фізіцы, зборнік алімпіядных задач, займальную літаратуру.

Перад выездам у Канаду прасіў я аднаго маладога дырэктара базавай школы (былога нашага вучня), каб ён даў мне хоць спісаныя падручнікі па алгебры, геаметрыі і фізіцы, але з гэтага нічога не атрымалася. У настаўнікаў сваіх падручнікаў не было, бо яны не прадаваліся, а перад навучальным годам іх прывозілі ў школьную бібліятэку, адкуль іх бралі дзеці і настаўнікі. У мяне было багата сваёй літаратуры для пазакласнай работы, якую я купляў, будучы на розных прадметных семінарах. Калі я пайшоў на пенсію, то гэтую літаратуру бралі мае ўнукі, Саша і Пеця, якія вельмі цікавіліся матэматыкай і фізікай. І яны прывезлі гэту літаратуру ў Канаду і выручылі дзеда.

Спадарыня Раіса Жук-Грышкевіч прыслала нам падручнікі беларускай мовы, напісаныя яе сястрой Валянцінай Пашкевіч. У 1930-х гадах Валянціна вучылася ў Віленскім універсітэце на фізіка-матэматычным факультэце, а ў Канадзе кіравала суботняй школай у Таронта. Яна выдала некалькі падручнікаў, у тым ліку «Беларуская мова», кнігі першая і другая, якія выйшлі ў 1974 годзе ў Таронта. У «Прадмове» гаворыцца, што гэтыя кнігі з’яўляюцца падручнікамі для вучняў і дапаможнікамі для настаўнікаў. Пры складанні кнігі «Беларуская мова» за аснову была ўзята граматыка

Бранiслава Тарашкевiча. У канцы кожнай кнiгi ёсць беларуска-ангельскi слоўнiк.

Наш клас прымаў актыўны ўдзел у грамадскiм жыццi беларусаў Атавы. Яны выступалi з беларускiмi вершамi, песнямi i танцамi, якiм iх навучыла Даната. Яна ў Беларусi вяла шмат гадоў харавы i танцавальны гурткi. Нашы дзецi выступалi перад беларусамi, якiя збiралiся на розныя беларускiя святы ў Атаве, у прыватнасцi, яны ўдзельнiчалi ў святкаваннях гадавiн абвяшчэння незалежнасцi БНР. Самы першы раз яны выступiлi 28 лiстапада 2004 года на славянскiм дзiцячым фестывалi, якi быў арганiзаваны дзiцячым аддзелам канадыйскага Музею Цывiлiзацыi, куды былi запрошаны i нашыя дзеткi. Там выступалi рускiя, палякi, балгары, славакi i iншыя прадстаўнiкi славянскiх народаў. Пасля толькi некалькiх рэпетыцый беларускiя дзецi, узростам ад чатырох да сямi гадоў, танцавалi беларускiя нацыянальныя танцы i спявалi беларускiя песнi. Да прыкладу, яны спявалi такую песню:

П'ём гарачую гарбату
З мёдам майскiм упрыкуску,
I мяне бабуля вучыць
Размаўляць па-беларуску.
Цiк-так ходзiкi,
Мне чатыры годзiкi,
Чуб iльняны, светла-русы,
Тата з мамай беларусы.

Атрымалася выдатна! Людзi захоплена слухалi маленькiх артыстаў i дзякавалi iм гучнымi воплескамi, калi ўсе шасцёра паважна пакланiлiся. А калi дзеткi пачалi танцаваць «Бульбу» пад скрыпку Улады Шамецькi i бубен Юркi Пелюшонка, дык уся зала пляскала ў далонi ў рытм танцу. Дзецi так спявалi i танцавалi, што, скончыўшы, некалькi разоў выходзiлi кланяцца, бо гледачы не хацелi адпускаць iх. Хачу назваць гэтых мiлых маленькiх артыстаў, якiя тут, у далёкай Канадзе, так цудоўна сумелi паказаць вобразы беларусаў. Гэта Нiна-Марыя i Агата Логвiны, Лiлiя Пелюшонак, Паўлiнка Шамецька, Дзiна Маковiч i Алёша Цiпенка.

Аб гэтым фестывалi напiсаў у газету «Беларус» бацька Лiлi — Юра Пелюшонак. Хачу прывесцi толькi адну вытрымку з яго артыкула: «Дык што казаць? Калi дзецi ў Канадзе спяваюць на беларускай мове пасля дзвюх рэпетыцый, дык мова гэтая адродзiцца ад наркатычнага сну i ў самой Беларусi. I, вiдавочна, не спатрэбiцца на гэта шмат часу». I я спадзяюся, што гэта вельмi хутка здзейснiцца. Вялiкую ацэнку дала маленькiм беларускiм артыстам Старшыня

Рады БНР, спадарыня Івонка Сурвілла, якая прысутнічала тут таксама, а потым напісала аб гэтым у газету «Беларускае слова».

Запомнілася яшчэ святкаванне Калядаў 13 студзеня 2007 года, арганізаванае Данатай і бацькамі вучняў. На свяце прысутнічалі бацькі і госці, нашы суайчыннікі, якія пражываюць у Атаве. Ганаровымі гасцямі былі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і дырэктар школы Анна Боўлес. Вечар пачаўся з вядомай каляднай песні «Учора звячора…». Потым усе вучні дэкламавалі калядныя і навагоднія вершы, а таксама вершы пра зіму. Прагучала мелодыя песні «Ціхая ноч» у выкананні Шамецькі Улады (скрыпка) і яе дачкі Паўлінкі, якая іграла на піяніна. Потым дзяўчынкі выканалі песнютанец «Сняжынкі». Інсцэніраваную казку «Воўк-гультай» ігралі Алёша Ціпенка, Агата і Ніна Логвіны. Пелюшонак Ліля і Шамецька Паўліна выканалі танец «Лялька». Беларускую полечку станцавалі Алёша і Агата. У выкананні юных музыкантаў на піяніна прагучалі фрагменты класічнай музыкі. Закончылі канцэрт песняй «Саўка ды Грышка…». Потым дзеці селі за салодкі стол, падрыхтаваны бацькамі. Дарослыя мелі магчымасць пагутарыць аб сваім жыццібыцці. Канцэртам усе прысутныя засталіся задаволеныя, бо змаглі хоць на адну гадзінку адчуць, што пабылі на сваёй Бацькаўшчыне.

Хочацца сказаць вялікі дзякуй бацькам С. і Ю. Логвіным, О. і Ю. Пелюшонкам, У. і Ю. Шамецькам, Л. і Ю. Ціпенкам за прыгожыя нацыянальныя беларускія ўбранні і, наогул, за добрасумленныя адносіны да школы. Вялікі дзякуй Уладзі Шамецька, якая заўсёды суправаджала канцэрты дзяцей цудоўнай музыкай на скрыпцы. І яшчэ хачу падзякаваць вышэйназваным бацькам, а таксама Т. і С. Шлыкам, за рэгулярнае наведванне іх хлопчыкамі беларускага класа.

Пісалі пра наш беларускі клас газеты «Беларус», што выходзіць у Нью-Йорку, «Беларускае слова» (Таронта), атаўская газета «Ottawa citizen» і гаварыла радыё «Свабода» (8 чэрвеня 2006 года). Шамецька Юра, бацька нашых вучняў Паўлінкі і Рамана, аднойчы сфатаграфаваў наш клас у час вучобы і паслаў картку ў газету «Беларус». Яна была надрукавана ў сакавіцкім нумары 2006 года. На фотаздымку Даната знята з дзяўчынкамі Агатай, Нінай, Паўлінкай і Ліляй і хлопчыкам Алёшам, а я са сваімі хлопцамі Раманам, Алесем, Кастусём і ўнукам Петрусём. Гэта будзе добрай памяццю для нас і для нашых вучняў.

Калі прыехалі карэспандэнты з атаўскай газеты «Ottawa citizen», тады прысутнічаў і наш сын Пеця, які фактычна і арганізаваў беларускі клас. Ён сказаў, што беларусаў у Атаве пражывае даволі шмат, але некаторыя дзеці ўжо выйшлі са школьнага ўзросту, другія лічаць, што беларуская мова неперспектыўная, што яе не абавязкова вывучаць, дастаткова ведаць рускую (як зараз некаторыя

і ў Беларусі лічаць) ды ангельскую. Таму ў нашу школу прыйшлі дзеці шчырых беларусаў, неабыякавых да роднай матчынай мовы, за што ім вялікі дзякуй.

Чытаю газету «Наша Ніва» і бачу, што і ў Беларусі адраджаецца беларуская мова, хоць і павольна, дзякуючы намаганням такім аб'яднанняў, як «Таварыства беларускай мовы», «Таварыства беларускай школы», незалежным газетам і пісьменнікам і ўсяму дэмакратычнаму руху. Нядаўна я атрымаў кнігу з Беларусі «Дзе Мядзелка песні пяе» аб літаратурнай Пастаўшчыне. Гэта ж столькі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў толькі ў адным раёне. Радуе тое, што большая палова з іх моладзь, вучні школаў.

Праіснавала наша школа пяць навучальных гадоў. Кожную суботу нас, а напачатку і некаторых дзяцей, прывозілі і адвозілі нашы сыны, Гена і Пеця. Гэта пры іх непасрэднай падтрымцы мы мелі такую цудоўную жыццёвую актыўнасць у новай для нас краіне.

Вось спіс наведвальнікаў нашай школы за 5 гадоў існавання:

1. Александровіч Аляксандр
2. Бакановіч Алеся
3. Логвін Агата
4. Логвін Ніна
5. Маковіч Анастасія
6. Маковіч Дзіна
7. Пелюшонак Ліля
8. Пятрова Алёна
9. Ціпенка Аляксей
10. Шамецька Паўліна
11. Шамецька Раман
12. Шлык Алесь
13. Шлык Кастусь
14. Якубчык Юра
15. Ярмолава Юля

Школа спыніла сваё існаванне. Некаторыя бацькі нашых малодшых школьнікаў працавалі па суботах і не маглі прывозіць сваіх дзетак у школу. Старэйшыя вучні выйшлі з узросту (суботнія школы наведвалі толькі вучні 1–9 класаў), хаця Алесь, Кастусь і Раман наведвалі школу і пасля сканчэння 9-га класа, нейкі час яны былі валанцёрамі. Наведваў нашу школу і ўнук Пятрусь, мы з ім рашалі задачы па фізіцы за сярэднюю школу. Хоць школа не існуе, але наша сувязь з вучнямі не разрываецца. Алесь Шлык працягвае прыходзіць да нас за парадамі і кансультацыямі па матэматыцы. Час ад часу наведвае нас і яго малодшы брат Кастусь, які ў гэтым годзе (2009) заканчвае выпускны клас і збіраецца паступаць у паліцэйскую школу. У нядзелю, 8 лютага 2009 года, Алесь Шлык прыходзіў да нас у чарговы раз. Ён зараз вучыцца ў каледжы ў Манрэалі па

спецыяльнасці «фатаграфія», а праз паўтара года будзе вывучаць і «кіно». Потым пойдзе адразу на другі курс універсітэта. Зараз яму далі дамашняе заданне зрабіць чатыры здымкі блізкіх яму людзей: за рабочым сталом, чытаючы газету і гэтак далей. Першага ён сфатаграфаваў брата Косцю, зараз ён фатаграфаваў нас з Данатай. І мы вельмі ўдзячны яму, што ён нас не забыў і вось такім спосабам дзякуе нам за нашы адносіны да яго ў час вучобы.

## ФІНАНСЫ

Калі мы з Данатай працавалі ў суботняй школе па 2,5 гадзіны, то плацілі мне толькі аднаму, таму што ў класе было менш за 15 вучняў. Я не атрымоўваў наяўнымі грашыма. Мой заробак пералічвалі ў банк. Каб атрымаць наяўныя грошы, у мяне была банкаўская картка і адпаведны код, толькі мне аднаму вядомы. Грошы мае пералічвалі ў «Манрэаль банк». І толькі ў банках гэтай кампаніі я мог атрымаць свае грошы бясплатна. У банках другой кампаніі таксама можна было атрымаць свае грошы, але там вылічвалі 1,5 долара за паслугі. І ўсё гэта робяць разумныя машыны-аўтаматы, якія ёсць у кожным банку і ў вялікіх магазінах. Аднойчы, калі нам спатрэбіліся грошы ў выхадны дзень і банк не працаваў, мы ўсё ж «залезлі» ў яго пры дапамозе той жа банкаўскай карткі, усунуўшы яе ў спецыяльны кодавы замок. Во як! Многія пакупнікі разлічваюцца гэтымі карткамі за тавар у магазінах. Разумныя машыны спішуць гэту суму з рахунку кліента.

Атрымоўваў я за гадзіну 20 канадыйскіх долараў, гэта 16 амерыканскіх долараў. Мая пенсія ў Беларусі была 500 000 рублёў. Амерыканскі долар у 2003 годзе ў Беларусі каштаваў 2200 рублёў. Падзяліўшы 500 000 на 2 200 атрымаем, што мая пенсія складала 227,27 амерыканскіх долараў. Падзяліўшы 227,27 на 16, мы даведаемся, за колькі гадзін, жывучы ў Канадзе, я мог бы зарабіць беларускую пенсію. Гэта ўсяго 14 гадзін, або два рабочыя дні. Вось так!

Сярэдні заробак у студзені 2009 года ў Беларусі складаў 334 амерыканскія долары. Калі гэту суму падзяліць на 16, то атрымаецца 20,875 гадзіны, або тры рабочыя дні (гэта не ўлічваючы інфляцыі і сусветнага фінансавага крызісу).

Аб якім дабрабыце людзей у Беларусі можа ісці гаворка? Беларускай пенсіі мы тут не атрымоўваем, як і ўсе беларусы, чаго нельга сказаць пра другія нацыі, якія маюць з Канадай адпаведныя дамовы аб узаемаразліках. Мы з Данатай свае пенсійныя грошы пакінулі роднай Беларусі. Жывём мы за кошт дзетак, якія забяспечваюць нас і прадуктамі, і грашыма. І ў нас заўсёды поўны халадзільнік прадуктаў, уключаючы марожанае, трускаўкі, вінаград і гэтак далей.

# КАНАДА СВЯТКУЕ

1 студзеня — Новы Год. Сустракаюць яго феерверкамі. Убранства горада, зробленае задоўга да Каляд, захоўваецца яшчэ і пасля Каляд.

14 лютага — Дзень Валянціна, або Дзень Закаханых. У гэты дзень віншуюць усіх закаханых, купляюць падарункі, дораць «валянцінкі» ў выглядзе сэрцаў, памаляваных у чырвоны колер, і двух анёлкаў.

15 лютага — Дзень Нацыянальнага Сцяга Канады

8 сакавіка — Міжнародны Жаночы Дзень. Мужчыны віншуюць сваіх жанчын, а таксама жанчын сваіх сяброў. Хлопчыкі віншуюць сваіх сястрычак, мам і бабуль, уручаюць ім кветкі і падарункі.

7 красавіка — Сусветны Дзень Здароўя.

Вялікдзень, Пасха — па царкоўным календары.

Дзень Маці — другая нядзеля мая. Дзеці віншуюць сваіх мам, жадаюць ім здароўя і ўручаюць падарункі і кветкі. Прыязджаюць у госці да мамы.

Дзень Бацькі — трэцяя нядзеля чэрвеня. Дзеці віншуюць сваіх бацькоў, жадаюць ім здароўя і ўручаюць падарункі. Наведваюць іх.

1 ліпеня — Дзень Канады.

Дзень Працы — першы панядзелак верасня

1 кастрычніка — Міжнародны Дзень Пажылых Людзей.

5 кастрычніка — Сусветны Дзень Настаўніка. У Беларусі Дзень Настаўніка святкуецца ў першую нядзелю кастрычніка. У гэты дзень вучні віншуюць настаўнікаў, уручаюць ім кветкі, наладжваюць школьныя вечары.

8 кастрычніка — Дзень Удзячнасці. У гэты дзень людзі жадаюць адзін аднаму дабра, просяць прабачэння, дзякуюць за ўсё добрае.

31 кастрычніка — Хэлаўін.

11 лістапада — Дзень Памяці.

25 снежня — Каляды.

# СВЯТКАВАННЕ ДНЯ КАНАДЫ

1 ліпеня — Дзень Канады. У гэты дзень, 1 ліпеня 1867 года, правінцыі Антарыа, Квэбек, Нью-Брансвік і Нова Скошыя аб'ядналіся разам у канфедэрацыю і ўтварылі новую дзяржаву — Канаду. Брытанскі Паўночна-Амерыканскі Акт узаконіў гэту канфедэрацыю ў тым жа годзе.

Днём святкуюць каля будынка парламенту. Свята пачынаецца ў 12 гадзін дня. Да гэтага часу плошча ўжо запоўнена людзьмі, якія прыйшлі паглядзець на свята. Прыязджаюць цэлымі сем'ямі з малымі дзеткамі. Будынак парламенту і плошча перад ім упрыгожаны дзяржаўнымі сцягамі Канады і сцягамі канадыйскіх правінцый.

На плошчы стаяць у страі каралеўскія гвардзейцы з карабінамі ў чырвоных мундзірах і высокіх мядзведжых шапках, усяго тры падраздзяленні.

Да будынка парламенту пад'язджае аўтамабіль з прэм'ер-міністрам Канады Стывенам Харпэрам з жонкай, дачкой і сынам у суправаджэнні картэжу матацыклістаў. Харпэр з сям'ёй выходзяць з аўтамабіля, вітаюцца і гутараць з прысутнымі людзьмі на плошчы, потым Харпэр гутарыць з карэспандэнтамі. Да плошчы пад'язджае генерал-губернатар Michaelle Jean з мужам і дачкой у карэце, запрэжанай парай прыгожых, чорнай масці, коней у суправаджэнні двух вершнікаў. Michaelle Jean — намесніца каралевы Англіі. Іх вітаюць прысутныя, а яны адказваюць узмахамі рук. На плошчы карэта спыняецца, з яе выходзіць генерал-губернатар і члены сям'і генерал-губернатара, вітаюцца з сям'ёй Харпэра.

Потым сям'я генерал-губернатара, а за ёй сям'я прэм'ер-міністра ідуць па чырвоным дыване да цэнтральнай трыбуны. На крытай сцэне грае музыка. Гучыць гімн Канады, страляюць гарматы. Прысутныя ўстаюць са сваіх крэслаў і спяваюць гімн. Потым гучыць другі гімн — «Божа, зберажы Каралеву!»

Наступае цішыня. Да трыбуны з мікрафонам падыходзіць генерал-губернатар. Яна выступае з кароткай віншавальнай прамовай. Пасля выступлення генерал-губернатар у суправаджэнні міністра абароны абыходзяць строй вайскоўцаў, з некаторымі яна размаўляе. Зноў страляюць гарматы. Выступае прэм'ер-міністр Канады Харпэр. У гэты час над плошчай пралятаюць тры самалёты, а за імі яшчэ дзевяць. Яны пакідаюць за сабой хвост каляровага дыму, узмываюць уверх і веерам разлятаюцца ўбакі. Пасля выступлення прэм'ер-міністра тры ваенныя падраздзяленні праходзяць строем. Свята заканчваецца вялікім канцэртам. Асабліва мне спадабаўся танец з кольцамі аднаго канадыйскага карэннага жыхара (абарыгена). Перш за ўсё ўразіла мяне яго яскравае, розных колераў, адзенне і галаўны ўбор з птушынага пер'я. Ён перабіраў кольцы, з іх утва-

раўся то шар, то штосьці падобнае да вялізнай кветкі, то штосьці падобнае на этажэрку. На суседняй пляцоўцы конныя паліцэйскія паказваюць сваё майстэрства. Ніякіх парадаў, ніякай дэманстрацыі сілы, як калісьці было ў Савецкім Саюзе, потым у Расіі і Беларусі, тут няма. За шэсць гадоў жыцця ў Канадзе мы ні разу не ўбачылі ваеннага парада.

Вечарам людзі збіраюцца на месца, дзе адбудзецца салют у гонар гэтага свята. Аб месцы салюту аб'яўляюць па радыё і па тэлебачанні. Людзі прыязджаюць раней, каб паставіць машыну і заняць месца, зручнае для назірання. Прыязджаюць са сваімі крэсламі.

Відовішча вельмі прыгожае. Можна ўбачыць салют то ў выглядзе markознакаляровых букетаў кветак, якія хутка растуць і рассыпаюцца ў розныя бакі, то ў выглядзе markознакаляровых геаметрычных фігур — акружнасцей, эліпсаў і нават васьмёрак.

## КІРМАШ У ВЁСЦЫ КАРП
### *(свята ўраджаю)*

29 верасня 2009 года Пеця прапанаваў нам з'ездзіць у вёску Карп, каб паглядзець, як святкуюць тут працаўнікі сяла заканчэнне сельскагаспадарчага года. У Беларусі гэта было свята ўраджаю. Тут яно называецца кірмашом. Ехаць трэба было каля 30 кіламетраў. Выехалі з горада. У прыгарадзе Атавы можна было бачыць прамысловыя прадпрыемствы: невялікі цэментны завод, рамонтныя майстэрні, аўтабазы і гэтак далей. Пачалі з'яўляцца фермерскія гаспадаркі з гаспадарчымі пабудовамі, сіласнымі вежамі, доўгімі стагамі прасаваных цюкоў сена, вялікія плошчы, засеяныя кукурузай і соя́й, невялікія статкі кароў (ад 4 да 20 галоў). Яны пасвіліся каля кожнага хутара на вялікай пашы, абгароджанай электрапастухом.

Надвор'е было асенняе, але без дажджу. А ў небе час ад часу з'яўляліся кліны гусей, якія ляцелі на поўдзень. За кіламетр да вёскі мы трапілі ў аўтамабільны затор. Было ўжо 12 гадзін дня, а людзі ўсё ехалі і ехалі. Ехалі мы павольна таму, што там, уперадзе, паліцыя вызначала месцы кожнаму, каб паставіць машыну. Знайшлося месца і для нас.

Паставіўшы машыну, мы пайшлі на кірмаш, месца для якога было абгароджана. За ўваход трэба было плаціць па 8 долараў за кожнага. Нам выдалі білеты, а на руцэ нам паставілі невялікую чарнільную пячатку на выпадак, калі мы захочам выйсці з тэрыторыі кірмашу, а потым яшчэ раз зайсці.

Пляцоўка, дзе адбываўся конны парад, мела форму квадрату з бакамі па 100 метраў. Пляцоўка была роўная, пакошаная. Вакол яе, па перыметры, былі зроблены трыбуны для гледачоў. Мы прыехалі

своечасова. Па радыё аб’явілі, што парад пачнецца праз 15 хвілін. Выйшла спецыяльная машына, якая паліла вадой дарогу, па якой будуць бегчы коні, каб не было пылу. Хаця які там мог быць пыл на дзірване, паросшым травой. Людзей сабралася каля 10 тысяч. Асабліва многа было дзяцей, былі і немаўляты на грудзях і плячах бацькоў, у спецыяльных рукзачках, а то і ў дзіцячых кошычках.

Свята пачалося з валыншчыкаў у шатландскай нацыянальнай форме (мужчыны ў спадніцах у клетку), якія прайшлі ззаду трыбун па кругу. Потым пачаўся конны парад. На поле выехала пяць троек: тры тройкі гнядых і дзве тройкі вараных. Ногі як у тых, так і ў другіх — белыя да кален. Так што «тройкі» ў модзе не толькі ў Расіі, але і ў Канадзе. Розніца толькі ў тым, што ў рускай тройцы сярэдні конь з дугой, а два з бакоў — у прыпрэжцы. Канадыйская тройка — усе коні знаходзяцца ў аднолькавай форме. Фурманка на чатыры вялікія драўляныя колы з сядзеннем уперадзе для двух фурманаў (каўбояў у каўбойскіх капелюшах з загнутымі ўверх па баках брылямі).

Коні — гэта адна прыгажосць. Грывы, заплеценыя ў косы, хвасты кароткія, але і яны завязаны ў вузел. Багатая збруя з рознымі ўпрыгожваннямі. Самі коні — адзін у аднаго: сытыя, чыстыя, дагледжаныя і аднаго ўзросту. У запрэжках — коні адной масці. Прыехалі сюды спаборнічаць коннікі з розных правінцый Канады і нават са штату Нью-Ёрк (ЗША). Прывезлі іх сюды на вялізных аўтафурах.

За «тройкамі» выехала 8 адзіночных запрэжак на двухкольных фурманках, а за імі яшчэ 9 адзіночных запрэжак, таксама на двухкольных фурманках. Гэта былі вялікія бельгійскія коні з буйнымі капытамі і касматымі, ад капыта да кален, нагамі. Потым зноў выехалі «тройкі», толькі адзін конь уперадзе, а два ззаду. Фурманка чатырохкалёсная. За імі 10 запрэжак па чатыры кані і, апошні заезд, 18 запрэжак па шэсць бельгійскіх коней. І калі яны праязджалі міма нас, здавалася, стагнала зямля. Усім заездам давалі каманды: «Шагам», «Бягом», «Стой», «Назад». За ўсім гэтым сачыла спецыяльная камісія і ставіла ацэнкі. Таксама глядзелі за станам коней, збруі, калёс. Пасля кожнага заезду вызначаліся першыя тры месцы. Тыя, хто атрымаў першае месца, рабілі круг гонару. Гледачы былі ўдзячны ім за дастаўленае задавальненне і пляскалі ў далоні. Фурманоў было па двое, сярод якіх былі і жанчыны.

Відовішча было цудоўнае.

Апрача паказу конных спаборніцтваў было шмат атракцыёнаў і гульняў як для дзяцей, так і для дарослых: вертыкальнае кола агляду дыяметрам каля 30 метраў, вежа для дэманстрацыі свабоднага падзення, каруселі розных канструкцый і гэтак далей. Многа чаго было зроблена для маленькіх дзяцей. У невялікай палатцы падлога была заслана вялізнымі, надутымі паветрам, сеннікамі, па якіх у

шкарпэтках скакалі дзеткі, аж сцены палаткі хадзілі ходарам. Многа для іх каруселяў і гульняў.

Прапанаваў Пеця і мне паўдзельнічаць у адной гульні. За пяць долараў далі мне тры невялікія мячыкі, якія я павінен быў укідваць у высокі пластмасавы сасуд. Там мяч павінен быў застацца, за што давалі прыз. Але сасуд той быў «разумны», і ён выкідваў тыя мячы. Трэба было ведаць нейкі сакрэт. Кідаючы мячык, трэба было яго неяк падкручваць, як раіў мне Пеця. Я спрабаваў гэта зрабіць, але з гэтага нічога не атрымалася. Кінуў я першы раз — мяч выскачыў з той пасудзіны, другі раз — тое самае. Я тут ужо зусім разгубіўся: кідаючы трэці раз, я ўжо і ў сасуд не пацэліў, а ў яго брыж, ад якога мяч адскочыў. Гаспадар гульні, напэўна, заўважыў маю збянтэжанасць, а хутчэй за ўсё, я думаю, мой узрост, і, каб я не заплакаў, кінуў мне прыз — мядзведзіка.

Паглядзеўшы ўсе атракцыёны і гульні, мы рашылі абысці ўсю тэрыторыю рынка. Зайшлі ў вялізную канцэртную залу, дзе выступала з народнымі песнямі адна артыстка ў суправаджэнні аркестру народных інструментаў (скрыпка, мандаліна, гітара і бубен). Над рынкам гучалі песні народаў свету, сярод якіх прагучала і знаёмая нам песня «Подмосковные вечера».

Зайшлі ў другі зал. Тут ігралі двое маладых людзей (мужчына і жанчына) для дзяцей. Потым яны запрасілі на сцэну самых маленькіх. Гледачы, таты, мамы, дзядулі і бабулі вялі сваіх малых на сцэну, іх сустракалі там гэтыя маладыя людзі і пачыналі іграць і танцаваць. Малыя па іх прыкладзе таксама танцавалі.

Пайшлі да павільёнаў з жывёламі. Там таксама былі зроблены «жывыя» каруселі для дзяцей. Конікі-поні, запрэжаныя ў невялікія вазочкі, вазілі дзяцей. У другім месцы засядланыя поні вазілі дзяцей у суправаджэнні бацькоў.

Наведалі мы і выставачныя залі. У адной залі былі хатнія птушкі розных парод: куры, качкі, гусі, індыкі. Асабліва цікавымі былі пеўні розных узростаў з рознымі чубамі. Адзін певеньчык малой пароды так моцна і часта спяваў, што прыцягваў увагу ўсіх прысутных. У другой залі былі свінаматкі з парасятамі. Мне асабліва спадабалася адна чорная маладая свінаматка з адзінаццаццю такімі ж чорнымі парасяткамі. Хадзіла яна па кругу і выпрошвала ласункі. У наступнай зале хадзілі разам авечкі і бараны, казлы і козы, а таксама элегантныя ламы, якія прасілі ласункаў. Абы чаго ім нельга было даваць, аб чым наведвальнікаў папярэджвалі. Калі дзецям хочацца пакарміць жывёлаў, там прадаваўся спецыяльны корм для іх. Былі там і кароўкі з цяляткамі. У асобным загоне фермеры праводзілі спаборніцтва на лепшае цяля.

Паглядзелі мы і старынную тэхніку, аўтамабілі розных мадэляў і гадоў выпуску. Усе яны прыгодныя для язды. Там былі аматары

гэтага, і яны іх купляюць. Тут жа заключаліся кантракты на куплю лепшых парод жывёл.

Пабыўшы на гэтым свяце, мы ўбачылі, чым жыве вясковая Паўночная Амерыка. Тое, што мы ўбачылі ў канадыйскай вёсцы ў плане ўпарадкавання, не заўсёды можна ўбачыць нават у вялікім беларускім горадзе. Хацелася б, каб і там былі такія ж вёскі і такое ж жыццё, як у гэтай канадыйскай вёсцы Карп.

А канадыйскія дзікія гусі ўсё ляцелі і ляцелі над нашымі галовамі на поўдзень.

## ХЭЛАЎІН

31 кастрычніка — Хэлаўін. Сёння ад старажытнага паганскага («язычніцкага») свята застаўся набор забаўляльных, захапляючых традыцый. У гэту ноч увайшло ў прывычку апранацца ў касцюмы «нячыстай сілы» і наладжваць маскарад. Згадзіцеся, не часта ў нас ёсць шанс адчуць сябе ведзьмай або д’яблам. Неад’емным сімвалам Хэлаўіна з’яўляецца гарбузная галава. З гарбуза выкідваюць усё знутры, выразаецца твар і ў сярэдзіну ўстаўляецца свечка. Гарбуз сімвалізуе адначасова і заканчэнне збору ўраджаю, злога духа і агонь, які яго адганяе. Так дзіўна канцэнтруюцца старажытныя павер’і ў адным прадмеце. У гэту ноч дзеці ходзяць па дамах і кватэрах і стукаюць у дзверы з крыкамі: «Treat or trick!» («пачастуй або пашкадуеш»). Калі вы нічога не дасцё, то гэтыя маленькія злыя «д’яблы» могуць жорстка пажартаваць над вамі, напрыклад, вымазаць сажай ручку дзвярэй.

Калі верыць кельцкім легендам, у ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада друіды — духі жывой прыроды — збіраліся ў дубовых гаях на вяршынях пагоркаў (кельты лічылі дубы святымі дрэвамі), палілі вогнішчы і прыносілі злым духам ахвяры, каб уміласцівіць іх. Раніцамі духі дарылі людзям вуголле ад сваіх вогнішчаў, каб тыя распальвалі печы сваіх дамоў. Агонь духаў саграваў дамы на працягу доўгай зімы і ахоўваў іх ад нячыстай сілы.

Ноччу дзяўчаты варажылі. Трэба было кінуць два каштаны ў вогнішча духаў. Калі яны будуць згараць побач, то дзяўчына будзе жыць у дружбе і згодзе з мілым; калі ж каштаны раскоцяцца ў розныя бакі — то разыдуцца і іх шляхі ў розныя бакі. Убачыць свайго будучага мужа дзяўчына магла, сеўшы перад люстэркам у поўнач з яблыкам у руцэ.

Самай дрэннай прыметай лічылася, калі падаў падсвечнік.

Кельты верылі, што ў ноч на Новы год адчыняецца мяжа паміж светам памерлых і жывых, і цені памерлых у мінулым годзе наведваюць Зямлю.

Каб не стаць здабычай мёртвага ценю, людзі тушылі агні ў дамах і прыбіраліся як можна страшней — у звярыныя скуры. Яны адзявалі галовы звяроў, спадзеючыся распужаць прывіды, якія перапаўзлі адкрытую мяжу. Духам выстаўлялі пачастунак на вуліцу, каб яны задаволіліся гэтым і не ламіліся ў дом. У гэту ноч рабіліся прадказанні, прыносіліся ў ахвяру жывёлы, а потым кожны браў у свой дом язычок святога полымя, каб распаліць зімовую печ.

Калі вельмі хочацца ўбачыць ведзьму, ёсць адзін вельмі верны сродак — апрануўшыся шыварат-навыварат, выйдзіце ў поўнач на вуліцу і прайдзіце задам наперад. Прыемнай сустрэчы!

У Канадзе свята Хэлаўін адзначаецца вельмі шырока і з вялікай актыўнасцю. З магазінаў перад святам знікаюць гарбузы. Прадаўцы таксама ўсе ў масках мерцвякоў і ў незвычайным адзенні. Вядучыя тэлеперадач таксама ў розных масках. Вядомы сіноптык Эрык «змодзіўся» так, што яго галава без тулава «лятала» з горада ў горад па карце Канады і аб'яўляла надвор'е.

Перад дамамі ставяць выявы мерцвякоў, могілак, чалавечых шкілетаў, якія таксама можна купіць у спецыяльных магазінах. Часам гэтыя шкілеты «ажыўлены», рухаюць рукамі, паварочваюць галаву ды рухаюць сківіцамі. Унутры чэрапа гарыць электралямпачка. Ноччу відовішча неймавернае. Дзеці змалку ўсё гэта бачаць і потым не баяцца мерцвякоў. Вечарам, дзеці апранутыя ў розных духаў, ходзяць па хатах і выпрошваюць падарункі. Меншыя ходзяць пад наглядам бацькоў, а большыя дзеці і падлеткі ходзяць самастойна. У канцы абходу — дзеляць падарункі.

## ДЗЕНЬ УСПАМІНАЎ

11 лістапада у Канадзе адзначаецца свята — Дзень памяці. На плошчы каля будынка парламенту стаіць вялікі помнік канадыйцам, якія загінулі ва ўсіх войнах. Сюды збіраюцца людзі з самага ранку з вянкамі і кветкамі, каб пакланіцца загінуўшым. Падрыхтавана вялікая крытая сцэна для выступлення хораў, аркестраў і спевакоў. Пад адкрытым небам пастаўлены крэслы для прысутных. Яшчэ раніца, а людзей ужо многа. Яны ўскладваюць кветкі і вянкі на прыступкі помніку. Да грудзей кожнага ўдзельніка свята прышпілены кветкі чырвонага маку.

На плошчы ў страі стаяць ветэраны Другой Сусветнай, В'етнамскай, Карэйскай і іншых войнаў, у якіх удзельнічалі канадыйцы. Наперадзе разасланы шырокі чырвоны дыван, на якім з'яўляюцца генерал-губернатар Мішэль Жан і прэм'ер-міністр Стывен Харпэр. Камандуючы парадам аддае ім рапарт, гучыць гімн Канады. Побач

салютуюць з гармат. Кіраўнікі дзяржавы выступаюць з невялікімі прамовамі.

Перад трыбунай праходзяць ветэраны, войскі трох родаў, тэхніка. Замыкаюць парад шатландцы ў спадніцах з валынкамі, пралятаюць нізка самалёты. На гэтым парад заканчваецца.

Пачынаецца вялікі канцэрт вядомых спевакоў, хораў і аркестраў. Канада святкуе.

## КАЛЯДЫ

25 снежня — Каляды, Дзень Божага Нараджэння. Яшчэ толькі лістапад, а горад ужо рыхтуецца да вялікага свята — Божага Нараджэння. Горад апранаецца ў святочнае ўбранне. Кожны жыхар дома хоча зрабіць свой дом як мага прыгажэйшым. Каля дамоў упрыгожваюцца рознакаляровымі гірляндамі дрэвы, асабліва ёлкі. Упрыгожваюцца дамы ад самага нізу і да дахаў, якія ноччу вырысоўваюцца контурамі. Перад дамамі ставяцца фігуркі аленяў і другіх жывёлаў, якія «рухаюць» сваімі галовамі. Знутры дамоў на вокнах таксама свецяцца рознакаляровыя гірлянды. Уражанне такое, што ты знаходзішся ў чарадзейным каралеўстве. Можна ўбачыць і «жывога» Санта-Клаўса, які махае рукой у белай рукавіцы, вітаючы людзей, паступова паварочваючы галаву то ў адзін бок, то ў другі. Ва ўсіх крамах устаноўлены прыгожыя ёлкі. У крамах можна сустрэць і сапраўднага Санта-Клаўса, з якім можна сфатаграфавацца. Тут ёсць цэлыя аддзелы па продажы цацак і розных калядных і навагодніх сувеніраў, чырвоных з белым шапак Санта-Клаўса і гэтак далей. Фермерскія гаспадаркі, якія спецыялізуюцца на вырошчванні ёлак, наладжваюць продаж ёлак каля магазінаў і ў магазінах.

У снежні 2006 года дэпутат гарадскога муніцыпалітэту Марыя Мак Рэй запрасіла пажылых людзей на экскурсію, каб паглядзець на святочны горад. Для гэтай мэты былі выдзелены чатыры аўтобусы. За дзве гадзіны мы аб'ехалі самыя прыгожыя мясціны святочнага горада. І ўражанне засталося — мы быццам пабывалі ў нейкай казцы. Мы знаёміліся з гаспадарамі гэтых дамоў, аддаць перавагу каму-небудзь з іх было цяжка — усё і ўсюды было прыгожа. Калі мы вярнуліся з агляду горада, нас запрасілі за сталы з球 рознымі прысмакамі.

У гэтыя перадсвяточныя часы мы два разы назіралі парады Санта-Клаўсаў. Плошча Lavigne, якую акружаюць вялізныя магазіны літарай «П», вельмі вялікая. Тут паставілі вялікую палатку для выступлення Санта-Клаўсаў і другіх калядных персанажаў: пастухоў, казлоў і гэтак далей.

Парад пачаўся на доўгай вуліцы. За гадзіну да з'яўлення Санта-Клаўсаў мы пачулі сігналы аўтамабіляў, якія прымалі ўдзел у гэтым парадзе. За ўсім гэтым мы назіралі са свайго балкона з чацвёртага паверху. Людзі з нашай вуліцы Wilfrid ішлі і ішлі да месца святкавання. Збіраліся дзядулі і бабулі, таты і мамы з большымі і меншымі дзеткамі і нават з немаўляткамі ў дзіцячых вазочках. Людзі ехалі і з больш далёкіх раёнаў горада. Іх машыны паліцыя накіроўвала на плошчу. Як яны там толькі ўсе змясціліся? Людзі з малымі дзецьмі ўладкоўваліся абапал вуліцы, каб можна было ўсё ўбачыць.

І, нарэшце, парад паказаўся на нашай вуліцы. На машынах з прычэпамі, прыбранымі litознакаляровымі гірляндамі, ехалі Санта-Клаўсы і іншыя персанажы свята. Гучала музыка і песні. Замыкаў калону духавы аркестр Санта-Клаўсаў. Усе ўдзельнікі параду павярнулі на плошчу да вялікай палаткі, дзе адбыўся канцэрт.

## КУЛЬТУРА

У горадзе многа тэатраў, кінатэатраў, музеяў і бібліятэк, але нас перш за ўсё цікавілі адносіны паміж людзьмі. Пра вуліцу я ўжо гаварыў — там можна сустрэць людзей толькі з добразычлівымі ўсмешкамі. Калі табе трэба перайсці вуліцу па пешаходным пераходзе, то кіроўцы аўтамабіляў здалёк спыняюцца. Калі ж вы прапануеце ім ехаць першымі — усё роўна не паедуць, пакуль вы не пройдзеце. За гэта вы падзякуеце ім, памахаўшы рукой.

Калі заходзіш у якую-небудзь установу (на пошту, касу магазіна, у прыёмны пакой да доктара), то не паспееш адкрыць рот, як з вамі прывітаюцца. У касу магазіна, калі ў цябе нямнога тавару, прапусцяць без чаргі. Аднойчы, калі мы купілі невялікі пакунак бульбы і сталі ў чаргу ў касу, малады чалавек, за якім мы сталі, ухапіў гэты пакунак ад мяне і занёс прама на стол касіра. Другім разам я купіў тры пакункі журавіннага соку і заняў чаргу за адной грамадзянкай, якая стаяла недалёка ўжо ад касы з напоўненай калясачкай, яна тут жа прапусціла мяне. Потым, калі я разлічыўся, яна зноў падбегла да мяне і пачала дапамагаць мне ўпакоўваць прадукты. Я ўклаў адзін пакунак у цэлафанавы мяшочак, а яна ўзяла яшчэ адзін цэлафанчык і ўклала мой пакунак у яго, бо адзін цэлафанчык мог бы і не вытрымаць трох пакункаў. Я выйшаў з магазіну, і тут пачаўся невялікі дожджык. А ў мяне няма парасона. Я накіраваўся да свайго дому, да якога не больш 300 метраў. І тут на машыне мяне дагналі дзве сівагаловыя бабулькі з нашага дома і прапанавалі падвезці. Я згадзіўся. Аднойчы мы з Данатай прыйшлі з горада, хочам падняцца на ліфце ў сваю кватэру на чацвёрты паверх. Перад

дзвярыма ліфта стаіць чалавек, якому трэба спусціцца ў падвальнае памяшканне. Заходзім у кабіну ліфта, і ён націскае кнопку «4» і едзе з намі ўверх. Калі мы выходзім, ён націскае кнопку падвала. Мы яму дзякуем. Можна прывесці тысячы прыкладаў вось такіх чалавечых, цёплых адносінаў да чалавека.

У бібліятэцы вы можаце ўзяць любую кнігу, любога пісьменніка і на любой мове. Калі ў бібліятэцы такой кнігі няма, то па вашай просьбе ваш заказ праз некаторы час будзе выкананы.

У Музеі Цывілізацыі сабраны экспанаты з усіх краінаў свету. Тут можна азнаёміцца з бытам людзей любой краіны і любой нацыі, бо Канаду насяляюць прадстаўнікі ўсіх краінаў свету. Пры арганізацыі музея кожная нацыя хацела паказаць быт свайго народа і культуру. Тут можна ўбачыць і беларускую хатку, яна прадстаўлена ўнутраным памяшканнем.

Нас цікавіла ў першую чаргу, як жылі тут мясцовыя жыхары да адкрыцця Амерыкі еўрапейцамі. Некаторыя завуць іх *індзейцамі, індыянамі, абарыгенамі*. Жылі яны, як і нашы першабытныя продкі некалі жылі. Калі ў еўрапейцаў ужо былі караблі і агнястрэльнае ўзбраенне, то ў абарыгенаў былі толькі лукі і стрэлы, а таксама лодкі-пірогі. Яны займаліся паляваннем і рыбнай лоўляй. Апраналіся ў скуры жывёл, з якіх рабілі і свае хаты. Вось такія хаты можна ўбачыць у Музеі Цывілізацыі: яны нагадваюць конус, абцягнуты скурамі. Асновай з'яўляліся доўгія жэрдкі, звязаныя ў версе.

Наведалі мы і музей прыроды. Тут прадстаўлены чучалы звяроў, птушак і насякомых, якія насяляюць Канаду. Самыя цікавыя экспанаты — гэта жывёлы, якія насялялі гэту краіну ў даледніковы перыяд: дыназаўры, звераяшчары і г. д. Іхнія косці знойдзены ў розных месцах краіны ў вечнай мерзлаце. Толькі можна здзіўляцца іх велічы і таму факту, што мільёны гадоў таму назад жылі яны на зямлі.

Музей Вайны. Музей гэта гісторыі войнаў, у якіх прымалі ўдзел узброеныя сілы Канады. Тут знаходзяцца экспанаты Першай і Другой сусветных войнаў, Карэйскай вайны. Паказана ўзбраенне розных часоў. Другая сусветная вайна паказана найбольш шырока. Паказаны ахвяры вайны краін-удзельніц: больш за ўсё загінула савецкіх людзей.

Аднойчы, у Вялікую пятніцу, мы наведалі кінатэатр, дзе паглядзелі фільм «Укрыжаванне Ісуса Хрыста». Мы перакінуліся ў эпоху, калі жыў наш Збавіцель — гэта амаль 2000 гадоў таму. І ў нас было такое ўражанне, што мы глядзім дакументальны фільм аб апошніх гадзінах жыцця Ісуса Хрыста. Калі Юда выдаў яго за 30 сярэбранікаў, Хрыста прывялі да першасвятара Каяфы, куды сабраліся кніжнікі, старэйшыны і ўвесь Вярхоўны суд, шукалі прычыну, каб засудзіць яго на смерць, але ніякай прычыны не маглі

знайсці. Тады першасвятар спытаў у Ісуса: «Ці Ты Хрыстос, Сын дабраславеннага Бога?» — «Я», — адказаў Хрыстос. «Вы ўбачыце Сына Чалавечага… на воблаках нябесных», — сказаў Ісус. І ўсе яны палічылі гэта за абразу Бога, і прысудзілі яго на смерць. Потым некаторыя пачалі біць яго і пляваць на яго.

Раніцай наступнага дня першасвятары са старэйшынамі, кніжнікамі і Вярхоўным судом параіліся і павялі Хрыста да правіцеля Понція Пілата, які спытаў у іх, якое зло Хрыстос учыніў. Яны крычалі адно: «Распні яго!» Тады ў турме быў нейкі Варава са сваімі саўдзельнікамі, якія ў час беспарадкаў зрабілі забойства. На свята Пілат заўсёды адпускаў аднаго злачынцу на волю. Калі Пілат спытаўся ў народа, каго адпусціць — цара Юдзейскага (Ісуса Хрыста) ці Вараву, то ўсе закрычалі: «Вараву!»

Ісус Хрыстос прыняў здзекі, знявагу і смерць спакойна. Пасля яго ўкрыжавання быў зроблены надпіс — «цар Юдэйскі». Калі б гэты «Цар» застаўся жывы ды стаў правіцелем усяго чалавецтва, то не было б войнаў, забойстваў, крадзяжоў, манюкаў, зайздрасці і гэтак далей, другімі словамі, выконваліся б усе 10 Божых запаветаў. Я хачу закончыць расказ аб наведванні кінатэатра словамі Евангелля ад Яна (3:16): «Бо так палюбіў Бог свет, што Сына свайго адзінароднага аддаў, каб кожны, хто верыць у яго, не загінуў, а меў жыццё вечнае».

8 мая 2007 года, у дзень нараджэння сына Пеці, па яго запрашэнню мы наведалі тэатр, дзе слухалі класічную музыку знакамітых кампазітараў мінулых стагоддзяў: Баха, Паганіні, Брамса, Стравінскага і іншых. Канцэрт быў прысвечаны святкаванню 50-й гадавіны Савета мастацтва Канады. Галоўнымі выканаўцамі былі 12 пераможцаў конкурсу Інструментальнага аркестра Канады ў 2006 годзе. Ігралі музыканты на гістарычных інструментах, на скрыпках Гіовані Тононі, Энрыко Росса, Страдзівары і іншых; на віяланчэлях Гагліана і Адама.

# НАШЫ ЗНАЁМСТВЫ

Калі мы прыехалі ў Канаду і жылі ў Пеці з Наталляй, мы ўпершыню пазнаёміліся з іхнімі маладымі сябрамі: Клімавымі Ленай і Славам, Логвінымі Сашай і Юрам, Мартышэнкамі Сашам і Юні, Пелюшонкамі Вольгай і Юрам, Шамецькамі Уладай і Юрам.

У сям'і Клімавых ёсць дзве дачушкі — Яна і Паўліна — таленавітыя мастачкі. У 2008 годзе да іх прыехала з Полацку на пастаяннае жыхарства ў Канаду маці Лены — Марыя Янаўна. Часта прыязджаюць сюды з Мінску і бацькі Славы — маці Лілія Эдуардаўна і бацька Яўген Іванавіч.

У Сашы і Юры Логвіных таксама дзве дачушкі — Агата і Ніна. Іх часта наведваюць з Ліды маці Юры Марыя Аляксандраўна і бацькі Сашы.

На пастаяннае жыхарства з Мінску прыехалі бацькі Мартышэнкі Сашы — Аляксандр Паўлавіч і Марыя Станіславаўна. У Пелюшонкаў Олі і Юры адна дачушка Ліля. Маці Олі жыве ў Манрэалі, а маці Юры — у Мінску. У Шамецькаў Улады і Юры сын Раман і дачушка Паўліна. Да іх таксама часта прыязджае маці Улады, Раіса Аксёнаўна.

У час арганізацыі беларускага класа ў пачатку 2004 года спадарыня Івонка пазнаёміла нас са Шлыкамі Сяргеем і Таняй і з двума іх сынамі — Алесем і Косцем.

На розных сустрэчах беларусаў Атавы, арганізаваных ЗБК (Згуртаванне Беларусаў Канады), мы пазнаёміліся з бацькамі вучняў нашай будучай суботняй школы: Александровічамі Косцем і Надзяй, Бахановічамі Славам і Рытай, Маковічамі Сашам і Жэняй, Пятровымі Сяргеем і Зояй, Ціпенкамі Юрам і Ленай, Якубчыкамі Юрам і Тамарай і Ярмолавымі Ігарам і Таняй.

У 2006 годзе мы пераехалі ў Эйлмар (адзін з раёнаў горада Атавы) у 64-кватэрны дом. Тут мы пазнаёміліся з добрымі людзьмі: славачкай Драгамірай, якая жыла дакладна пад намі ў кватэры нумар 207 на другім паверсе, а мы жылі ў кватэры 407 на чацвёртым паверсе, з другой славачкай Аннай і яе мужам-французам, Роджарам. Славачкі добра разумелі польскую і крыху рускую мовы. І нам было весялей, што мы з імі маглі паразмаўляць. Яны бывалі ў нас у гасцях, а мы ў іх.

У Драгаміры ёсць два сыны і дачка, якія маюць свае сем'і.

Анна з Роджарам неўзабаве пераехалі ў пансіянат, дзе ў месяц трэба плаціць каля 1700 долараў за кожнага. Анна працавала медсястрой, а Роджар у канадыйскім урадзе. Дзяцей яны не маюць, а грошы зарабілі на старасць. Многа падарожнічалі, ездзілі на радзіму Анны ў Славакію. А патомкі Роджара — канадыйскія французы.

Яшчэ ў гэтым доме пазнаёміліся з цудоўнай жанчынай, Мартай Лалондэ. Аднойчы, сустрэўшы нас у вялізным магазіне, яна завяла нас у рэстаран, размешчаны у гэтым жа магазіне. Потым мы яе запрашалі да сябе. Яна абяцала навучыць нас ангельскай мове, але выйшла замуж і выехала з нашага дома.

## НА МАТАЦЫКЛЕ ВАКОЛ ЗЯМНОГА ШАРА

Улетку 2004 года на кватэру да Пеці, дзе і мы з Данатай тады жылі, завітаў незвычайны падарожнік, які на матацыкле робіць кругасветнае падарожжа. Незвычайны ён быў таму, што быў глуханямы. Гэта быў беларус Уладзімір Ярэц з Мінска. Як мог асмеліцца чалавек пусціцца ў такое падарожжа «без языка і вушэй»? Гэта штосьці незвычайнае ў гісторыі падарожжаў.

У Расіі ён аб’ехаў усю Сібір, аб’ехаў усе краіны Еўропы, краіны Паўночнай Афрыкі. На караблі пераплыў Атлантычны акіян у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе аб’ехаў усе штаты, апрача Аляскі. У адным са штатаў папаў у аварыю, 6 месяцаў адляжаў у шпіталі, дзе яму ўставілі металічныя спіцы ў паламаныя ногі. Матацыкл ягоны разляцеўся ўшчэнт. Амерыканцы купілі яму новы матацыкл амерыканскай вытворчасці. Прыехаў ён гэтым разам у Канаду і дасягнуў Аляскі.

Зараз беларусы раскіданы па ўсім свеце, ва ўсіх краінах яны ёсць. Вось ён і звяртаецца да іх за дапамогай. Ён глухі і нямы, але ён граматна піша. І гэта яго адзіны спосаб сувязі з людзьмі. У яго ёсць фотаапарат, нароблена многа якасных і вялікіх фотаздымкаў. У гарадах ён робіць фотавыставы прама на вуліцы ў добрае надвор’е, за што яму людзі ахвяруюць грошы, з якіх ён і жыве, і купляе бензін. Матацыкл абсталяваны трыма багажнікамі: два па баках і адзін на месцы задняга сядзення. Там у яго ўся гаспадарка. Ёсць невялікая, лёгкая палатка, і ён можа заначаваць у любым месцы, дзе яму спадабаецца. Месцаў прыгожых у Канадзе многа: горы, пакрытыя лясамі, даліны з ураджайнымі палямі, рэкі, вялікія і маленькія, месцамі з вадападамі і парогамі, прыгожыя азёры.

Далейшыя яго планы — папасці ў Паўднёвую Амерыку. А пакуль што ён ўзяў напрамак на Ньюфаўндленд.

# КУПАЛЛЕ Ў АТАВЕ

6 ліпеня 2008 года суродзічы, якім дарагія традыцыі нашага народа, сабраліся на беразе ракі Атавы, каб адзначыць Купалле. Потым стала традыцыяй гэта свята адзначаць кожны год.

Упершыню гэтае свята стала адзначацца ў IV стагоддзі. У старажытнасці ў ноч на 7 ліпеня збіралі розныя лекавыя травы, прыпісваючы ім цудадзейную сілу. Асабліва шукалі папараць-кветку, якая цвіла вогненным колерам толькі ў гэту ноч і была неабходная для адшукання скарбаў, купаліся для здароўя, скакалі праз запаленыя вогнішчы для засцярогі ад заразных хваробаў, шукалі скарбы.

Ну, а мы ў гэты цёплы, прыгожы вечар на маляўнічай выспе, незадоўга перад заходам сонца плялі вянкі, дзяліліся ўражаннямі аб прыродзе, аб значэнні гэтага свята, успаміналі, як адзначалі гэта свята ў Беларусі, рабілі фотаздымкі.

Разам праводзілі за ракой Атавай сонца за небасхіл. Запалілі свечкі, спявалі песні: «Купалінка», «Рэчанька», «Ой, сівы конь бяжыць», «Ой, ляцелі гусі з броду», «Зорка Венера», «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Ты мне вясною прыснілася» і іншыя, вадзілі карагоды. Напрыканцы пусцілі вянкі ў раку, а на невялікіх караблікох пусцілі на ваду і свечкі. Кароткім, але ўзнёслым і радасным было свята.

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГ

17 жніўня 2008 года адбылася прэзентацыя трох кніг: Івонкі Сурвіллы «Дарога», Юры Пелюшонка «Acquisition through division» і маёй «Над Дзісенкай ракой». Прэзентацыя кніг прайшла на сялібе спадарыні Івонкі Сурвіллы, на ветлівае запрашэнне якой адгукнуліся шматлікія сябры суполкі. Падзея адбывалася пры цудоўным надвор’і ў садзе, дзе быў арганізаваны імправізаваны тэатр — накрыты сталы, расстаўленыя крэслы і лаўкі.

Пачалі з кнігі гаспадыні, спадарыні Івонкі Сурвіллы. Яе кніга ўжо атрымала вядомасць і добрыя водгукі. Кніга была выдадзена і прэзентавана вясной 2008 года ў Мінску, яна абмяркоўвалася ў эфіры радыё «Свабода». Цікавасць да кнігі выклікана не толькі тым, што яна распавядае пра жыццё сучаснага прэзідэнта Рады БНР, а і тым, што спадарыня Івонка Сурвілла вельмі яскрава распавяла ў кнізе пра шмат якія падзеі XX стагоддзя, удзельнікамі якіх яна і яе блізкія сталі воляю лёсу.

Прэзентацыю вёў старшыня Атаўскага аддзела ЗБК мой сын Пётр. Пётр сказаў, што кнігу спадарыні Івонкі Сурвіллы «Дарога» ён прачытаў з захапленнем, калі яна была толькі на вэб-сайце са здымкамі з жыцця Івонкі Сурвіллы.

Потым выступіла Івонка Сурвілла, яна прывітала гасцей і распавяла пра гісторыю стварэння кнігі. Фактычна кніга склалася з яе шматлікіх інтэрв'ю на радыё «Свабода». Шмат працы ў стварэнні кнігі ўклаў журналіст Сяргей Навумчык. Аўтарка прачытала, па просьбе прысутных, эпізоды з перыяду яе студэнцтва ў Сарбонскім універсітэце.

Вельмі прыгожа аб кнізе і аб аўтарцы выказаўся Юра Пелюшонак, які ў сваім выступленні гаварыў аб той шчырасці, з якой напісана гэта кніга, аб тых пачуццях, якія ён меў, чытаючы пра эпізод адступлення з Беларусі, калі на выспе пад Кёнігсбергам Івонку і іншых уцекачоў абстрэльвалі з самалётаў. Ён выказаў шкадаванне, што кнігу можна толькі пабачыць і немагчыма набыць, бо той наклад, які быў надрукаваны, умомант разышоўся ў Мінску і Празе.

Сын Пётр сказаў: «Я маю вялікі гонар лічыць сябе сябрам Івонкі. Даўно марыў і выношваў ідэю напісаць верш пра гэтую цудоўную жанчыну. Відаць, прэзентацыя яе кнігі крыху падштурхнула мяне гэта зрабіць». І ён прачытаў верш, прысвечаны Івонцы Сурвілле:

Жанчына прабудзілася ў прыгожы ранак.
Прысніўся сёння добры сон для родных і яе;
Любімы муж і дзеці, разам выйшаўшы на ганак,
Усміхаюцца, чароўная зямля наўкол пяе.
Затым, штось нечаканае, святая Ганна,
У Віленскім касцёле, што на Вяллі на рацэ,
На шлях яе бласлаўляе з імём Іоанна,
У сукенцы белай, з крыжыкам і Бібліяй у руцэ.
Відаць, што час прыйшоў такі ў нашым краі,
Калі жанчынам выпадае ладзіць яго лёс.
Сягоння край без іх удзелу знемагае,
Аслаб у барацьбе, бо шмат пакутаў перанёс.
Жанчына вызваліць любімы край ад гнёту,
Свабоду, свет і шчасце нашым людзям прынясе.
Ужо блізка дух свабоды над краінай лётае,
І хутка, нават памяркоўныя, пачуюць усе.
Гарыць паходня волі ў руках жаночых,
Запалена гарачым сэрцам, што бацькі далі,
Бы ў Жанны Д'Арк й Тэрэзы-маці яе вочы,
Жаданае цяпло нясуць для стомленай зямлі.
З часоў Сафіі не знікаюць моц і воля,
Й цяпер упершыню, такога не было нідзе,
З надзеяй, што не згасне ў барацьбе за долю,
Жанчына-Праметэй па роднай Беларусі йдзе.

Потым мой сынок запрасіў на сцэну мяне. І я расказаў, як рабілася кніжка. Ідэя напісаць успаміны пра жыццё ў Беларусі прыйшла да мяне пяць гадоў таму назад, калі мы з Данатай прыехалі ў Канаду да дзяцей і ўнукаў. Зараз у мяне было часу ўдосталь і ўспамінаў таксама. Мы толькі што пакінулі родную Беларусь, але з сэрца мы выкінуць яе ніяк не маглі. Я хацеў пра яе пісаць, а пішучы, я быў там, і мне лягчэй было з ёй расставацца. Спачатку пісаў ад рукі. Пра кнігу тады ў мяне і думак не было. Потым Пеця прапанаваў мне занесці напісанае ў камп’ютар, з якім я быў зусім незнаёмы. Сынок навучыў мяне. І калі ўжо было ўсё занесена ў камп’ютар, Пеця і прапанаваў аддаць у рэдакцыю. І вось атрымалася кніжка. У Беларусі я гэтага ніколі не зрабіў бы, бо там ніколі не было часу з-за гаспадаркі і агарода. Я ўжо не кажу пра школьныя часы. Там мы толькі паспявалі напісаць рабочыя планы і праверыць сшыткі. Ды і хто б мне там яе надрукаваў, і за якія грошы?

На прэзентацыі я прачытаў некалькі невялікіх урыўкаў з кнігі і горача падзякаваў усім прысутным, хто прыйшоў на гэтую важную ў маім жыцці падзею. Я падпісаў сваю кнігу высокашаноўным і паважаным, дарагім сябрам-суайчыннікам, спадарыні Івонцы Сурвілле, спадару Катрушэнка Валодзю, які рыхтаваў яе да друку, і многім іншым.

Паслаў сваю кнігу ўсім родным і сябрам у Беларусь, Латвію, Польшчу, Расію, на Украіну і ў Нацыянальныя бібліятэкі Мінска, Вільні, Варшавы, Лондана, у рэдакцыю «Нашай Нівы» (Мінск), Згуртаванню Беларусаў Свету «Бацькаўшчына» (Мінск), на радыё «Свабода», у Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ) у Нью-Ёрку, у Цэнтр Беларускіх Даследаванняў у Канзасе (ЗША), у Цэнтральную бібліятэку Атавы, у Пастаўскую раённую бібліятэку, у Пастаўскі краяведчы музей, у Мядзельскую раённую бібліятэку.

У БІНІМ паслаў тры кнігі, адну з іх падпісаў дырэктару БІНІМ, доктару Вітаўту Кіпелю. Ён неўзабаве прыслаў у падзяку мне аж чатыры кнігі: Яўхіма Кіпеля (бацькі Вітаўта), якая называецца «Эпізоды», выдадзена ў Нью-Ёрку выдавецтвам газеты «Беларус»; Лявона Савёнка (бацькі Зоры — жонкі Вітаўта) «Беларусізацыя пад N …» (пад псеўданімам Лявона Крывічаніна), выдадзена БІНІМам ў Нью-Ёрку ў 1998 г.; Вітаўта Кіпеля і Зоры Кіпель «Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія», выдадзена БІНІМам у Нью-Ёрку — Варшаве ў 2006 г.; «Запісы 31», выдадзена БІНІМам у Нью-Ёрку — Мінску ў 2008 г. Кнігі гэтыя мы з жонкаю прачыталі з вялікай цікавасцю і захапленнем.

Падзяку мне прыслалі з Атаўскай і Віленскай бібліятэк.

Сваю кнігу прэзентаваў Юрка Пелюшонак. У кнізе прыводзяцца разважанні аўтара аб арганізацыі грамадства, аб суадносінах паміж

сацыяльнымі групамі. Да гэтага ў яго выйшлі дзве кнігі ў 1999 годзе і ў 2007 годзе.

Сама імпрэза доўжылася каля паўтары гадзіны. Затым прысутныя затрымаліся ля сталоў, працягвалі размовы з аўтарамі і вялі дыскусіі.

## 60-ГОДДЗЕ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ (ЗБК)

30 лістапада 2008 года мы з’ездзілі ў горад Таронта, каб адзначыць 60-годдзе Згуртавання Беларусаў Канады (ЗБК). З намі ехала Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР, і адна прыгожая маладая беларусачка Саша, якая прыехала сюды да мамы і брата ў мінулым годзе з Мінска. Дарога далёкая, 450 кіламетраў у адзін канец, але добрая, і мы за 5 гадзін заехалі.

Уязджаем у горад Таронта. Дзяржаўны сцяг з «кляновым лістом» годна лунае над шматлікімі дзяржаўнымі ўстановамі, пры школах, у парках і гарадскіх плошчах.

Праязджаем плошчу Натан Філіпс. Два шматпавярховыя гмахі паўдугамі ахопліваюць цэнтральны будынак агромністага комплекса Гарадской управы трохмільённага Таронта — сталіцы правінцыі Антарыа і найбуйнейшага фінансавага цэнтра Канады.

Дзея адбывалася ў гарадской управе Таронта. У нядзелю да кляновага ліста далучыліся бел-чырвона-белыя беларускія сцягі. Тутэйшыя беларусы ўпрыгожылі імі цэнтральны ўваход ды прасторную паўкруглую галоўную залу таронтаўскай управы. Высачэзная столь, тыповы паўночнаамерыканскі інтэр’ер. На заслоне сцэны Герб БНР «Пагоня» і неўміручыя радкі Максіма Багдановіча: «Не разбіць, не спыніць, не стрымаць…». У зале — беларускі гоман шматлікай людской грамады. На даўжэзным авальным балконе прымацавана традыцыйнае канадыйскае каляднае ўпрыгожванне — зялёная ялінкавая гірлянда, аздобленая чырвонымі бантамі. З таго ж самага балкона звісаюць па-над залай восем вялізных бел-чырвона-белых штандараў. І хочацца выгукнуць — «Жыве Беларусь! Жыве ў Таронце, у Канадзе і ў Свеце! Жыве Беларусь на Бацькаўшчыне!»

Да пачатку адкрыцця мерапрыемства я меў гонар сустрэцца са славутай беларускай паэтэсай, празаікам і публіцыстам Вольгай Іпатавай, якая падарыла мне свой новы зборнік вершаў. Я падпісаў ёй сваю кнігу «Над Дзісенкай ракой».

Найстарэйшая беларуская арганізацыя святкуе сваё 60-годдзе. Гэта мерапрыемства сабрала шматлікіх сяброў арганізацыі, гасцей, а таксама тых, хто цікавіцца беларускім грамадскім жыццём у Канадзе. Асабліва мяне ўразіла колькасць маладых людзей, многія з

якіх удзельнічалі у праграме, іншыя ж прыйшлі, каб паглядзець ды ў будучым далучыцца.

Прывітанні грамадзе даслалі прэм’ер-міністр Канады Стывэн Гарпэр, прэм’ер правінцыі Антарыа Дальтон Мак-Гінці, беларускія суполкі за мяжой, арганізацыі і шматлікія прыватныя асобы. Радзіма адгукнулася змястоўным прывітаннем ад Згуртавання Беларусаў Свету «Бацькаўшчына».

На сцэну падымаецца старшыня ЗБК Зміцер Эльяшэвіч. Ён распачынае ўрачыстую частку імпрэзы. На сцэну падымаецца гурт «Яваровы людзі». Гучыць гімн Канады пад акампанемент баяна: «О, Канада! Наш дом і родная зямля…» — гучаць словы дзяржаўнага гімна Канады. 132 галасы з зала зліваюцца з хорам у адзіны магутны спеў. Даніна краіне, якая прывітала і прытуліла нас, прыклаўшы шмат намаганняў, каб мы адчувалі сябе ў ёй утульна. Потым гімн Беларусі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…», словы якога таксама падхапіў увесь зал.

Да прысутных з прывітальным словам звярнулася старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Яна падкрэсліла тую велізарную ролю, якую адыграла ЗБК у жыцці нашых суайчыннікаў на Паўночна-Амерыканскім кантыненце.

Дэпутат палаты прадстаўнікоў канадыйскага парламента Барыс Вжэснеўскі вітаў удзельнікаў сходу і выказаў упэўненасць, што найстарэйшая беларуская арганізацыя будзе і надалей захоўваць народныя традыцыі беларусаў на чужыне, а таксама ідэалы незалежнасці і дэмакратыі на Бацькаўшчыне.

Прысутныя мелі гонар вітаць і нашу дарагую госцю з Беларусі, вядомую пісьменніцу Вольгу Іпатаву, якая падзялілася сваімі ўспамінамі і пранікнёна гаварыла пра тое, чаму так важна кожнаму беларусу менавіта цяпер не шкадаваць высілкаў дзеля працы на карысць Бацькаўшчыны.

Хвілінай маўчання прысутныя ўшанавалі памяць заснавальнікаў ЗБК і тых сяброў арганізацыі, што ўжо адышлі ў лепшы свет.

З дакладам «Па старонках беларускай гісторыі ў Канадзе» выступіў старшыня галоўнай управы арганізацыі Зміцер Эльяшэвіч. Ён спыніўся на асноўных падзеях жыцця Згуртавання за яго 60-гадовую гісторыю. З вялікай цеплынёй прамоўца ўспомніў тых членаў ЗБК, якія стаялі ля вытокаў арганізацыі — спадароў Кастуся Акулу, Міхася Пашкевіча, Барыса Аранскага, Нікіфара Сільвановіча, Міколу Ганька, Аляксея Грыцука, д-ра Яўхіма Скурата, д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча і шмат іншых.

Гарачымі воплескамі прысутныя віталі адну са старэйшых сябровак Згуртавання спадарыню Марыю Ганько. Яна распавяла, што 28 лістапада 1948 года 19 асобаў на сходзе беларусаў у Таронта пастанавілі ўтварыць беларускую нацыянальную арганізацыю ў

Канадзе. Была выбрана часовая ўправа ЗБК у складзе: старшыня — Кастусь Акула, заступнік старшыні — Барыс Аранскі, сакратар — Міхась Пашкевіч, скарбнік — Язэп Пітушка.

Ідэя стварыць беларускую нацыянальную арганізацыю ўскалыхнула патрыятычна настроеных беларусаў-эмігрантаў. 28 траўня 1949 года адбыўся першы агульны сход беларусаў Канады. Пасля абвяшчэння арганізацыі на тым жа з'ездзе адразу 35 асоб злажылі заявы ў ЗБК.

ЗБК уключала ў сябе суполкі па ўсёй Канадзе. Прывяду наступныя лічбы: у Таронце было 79 сяброў ЗБК, у Лондане — 17, у Манрэалі — 16, у Гамільтоне — 13, у Ашаве — 11, у Садбэры — 8, у Атаве — 3, у Вініпегу — 2.

Стандартныя на той час бланкі заявы, якую запаўняў кожны, хто ўступаў у ЗБК, цяпер сталі бясцэннымі дакументамі, бо захоўваюць дух любові да Беларусі і ідэалаў яе незалежнасці, якія жывілі нашу арганізацыю. У канцы заявы, якую да канца запаўнялі не ўсе (бо баяліся, што калі звесткі трапяць у Беларусь, то будуць на радзіме пераследаваць родных), ёсць словы: «У выпадку прыняцця мяне ў сябры Згуртавання Беларусаў у Канадзе забавязваюся ў сваёй працы імкнуцца да ажыццяўлення ідэалаў 25-га Сакавіка — незалежнасці Беларусі».

Падчас канцэрту аўдыторыя доўгімі воплескамі дзякавала «Яваровым Людзям» за высокі прафесіяналізм выканання беларускіх народных песень. Паказалі сябе і маладыя таленты — Міхась Шэмет і Каміла Кавалёва.

Змястоўная і цікавая выстава беларускага эміграцкага друку прыцягнула ўвагу ўсіх прысутных. Дужа цікавымі былі нумары ўжо легендарнай газеты «Беларускі Эмігрант», часопіса «Зважай!» На экспазіцыйных сталах ляжалі беларускія кнігі, якія выходзілі ў тарантаўскім выдавецтве «Пагоня», вышываныя канадыйскімі беларускамі ручнікі. Тут жа знаходзілася і друкавальная машынка нашага земляка з Глыбоччыны, пісьменніка Кастуся Акулы (Аляксандр Качан).

Доўга пасля афіцыйнай праграмы гучала пад высокай столлю тарантаўскай гарадской управы родная беларуская мова.

# ФЕСТЫВАЛЬ СЛАВЯНСКАЙ МУЗЫКІ І ПЕСНІ

7 снежня 2008 года ў цэнтральным тэатры Гаціно (невялікі горад, які знаходзіцца на левым беразе ракі Атавы ў правінцыі Квэбек), сабраліся прадстаўнікі славянскіх нацыянальнасцей: беларусы, балгары, палякі, рускія, чэхі і харваты. Усе ўдзельнікі фестывалю парадавалі прысутных высокім майстэрствам выканання нацыянальных песень і танцаў сваіх народаў.

У свяце славянскіх культураў бралі ўдзел беларускія музыкі з Атавы: скрыпачка Улада Шамецька і гітарыст Міхась Рыкаў і гурт «Яваровы Людзі» з Таронта.

Улада Шамецька і Міхась Рыкаў пачалі першае аддзяленне канцэрта, якое складалася з твораў класічнай музыкі, цудоўнага выканання «Паланэзу» Агінскага, а потым бліскуча зайгралі «Гумарэску» А. Дворжака.

Другое аддзяленне прысвячалася народнай музыцы, і адкрывалі яго «Яваровы Людзі». Народнае мастацтва славян было прадстаўлена ў канцэрце пераважна танцамі. Таму фальклорныя беларускія песні ўдала вылучаліся на фоне інструментальнай музыкі і віталіся працяглымі апладысментамі.

З вялікай увагай, цікавасцю і заміраннем сэрца мы пераносілі сябе ў родную Беларусь, калі слухалі «Яваровых людзей» з Таронта. Я ўспомніў сваё маленства, і мне здалося, што я чую задушэўныя песні нашых вясковых, чарэмушніцкіх, пяюлляў, якіх я наслухаўся ў дзяцінстве і ніколі іх галасоў не забуду. Рэпрэзентаваць «Яваровых людзей», а заадно і беларускую культуру, прыехала ў Атаву шэсць спявачак: Валянціна Шаўчэнка, Саша Саленік, Ларыса Міхайлава, Віялета, Каміла і Дамініка Кавалёвы.

Рускія парадавалі прысутных сваімі карагодамі ў прыгожых нацыянальных касцюмах, а палякі цудоўнымі старадаўнімі танцамі і вельмі прыгожым убраннем тых часоў. Танцавала восем пар, прычым удзельнічалі людзі ва ўзросце ад 20 да 70 гадоў. І так перабіралі нагамі, што розніцы не было паміж старэнькімі і маладымі. Вельмі добра спявалі і ігралі чэхі і харваты.

Усе прысутныя засталіся задаволенымі канцэртам. Удзельнікаў фестывалю віншавалі працяглымі апладысментамі і воклічамі «Брава».

## КАНГРЭС СЛАВІСТАЎ КАНАДЫ

24 мая 2009 года ў Атаве, у будынку Карлетонскага ўніверсітэта, дзе зараз вучацца нашы ўнукі Саша і Пеця, праходзіў Кангрэс Славістаў Канады (Congress of the Canadian Federation of Humanities and Social Sciences). Беларуская секцыя кангрэсу была арганізавана Зінаідай Гімпелевіч, прафесарам універсітэта горада Ватэрлоа. Беларуская секцыя сабралася на пасяджэнне ў адной з аўдыторый універсітэта. Там абмяркоўваліся нядаўна выйшаўшыя з друку беларускія кнігі, дзяліліся планамі на будучае. Вёў імпрэзу сын Пётр, старшыня Атаўскага аддзелу ЗБК. Прысутнічала старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, яе дачка Марыя Паўліна Сурвілла, прафесар, якая працуе ў Цэнтры Беларускіх Даследаванняў (штат Канзас, ЗША), Надзея Сычугова, якая працуе ў бібліятэцы Цэнтры, стажор з Беларусі. Марыя Паўліна падзякавала мне за дасланыя кнігі і сказала, што кніга ёй спадабалася. Надзея пазнаёмілася са мной і паабяцала, што абавязкова прачытае маю кнігу, уручыла мне сваю візітную картку.

У рамках канферэнцыі славістаў адбыўся канцэрт беларускай музыкі і песні, арганізаваны беларусамі Атавы і Таронта. У канцэрце, які адбыўся ў вялікім зале Атаўскага ўніверсітэта, узялі ўдзел класічны дуэт «Кантабіле» у складзе Улады Шамецькі і Міхася Рыкава з Атавы і гурт «Яваровы людзі» з Таронта. У гэты дзень з Таронта прыехала больш за 30 асобаў. Канцэрт пачаўся выступленнем дуэта «Кантабіле», які прыгожа выканаў некалькі класічных музыкальных твораў, а таксама апрацоўкі добра вядомых песень «Жураўлі над Палессем ляцяць» і «Белавежская пушча».

«Яваровы людзі» прапанавалі гледачам новую праграму — прафесійна і па-мастацку зробленае відовішча. Праграма складалася з чатырох частак: Гуканне вясны, Купалле, Жніво, Каляды. Кожная частка складалася з адмысловых спеваў, танцаў, народных строяў, з адначасовым выкарыстаннем шумавых і светлавых эфектаў, слайдаў, дэманстрацыяй перакладаў тэкстаў на ангельскую мову. Злева і справа ад сцэны былі два экраны. На левым — высвечвалася праграма канцэрту і пераклад на ангельскую мову беларускіх песень, якія выконваліся на сцэне. На правым — мяняліся кадры з выступленняў «Яваровых людзей» і прыгожыя беларускія пейзажы. У праграме было паказана жыццё беларусаў летам і зімой, што адлюстроўвалася ў песнях, танцах і інсцэніроўках, такіх як Купалле, святкаванне Каляд з мядзведзем і казой. Канцэрт зрабіў вялікае эмацыянальнае ўражанне на гледачоў — неаднаразова гучалі воклічы «Брава» і «Жыве Беларусь!» Адчувалася вялікая падрыхтоўка і прафесійны падыход да справы ўсіх удзельнікаў спектакля.

Падзяку за канцэрт заслугоўваюць Віялета Кавалёва, кіраўніца «Яваровых людзей», за яе мастацкі і арганізацыйны талент, і Атаўскі аддзел ЗБК за прыём гасцей з Таронта, а таксама ўсе, хто прыйшоў падтрымаць беларускіх артыстаў у той вясновы дзень.

Беларусь сапраўды жыве ў Канадзе — жыве багата, напоўненая творчым натхненнем людзей, іх шчырымі душамі і талентамі. Канцэрт яскрава паказаў, што беларуская дыяспара аб'яднаная ў жаданні не губляць, а пашыраць і дэманстраваць глыбіню вытокаў нашай нацыянальнай, духоўнай і культурнай ідэнтычнасці.

І зноў мы перанесліся ў родную Беларусь да яе гнёздаў-буслянак над хатамі, да яе жытнёвых палёў з васількамі, да яе лясоў і пушчаў і сумных жураўліных пераліваў над імі.

## МАЁ ПІСЬМЕНСТВА

Любіў я некалі пісаць, хацеў я некалі пісаць. І зараз прыпамінаю першы сказ з будучай аповесці, а можа і рамана: «А трактар у полі ноччу ўсё гудзеў». Можа і зараз гудзе, а можа ўжо заглух, як і маё тады пісьменства. Перш за ўсё не было калі. Трэба было пісаць рабочыя планы, правяраць сшыткі. Многа чаго мы тады пісалі непатрэбнага, напрыклад, каляндарныя планы, ды яшчэ ў двух экзэмплярах (для сябе і дырэктара). Потым нашы кіраўнікі паразумнелі, пачалі друкаваць у часопісах: «Матэматыка ў школе», «Фізіка ў школе», «Школа і вытворчасць». Стала нам лягчэй, заставалася толькі даты паставіць. Вось толькі палітзаняткаў не адмянілі. Праводзілі мы іх у панядзелак пасля ўрокаў. Кожную нядзелю настаўнікі крукам сядзелі, каб падрыхтавацца да іх, бо заўтра ж нехта прыедзе правяраць, калі не з райана, то з райкама партыі — абавязкова.

З другога боку, сельскі настаўнік вымушаны быў быць і селянінам. Ён трымаў кароўку, парсючка, курак. Калі гэтага мала было, то яшчэ і гусак, і качак, і індычкоў. Кароўцы трэба было сена накасіць, на што ішоў яго летні водпуск, ды дроў нарыхтаваць на зіму, каб не мерзнуць. Каб куркі і свінкі не былі галодныя, ім нешта трэба было і пасеяць. Зарплаты былі невысокія, і сельскі настаўнік вымушаны быў гэтым займацца, бо ў сельскай краме з прадуктаў, апрача хлеба, нічога не было.

А пісаць хацелася. Настаўнікі беларускай і рускай літаратуры ў педвучылішчы Александровіч Надзея Аляксандраўна і Селіванчык Аляксандр Міхайлавіч гэта заўважалі. Праўда, далей гэта не пайшло. Пляменніца Ванда з Польшчы, калі атрымала і прачытала маю кнігу «Над Дзісенкай ракой», напісала: «Чаму, дзядзя, ты раз-

мінуўся ў сваім жыцці з тваім прызваннем? Ты павінен быў стаць пісьменнікам».

Для гэтага трэба было вучыцца, закончыць хаця б філалагічны факультэт інстытута ці ўніверсітэта. А за што я мог вучыцца, калі мае бацькі жылі ў калгасе і нічога там не атрымоўвалі за сваю працу?

Зараз мы на пенсіі, прыехалі да дзяцей у Канаду. Дзеці, у сваю чаргу, пакінулі родную Беларусь, бо ў перспектыве ім нічога добрага там не свяціла. Яны мелі вышэйшую адукацыю, мелі навуковыя званні дактароў і кандыдатаў навук, а займаліся вырошчваннем бульбы і гародніны, каб папоўніць свой сямейны бюджэт.

Мы з Данатай таксама, каб засталіся ў Беларусі, калупаліся б у зямельцы, а можа ўжо і былі б у той зямельцы. Але прыехалі сюды і адчулі той адпачынак, які павінен мець кожны пенсіянер.

Мы тут пенсіі не атрымоўваем. У Лукашэнкі такіх грошай няма, хаця мы яму свае грошы пакінулі. У Беларусі няма такой дамоўленасці з іншымі краінамі, як у другіх цывілізаваных краін. Прыехаўшыя сюды пенсіянеры з Польшчы атрымоўваюць пенсіі. Але мы жывём тут лепш, як жылі ў Беларусі. Нас усім неабходным забяспечваюць дзеці. І кватэру нам купілі, і самі жывуць ужо ва ўласных двухпавярховых катэджах. Працоўных дач, як у Беларусі, тут няма. А калі ў каго яны ёсць, то пабудаваны ў прыгожых горных мясцінах каля лясоў і азёр, дзе можна ў выхадны дзень адпачыць, палавіць рыбкі ці пазбіраць ягад і грыбоў.

Адзін раз у год нашы дзеці і ўнукі маюць магчымасць наведаць сваіх родных у Беларусі. А калі захочуць адпачыць які тыдзень, яны едуць у ЗША, Фларыду, напрыклад, на Кубу, у Дамініканскую рэспубліку, Мексіку, на Багамскія астравы і гэтак далей. А колькі прыгожых месцаў у самой Канадзе: ціхаакіянскае і атлантычнае ўзбярэжжы з экзатычнымі астравамі, Брытанская Калумбія з яе гарамі, лясамі ды азёрамі і гэтак далей. Ды вакол Атавы прырода прыгожая з горнымі азёрамі, рэкамі ды лясамі, куды і мы ездзім у добрае надвор’е. А што маглі б убачыць мае дзеці і ўнукі, жывучы ў Беларусі, атрымліваючы пенсіі і заробкі ў «зайчыках»?

Іншымі словамі, у гэтай краіне маладым можна добра жыць, а старым — адпачываць. Каб адпачынак не быў сумным, вось дзеці і прапанавалі мне пісаць успаміны. Калі Пеця прынёс мне першы экзэмпляр і загадаў заплюшчыць вочы, а потым адкрыць — то я не паверыў сваім вачам. Я ўяўляў яе па іншаму, і яна мне дужа спадабалася.

*Ад укладальніка: Кніга «Над Дзісенкай-ракой» выйшла ў свет у 2008 годзе.*

## БЕЛАРУСКАЯ СУБОТНЯЯ ШКОЛА Ў АТАВЕ
*(газета «Беларус», № 518, сакавік 2006)*

Прыехалі мы ў Канаду ў 2003 годзе да сваіх дзяцей і ўнукаў. Усё жыццё ў Беларусі адпрацавалі настаўнікамі. Я скончыў фізіка — матэматычны факультэт педагагічнага інстытута. За сваё працоўнае жыццё ў школе, апрача фізікі і матэматыкі, даводзілася весці розныя прадметы з-за недахопу настаўнікаў-спецыялістаў. Жонка мая, Даната Генрыхаўна, працавала настаўніцай пачатковых класаў і вяла ў школе танцавальны і харавы гурток. Працавалі ў базавай, 9-гадовай школе, дзе ўсе прадметы вяліся на беларускай мове.

Калі прыехалі ў Атаву, нам прапанавалі арганізаваць беларускую суботнюю школу, што мы і зрабілі ў лютым 2004 года. І, такім чынам, школа існуе ўжо трэці сезон. Вывучаем беларускую літаратуру, чытаем паэмы класікаў беларускай літаратуры Я. Коласа і Я. Купалы, творы В. Быкава і У. Караткевіча і другіх беларускіх паэтаў і празаікаў, каб не забыць роднай мовы. Я займаюся таксама матэматыкай і фізікай з вучнямі старэйшых класаў. Па матэматыцы і фізіцы маем многа цікавай (займальнай) літаратуры, якую вучні вельмі любяць. Многа рашаем цікавых задач, галаваломак, матэматычных фокусаў. Самае галоўнае — удзяляем многа ўвагі перш за ўсё школьнаму курсу матэматыкі, што дазваляе вучням упэўнена спраўляцца з кантрольнымі работамі ў школе.

Даната Генрыхаўна вучыць дзяцей малодшага ўзросту, якім ад 5 да 8 гадоў. Самыя маленькія вучацца размаўляць па-беларуску, бо яны дома больш размаўляюць на ангельскай мове, так як яны нарадзіліся ў Канадзе, а некаторыя і ў Англіі. Старэйшыя з іх могуць чытаць ужо і апавяданні на беларускай мове, а меншыя чытаюць словы і сказы, таксама на беларускай мове. Нельга забываць роднай мовы, на якой размаўлялі нашы продкі, дзе б мы ні жылі. На ўроках многа ўвагі ўдзяляецца матэматыцы і цікавым матэматычным гульням. Дзеці любяць рысаваць, маляваць, а найбольш спяваць і танцаваць беларускія песні і танцы.

Часта вучні нашай школы радуюць сваімі канцэртамі нашых суайчыннікаў, якія збіраюцца на святы, арганізаваныя Згуртаваннем Беларусаў Канады. Вучні выступаюць з вялікім поспехам. Рыхтуе іх Даната Генрыхаўна пры актыўным удзеле іх бацькоў. Дзеці спявалі песні «Ходзікі», «Люблю наш край» і другія. Выконвалі танцы

«Бульба», «Беларускую польку» і другія. Дэкламавалі патрыятычныя вершы. А на апошнім Навагоднім свяце, апрача песень, танцаў і вершаў, выступілі і юныя музыканты на піяніна Агата і Ніна Логвін, Алёша Ціпенка, Паўліна Шамецька. Потым была выканана песнятанец «Сняжынкі» ў вельмі прыгожых беленькіх уборах.

Апрача гэтага вучні выступілі з вялікім поспехам 28 лістапада 2004 года на славянскім дзіцячым канцэрце ў Музеі цывілізацыі, дзе выступалі дзеці польскай, рускай, балгарскай і славацкай нацыянальнасці.

Хочацца сказаць вялікі дзякуй бацькам С. і Ю. Логвіным, О. і Ю. Пелюшонкам, У. і Ю. Шамецькам, Л. і Ю. Ціпенкам — за прыгожыя нацыянальныя беларускія ўборы і наогул за іх добрасумленныя адносіны да школы. Вялікі дзякуй Шамецька Уладзі, якая заўсёды суправаджае дзіцячыя канцэрты цудоўнай музыкай на скрыпцы.

Яшчэ хачу спыніцца на наведванні вучнямі школы. Вышэйназваныя бацькі, а таксама Т. і С. Шлык рэгулярна прывозяць сваіх дзяцей у школу, і за гэта мы вельмі ўдзячны ім.

Хацелася б толькі, каб у нашай школе было б больш вучняў. Прыязджайце ў нашу школу — не пашкадуеце. А кантынгент у нас розны, ад 4 год да 9-га класа. Займаемся з 9-00 да 11-30. Наш адрас: школа Dr. Roy Kennedy, 919 Woodroffe Ave.

*П. С. Мурзёнак, настаўнік*
*27 лютага 2006 года*

## БЕЛАРУСКІЯ ПУСТЫНІ

*(газета «Беларус», № 528, студзень 2007)*

Напісаць гэты артыкул мяне падштурхнулі лісты з роднай Беларусі, якую мы пакінулі з жонкай у 2003 годзе, прыехаўшы ў Канаду да сваіх дзяцей і ўнукаў. Не хацелася б мне напамінаць аб тых жудасных часінах нямецкай акупацыі, калі гарэлі вёскі з жывымі людзьмі, але гэта трэба зрабіць для параўнання з сучаснасцю. А згарэла вёсак з людзьмі ў Беларусі 630. Мы жылі ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя Пастаўскага раёна, Віцебскай вобласці. Жылі мы ў партызанскай зоне. У лістападзе 1942 года, пад час карнай экспедыцыі, згарэла ў агні каля 200 жыхароў вёскі Баравыя Браслаўскага раёна, гэта за 5 кіламетраў ад нашай вёскі. У студзені 1943 года была спалена вёска Альцы з яе жыхарамі ў Пастаўскім раёне (загінулі ў агні 72 чалавекі). Гэта было жудасна і страшна.

Пад час другой карнай экспедыцыі ў верасні–кастрычніку 1943 года было ахоплена 6 раёнаў Віцебшчыны. Усё насельніцтва з партызанскай зоны было выгнана немцамі, вёскі спалены. Людзей гналі

на працу ў Нямеччыну. Многім удалося ўцячы, у тым ліку і нашай сям'і. Мне тады было 13 гадоў. Прытулілі нас добрыя людзі Коўзаны ў Паставах. Калі блакада была знята, мы з дзедам і бацькам рашылі наведаць родную вёску, каб хоць што-небудзь знайсці з прадуктаў, што было захавана ў зямлі. Канём і цялегай нас забяспечылі таксама добрыя людзі, і мы паехалі. Ад Пастаў да нашай вёскі 21 кіламетр, і па дарозе мы не сустрэлі ніводнага чалавека. Гэта была пустыня. І гэта было страшна. Вёска згарэла па адзін бок вуліцы, як бы там стаяў абраз Маці Божай. На наша шчасце хата з хлявамі засталася цэлай. Згарэла гумно, з неабмалочанымі яравымі і азімымі, і свіран. Абмалочана было аб барану толькі частка жыта на сяўбу, якое было і пасеяна. Сеялі ў той час, калі ўжо вакол гарэлі вёскі, але паспелі.

Пераначавалі ў роднай хатцы на саломе, а раніцой нас разбудзіў певень, які цудам застаўся жыць пасля ўсяго, што адбылося, і ён добрасумленна выконваў свае абавязкі. А калі развіднела і мы выйшлі на вуліцу, мы ўбачылі яго на высокай старой грушы ў садзе суседа. І мы плакалі. Плакалі ад таго, што здарылася, плакалі аб нашым невядомым лёсе ў будучым, плакалі за наш гарутны беларускі народ. Мы былі ў пустыні. На некалькі дзясяткаў кіламетраў не было ніводнай жывой душы.

Такое ж ўражанне ў мяне было і роўна праз 60 гадоў, у 2003 годзе, калі я наведаў родную вёсачку і могілкі, дзе пахаваны мае родныя і дарагія мне людзі і аднавяскоўцы, каб развітацца назаўсёды. Была Радаўніца, а на могілках ніводнай жывой душы, у вёсцы таксама. І мне было не па сабе. Успомніліся мне гады майго шчаслівага дзяцінства, калі мы з мамай крышылі на магілы велікодныя яечкі і мама казала: «Няхай паядуць птушачкі і паспяваюць памерлым». І птушачкі спявалі, ды так звонка, што я іх і зараз чую. І на могілках былі ўсе вяскоўцы. А зараз я быў адзін.

Прайшлі 3 гады, як мы пакінулі радзіму. Што ж там адбылося за 3 гады? Што нам пішуць?

Ліст 1: «Калі б вы самі маглі ўбачыць вёску Чарэмушнікі ў тым выглядзе, якая яна зараз, то не паверылі б сваім вачам. Зараз гэта не вёска, а куток дзікай прыроды. Не засталося ніводнай цэлай хаты, толькі ў некалькіх месцах замест хат разваліны. А так і знаку не засталося, што там былі хаты. Як заходзіш у вёску, то адчуваеш, што пападаеш у джунглі. Вуліца поўнасцю заросшы дзікай травой, у асноўным крапівой амаль па пояс. Тое ж самае і на быўшых дварышчах і агародах. Кусты і дрэвы так нахіліліся над вуліцай, што ідзеш па вуліцы, як па тунэлю. Гаспадарамі вёскі зараз з'яўляюцца дзікія свінні, якія прыходзяць сюды ў асноўным ноччу, і пагэтаму зараз ніхто тут не садзіць бульбы (раней там некаторыя людзі з суседняй вёскі Васіліны садзілі бульбу). А на рацэ Дзісенка каля кустоў бабры робяць сабе хаткі, чаго раней ніколі не было. Але прырода тут усё

роўна цудоўная, у векавых дрэвах, як у гаях, спяваюць птушкі, па рацэ плаваюць белыя лебедзі, а на быўшых электраслупах многа жыве буслоў, якія спрадвеку жылі ў вёсцы».

Ліст 2: «Ты напісаў нам, у якім стане знаходзяцца вашы Чарэмушнікі. У такім жа стане знаходзіцца ўся паласа ад Васілін да Полава (гэта звыш 15 кіламетраў). Ні ў адной вёсцы няма жывой душы, толькі замест людзей развялася дзічына, асабліва дзікія свінні. Зараз у раёне вёсак Крашнева-Навасёлкі ў лесе адбылася трагедыя. З Пастаў ехала маладая сям'я (мужык з жонкай і малая дачушка) магчыма да бацькоў у нейкую вёску. Захацелася ім пашукаць грыбоў. Дзяўчынку заставілі ў машыне, а самі пайшлі. У гэты час праязджаў міма гэтай машыны чалавек, які бачыў дзяўчынку ў машыне, палічыў, што ўсё гэта нармальна. Ці не мала чаго людзі спыняюцца ў лесе. І ён паехаў у Паставы па сваіх справах (гэта больш 20 км). Вяртаючыся назад, ён зноў убачыў дзяўчынку ў машыне, але якая зараз моцна плакала. Калі ён запытаўся, чаго плачаш, яна адказала, што бацькі пайшлі ў грыбы і доўга няма. Ён выклікаў міліцыю. Прыехала міліцыя і пайшлі шукаць, і знайшлі нежывых, парваных свіннямі на кавалкі.

І такіх выпадкаў вельмі многа, усіх не апішаш. Раней такога ніколі не было. У вёсках жыло многа людзей, было многа і паляўнічых. А зараз дайшло да таго, што і ў грыбы няма каму хадзіць, а хто пойдзе — дамоў не вяртаецца. У вёсках засталіся толькі старыя людзі. Моладзь уся пайшла ў горад. І хто будзе рабіць на зямлі, вырошчваць хлеб?!»

Вось такія невясёлыя лісты мы атрымалі з радзімы гэтым летам. Вяскоўцы занепакоены гібеллю людзей, занепакоены лёсам вёсак наогул, што хутка некаму будзе вырошчваць хлеб і карміць краіну.

А зараз крыху гісторыі. Вёсачка наша размешчана на правым беразе прыгожай ракі Дзісны (Дзісенкі), прытока Заходняй Дзвіны. Да 1939 года жылі мы пад Польшчай. У вёсцы былі 42 хаты, у якіх жыло 236 жыхароў. Гэта была сярэдняя беларуская вёсачка з добрымі, працалюбівымі людзьмі, якія ўмелі працаваць і весяліцца. У вёсцы было 6 гармонікаў і 2 баяны, 3 грамафоны, а балалаек не злічыць. Гучала музыка і беларускія песні, якія кранали за душу. Спявалі на вяселлях і вечарынках, на Купалле, на папрадухах узімку і пры адбельванні вытканага на кроснах палатна, начамі ўлетку. Спявалі на запоінах дзяўчыны, на хрысцінах дзіцяці, на зажынках і дажынках. І гэта ніколі не забудзецца.

Пачалася Другая сусветная вайна, потым Айчынная. 22 жыхары вёскі загінулі: хто на фронце, хто ад немцаў, хто ад партызан. Але вайна скончылася, і да 1949 года вёска жыла нармальным жыццём з аднаасобніцкім укладам. І хлеба было навалам на Пастаўскім рынку. Сяляне спраўляліся і з дзяржаўнымі пастаўкамі, якія былі

немалыя, але хапала сабе і яшчэ вывозілі на рынак. А з суседняй Вялікалукскай вобласці Расеі прыязджалі людзі, каб купіць 3 пуды жыта, бо там галадалі. Там жа былі калгасы. А ў 1949–1950 гадах пачалі арганізоўваць і ў нас. Вось тут і пачалося! Моладзь пабегла ў гарады Беларусі, Расеі, Прыбалтыкі і на заводы і шахты Сібіры.

Вось так, год за годам, і ўтваралася пустыня паміж Васілінамі і Полавам. Рака Дзісенка была густа заселена па абодвух берагах. У кнізе «Памяць» — гісторыі Пастаўскага раёна, выпушчанай у 2001 годзе, гаворыцца, што вёсак Вінаграды, Малыя Агальніцы ўжо не існуе. Суседнія хутары Антанова не ўпамінаюцца наогул, як іх і не было ніколі. А зараз паглядзім, як знікалі людзі з другіх вёсак, размешчаных па Дзісенцы (у паласе пустыні).

| *Населены пункт* | *1963 год* | | *2001 год* | |
|---|---|---|---|---|
| | *двароў* | *жыхароў* | *двароў* | *жыхароў* |
| Навасёлкі | 25 | 73 | 5 | 6 |
| Крашнева | 14 | 53 | 5 | 4 (я не памыліўся) |
| Чарэмушнікі Пад. | 37 | 89 | 4 | 5 |

Як бачыце, мая вёсачка яшчэ значыцца. Але ў 2003 годзе яна знікла назаўсёды. Яшчэ ў 2002 годзе ў вёсцы жылі Дзіковічы Федзя з Фенькай, на трох хутарах жылі 3 бабулькі: Грынькі і Міхайлава. Федзя памёр, а ўсе бабулькі разляцеліся ў гарады да сваіх дзетак і ўнукаў. Тое ж самае адбывалася і ў другіх вёсках. Зараз адзін раз у год на Тройцу збіраюцца на могілкі аднавяскоўцы, хто яшчэ можа даехаць. І так ад усёй шумнай і вясёлай вёсачкі засталося адно Святое месца — Могілкі і векавыя дрэвы, якія будуць напамінаць людзям, што тут некалі была прыгожая вёска з цудоўнымі людзьмі.

За гады савецкай улады ў Пастаўскім раёне знікла 214 назваў населеных пунктаў: 75 хутароў і 139 вёсак. Але ж гэта яшчэ не канец. Хачу прывесці толькі два прыклады: у вёсцы Рымкі (з мураванай царквой) ў 1941 годзе былі 84 двары з 317 жыхарамі, у 1963 — 41 двор са 153 жыхарамі, у 2001 годзе — 11 двароў з 12 жыхарамі. Вёска Алашкаўшчына: у 1963 годзе было 30 двароў і 119 жыхароў, у вёсцы была пачатковая школа і фельчарска-акушэрскі пункт. У 2001 годзе — 7 двароў і 9 жыхароў. Вось так спрацавала савецка-калгасная сістэма, ператвараючы квітнеючыя вёскі ў пустыні. Ці ж гэта не Хатыні, толькі па-савецку! А гэта ж толькі ў адным раёне. А колькі ж такіх пустынь у вобласці?! А колькі ж іх ва ўсёй Беларусі?! Кажуць, перасяліліся ў перспектыўныя вёскі.

Перасяліліся, ды не ўсе. З нашай вёскі перасяліліся толькі 2 сям'і. Астатнія разбегліся хто куды. А зараз бягуць і з перспектыўных калгасаў і саўгасаў. Хаця, атрымаўшы раённую газету «Пастаўскі край» нядаўна, я быў здзіўлены, што ў газеце няма ні аднаго слова «калгас» і «саўгас». Няўжо, думаю, распусцілі калгасы? Ды не! Там зараз замест калгасаў і саўгасаў ёсць «гаспадаркі», толькі з рознымі індэксамі: СВК, СП, ААТ, АБП. Назвы мяняюць, як цыган коней. А ці станецца ад гэтага жыццё лепшым, як сялянам, так і гараджанам? У цывілізаваных краінах ёсць і вёскі і хутары, дзе жывуць і працуюць сапраўдныя гаспадары зямлі — фермеры. А чаму ж не маглі б быць такімі фермерамі мае землякі, каб ім вярнулі своечасова ўрадлівыя землі Падзісеншчыны, адабраныя калісьці ў працавітых людзей — сапраўдных гаспадароў?

Знікаюць вёскі, знікаюць людзі з вёсак, знікае беларуская мова разам з імі, знікае той уклад жыцця, які ствараўся гадамі, самабытная культура, гіне нацыя. А хто павінен думаць пра гэта, калі не Урад, Парламент, Прэзідэнт, каб спыніць гэты працэс, пакуль не позна, а можа ўжо і позна. Дык знайдзіце ж разумны выхад са становішча, кіраўнікі дзяржавы!

## КАЛЯДЫ Ў АТАВЕ

*(газета «Беларус», № 529, люты 2007)*

13 студзеня у беларускім класе у Атаве святкавалі Каляды. Свята было арганізавана настаўніцай Мурзёнак Данатай Генрыхаўнай і бацькамі вучняў.

З прывітальным словам звярнуўся старшыня Атаўскага аддзела ЗБК сп. П. Мурзёнак, які павіншаваў усіх з Калляднымі святамі і Новым годам і адзначыў, што беларускі клас спраўляе у гэтыя дні трохгадовы юбілей. На святце прысутнічалі бацькі і госці — нашы суайчыннікі, якія пражываюць у Атаве. Ганаровымі гасцямі былі Старшыня Рады БНР спн. І. Сурвілла і дырэктар школы Анна Боўлес.

Вечар пачаўся з песні «Учора звячора». Потым усе вучні дэкламавалі калядныя і навагоднія вершы, а таксама вершы пра зіму. Прагучала мелодыя песні «Ціхая ноч» у выкананні Шамецькі Улады (скрыпка) і яе дачкі Паўлінкі, якая сыграла на піяніна. Потым дзяўчынкі выканалі песню-танец «Сняжынкі». Інсцэніраваную казку «Воўк-гультай» сыгралі Алёша Цыпенка і Агата і Ніна Логвіны. Пелюшонак Ліля і Шамецька Паўліна выканалі танец «Лялька». Беларускую полечку станцавалі Алёша і Агата. У выкананні юных музыкантаў на піяніна прагучалі фрагменты класічнай музыкі. Закончылі канцэрт песняй «Саўка ды Грышка».

У заключэнні спн. Івонка Сурвілла падзякавала бацькам і настаўнікам за атрыманае задавальненне і пажадала поспехаў у далейшай працы беларускага класа.

Потым дзеці селі за салодкі стол, падрыхтаваны бацькамі. Дарослыя мелі магчымасць пагутарыць аб сваім жыцці-быцці. Канцэртам усе прысутныя засталіся задаволены. І хоць на гадзінку адчулі сябе, што яны пабылі на сваёй бацькаўшчыне. Шчыры дзякуй настаўніцы, дзеткам і іх бацькам, што яны робяць гэта.

*Мурзёнак П. С., настаўнік*

*24 студзеня 2007 года*

## НАША ПЕРАПІСКА

«Радзіма мая дарагая, ты ў сэрцы і ў песнях жывеш»… — так і хочацца заспяваць. Многа песень прыгожых напісана аб Радзіме. Але, жывучы ў Беларусі, мы неяк па-свойму ўспрымалі іх. «Жураўлі над Палессем ляцяць» Ігара Лучанка або «Белавежская пушча» Аляксандры Пахмутавай — прыгожыя песні. Тады тыя жураўлі і пушча былі побач з намі. Але, калі восенню жураўлі з іх жаласным курлыканнем ляцелі на поўдзень, сэрца замірала. Мы ім жадалі шчаслівага палёту і шчаслівага вяртання да нас вясной. Калі ж мы чулі мелодыі гэтых песень тут, у Канадзе, у выкананні нашых землякоў-музыкаў Уладзі Шамецька (скрыпка) і Міхася Рыкава (гітара), то нашы сэрцы давалі волю слязам. Не чуваць тут жаласных жураўліных галасоў, няма тут і пушчаў, якія нас сагравалі б. Пушчы ёсць, ды не тыя. Калі б жылі хаця на поўдні Еўропы, мы б чулі прывітанне з роднай Беларусі. Сюды, на вялікі жаль, яны не даляцяць — не па дарозе.

Адзіным сродкам сувязі з Радзімай з’яўляецца пошта, часам тэлефон. Па нашым прыездзе ў Канаду ў чэрвені 2003 года мы адразу пачалі пісаць лісты. У нас на першы пачатак было 20 адрасатаў. У 2004 годзе мы пашырылі лік адрасатаў, пачалі ліставацца з Рудавым Авакумам Гаўрылавічам, Курыловіч Верай, Брэскім Міхаілам, Кабак Люсяй. Мы ўдзячны майму лепшаму сябру Авакуму Гаўрылавічу, які цікавіўся нашым жыццём у Канадзе. Рэгулярна вядзецца перапіска з Латвіяй, дзе жывуць нашы пляменніцы Эльвіра, Яніна і пляменнік Слава. Таксама многа пісем атрымоўваем з Польшчы ад пляменніц Ванды, Крысі, швагра Дорэка і нават ад яго ўнучкі Марты. Напісалі па нашым прыездзе ў Канаду і пляменніку Янушу з Польшчы. 25 жніўня 2003 года ён выслаў нам ліст і кнігу «Новый Завет. Псалтирь» на рускай мове. Ён вельмі набожны чалавек. Калі мы заязджалі да іх па дарозе ў Канаду, то ён мне сказаў, што яго кранууўся Бог.

З Наваполацка атрымліваем лісты ад пляменнікаў і пляменніц: Ліны і Валодзі, Гены і Галі, Паўліка і Валі. Дзякуючы пляменніцы Ліне мы атрымалі навейшыя, дарагія нашаму сэрцу кнігі: «Паставы» і «Дзе Мядзёлка песні пяе».

У канцы кнігі «Дзе Мядзёлка песні пяе» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2006) запісана: «Чарговая кніга з серыі “Беларусь літаратурная” знаёміць чытачоў з творамі аўтараў, жыццё і дзейнасць якіх звязана з Пастаўшчынай — ад класікаў беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча да тых, хто сёння з'яўляецца прызнаным пісьменнікам і хто робіць першыя крокі ў паэзіі і прозе. У кнізе знайшоў адлюстраванне багаты пласт грамадскага і літаратурнага жыцця цікавага, непаўторнага краю».

Атрымаўшы і прачытаўшы такую цудоўную кнігу, душа радуецца, што на маёй роднай Пастаўшчыне жывуць такія добрыя людзі — шчырыя беларусы-патрыёты, якія нікому і ніколі не дазволяць спаганіць нашу родную мову. Спадзяюся, што і ў другіх раёнах Беларусі ёсць такія ж людзі. Таму Беларусь з яе мовай жыла, жыве і будзе жыць вечна з такімі цудоўнымі людзьмі, якія яе насяляюць.

29 чэрвеня атрымалі мы з Пастаў аж два лісты: адзін ад Валі, другі — ад аднасяльчанкі Таццяны, якая дае аднавяскоўцам пачытаць маю кнігу «Над Дзісенкай ракой».

Валя, апрача ліста, прыслала нам і некалькі фотаздымкаў, зробленых у Чарэмушніках Падзісенных і Васілінах. Перш за ўсё, я зноў убачыў магілу маёй роднай мамачкі. Прайшло шэсць гадоў, калі я быў там апошні раз. Дзякуй вам, дарагія пляменніцы, Валя і Таня, што вы дагледзелі магілу сваёй бабулі, памалявалі ў срэбраны колер, прапалолі кветкі.

На здымку — уваход у вёску. Злева — круты касагор Узвалля, далей — кавалачак Дзісенкі. За Дзісенкай, у Ваўках, відаць, што яшчэ ёсць хата, значыць, жывуць там яшчэ людзі, не пакінулі свайго гнязда. А ў маёй роднай вёсачцы — ніводнай хаткі. Уезд пазначаны каляінамі калгасных машын і трактараў, па баках заraснікі дрэў і кустарнікаў.

Злева калісьці сустракаў падарожніка прыгожы дом сям'і Дзіковіча Сашкі і Ірушы, за ім — дом маёй роднай цёці Марылі, сястры маёй роднай мамы. А справа быў прыгожы дом сям'і Дзіковіча Кузьмы і Сашы (Саша была маёй хроснай мамай). І ўсё гэта зараз можна намаляваць толькі ў сваёй памяці.

На другім фотаздымку месца, дзе стаяла наша хата. Да болю сціскаецца сэрца і хочацца плакаць. Цяпер там застаўся толькі ўзгорак ад разбуранай вятрамі і дажджамі печы, зарослы дзікай травой. Тут мы жылі, тут кожны дзень мы чулі родныя для нас і такія ласкавыя галасы мамы, папы, дзядулі Тумаша. Тут прайшло наша дзяцінства і маладосць, адсюль пайшлі мы ў свет Божы. Тут

паміралі дзядуля Сымон і бабуля Волька, у дзяцінстве памерлі мае старэйшыя сястрычка Вольга і брацікі Аркадзь і Яўген, дзядуля Тумаш і родная мамачка, і адгэтуль пачынаўся іх апошні шлях. Адгэтуль тата паехаў у свет з Анастасеяй Пятроўнай, у Рыгу, дзе і пахаваны.

Успаміны, успаміны! А з другога боку вуліцы — ясені, ліпы, пасаджаныя нашымі дзядамі. Колькі яны пабачылі на сваім вяку і колькі яшчэ ўбачаць, калі злыя людзі не спілуюць іх на дровы. Гэта ж помнікі нашай вёскі.

І фотаздымак у доме гасцінных людзей — Агафона і Ванды. Агафон — сябра майго дзяцінства. Як бы мы хацелі сустрэцца з вамі, дарагія аднасяльчане. Тут і Паўлуша Міхайлаў, наш былы вучань. Некаторых ужо памалявала прырода ў срэбра. Без срэбра — Таня і Маша. Ну, а маладзенькай і прыгожанькай Іры да гэтага яшчэ далёка.

Шчасця вам і здароўя на доўгія гады, дарагія аднасяльчане.

## ЛІСТ АД АВАКУМА ГАЎРЫЛАВІЧА РУДАВА

Вялікі дзякуй за кнігу вашых успамінаў. Прачытаў яе з вялікай цікавасцю за два дні. Ваша жыццё ў многім падобнае на наша, мы ж настаўнікі. Вашы погляды сугучны з маімі поглядамі. Але вам жыццё дало больш выпрабаванняў, чым мне. У час фашысцкай акупацыі такіх зверстваў у нашай мясцовасці не было. Немцы жылі ў бункеры, ахоўвалі чыгуначны мост. Мы, хлапчукі, нават заходзілі да іх у бункер за цукеркамі. Мы не адчувалі акупацыі. У нашай мясцовасці не было такой канцэнтрацыі партызанаў, як на Казяншчыне.

Па-другое, я не служыў у арміі, але чуў, якія там парадкі, не толькі ад Пятра Сільвестравіча, але і ад многіх другіх.

Нарэшце, у вас былі большыя праблемы з жыллём. Калі працавалі мы на сваёй малой радзіме Паташні, то жылі ў бацькоўскім доме. А потым увесь час жылі і жывём у Палессі ў калгасных дамах. А ў 1990 годзе нам далі кватэру ў новым чатырохкватэрным доме з усімі выгодамі. Неўзабаве мне дазволілі маю кватэру прыватызаваць.

І апошняе. Я поўнасцю згодзен з Пятром Сільвестравічам з праблемай адраджэння беларускай мовы, супраць русіфікацыі. Калі я працаваў дырэктарам Палескай (раней Апідамскай) школы, то ўсё падрыхтаваў для пераводу яе з рускамоўнай на беларускамоўную. (Былі заказаны на перспектыву падручнікі беларускамоўныя, поўнасцю згодны былі настаўнікі і бацькі). Калі я пайшоў на пенсію, новы дырэктар не прыняў беларусізацыю, у тым ліку і новы загадчык

райана — Кашырын. Ды і ў краіне адносіны да беларускай мовы змяніліся. Школа засталася рускамоўнай.

## ЛІСТ АД ТАЦЦЯНЫ КУЗЬМІНІЧНЫ ДЗІКОВІЧ

Калі я ёй пісаў ліст, то прапаноўваў пісаць ліст на такой мове, на якой лягчэй чытаць. Я ведаю, як некаторыя беларусы стараліся перайсці на рускую — «гарадскую» мову, а на роднай мове саромеліся гаварыць. Гэта, Танечка, да цябе не адносіцца. Ты напісала ліст не толькі на прыгожай беларускай мове, але і па-мастацку аформленай. Табе толькі пісаць раманы. Вось чаму я рашыў змясціць у кнігу ўрывак з твайго ліста, дзе ты так хораша апісала малую Радзіму:

«Паважаны Пётр Сільвестравіч! Я ўдзячна Вам за глыбокія, яркія, каляровыя ўспаміны, якія нарадзілі такую цудоўную і цікавую кнігу “Над Дзісенкай-ракой”. Чытаючы гэтую кнігу-эпапею, я апынулася ў тых мясцінах, якія з самага дзяцінства родныя да болю, сустракалася з людзьмі, блізкімі майму сэрцу. Кніга прачытана, але я зноў і зноў перачытваю старонкі, так прыемна чытаць пра сваю малую Радзіму, ўяўляць тыя мясціны, дзе я нарадзілася і расла, аднавяскоўцаў, сваіх сябровак і сяброў, школу, а пасля маладосць. У ўспамінах уяўляю сваю хату, сад, студню, адчуваю пах варыўні, смакую свае яблыкі. Бо ўсё, што адчуваеш у дзяцінстве, назаўсёды застаецца ў сэрцы, прырастае моцнымі каранямі і напаўняе кожную клетачку арганізма. Чалавек нібыта складаецца з гэтых уражанняў, якія на працягу жыцця сілкуюць яго. Доўгі час не задумвалася над вобразам малой Радзімы, такім месцам лічыла горад Паставы, аднак у снах бачыла толькі тыя мясціны, адкуль я родам, а найчасцей сваю хату, агарод, сад, раку, нават могілкі. Прачытаўшы Вашу кнігу, зразумела, што мая малая Радзіма значна большая і ўмяшчае ў сябе не толькі горад, дзе я аснавала сваё жыццё, але і родныя вёскі маіх бацькоў, Васіліны — куды хадзіла ў школу, нават там было шмат сябровак, Казяны, куды ездзілі на фэст, куды пасля выйшла замуж. Нібы лавіна, раптоўна прыйшло разуменне таго, якім родным і дарагім майму сэрцу з’яўляецца кожны куточак «радавога гнязда» — Чарэмушніцкай бацькоўскай хаты, дзе даўно ўжо не жывуць ні дзяды, ні бабулі, ні бацькі, ды і хаты самой даўно ўжо няма. Ад успамінаў, звязаных з бацькоўскай водчынай, вельмі расхвалявалася. Я зноў адчувала сябе маленькай дзяўчынкай, седзячы ў зімовы вечар на печы, а ў трубе гудзе вецер, за вокнамі завея, мама завіхаецца ля пліты, папа ўпраўляецца па гаспадарцы. Так хораша на душы і такі спакой».

# ЛІСТ АД ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

Кнігу я прачытаў. Найперш, што мне асабліва спадабалася — гэта апісанне, проста этнаграфічна-геаграфічнае апісанне Вашых мясцінаў, быту, сям'і, дзіцячых уражанняў. Хоць мае дзяцінства-маладзёвыя гады праходзілі ў зусім іншых умовах, але я вобразна ўстанаўляў Вашыя апісанні і пераносіўся ў той край, тыя гады. Выдатна апісана.

Іншая частка матар'ялу, якую я нават парой і перачытваў — гэта ўспаміны, звязаныя з навукай — школай — навучаннем — інтэрнатам і гэтак далей. Гэта мне так знаёмае і блізкае: маці мая была настаўніца, школаў мне давялося наведаць з дзясятак, аднак працэс, даўгі-даўгі працэс вучобы пакінуў прыемны ўспамін і таму прыемна чытаць, калі ў некага такія самыя ўспаміны.

Ваша ж апісанне, перажытае ў арміі, у паездках з «боханам хлеба і кубікам маргарыну», чыгункі, дарогі — вельмі знаёмыя і перажытыя. Кінулася мне ў вочы, сапраўды рэдкае ў пішучых людзей, Ваша дабрата, пяшчотнасць, ласкавасць у апісаннях не толькі блізкіх Вам асобаў, але і рэчаў: «лясочак», «дрэўца» і гэтак далей. Цудоўна!

Наогул, Ваша кніга — кніга нашага пакалення з голадам, холадам, партызанамі і гэтак далей і таму падобнае, але з прыемнымі ўспамінамі, незабыўнымі на фоне мацнеючай беларускасці. Чытаць гэтую кнігу — было сапраўды прыемна, аддушна. Дык яшчэ раз — дзякуй за памяць і дастаўленыя ўражанні.

# ЛІСТ ДА ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

25 жніўня 2008 года

Добры дзень Высокашаноўны спадар, Вітаўт Яўхімавіч! Перш за ўсё я вельмі рады быў пазнаёміцца з Вамі! Вялікі дзякуй вам за такі дарагі для мяне падарунак — дасланыя Вамі кнігі, якія я чытаю і перачытваю, як трагічны раман. Колькі прыйшлося перажыць Вашаму бацьку, маці Марыі, якая ехала следам за ім, ды і Вам, тады яшчэ маленькаму. Людзі моцнай волі маглі гэта толькі вытрымаць. Бацька не здрадзіў нацыянальнай ідэі, за што адседзеў яшчэ 5 гадоў.

Тое ж самае можна сказаць і аб сям'і Савёнка Лявона і Апалёніі. Спадар Лявон не пабаяўся выступіць са сваімі фельетонамі супраць страшнага рэжыму.

Як адна сям'я, так і другая выхавалі добрых, разумных дзетак, Вітаўта і Зору, якія прадоўжылі справу бацькоў. А справу дзядуляў і бабуляў, бацькі і маці прадаўжае і будзе прадаўжаць сябра Галоўнай Управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Кіпель

Алеся. Дык поспехаў вам, здароўя і плённай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.

Мы ганарымся вамі ўсімі!

Я захапляюся вашай з Зорай працай — «Беларускі друк на Захадзе». Гэта ж неймаверная праца — скласці такую кнігу, колькі давялося перабраць дакумэнтаў?!

Вялікі дзякуй Вам за добрыя водгукі аб маёй кнізе. Гэта мне прыдае сіл пісаць яшчэ.

Ну а фельетоны Савёнка мы з жонкаю таксама чытаем і перачытваем, ад чаго маем вялікае задавальненне. Гэта мог толькі напісаць чалавек высокага гумару, які добра ведаў жыццё простых людзей і недасканаласць уладных структураў. Вось і спявалі «Коробушку».

З рэцэнзіяй атрымоўваецца затрымка, чаму доўга і не пісаў, за што прабачце. А можа ўжо і не трэба, можа вы ўжо ўладкавалі гэта пытанне самі? Дайце адказ на адрас:

pmurzionak@rogers.com

Шчырае прывітанне ад мяне, жонкі і дзяцей — Вам і Алесі.

## ЛІСТЫ АД ЯНКІ КАЦЯРЫНІЧА

Аднойчы мне патэлефанаваў зусім незнаёмы чалавек з Аляскі — Кацярыніч Янка — беларус, які пажадаў набыць маю кнігу. Я тут жа яму выслаў. Так завязалася наша сяброўства яшчэ з адным добрым чалавекам, шчырым беларусам. Пры перапісцы выявілася, што ў Беларусі ў нас ёсць агульны знаёмы — Ян Драўніцкі — пісьменнік і краязнаўца Пастаўшчыны. Янка Кацярыніч зараз жыве на Алясцы. Хацелася б кораценька, калі ўдасца, расказаць аб яго жыцці-быцці. Чаму «калі ўдасца»? Ягонае жыццё вельмі багатае падзеямі.

«З вялікім задавальненнем, — піша ён, — чытаю Вашу кнігу і бы сябе бачу: сваё басаногае дзяцінства, нястачу і крыўду. Але, дзякуючы свайму няўрымсліваму характару і ўпартасці, нам з Вамі ўдалося дасягнуць той “светлай будучыні”, абяцанай нам некалі нашымі правадырамі і настаўнікамі. Шкада толькі, што немагчыма перакрэсліць былое жыццё, каб усё спачатку пачаць».

Піша, што яму толькі 65 гадоў, ён не ведае дня свайго нараджэння:

«Звычайна адказваю радкамі Тараса Шаўчэнкі: “Як раджала мяне маці — не свяцілі зоры. Зубы шчэрыла нядоля, хахатала гора”. Я быў дзявятым дзіцём у сям’і, і маці мая толькі і памятала, што раджала мяне ў Піліпаўку, “калі воўк нема вые”. А самае страшнае, што ў той час, як я з’явіўся на свет і мяне бабуля абмыла і палажыла ў начоўку ды паставіла на печ — у хату ўваліліся партызаны (“беларускія сыны”) і пачалі рабаваць. Нават пад роджаніцай пасцель

ператрэслі. Дзе ж у такой сітуацыі было запомніць той дзень і год нараджэння. То потым, калі падрос, вазілі мяне ў раённы горад Іванава на камісію».

У 1958 годзе Янка скончыў сямігодку, вясной 1962 года — школу механізацыі ў Драгічыне. Завезлі на цаліну, адкуль ён уцёк і да восені 1962 года працаваў у «родным калгасе» (вёска Гарбаха). З 1 лістапада 1962 года па снежань 1965 — служыў у войску аж у Камсамольску-на-Амуры. Вярнуўшыся на Радзіму, каб неяк адзецца і абуцца, папрацаваў два гады. З 1967 па 1970 год вучыўся ў Пінскім індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме. Пасля заканчэння тэхнікума ён быў накіраваны на працу ў Свірскае спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча на пасаду майстра вытворчага навучання, дзе адпрацаваў адзін год. У 1972 годзе пераехаў жыць у Астравец, працаваў аператарам раствора-бетоннага вузла ў ПМК-88. Яшчэ год адпрацаваў у Пастаўскай механізаванай калоне грэйдэрыстам. У 1990 годзе паехаў у Шаўляй, а адтуль 5 ліпеня 1991 года пераляцеў у Сакрамэнта, штат Каліфорнія (ЗША). Там пражыў 10 гадоў, выйшаў на пенсію па стане здароўя.

Старэйшая сястра Янкі (1935 года нараджэння) з трыма дзецьмі і мужам жыве ў Паўднёвай Караліне (ЗША). Брат (1950 года нараджэння) жыве з сям’ёй у Рызе, другая сястра (1952 года нараджэння) жыве на Палессі ў вёсцы Гарбаха Іванаўскага раёна, Брэсцкай вобласці. Вось усяго засталося з вялікай сям’і, дзе было 11 дзяцей. Бацька памёр на 96-м годзе жыцця, у 2002 годзе. Па волі «вусатага» бацька 18 гадоў адпрацаваў каля Варкуты. Маці памерла ў 1988 годзе, калі ёй было 77 гадоў. Янка мае многа пляменнікаў, «якія, — як ён піша, — планамерна выміраюць ад гарэлкі».

У 2001 годзе Янка пераехаў на Аляску, дзе і жыве зараз. Жыве ў трохпакаёвым доме з гаражом. У кватэры дзве спальні, зала, кухня. Мае два аўто. Адзін аўтамабіль на летні час, а другі, цяжкі ўсяход, на зімовы час і бездарожжа (дызельны, васьміцыліндровы). Мае таксама прычэп-дамок для падарожжаў.

«Пры “роднай” савецкай уладзе, — піша ён, — раскулачылі б за такое».

Праўда, кватэра ў яго казённая, за што ён плаціць рэнту ў 305 амерыканскіх долараў, плюс электрыка, газ, тэлефон, то якраз паўпенсіі. Яго пенсія складае 1211 долараў у месяц.

Дырэктар домаўпраўлення дазволіла яму мець градку. «Так як я па сваёй прыродзе земляроб, то люблю корпацца ў зямельцы. А мая маці заўжды прымаўляла: «Што дасць зямлі латка — таго не дасць ні бацька, ні матка». На градцы вырошчвае ўкропчык, шчаўе, пятрушку, то і суседзям хапае. Расце і морквачка і бурачок, а асабліва добра расце бульба і капуста. Памідоры і агуркі — не кожнае лета. У 2008 годзе — прапалі, бо лета было халоднае.

Спрабаваў займацца пчолкамі, то адным летам дужа пашэнціла: з трох сем'яў узяў каля 100 кілаграмаў мёду. За два апошнія гады пчолы прапалі ад холаду. Больш пчолкамі не займаецца, хіба пераедзе ў цяплейшае месца.

«На дзіва ўсім я з пчоламі працаваў без сеткі, а часам, пры беглым аглядзе, і без дымара. Яны поўзалі мне па твары, руках і ніколі не джгалі. Я і сам не ведаю і здзіўляюся, як такое зразумець. Калі хто другі хацеў падысці, то ўжо за крокаў пяць усёй зграяй кідаліся на прышлага».

«Адным словам, на Алясцы добра жыць усім тым, хто любіць прастору, волю, акружаючае асяроддзе, грыбы, ягады, паляванне і ціхае нетаропкае жыццё і, вядома, рыба. Ды і што за рыба. Такая мне на радзіме і не снілася».

А вось радкі з ліста, у якім Янка віншуе нас з Вялікаднем 2009 года: «Мы тут, дзякуючы Богу, жывем не кепска. Зіма слабее. Падаўжэлі дні — і болей сонца, то і на душы весялей. Адно толькі турбуе, што наша навакольнае асяроддзе відавочна бяднее па нейкіх няведамых прычынах. Вось і сёння, 27 сакавіка, ездзіў з жонкай на два возеры, каб злавіць трохі рыбы на юшку і, на жаль, не злавілі аніводнай. Яшчэ зімы са тры назад такіх выпадкаў у мяне не здаралася. Прыкметна вельмі стала меней птушак і звяроў, асабліва ласёў».

Цікавы штат Аляска. Янка жыве ў горадзе Васілла, які знаходзіцца на адной і той жа 61-й параленлі паўночнай шыраты, на якой размешчаны і Кулой у Архангельскай вобласці, дзе я служыў у арміі на працягу трох гадоў. Так што я добра ведаю клімат на гэтай паралелі. У кожным лісце Янка запрашае нас наведаць Аляску. Ну што ж — пажывём, убачым, было б толькі здароўе.



# ЗМЕСТ

## I. Кастусёвы прыгоды
*(расказы для дзяцей)*



## II. Навелы і апавяданні

**III. Аповесці**



**IV. Над Атавай-ракой**

*(нататкі аб жыцці ў Канадзе)*

**V. Артыкулы, пісьмы**

*У серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» пабачылі свет кнігі:*

- «Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954)» (укладальнік М. Скобла)
- «Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна: Артыкулы, дакумэнты, аповесьць» (укладальнік Ю. Грыбоўскі)
- Гардзіенка Н. «Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары»
- Юрэвіч Л. «Мэмуары на эміграцыі: Крыніцазнаўчае дасьледаваньне»
- Ганько М. «Каб сьведчылі пра Беларусь: Жыцьцё й дзейнасьць Міколы Ганька»
- Варабей І. «Там, дзе сэрца маё: Публіцыстыка, пераклады, апавяданьні»
- «Эквівалент: Зборнік эміграцыйнай прозы» (укладальнік Л. Юрэвіч)
- Юрэвіч Л. «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000)»
- «Каханы горад: Зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы» (укладальнік Л. Юрэвіч)
- Рагуля Б. «Беларускае студэнцтва на чужыне»
- Адзінец А. «Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: Зборнік успамінаў»
- «Адзін Госпад, Адна Вера, Адзін Хрост: Царкоўная гісторыя вачыма эміграцыі» (укладальнік А. Любіч)
- Грыцук В. «Мы стваралі сваю Беларусь: Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука»
- «Урачыстасьць у садзе: Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя» (укладальнік В. Нікіфаровіч)
- Акула К. «Заўтра ёсьць учора: раман» (аўтарызаваны пераклад з англійскай І. Варабей)
- Гардзіенка А. «Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)»
- Шабельцаў С. «Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.): Зборнік дакументаў і ўспамінаў»
- Гардзіенка Н. «Беларусы ў Вялікабрытаніі»
- Віцьбіч Ю. «Лшоно Габоо Бійрушалайм: Даваенная проза» (укладальнік Л. Юрэвіч)
- Юрэвіч Л. «Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні»
- Юрэвіч Л. «Жанры»
- Гардзіенка Н., Юрэвіч Л. «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы»
- Гардзіенка Н., Юрэвіч Л. «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы»
- Шабовіч С. «З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: Гісторыя аднаго падарожжа» (пераклад з англійскай В. Кавалёвай)

- «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія» (аўтар-укладальнік Л. Юрэвіч)
- Запруднік Я. «Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 г. Універсітэт у Бельгіі, газета “Бацькаўшчына”, радыё “Вызваленне / Свабода” ў Мюнхене і Нью-Ёрку»

*У падсерыі «Людзі Беларусі»:*

- Гарэцкі. Р. «Браты Гарэцкія»
- Шапран С. «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах»: у 2-х тамах.
- Барадулін Р. «Дзённікі і запісы». Выпуск I. 1951–1969 (укладанне і прадмова Н. Давыдзенка)

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 27

**Мурзёнак** Пётр Сільвестравіч

**Адвечныя плыні**
*Кніга прозы*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Ірына Лысенка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Дызайн вокладкі Анатоля Лазара
Карэктар Віктар Іваноў

Падпісана да друку 04.08.2015. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 12,6. Ул.-выд. арк. 13,73.
Наклад 150 асоб. Замова 372.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.